УДК 81'373:811.161.3
ББК 81.2 Беи

*Рэкамендавана да друку кафедрай беларускага мовазнаўства установы адукацыі "Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка" (пратакол №1 ад 30.08.2012)*

**Навуковы рэдактар** – кандыдат філалагічных навук *П.А.Міхайлаў*

**Рэцэнзенты**:

доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *М.Р.Прыгодзіч*;

кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка" *Д.В.Дзятко*

Шахоўская, С.У. Беларуская анамастычная лексікаграфія: фарміраванне, сучасны стан, вектары развіцця / С.У.Шахоўская; навук. рэд. П.А.Міхайлаў. – Мінск: Красная звезда, 2012. – 258 с.

У манаграфіі ўпершыню ў нацыянальным мовазнаўстве праведзена комплекснае даследаванне беларускіх антрапанімічных і тапанімічных слоўнікаў: акрэслены межы і спецыфічныя рысы асноўных перыядаў у развіцці анамастычнай лексікаграфіі, вывучаны асаблівасці структуры слоўнікаў, распрацавана іх разгалінаваная тыпалогія.

Адрасуецца прафесійным даследчыкам у галіне лінгвістыкі і анамастыкі, выкладчыкам, аспірантам, студэнтам вышэйшых навучальных устаноў.

**УДК 81'373:811.161.3**
**ББК 81.2 Беи**

**ISBN 978-985-90302-1-5**

# ПРАДМОВА

У другой палове XX – пач. XXI ст. анамастыка пераходзіць на прынцыпова новы ўзровень развіцця, фарміруецца як самастойная навука са сваім аб’ектам, метадамі і прыёмамі даследавання [*Лемцюгова, 2004а*, с. 112], што звязана з актыўнай дзейнасцю шматлікіх беларускіх мовазнаўцаў. У гэты перыяд з’яўляецца шэраг манаграфій і навуковых артыкулаў, у якіх разглядаюцца пытанні, звязаныя з рознымі аспектамі тэорыі і практыкі анамастыкі.

Першыя грунтоўныя навуковыя работы па беларускай анамастыцы належаць М.В.Бірылу, які займаўся вывучэннем антрапаніміі старабеларускіх пісьмовых помнікаў, а таксама сучаснага беларускага антрапанімікону, даследаваў (сумесна з В.П.Лемцюговай) анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах [*Бірыла, 1973*]. У публікацыях іншых беларускіх лінгвістаў распрацоўваліся праблемы дэрывацыі і этымалогіі асабовых назваў жыхароў Брэстчыны [*Шумская, 1989*; *Шумская, 1992*], антрапанімікон Дзісеншчыны [*Крыўко, 1992*], уласныя імёны некаторых груп насельніцтва Беларусі ў XVI – XVIII стст. [*Фіранчук*], словаўтварэнне і тыпалогія катайконімаў Гомельшчыны [*Шчур, 1985*; *Шчур, 1986*; *Шчур, 1992*] і інш.

Плённа развівалася беларуская тапаніміка. Так, генезіс, функцыянаванне і эвалюцыю беларускай тапанімічнай сістэмы на матэрыяле дзелавых помнікаў XV – XVIII стст., лексічна-семантычныя і структурна-граматычныя рысы тапонімаў вывучаў І.Л.Капылоў [*Капылоў, 2001*].

У даследаванні А.А.Валасенка апісаны ўзаемасувязь і ўзаемаўплыў грамадска-гістарычных і сацыяльна-лінгвістычных фактараў на фарміраванне і станаўленне вытворча-прамысловых

тапонімаў Беларусі, праведзены комплексны лексічна-семантычны і структурна-словаўтваральны аналіз названых онімаў [*Валасенка*].

Вывучэнню этнічных і геаграфічных назваў, што даюць інфармацыю пра моўныя і культурныя кантакты розных этнадыялектных груп на тэрыторыі Беларусі, прысвечана манаграфічнае даследаванне А.Ф.Рогалева [*Рогалев*]. У ім праведзена інвентарызацыя ўласных імён, акрэслены іх колькасны склад, апісана моўная атрыбуцыя і выяўлена суаднесенасць уласных імён з пэўнымі этнадыялектнымі групамі.

Актыўна распрацоўвалася тапанімічная лексіка асобных рэгіёнаў. Так, Я.М.Адамовіч вызначыў словаўтваральныя і семантычныя групы тапанімічных і мікратапанімічных найменняў Случчыны [*Адамовіч*], С.А.Янушкевіч вывучыў агульныя і адрозныя рысы ў лексічным складзе, семантычную матывацыю і структурна-граматычнае афармленне назваў населеных пунктаў заходняй часткі Гродзеншчыны [*Янушкевіч*], А.М.Прышчэпчык прапанавала граматычную характарыстыку і правяла лексічна-семантычны аналіз мікратапонімаў Стаўбцоўшчыны [*Прищепчик*], Э.К.Бірыла прысвяціла манаграфічнае даследаванне айконімам Гомельскай вобласці, дала іх структурна-граматычную і лексічна-семантычную характарыстыку [*Бирилло*]. Усебаковым вывучэннем тапанімічнай лексікі Міншчыны і часткова Брэстчыны займалася В.П.Лемцюгова [*Лемцюгова, 1966*]. Лексіка-семантычная характарыстыка і структурна-граматычны аналіз мікратапаніміі Мазырскага Палесся змешчаны ў працы Г.А.Івановай [*Иванова*]. Мікратапанімію паўночна-заходняй часткі Брэсцкай вобласці даследавала В.М.Емельяновіч [*Емельянович*], якая прааналізавала вытворныя асновы ў мікратапаніміі (апелятывы, антрапонімы, гідронімы і інш.) і прапанавала структурна-словаўтваральную класіфікацыю мікратапонімаў даследаванага рэгіёна.

Вывучэннем усходнеславянскай айканіміі ў сувязі з семантычнай гісторыяй агульных назваў тыпаў пасяленняў і жытла займалася В.П.Лемцюгова. Былі акрэслены гістарычныя і моўныя фактары станаўлення і развіцця апелятыўных номенаў-тапаасноў, праведзена лексічна-семантычнае і арэальнае апісанне

ўсходнеславянскіх айконімаў, іх структурна-словаўтваральны аналіз [*Лемцюгова, 1987*].

Даследаванне гісторыі і сучаснага стану ўнутрыгарадскіх назваў Віцебшчыны, іх структурна-граматычных і семантычных асаблівасцей, праблем намінацыі і перайменавання вуліц праводзіла Г.М.Мезенка [*Мезенко, 1991а*; *Мезенко, 1991б*].

Структурныя тыпы і мадэлі эклезіонімаў Беларусі, спосабы граматычнага выражэння такіх назваў вывучаны ў даследаванні В.А.Барысевіч. Акрамя таго, у працы вызначаны матывы намінацыі і тэматычныя групы эклезіонімаў розных канфесій, адлюстравана спецыфіка пашырэння назваў для месцаў здзяйснення абрадаў на тэрыторыі Беларусі [*Борисевич*].

Інтэнсіўна распрацоўвалася тэорыя беларускай гідраніміі. У прыватнасці, Н.А.Багамольнікава на лексічна-семантычным і структурна-граматычным узроўнях прааналізавала з улікам дадзеных этымалогіі гідронімы ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны [*Багамольнікава, 1997*]. Асаблівасці гелонімнай падсістэмы гідраніміі на матэрыяле беларускай мовы і амерыканскага варыянту англійскай мовы, а таксама семантыку, структуру, спосабы і сродкі намінацыі гелонімаў Беларусі і ЗША ў параўнальна-супастаўляльным плане даследаваў А.І.Копач [*Копач*]. Рэканструкцыяй праславянскага гідранімічнага фонду на аснове беларускай і іншай славянскай гідраніміі займалася Р.М.Казлова [*Казлова, 2000; Казлова, 2003; Козлова*].

У адзінкавых работах айчынных аўтараў вывучаліся гідронімы беларускага Палесся [*Гуліцкая, 1987*], Падзвіння [*Катонава*], Пабужжа [*Бараўкова*] і інш.

Заканамерным вынікам інтэнсіфікацыі даследаванняў онімнай лексікі стала павелічэнне колькасці тапанімічных і антрапанімічных слоўнікаў, а таксама галіновых энцыклапедый, якія, з аднаго боку, адпавядаюць самым розным карыстальніцкім запытам, а з другога, – увасабляюць многія аспекты навуковага пазнання.

Такім чынам, актыўнае развіццё прыкладной лексікаграфіі дэтэрмінавана, перш за ўсё, шматграннасцю аб’екта апісання – разгалінаванай сістэмы онімаў, рознанакіраваную ўзаемасувязь адзінак якой дастаткова праблематычна адлюстраваць у адным

выданні. У выніку за досыць кароткі прамежак часу (другая палова XX – першае дзесяцігоддзе XXI стст.) было надрукавана больш за трыццаць лексікаграфічных прац, у якіх зафіксаваны шматлікія класы тапанімічных адзінак (камонімы, патамонімы, урбанонімы, лімнонімы, мікратапонімы і інш.) і каля дваццаці антрапанімічных слоўнікаў, дзе прадстаўлены ўласныя асабовыя мужчынскія і жаночыя імёны, прозвішчы, мянушкі і інш. Кожны слоўнік вызначаецца пэўнай навуковай канцэпцыяй, якая закранае пытанні тыпу і памеру выдання, распрацоўкі адпаведных лексікаграфічных параметраў (фарміраванне рэестра, сістэма памет, кампаноўка інфармацыйных зон).

Характар экстра- і інтралінгвістычных працэсаў у сучасным грамадстве стымуляваў узнікненне слоўнікаў новых тыпаў, а таксама прадэманстраваў неабходнасць удасканалення ўжо існуючых выданняў. Пры гэтым, дзякуючы развіццю інфармацыйных тэхналогій прыкметна змянілася форма прадстаўлення онімаў, узніклі новыя магчымасці па эксперыментаванні ў структуры слоўнікавых артыкулаў, выкарыстанні і інтэрпрэтацыі крыніц інфармацыі [*Тогоева*].

Важнасць лексікаграфічнай сістэматызацыі і каталагізацыі беларускага онімнага матэрыялу прызнана на самым высокім грамадскім узроўні. Дзяржава бачыць сваю задачу ў арганізацыі нарматыўнага забеспячэння працы па выяўленні, збіранні і каталагізацыі геаграфічных назваў, вырашэнні праблем напісання найменняў геаграфічных аб’ектаў у адпаведнасці з нормамі беларускай і рускай моў, распрацоўку праектаў нарматыўных актаў, накіраваных на фарміраванне і рэалізацыю адзінага падыходу да найменавання і перайменавання геаграфічных аб’ектаў, каардынацыю працы па стварэнні каталога геаграфічных найменняў, ажыццяўленне кантролю над складаннем даведнікаў і слоўнікаў геаграфічных назваў [*Палашкевич*]. З мэтай стандартызацыі беларускіх онімаў у 1998 г. была створана Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў РБ, у выніку дзейнасці якой уведзены ў практыку шэраг нарматыўных прававых актаў, што забяспечваюць працу з найменнямі геаграфічных аб’ектаў па розных кірунках [*Инструкция, 2012а*; *Инструкция, 2012б*; *Инструкция, 2012в*].

Значным дасягненнем Тапанімічнай камісіі стала прыняцце Палатай прадстаўнікоў Закона Рэспублікі Беларусь "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў" (16 лістапада 2010 г.), які вызначае прававыя асновы дзейнасці па выяўленні, нармалізацыі, прысваенні найменняў геаграфічным аб'ектам і іх перайменаванні, дзяржаўным уліку і выкарыстанні геаграфічных назваў з мэтай забеспячэння адзінага падыходу да ажыццяўлення такой дзейнасці, а таксама захавання найменняў геаграфічных аб'ектаў Беларусі.

З мэтай рэгістрацыі беларускіх геаграфічных назваў Дзяржаўны цэнтр картографа-геадэзічных матэрыялаў і дадзеных Беларусі распрацоўвае "Дзяржаўны каталог найменняў геаграфічных аб'ектаў Рэспублікі Беларусь" – электронную базу геаграфічных назваў (каля 40 тыс. тапонімаў на беларускай і рускай мовах) з дадатковай інфармацыяй пра іх (рэгістрацыйны нумар, род аб'екта, геаграфічныя каардынаты, наменклатура тапаграфічнай карты, адміністратыўная прыналежнасць і інш.). Каталог пабудаваны з захаваннем асноўных прынцыпаў лексікаграфізацыі і прызначаны для стандартызацыі ўжывання геаграфічных назваў ва ўсіх заканадаўчых актах, афіцыйных дакументах, даведачных і энцыклапедычных выданнях, на картах і атласах [*Палашкевич*].

Аднак, як слушна сцвярджае В.К.Шчэрбін, фактычны стан сённяшняй айчыннай лінгвістыкі характарызуецца значнай колькасцю канкурэнтных з'яў у метадалогіі лексікаграфічнай дзейнасці і разнастайнасцю падыходаў да сістэматызацыі онімнай лексікі, што пазбаўляе лексікаграфічную практыку выразных перспектыў і негатыўна адбіваецца на якасці ствараемых слоўнікаў, каталогаў і пад. [*Шчэрбін, 1996*].

Нявырашанымі застаюцца многія дастаткова складаныя тэарэтычныя пытанні, звязаныя з устанаўленнем прынцыпаў фарміравання рэестра слоўніка, распрацоўкай аптымальнай структуры слоўнікавых артыкулаў, дэфініраваннем зафіксаваных онімаў, вызначэннем аб'ёму і месца экстралінгвістычнай інфармацыі ў слоўніку і інш. Акрэсленыя праблемы ўказваюць на выключную актуальнасць стварэння сістэмнай тэорыі лексікаграфічнага прадстаўлення беларускай онімнай лексікі ў розных тыпах

анамастычных слоўнікаў, а іх вырашэнне з’яўляецца задачай агульнанацыянальнай важнасці.

Разам з тым, у беларускім мовазнаўстве пакуль адсутнічаюць даследаванні, у якіх у межах адной навуковай парадыгмы распрацоўвалася б тэорыя лексікаграфічнай сістэматызацыі тапонімаў і антрапонімаў, а канкрэтныя праблемы слоўнікавай практыкі атрымалі б комплекснае вырашэнне.

***

Аўтар шчыра ўдзячны за каштоўныя парады, якія значна паспрыялі павышэнню якасці працы, навуковаму рэдактару манаграфіі – кандыдату філалагічных навук П.А.Міхайлаву, загадчыку кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка кандыдату філалагічных навук Д.В.Дзятко, а таксама ўсім выкладчыкам кафедры, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні рукапісу.

# УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

**A** – прыметнік (лац. adjectivum);
**c** – злучнік (лац. conjunctio);
**N** – лічэбнік (лац. *numeralia*);
**$N_{\Omega}$** – лічбавы кампанент;
**p** – прыназоўнік (лац. *praepŏsĭtio*);
**S** – назоўнік (лац. *substantivum*);
**ЗВ** – зона варыянтаў;
**ЗД** – зона дэрыватаў;
**ЗІ** – зона ілюстрацый;
**ЗІд** – зона ідэнтыфікацыі;
**ЗН** – зона намінацыі;
**ЗП** – зона памет;
**ЗЭІ** – зона экстралінгвістычнай інфармацыі.

# РАЗДЗЕЛ І
# БЕЛАРУСКАЯ ТЭАРЭТЫЧНАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ: СТАН, КІРУНКІ, ПРАБЛЕМЫ

Назапашванне тэарэтычных дадзеных любой навуковай галіной, як слушна адзначаў Г.П.Мельнікаў, дае ёй магчымасць пераходзіць да дэталёвага разгляду вывучаемага аб’екта, да выяўлення ўсё больш тонкіх нюансаў яго сістэмных адносін з іншымі аб’ектамі, да асэнсавання своеасаблівасці складовых частак і адносін паміж імі, што з цягам часу вядзе да выпрацоўкі больш эфектыўных і, значыць, спецыялізаваных сродкаў выкарыстання атрыманых звестак [*Мельников*]. Сучасная навука аб мове з’яўляецца вынікам дастаткова складанага развіцця лінгвістычных ведаў і на працягу ўсяго перыяду існавання характарызуецца пастаянным павелічэннем разгалінаванасці сваёй сістэмы. Адным з ключавых кампанентаў структуры мовазнаўства выступае лексікаграфія, якая абагульняе і сістэматызуе ў межах вызначанай навуковай парадыгмы дадзеныя, атрыманыя ў многіх іншых раздзелах лінгвістыкі (лексікалогіі, семасіялогіі, граматыцы, этымалогіі, гісторыі мовы і інш.).

Заканамерным вынікам акумуляцыі тэарэтычных ведаў па агульнай лексікаграфіі з’яўляецца пастаноўка і вырашэнне разнастайных пытанняў стандартызацыі онімаў, што ва ўмовах актыўнай інфарматызацыі сучаснага грамадства мае выключна важнае значэнне не толькі для мовазнаўства, але і ў цэлым для стабільнага развіцця сацыяльнай сферы, эканомікі, міждзяржаўнага супрацоўніцтва.

Сам факт фарміравання лексікаграфіі як самастойнай галіны мовазнаўства звязаны з рэзкім павелічэннем колькасці прыкладных лексікаграфічных работ у другой палове XX ст. да межаў т. зв. “крытычнага аб’ёму”, пры якім далейшае развіццё стала немагчымым без тэарэтычнага асэнсавання і аптымізацыі вядомых мадэлей слоўнікавай структуры. Так, у бібліяграфічным даведніку Л.Згусты “Lexicography today: an annotated bibliography of the theory of lexicography” змешчана і праанатавана каля 3000 публікацый,

звязаных з вырашэннем разнастайных праблем тэорыі і методыкі складання слоўнікаў [*Knowles*; *Zgusta, 1988*].

Адным з першых абагульняльных даследаванняў, у якім былі вызначаны ўзаемаадносіны лексікаграфіі з лексікалогіяй, этымалогіяй, стылістыкай, а таксама апісаны і абгрунтаваны асноўныя якасці складальніка слоўнікаў як суб'екта лексікаграфіі, стала манаграфія Х.Касараса "Введение в современную лексикографию" [*Касарес*]. Многія ідэі, сфармуляваныя ў працы, атрымалі далейшую рэалізацыю ў даследаванні "Manual of Lexicography" [*Zgusta, 1971*] чэшска-амерыканскага лінгвіста Л.Згусты, якога П. ван Стэркенбург назваў "хросным бацькам лексікаграфіі XX стагоддзя" [*Sterkenburg*, с. 4].

Значную навуковую каштоўнасць для развіцця тэорыі лексікаграфіі ўяўляюць фундаментальныя работы Б.Свенсана, Р.-К.-Р.Хартмана, Ф.-Ё.Хаўсмана, у якіх апісваюцца асноўныя этапы працэсу складання слоўніка, акрэсліваюцца найважнейшыя метады лексікаграфавання, разглядаюцца структурныя асаблівасці слоўнікаў і паслядоўнасць размяшчэння інфармацыйных зон у слоўнікавым артыкуле, адзначаецца ўплыў камп'ютарных тэхналогій на працэс складання слоўнікаў [*Svensén*], а таксама вырашаюцца праблемы тыпалагізацыі лексікаграфічных выданняў і ў агульных рысах даецца агляд гісторыі стварэння слоўнікаў [*Hartmann, 1983*; *Hartmann, 1986*; *Hausmann*].

У апошнія гады еўрапейскія спецыялісты імкнуцца пашырыць сферу традыцыйных інтарэсаў лексікаграфіі за кошт інтэграцыі лінгвістычных метадаў апісання моўных адзінак і камп'ютарных тэхналогій. Так, у даследаваннях П. ван Стэркенбурга "A Practical Guide to Lexicography" і С.Ландау "Dictionaries: The Art and Craft of Lexicography" асноўная ўвага надаецца працэсу складання электронных слоўнікаў, акрэсліваецца роля сучасных тэхналогій пры падрыхтоўцы выданняў, а таксама вырашаюцца сумежныя праблемы тыпалогіі лексікаграфічных прац, дэфініравання і маркіравання рэестравых слоў, характарызуюцца асновы дызайну электронных слоўнікаў [*Landau*; *Sterkenburg*]. У рабоце С.Аткінс і М.Рундэла "The Oxford Guide to Practical Lexicography" абгрунтоўваецца неабходнасць прымянення ў лексікаграфіі апошніх лінгвістычных тэорый і

падкрэсліваецца важнасць спецыяльнага праграмнага забеспячэння для павышэння якасці апрацоўкі дадзеных [*Sue Atkins*].

У сучаснай еўрапейскай і амерыканскай тэарэтычнай лексікаграфіі выразна акрэслілася тэндэнцыя да выяўлення дынамікі слоўнікавага апісання моўных адзінак. У даследаванні А.Бежуа "Modern Lexicography" праз прызму лінгвістычных традыцый Вялікабрытаніі і ЗША вызначаюцца спецыфічныя рысы ў развіцці нацыянальнай лексікаграфіі [*Bejoint, 2000*]. У кнізе "The Lexicography of English: From Origins to Present" аўтар аналізуе дасягненні многіх прызнаных спецыялістаў у галіне прыкладной лексікаграфіі (Н.Уэбстэр, Д.Мары, С.Джонсан і інш.), характарызуе спосабы фіксацыі і інтэрпрэтацыі лексікі ў розных англійскіх і амерыканскіх слоўніках XVII – XIX стст. [*Bejoint, 2000*; *Bejoint, 2010*].

Асаблівае месца ў сучасным мовазнаўстве займае манаграфія Л.М.Іарданскай і І.А.Мельчука, прысвечаная вывучэнню семантыкі і спалучальнасці слоў у межах тэорыі *Сэнс ↔ Тэкст*. Важнасць кнігі ў тым, што ў ёй абгрунтоўваецца ідэя першаснасці лексікаграфічнага апісання лексікі пры канструяванні лінгвістычнай мадэлі мовы. У выданні ўпершыню ўводзяцца ў навуковы ўжытак новыя лексікаграфічныя паняцці: *лексічнае поле* (у адрозненне ад *семантычнага*), *абагульненая вакабула*, *камунікатыўна-дамінантны кампанент тлумачэння* і інш.; удасканалена методыка складання слоўнікавых артыкулаў на аснове ідэі папаўнення слоўніка не столькі асобнымі лексемамі, колькі групамі слоў, што належаць да аднаго семантычнага поля; прапанаваны параметрычны падыход пры апісанні ў слоўніку лексем аднаго семантычнага поля [*Иорданская*].

Ва ўсходнеславянскай лінгвістыцы ролю вектаравызначальнай працы ў галіне лексікаграфіі працяглы час адыгрывала даследаванне Л.У.Шчэрбы "Опыт общей теории лексикографии" [*Щерба, 2002*], у якім упершыню вылучаліся і тэарэтычна абгрунтоўваліся розныя тыпы слоўнікаў (гл. падраздзел 1.2).

Прыватныя аспекты тэорыі і методыкі стварэння слоўнікаў разглядаліся ў працах П.М.Дзянісава [*Денисов, 1974*], Ю.М.Каравулава [*Караулов*], В.У.Вінаградава [*Виноградов*], Ф.П.Саракалетава [*Сороколетов*], Ю.Д.Апрэсяна [*Апресян, 1990*] і інш. Канцэптуальны і дастаткова поўны аналіз дынамікі развіцця

рускай лексікаграфіі праведзены ў калектыўнай акадэмічнай манаграфіі пад рэд. Ф.П.Саракалетава, дзе расійскія слоўнікі разглядаюцца ў гістарычным і тэарэтычным плане з мэтай прыцягнуць вопыт традыцыі пры распрацоўцы тэм сучаснай лексікаграфіі – пры стварэнні метадалагічнай базы, для выпрацоўкі навуковых перспектыў і вырашэння разнапланавых кадыфікацыйных задач [*История русской лексикографии*].

Вынікам тэарэтычнага абагульнення многіх пытанняў гісторыі і метадалогіі лексікаграфіі стала публікацыя У.А.Козырава і В.Д.Чарняк, У.У.Дубічынскага, Э.Г.Шымчук, М.А.Бабуновай, Л.А.Увядзенскай, у якіх у даступнай і кампактнай форме выкладаюцца тэарэтычныя асновы сучаснай навукі пра слоўнікі, апісваюцца спецыфічныя асаблівасці важнейшых перыядаў у развіцці лексікаграфіі і характарызуюцца слоўнікі рускай мовы розных тыпаў [*Бобунова*; *Дубичинский, 2008*; *Козырев, 2000*; *Козырев, 2004*; *Шимчук*].

У беларускім мовазнаўстве склалася алагічная сітуацыя, адметнасць якой у тым, што пры амаль поўнай адсутнасці канцэптуальных работ абагульняльнага характару колькасць разнастайных аспектных публікацый па праблемах гісторыі і тэорыі лексікаграфіі вымяраецца сотнямі.

На сучасным этапе развіцця беларускай лінгвістыкі ўжо можна гаварыць пра фарміраванне пэўных прыярытэтных кірункаў лексікаграфічных даследаванняў, якія характарызуюцца адноснай устойлівасцю і шматаспектнасцю. Асноўнымі вектарамі развіцця тэорыі беларускай лексікаграфіі з’яўляюцца:

а) вывучэнне гісторыі айчыннай навукі пра слоўнікі;

б) вырашэнне праблемы тыпалогіі слоўнікаў у кантэксце агульнай метатэорыі лексікаграфіі;

в) распрацоўка і супастаўленне разнастайных лексікаграфічных праграм і праектаў;

г) даследаванне структурна-зместавых асаблівасцей слоўнікаў;

д) лексікаграфічная крытыка;

е) тэарэтычнае асэнсаванне і ўкараненне інфармацыйных тэхналогій у лексікаграфіі.

## 1.1 Даследаванні ў галіне гісторыі беларускай лексікаграфіі

Адной з асноўных характарыстык любой галіны ведаў з'яўляецца яе дынаміка, якая, выступаючы ў якасці самастойнага прадмета вывучэння, можа прадаставіць каштоўныя дадзеныя для праектавання далейшага развіцця навукі. Гэта асабліва важна для лінгвістыкі, паколькі "гуманітарныя веды ў сваёй канцэптуальнай глыбіні ёсць пераважна веды гістарычныя" [*Мечковская*, с. 46].

У айчынным мовазнаўстве вывучэнне гісторыі лексікаграфіі пачалося ў 1920-я гг. са з'яўленнем у перыядычным друку артыкулаў Я.Карскага і М.Байкова, у якіх быў праведзены крытычны агляд наяўных лексікаграфічных выданняў, апісваліся прынцыпы ўкладання розных слоўнікаў, а таксама аналізаваліся вынікі арганізацыі слоўнікавай працы ў Беларусі на працягу 1925 – 1928 гг. [*Байкоў, 1926б*; *Байкоў, 1927б*; *Байкоў, 1928*; *Карский, 1921*; *Мовазнавец, 1926а*].

Даследаванні, прысвечаныя гісторыі станаўлення тэарэтычнай і прыкладной лексікаграфіі ў Беларусі, закранаюць: 1) фарміраванне лексікаграфічнай традыцыі ў цэлым; 2) гісторыю стварэння канкрэтных слоўнікаў; 3) ролю асобных вучоных у развіцці лексікаграфіі.

**1.1.1** Комплексна гісторыю беларускай лексікаграфіі са старажытных часоў вывучалі М.Р.Суднік [*Судник*; *Суднік, 1957*], М.Ф.Гуліцкі [*Гуліцкі, 1971*; *Гуліцкі, 1972*; *Гуліцкі, 1978*; *Гуліцкі, 1980а*; *Гуліцкі, 1980б*], В.К.Шчэрбін [*Шчэрбін, 1994*]. У сваіх працах даследчыкі звярнуліся да разгляду дзейнасці ў галіне лексікаграфіі Ф.Скарыны, П.Бярынды, Ф.Шымкевіча, П.Шпілеўскага, Я.Чачота, І.Грыгаровіча, С.Мікуцкага, І.Насовіча і інш., а таксама вызначылі ўплыў ранніх лексікаграфічных прац на сучасныя традыцыі складання слоўнікаў. Старажытныя лексіконы ("**Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мов просто**" (1586), "**Лексисъ сирѣчъ реченіѧ, въкратъцѣ събранны и из словенскаго ꙗзыка на просты рꙋскій діѧлект истолкованы**" Л.Зізанія (1596), "**Леѯіконъ славенорѡсскій. Именъ тлъкованіє**" П.Бярынды (1627)) апісвала Н.К.Пamецька [*Памецька*]. Вывучэнню беларускай слоўнікавай справы савецкага перыяду значная ўвага надаецца ў работах А.І.Жураўскага і

А.А.Крывіцкага [*Жураўскі, 1979*; *Жураўскі, 1990*], М.Н.Крыўко [*Крыўко, 1995*], Л.М.Шакуна [*Шакун, 1995*], С.М.Запрудскага [*Запрудскі*].

Аспектныя публікацыі па гісторыі лексікаграфіі прысвечаны разнастайным прыватным праблемам станаўлення навукі пра слоўнікі.

У прыватнасці, у работах А.А.Крывіцкага [*Крывіцкі, 1975*], М.Н.Крыўко [*Крыўко, 1989*], П.А.Міхайлава [*Міхайлаў, 1995*; *Міхайлаў, 1996а*; *Міхайлаў, 1996б*], В.К.Шчэрбіна [*Шчэрбін, 2008*] шырока даследавалася гісторыя станаўлення і развіцця беларускай дыялектнай лексікаграфіі.

Асаблівасці станаўлення тапанімічнай лексікаграфіі, асобныя слоўнікі і кірункі развіцця нацыянальнай анамастычнай лексікаграфіі вывучаліся М.В.Бірылам і В.П.Лемцюговай [*Бірыла, 1987*], а таксама некаторымі іншымі даследчыкамі [*Палашкевіч, 2008б*; *Палашкевіч, 2010а*].

Плённа, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі, развіваецца беларуская тэарэтычная тэрмінаграфія. У адпаведных публікацыях сістэматызуюцца прынцыпы ўкладання тэрміналагічных слоўнікаў і нярэдка робяцца спробы прасачыць іх дынаміку на розных гістарычных этапах фарміравання асобных тэрмінасістэм. Так, гісторыі станаўлення беларускай лінгвістычнай тэрмінаграфіі прысвечана публікацыя А.А.Мачалавай [*Мачалава*], генезіс і асаблівасці кадыфікацыі беларускай матэматычнай тэрміналогіі 1920-х гг. апісваў Д.В.Дзятко [*Дзятко, 2007*], гісторыю і сучасны стан нямецка-беларускай і беларуска-нямецкай тэрмінаграфіі вывучала К.П.Любецкая [*Любецкая, 2002*]. Варта адзначыць, што большасць сучасных даследаванняў па гісторыі і тэорыі тэрмінаграфіі маюць канстатацыйна-апісальны характар і не накіраваны на выпрацоўку аптымальных мадэлей лексікаграфічнага прадстаўлення спецыяльнай лексікі.

Асноўная маса работ па гісторыі беларускай лексікаграфіі абмяжоўваецца вывучэннем публікацый, падрыхтаваных на этнічнай тэрыторыі Беларусі. Фактычна адзінай крыніцай, прысвечанай сістэматызацыі слоўнікаў беларускай мовы, укладзеных за межамі краіны, з'яўляецца аглядавая работа Л.Юрэвіча, у якой

характарызуюцца 42 лексікаграфічныя замежныя выданні другой паловы XX ст., што апісваюць сістэму беларускай мовы [*Юрэвіч*].

**1.1.2** Адным з прыярытэтных напрамкаў даследавання гісторыі беларускай лексікаграфіі з'яўляецца вывучэнне асобных слоўнікавых праектаў, умоў іх стварэння, структурных асаблівасцей і інш.

Першай публікацыяй у межах гэтага кірунку з'яўляецца артыкул В.Ю.Ластоўскага ў часопісе "Крывіч" (1923 г.), у якім апісваліся "**Лексисъ сирѣчъ реченіѧ, въкратъцѣ събранны и из словенскаго ꙗзыка на просты рꙋскій діѧлект истолкованы**" Л.Зізанія і "**Леѯіконъ славенорωсскій. Именъ тлъкованіє**" П.Бярынды [*С.Т.*].

Шэраг прац беларускіх навукоўцаў прысвечаны вывучэнню "Словаря белорусского наречия" І.І.Насовіча: гісторыю стварэння слоўніка, яго макра- і мікраструктуру падрабязна апісвалі І.І.Савіцкая [*Савіцкая, 2007*], А.І.Жураўскі і І.І.Крамко [*Жураўскі, 1963*], лексічныя і граматычныя асаблівасці рэестравых слоў у выданні вывучалі І.А.Гапоненка [*Гапоненка*] і Г.Б.Хіхол [*Хіхол, 1986*; *Хіхол, 1989*].

У адзінкавых артыкулах даследуюцца прынцыпы ўкладання рукапіснага слоўніка І.Ф.Капіеўскага [*Анічэнка, 1960*], "Турэцка-беларускага размоўніка 1836 года" [*Трыпуціна*], "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" В.Ластоўскага [*Астраўцоў*], слоўніка беларускай мовы Я.Ф.Ціхінскага [*Вяржбоўскі*], сістэматызуецца рукапісная спадчына І.К.Бялькевіча [*Дзятко, 2011*], М.Я.Пецюкевіча [*Грамовіч*] і інш.

**1.1.3** Важным аспектам у распрацоўцы гісторыі лексікаграфіі з'яўляецца вывучэнне дзейнасці канкрэтных лінгвістаў. У адпаведнасці з канцэпцыяй брытанскага філосафа М.Палані, навука не існуе ў дэперсаніфікаваным і адарваным ад пэўных сацыяльна-гістарычных умоў выглядзе [*Полани*]. Таму натуральна, што ўвагу лінгвістаў прыцягваюць праблемы сістэматызацыі і асэнсавання навуковай спадчыны асобных даследчыкаў, у тым ліку тых, што працавалі ў галіне тэарэтычнай і прыкладной лексікаграфіі. Так, напрыклад, у расійскім выданні "Отечественные лексикографы XVIII − XX века" сабраны малавядомыя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць 22 расійскіх славістаў, сярод якіх У.І.Даль, І.І.Сразнеўскі, М.І.Талстой, А.М.Трубачоў, М.-Ю.Фасмер, М.М.Шанскі,

А.А.Шахматаў, А.П.Яўгеньева і інш. [*Отечественные лексикографы*]. Характарыстыкі асноўных прац, біяграфічныя і бібліяграфічныя звесткі, факты навуковай дзейнасці некаторых лексікографаў фіксуюцца ў даведніку С.В.Смірнова "Отечественные филологи-слависты середины XVIII – начала XX вв." [*Смирнов*], энцыклапедыі А.П.Юдакіна [*Юдакин*] і інш.

У беларускай лінгвістычнай традыцыі першым і найбольш удалым вопытам стварэння даведніка, прысвечанага дзейнасці асобных вучоных, стала фундаментальная праца М.Г.Булахава "Восточнославянские языковеды" [*Булахов*], дзе падаюцца біяграфічныя звесткі, пералік асноўных лінгвістычных публікацый, прапануецца сціслы крытычны аналіз найбольш важных работ беларускіх, рускіх і ўкраінскіх філолагаў XVI – XX стст. Сярод персаналій належнае месца займаюць лексікографы: І.К.Бялькевіч, П.Бярында, М.І.Гарэцкі, У.М.Дабравольскі, М.М.Дурнаво, К.Ф.Калайдовіч, М.І.Каспяровіч, С.М.Некрашэвіч, М.В.Шатэрнік і інш. Артыкулы з апісаннем жыццёвага шляху і асноўных навуковых дасягненняў некаторых айчынных лексікографаў уключаны ў выданне "Беларускія мовазнаўцы" І.К.Германовіча [*Германовіч, 1985*; *Германовіч, 2006*] і энцыклапедыю "Беларуская мова" [*Беларуская мова*].

Іншыя публікацыі, прысвечаныя вывучэнню дзейнасці асобных спецыялістаў у галіне лексікаграфіі, з'яўляюцца колькасна шматлікімі і характарызуюцца структурнай разнастайнасцю. Яны падзяляюцца на дзве групы: а) рэтраспектыўныя даследаванні і б) аспектуальныя работы.

У рэтраспектыўных даследаваннях праводзіцца агляд лексікаграфічнай дзейнасці канкрэтных лінгвістаў у параўнальна-супастаўляльным плане. Так, М.Ф.Гуліцкі аналізаваў здабыткі ў галіне лексікаграфіі П.В.Шэйна, Е.Р.Раманава, Я.Ф.Карскага [*Гуліцкі, 1974*], Д.Д.Паўлавец – развіццё традыцый кнігадрукавання і гласіравання Ф.Скарынам, С.Будным, М.Кавячынскім, Л.Зізаніем, М.Сматрыцкім, І.Ужэвічам [*Паўлавец, 1990*].

Аспектуальныя работы прысвечаны ў асноўным агляду навуковай спадчыны асобных даследчыкаў і прымеркаваны да пэўных юбілейных дат (што адпаведным чынам упывае на змест публікацый і

форму падачы матэрыялу) – У.В.Анічэнкі [*Даніленка*; *Клыга*; *Паўлавец, 2000*; *Усовіч*], Г.У.Арашонкавай [*Лемцюгова, 1988*; *Чабатар*], К.К.Атраховіча (К.Крапівы) [*Бірыла, 1976*; *Жураўскі, 1986*; *Лобан*; *Міхневіч, 1981*; *Суднік, 1986*], М.Я.Байкова [*Мірачыцкі*; *Шчэрбін, 1989*], М.В.Бірылы [*Аксамітаў*; *Арашонкава*; *Германовіч, 1998б*; *Жураўскі, 1973*; *Жураўскі, 1983*; *Лемцюгова, 2004б*; *Падлужны*], М.І.Гарэцкага [*Голуб*; *Савіцкая, 2002*; *Шчэрбін, 1993*], С.М.Грабчыкава [*Германовіч, 1998а*], А.І.Жураўскага [*Булыка*; *Крамко*; *Паляшчук, 2004*; *Ялоўская*], М.А.Жыдовіч [*Германовіч, 1996*; *Прыгодзіч, 2006*; *Шакун, 1976*], В.П.Лемцюговай [*Анісім, 2005*; *Капылоў, 2005*; *Крыўко, 1996*], А.А.Лукашанца [*Кунцэвіч, 2004*], Ф.Д.Клімчука [*Кунцэвіч, 1996*; *Трухан*], А.А.Крывіцкага [*Кунцэвіч, 2007*; *Курцова, 1997*; *Курцова, 2003*; *Міхайлаў, 1986а*; *Яшкін, 1978*], М.Н.Крыўко [*Анісім, 2009*; *Лемцюгова, 2000*], Ю.Ф.Мацкевіч [*Клімчук*; *Крывіцкі, 1972*; *Крыўко, 1986а*; *Крыўко, 1986б*; *Крыўко, 1991*; *Міхайлаў, 1981*; *Міхайлаў, 1986б*; *Міхайлаў, 1992б*], П.А.Міхайлава [*Палашкевіч, 2010д*], І.І.Насовіча [*Жураўскі, 1962*; *Міхайлаў, 1998*; *Прыгодзіч, 2008*; *Прыгодзіч, 1988а*; *Прыгодзіч, 1988б*; *Суднік, 1946*; *Суднік, 1989*; *Цішчанка, 1988*; *Цішчанка, 1989*; *Шакун, 1990*; *Яшкін, 1988*; *Яшкін, 1989*], С.М.Некрашэвіча [*Жураўскі, 2004*; *Іофе, 1989а*; *Іофе, 1989б*; *Іофе, 1990*; *Іофе, 1991*; *Шчэрбін, 1995*; *Шчэрбін, 2003*], Г.М.Прышчэпчык [*Анісім, 2000*; *Анісім, 2010*], А.К.Сержпутоўскага [*Германовіч, 1975*], М.Р.Судніка [*Вештарт*; *Германовіч, 2000*; *Крыўко, 1990*; *Міхневіч, 1990*], П.У.Сцяцко [*Бубновіч*; *Германовіч, 1990*; *Сіпліваня*], А.К.Усціновіч [*Лучыц-Федарэц, 1996*; *Лучыц-Федарэц, 2005*], Г.А.Цыхуна [*Вярэніч*; *Лучыц-Федарэц, 2006а*; *Лучыц-Федарэц, 2006б*], П.М.Шпілеўскага [*Прыгодзіч, 2010*], Ф.С.Шымкевіча [*Галас*], Ф.М.Янкоўскага [*Абабурка, 1988а*; *Абабурка, 1988б*; *Гаўрош*; *Карлюкевіч*; *Каўрус*; *Наркевіч*], І.Я.Яшкіна [*Лобач*] і інш.

## 1.2 Распрацоўка тыпалогіі слоўнікаў у сучаснай лінгвістыцы

Вынікам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі стала павелічэнне колькасці філалагічных слоўнікаў, а таксама разнастайных даведнікаў

спецыяльнага характару: “тэрміналагічных слоўнікаў, спецыяльных энцыклапедый, класіфікатараў і рубрыкатараў, эксперыментальных даведнікаў, вузкадысцыплінарных канцэптуарыяў і пад.” [*Щербин, 2011*, с. 330]. Натуральна, што ў новых умовах адной з найважнейшых задач сучаснай тэарэтычнай лексікаграфіі з’яўляецца стварэнне ўніверсальнай тыпалогіі слоўнікаў беларускай мовы, якая, з аднаго боку, дазваляе інвентарызаваць існуючыя розназструктурныя працы, а з другога – дапамагае вызначыць лексікаграфічныя лакуны ў апісанні мовы.

Даследаванні, якія выконваюцца ў гэтым рэчышчы ў беларускім мовазнаўстве, у многім арыентуюцца на работы найбольш аўтарытэтных расійскіх і ўкраінскіх спецыялістаў. У расійскай лінгвістыцы ўжо існуе шэраг спецыфічных тыпалогій слоўнікаў, агульнавядомымі з якіх з’яўляюцца класіфікацыі, прапанаваныя У.Р.Гакам, У.У.Дубічынскім, В.В.Маркоўкіным, А.М.Цывіным, Л.У.Шчэрбам і інш.

**1.2.1** Першай спробай размеркавання наяўных слоўнікаў па групах з’яўляецца тыпалогія Л.У.Шчэрбы, у аснове якой ляжыць некалькі бінарных апазіцый: слоўнік акадэмічнага тыпу – слоўнік-даведнік, тэзаўрус – звычайны (тлумачальны ці перакладны) слоўнік, звычайны слоўнік – ідэалагічны, гістарычны слоўнік – негістарычны і інш. [*Щерба, 2012*].

Класіфікацыя лексікаграфічных выданняў У.Р.Гака грунтуецца на васьмі асноўных параметрах: адбор лексікі (слоўнікі тэзаўруснага тыпу і слоўнікі, у якіх лексіка праходзіць пэўную “фільтрацыю”); спосаб апісання (арфаграфічныя, арфаэпічныя, этымалагічныя слоўнікі і інш.); адзінкі апісання (слоўнікі марфем, каранёў, словазлучэнняў і інш.); спосаб размяшчэння матэрыялу (алфавітныя слоўнікі, адваротныя, тэматычныя і інш.); час функцыянавання слова (гістарычныя слоўнікі і слоўнікі сучаснай мовы); сістэмныя адносіны паміж словамі (гнездавыя, словаўтваральныя, аманімічныя, сінанімічныя і інш.); функцыянальны аспект (частотнасць, стылістычнае выкарыстанне, нарматыўнасць); колькасць апісаных моў [*Гак*].

У аснове тыпалогіі слоўнікаў А.М.Цывіна таксама ляжыць шэраг класіфікацыйных схем: суадносіны правай і левай частак слоўніка

(аднабаковыя і двухбаковыя слоўнікі); спосаб размяшчэння загаловачнага слоўнікавага блока (алфавітныя і неалфавітныя слоўнікі); склад загаловачнага слоўнікавага блока (лексіконы і фразарыі) і характар яго адбору (тэзаўрусы і атэзаўрусы); розніца паміж аб'ектамі апісання (агульныя і прыватныя слоўнікі); адлюстраванне ў слоўніку гістарычных працэсаў (сінхронныя і дыяхронныя слоўнікі); мэта і прызначэнне слоўніка (вучэбныя слоўнікі і слоўнікі-даведнікі); спосабы выражэння лемы (анамастыконы і апелятывы) [*Цывин*].

Вядомы расійскі лексікограф В.В.Маркоўкін прапануе пры распрацоўцы тапалогіі слоўнікаў улічваць асаблівасці выяўлення інфармацыі ў выданні, характар размяшчэння матэрыялу, спосаб існавання лексіконаў. У адпаведнасці з такім падыходам вылучаюцца слоўнікі лексічныя (арфаграфічныя, арфаэпічныя, тлумачальныя і інш.), фразеалагічныя (фразеалагізмаў, прыказак, прымавак, крылатых слоў і інш.), лінгвацэнтрычныя і антрапацэнтрычныя, аспектныя і поліаспектныя, незалежныя і інкарпараваныя, друкаваныя і камп'ютарныя, рэцэптыўнага, прадуктыўнага і рэцэптыўна-прадуктыўнага тыпаў [*Морковкин*].

Спроба стварэння ўніверсальнай класіфікацыі слоўнікаў зроблена У.У.Дубічынскім, які размяжоўвае выданні па некалькіх крытэрыях (аб'ём слоўніка, колькасць выходных моў, парадак падачы матэрыялу і інш.) і вылучае наступныя іх тыпы: тлумачальныя, іншамоўных слоў, мовы пісьменнікаў, сінонімаў / антонімаў, амонімаў / паронімаў, тэрміналагічныя, гістарычныя / этымалагічныя, неалагізмаў, анамастычныя, дыялектныя, ненарматыўнай лексікі, арталагічныя, спалучальнасці, фразеалагічныя, словаўтваральныя, скарачэнняў, частотныя [*Дубичинский, 2005*].

Прыведзеныя тыпалогіі дастаткова поўна адлюстроўваюць набыткі сучаснай рускай і ўкраінскай прыкладной лексікаграфіі, аднак не зусім адпавядаюць беларускім лінгвістычным рэаліям.

**1.2.2** У айчынным мовазнаўстве праблемай класіфікацыі беларускіх слоўнікаў займаўся В.К.Шчэрбін [*Шчэрбін, 1987*]. Ён крытычна асэнсаваў разнастайныя падыходы да групавання слоўнікаў, пашыраныя ў расійскай навуковай традыцыі, (С.І.Ожагава, Л.У.Шчэрбы, Ю.М.Каравулава і інш.), тэарэтычна абгрунтаваў думку,

што стварэнне “тыпалогіі слоўнікаў дало б лексікографу магчымасць з самага пачатку працы над укладаннем слоўніка адбіраць сярод вылучаных лексікаграфічных параметраў найбольш аптымальныя, якія ў максімальнай ступені адпавядаюць прад’яўляемым для слоўнікаў гэтага тыпу патрабаванням” [*Шчэрбін, 1987*, с. 50], а таксама прааналізаваў асаблівасці тых надрукаваных беларускіх слоўнікаў, якія пры іх класіфікацыі часам адносяцца да розных тыпаў (“Словарь белорусского наречия” І.І.Насовіча, “Слоўнік мовы Скарыны”). У пазнейшых публікацыях В.К.Шчэрбін прапанаваў вылучаць два асноўныя кампаненты слоўнікавай сістэмы – тлумачальную і аспектную лексікаграфію (гістарычная, дыялектная, перакладная, анамастычная, этымалагічная, аўтарская, арталагічная, семанімічная, статыстычная, вучэбная, неалагічная, фразеалагічная, парэміялагічная, граматычная, субстандартная, стылістычная, лінгвакраіназнаўчая, тэкставая і гіпертэкставая, электронная, ілюстрацыйная, а таксама ідэаграфія, дэрыватаграфія і агульная канцэптаграфія) [*Шчэрбін, 2009*].

Сістэмную тыпалогію слоўнікаў беларускай мовы прапанаваў Д.В.Дзятко, які на аснове спецыфікі моўных адзінак, зафіксаваных у слоўніках, асаблівасцей іх лексікаграфічнай інтэрпрэтацыі і тыпу інфармацыі, што падаецца ў выданні, вылучыў дзве групы лінгвістычных слоўнікаў – лексемныя і ідыёмныя. ***Лексемныя слоўнікі*** апісваюць словы ў чатырох аспектах:

1) *семантычным*:

а) тлумачальныя: агульных імён літаратурнай мовы – зводныя і аспектныя (напр., амонімаў, паронімаў, антонімаў, новых слоў, іншамоўных слоў, мовы аўтара, тэрміналагічныя і інш.); агульных імён дыялектнай мовы – зводныя і аспектныя, а таксама слоўнікі ўласных імён (анамастычныя);

б) перакладныя: агульных імён (зводныя і аспектныя) і ўласных імён (зводныя і аспектныя);

2) *функцыянальным*: арталагічныя (арфаграфічныя, арфаэпічныя, цяжкасцей, тыповых формаў і інш.), статыстычныя (частотныя, лексічныя мінімумы), ідэаграфічныя (асацыятыўныя, тэматычныя), стылістычныя (устарэлай лексікі, сінонімаў, эпітэтаў, дыялектызмаў), парадыгматычныя;

3) *структурным*: словаўтваральныя і марфемныя;

4) *намінацыйным*: анамастычныя (тапанімічныя, антрапанімічныя – зводныя і аспектныя – і інш.), канкардансы, спісы, рэестры.

У ***ідыёмных слоўніках*** характарызуюцца моўныя канструкцыі:

1) у *семантычным* аспекце: тлумачальныя (фразеалагізмаў, парэмій), перакладныя (фразеалагізмаў, парэмій);

2) у *функцыянальным* плане: стылістычныя (перыфраз, параўнанняў і інш.);

3) у *намінацыйным* плане: афарызмаў і пад. [*Дзятко, 2010*].

Асобныя артыкулы беларускіх навукоўцаў прысвечаны пытанням тыпалагізацыі аспектных лексікаграфічных выданняў. Так, В.К.Шчэрбін адзначае, што "агульную структуру тлумачальнай лексікаграфіі Беларусі сёння складаюць наступныя групы даведачных выданняў:

1) акадэмічныя тлумачальныя слоўнікі;

2) тлумачальна-гістарычныя слоўнікі;

3) тлумачальна-граматычныя слоўнікі;

4) школьныя тлумачальныя слоўнікі;

5) прыкніжныя тлумачальныя слоўнікі невялікага памеру", і падрабязна апісвае вылучаныя тыпы [*Шчэрбін, 2011*, с. 296].

Тыпы дыялектных фразеалагічных слоўнікаў вызначыў І.Я.Лепешаў. Ён вылучыў слоўнікі фразеалогіі (дыялектнай і недыялектнай) пэўнай гаворкі, падгрупы гаворак, дыялекту і інш. На думку аўтара, у сукупнасці названыя тыпы выданняў павінны стаць асновай для стварэння поўнага слоўніка дыялектнай фразеалогіі беларускай мовы [*Лепешаў*].

На падставе сістэмы крытэрыяў (наяўнасць разнастайных фармальных і зместавых характарыстык, магчымасць вылучэння паняццяў, што стаяць за тэрмінамі, здольнасць тэрмінаў аб'ядноўвацца з іншымі словамі ў тэрмінаваныя і фразеалагічна звязаныя словазлучэнні, частата выкарыстання тэрміна ў тэкстах і інш.) В.К.Шчэрбін вылучыў наступныя кірункі беларускай тэрмінаграфіі: перакладная (двухмоўная і шматмоўная), тлумачальная, вучэбная, інфармацыйна-паказальнікавая, тэрміналагічная энцыклапедычная, даведачная, народна-дыялектная, корпусная,

тэрміналагічная ідэаграфія, тэрміналагічная гласаграфія, этымалагічная тэрмінаграфія і інш. [*Щербин, 2009*].

Тыпалогію сінтаксічных слоўнікаў славянскіх моў стварыў С.А.Важнік, ён размежаваў лексікаграфічныя выданні паводле наступных класіфікацыйных прымет: аб'ёму матэрыялу (аднамоўныя, двухмоўныя і інш.), аб'екта апісання (слоўнікі дзеясловаў, сінтаксічных адзінак і інш.), прадмета апісання (валентныя, дыстрыбуцыйныя і інш.), паводле падыходу да апісання (семантыка-сінтаксічныя і сінтаксічна-семантычныя) і інш. [*Важнік*].

Структурна-функцыянальную тыпалогію электронных перакладных слоўнікаў распрацавалі Г.М.Канцавая і Т.С.Пратасевіч, у выніку чаго былі вылучаны наступныя тыпы:

а) слоўнікі, якія ўяўляюць сабой тэкставы файл, што ўзнаўляе старонкі традыцыйнага папяровага выдання;

б) слоўнікі-праграмы, размешчаныя на камп'ютары карыстальніка; в) слоўнікі-праграмы на аддаленым серверы;

в) слоўнікі на ўласным камп'ютары як форма, што звяртаецца да сервера;

г) слоўнікі-праграмы ў спецыялізаваных прыстасаваннях;

д) слоўнікі як спецыялізаваны праграмны апаратны комплекс [*Концевая*].

Прадпрымаліся спробы стварэння тыпалогій і іншых аспектных выданняў. Так, напрыклад, распрацавана класіфікацыя беларускіх анамастычных слоўнікаў, якая грунтуецца на характары размяшчэння матэрыялу, спецыфіцы аб'екта слоўнікавага апісання і ўліку асаблівасцей мікраструктуры (гл. раздзел IV) [*Палашкевіч, 2010в*; *Палашкевіч, 2009г*].

Такім чынам, лічым патрэбным адзначыць, што ад выніковасці далейшага вырашэння праблемы стварэння адзінай, універсальнай тыпалогіі беларускіх слоўнікаў залежыць увесь ход далейшага развіцця нацыянальнай лексікаграфіі.

### 1.3 Праектная лексікаграфія як спосаб планавання і каардынацыі лінгвістычнай дзейнасці

Названы кірунак фарміруецца даследаваннямі двух тыпаў, якія адрозніваюцца паміж сабой узроўнем распрацоўкі праблем, звязаных з тэорыяй і методыкай уласна лексікаграфічнай дзейнасці: а) праекты і інструкцыі па збіранні лексікі; б) праекты лексікаграфічных выданняў.

**1.3.1** Упершыню планамернай распрацоўкай метадалагічных асноў лексікаграфіі беларускія навукоўцы заняліся ў 1920 – 1930-я гг., калі ў выніку дзейнасці Навукова-тэрміналагічнай камісіі, Камісіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы пры Інбелкульце істотна актывізавалася падрыхтоўка і выданне слоўнікаў на Беларусі.

У гэты час у сувязі з неабходнасцю складання слоўніка беларускай мовы быў надрукаваны шэраг праграм і інструкцый, у якіх падрабязна апісвалася методыка збірання лексічнага матэрыялу і спосабы яго першаснай лексікаграфічнай апрацоўкі. У рэспубліканскім друку былі апублікаваны інструкцыі, праграмы, праекты па збіранні беларускай дыялектнай [*Байкоў, 1926а*; *Байкоў, 1927а*; *Інструкцыя, 1959 – 1966*; *Некрашэвіч, 1925*], тэрміналагічнай [*Інструкцыя, 1925а*; *Інструкцыя, 1925б*; *Інструкцыя, 1926*; *Інструкцыя, 1930*] і анамастычнай [*Крукоўскі*; *Скарыніч, 1931а*; *Скарыніч, 1931б*] лексікі, якія паспрыялі станаўленню прынцыпаў і метадаў нацыянальнай лексікаграфіі. Так, у артыкуле С.М.Некрашэвіча вызначаецца тэрыторыя пашырэння беларускіх слоў, магчымыя друкаваныя крыніцы, у якіх фіксуецца беларуская лексіка, прапануецца методыка збірання лексікі (з дапамогай праграм і шляхам укладання краёвых слоўнікаў). Асобна аўтар спыняецца на распрацоўцы канкрэтных праблем мікрастуктуры слоўніка (паўната рэестра, аб’ём запазычаных адзінак, прадстаўленасць стылістычна маркіраваных слоў, уключэнне ўласных імён, формаўтварэнне і формазмяненне ў слоўніку і інш.) [*Некрашэвіч, 1925*].

У артыкуле М.Я.Байкова ўвага карэспандэнтаў звяртаецца на важнасць аднатыпнага афармлення ўсіх асноўных інфармацыйных зон картак-слоў пры каталагізацыі сабранага лексічнага матэрыялу. Аўтар рэкамендуе фіксаваць наступныя звесткі: рэестравае слова, яго пераклад на рускую або польскую мовы (калі гэта немагчыма –

падаваць тлумачэнне па-беларуску), ілюстрацыю, месца запісу і прозвішча карэспандэнта [*Байкоў, 1927а*].

У "Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове" ўказвалася, што ў задачы Камісіі па ўкладанні слоўніка жывой народнай мовы "ўваходзіць сабраць па магчымасьці ўсе словы, якія ўжываюцца ў сучаснай беларускай, як літаратурнай, так і народнай мове – на ўсёй тэрыторыі этнографічнай Беларусі" [*Інструкцыя, 1925а*, с. 1] і рэкамендавалася запісваць "найбольш характэрныя беларускія словы... асабліва-ж тыя, якія адрозьніваюцца ад слоў расійскай ці польскай мовы":

а) "назвы й тэрміны, якія азначаюць розныя зьявы, прадметы й процэсы ў жыцьці прыроды й чалавека",

б) адсубстантыўныя прыметнікі і ўтвораныя ад іх прыслоўі;

в) дзеясловы закончанага і незакончанага трывання, а таксама вытворныя ад іх формы – дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі;

г) словы іншых часцін мовы (лічэбнікі і займеннікі, прыметнікі, злучнікі, выклічнікі [*Інструкцыя, 1925а*].

Звярталася ўвага на неабходнасць фіксацыі ўстойлівых выразаў, запазычанай лексікі, поўных і размоўных формаў уласных імён чалавека, а таксама мянушак людзей і жывёл. Каштоўным з пункту гледжання лексікаграфіі з'яўляецца распрацаваны падрабязны ўзор афармлення карткі, якая фактычна ўяўляе сабой першасную, чарнавую форму слоўнікавага артыкула [*Інструкцыя, 1925а*, с. 7].

У адпаведнасці з "Інструкцыяй для зьбіраньня слоўна-тэрмінолёгічнага матар'ялу тэхнічнага характару" (1930) планавалася сабраць як традыцыйныя найменні прафесійна-тэхнічных аб'ектаў, так і новую лексіку, што з'явілася ў выніку індустрыялізацыі. Рэкамендавалася запісваць "ня толькі тэрміны-назвы машын, прадметаў ці часткі іх, але і дзеясловы (назва процэсу ў руху) і прыметнікі (якасьць ці форма прадмету). Напрыклад, трэба запісаць ня толькі назву *медзь*, *цына*, *кацёл*, але і словы *медны* ці *мядзяны*, *цыновы*, *кацельны*; ня толькі назвы *дрыль*, *шруба*, але і дзеяньне *дрыляваць*, *шрубаваць*" [*Інструкцыя, 1930*, с. 4 – 5].

У красавіку 1929 г. па прадстаўленні М.Я.Байкова Акадэміяй навук БССР быў адобраны "Проект укладаньня слоўніка жывой беларускай мовы", дзе распрацоўваліся пытанні, звязаныя з тыпам і

аб’ёмам слоўніка, спосабамі тлумачэння слоў, падачай граматычных катэгорый і ілюстрацый і інш. Праект быў прааналізаваны Я.Ф.Карскім, які прызнаў, што ў цэлым ён “складзены навукова”, але выказаў шэраг ўдакладненняў:

а) пажадана пры запазычаных словах прыводзіць адпаведныя формы з мовы-донара;

б) падаваць пры тлумачэнні беларускай лексікі этымалагічную інфармацыю – “слоўнік, а тым больш акадэмічны, мае на мэце не толькі задавальненне практычных патрэб, а галоўным чынам вывучэнне мовы, а не арфаграфіі”;

в) праводзіць фаналагічныя паралелі з варыянтнымі адзінкамі дыялектнай мовы [*Карскі*].

Асаблівую цікавасць для нас уяўляе “Інструкцыя да збірання матэрыялаў для Геаграфічнага слоўніка Мазыршчыны” А.Я.Крукоўскага [*Крукоўскі*] і публікацыя Б.Скарыніча “Нашто і як збіраць геаграфічныя і асабовыя назвы беларускія?” [*Скарыніч, 1931а*; *Скарыніч, 1931б*]. Паколькі дадзеныя працы з’яўляюцца фактам гісторыі беларускай анамастычнай лексікаграфіі, да іх аналізу мы звернемся ў падраздзеле 2.2.

**1.3.2** Другая хваля ў развіцці праектнай лексікаграфіі прыпадае на 1960 – 1970-я гг. і звязана з актывізацыяй дыялекталагічных даследаванняў на Беларусі. У гэты перыяд Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР на аснове аналізу слоўнікаў М.І.Касяровіча, М.І.Шатэрніка, зборнікаў П.В.Шэйна, Е.Р.Раманава, П.А.Бяссонава, Д.Г.Булгакоўскага, І.А.Сербава, а таксама ўкраінскіх праграм для збірання матэрыялаў па тапаніміцы, лексікі роднасці і сваяцтва (К.К.Цылуйка, А.А.Бурачок), апытальніка па вывучэнні народнай лексікі В.Дарашэўскага была распрацавана “Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы” [*Інструкцыя, 1959 – 1966*]. Планавалася сумесна з адпаведнымі кафедрамі ўніверсітэтаў разгарнуць збіранне мясцовай дыялектнай лексікі з арыентацыяй на складанне васьмі рэгіянальных дыялектных слоўнікаў: мінска-маладзечанскіх гаворак, полацка-віцебскіх гаворак, Магілёўшчыны, Гомельшчыны, слуцка-бабруйскіх гаворак, палескіх гаворак, Гродзеншчыны, брэсцка-пінскіх гаворак. Паколькі перад мовазнаўствам другой паловы XX ст. стаялі некалькі іншыя задачы,

чым перад лінгвістыкай 1920-х гг., а іх вырашэнне планавалася на якасна новым узроўні, названая Інструкцыя не ўтрымлівала ніякіх рэкамендацый, важных з пункту гледжання метадалогіі лексікаграфічнай дзейнасці, і была прызначана для выкарыстання выключна ў якасці апытальніка.

У гэты ж перыяд быў надрукаваны шэраг індывідуальных артыкулаў-праектаў М.В.Абабуркі [*Абабурка, 1973*], М.В.Бірылы [*Бірыла, 1958*], С.А.Грыгор'ева [*Грыгор'еў*], І.С.Козырава [*Козыраў*], Т.Ф.Сцяшковіч [*Сцяшковіч*], Т.С.Янковай [*Янкова*], Ф.М.Янкоўскага [*Янковский*], І.Я.Яшкіна [*Яшкін, 1973*], прысвечаных апісанню метадаў і прынцыпаў стварэння канкрэтных дыялектаграфічных выданняў.

У іншых публікацыях распрацоўваліся тэарэтычныя асновы ўкладання разнастайных слоўнікаў лексікі літаратурнай мовы. Так, У.В.Анічэнка абгрунтаваў прынцыпы стварэння "Слоўніка мовы Ф.Скарыны" [*Анічэнка, 1971*], В.А.Ляшчынская разгледзела праблемы, з якімі сутыкаюцца лексікографы пры ўкладанні слоўнікаў мовы пісьменнікаў, у прыватнасці, пры лексікаграфічным апісанні мастацкіх тропаў (эпітэтаў, метафар, перыфраз і інш.) [*Ляшчынская, 2002*; *Ляшчынская, 2006*], Г.І.Басава, М.Р.Прыгодзіч, Н.М.Даўгулевіч і В.І.Уласевіч звярнуліся да метадалагічных асноў стварэння слоўнікаў новых слоў і новых значэнняў [*Басава*; *Даўгулевіч*].

Значная ўвага надаецца перакладным лексікаграфічным выданням. Прапанаваны праекты двух- і трохмоўных перакладных слоўнікаў. У прыватнасці, К.П.Любецкая распрацавала прынцыпы ўкладання зводнага нямецка-беларускага тэрміналагічнага слоўніка. Аўтар адзначыла асноўныя характарыстыкі і магчымасці электроннага даведніка, этапы яго стварэння і падыходы да адбору і апрацоўкі лексічнага матэрыялу [*Любецкая, 2011*].

У сувязі з актыўнай падрыхтоўкай перакладных слоўнікаў з'явіліся даследаванні (пакуль нешматлікія), у якіх супастаўляюцца дасягненні айчыннай і замежнай лексікаграфіі. Асаблівая ўвага беларускіх спецыялістаў скіравана на нямецкую лінгвістычную традыцыю і яе ўплыў на беларускае слоўніцтва [*Любецкая, 2002*]. У прыватнасці, Л.М.Казлянка ў параўнальным плане звяртаецца да аналізу нямецкіх лексікаграфічных прац Ф.Штэльке ("Wörterbuch zu

Goethes “Faust”), Р.Клапенбах і В.Штайніц (“Das Wörterbuch der deutsches Gegenwartssprache”) і інш. [*Казлянка*]. Важныя для айчыннай лінгвістыкі вывады ўтрымліваюцца ў артыкуле В.К.Шчэрбіна, прысвечаным параўнальнаму аспекту развіцця беларускай і літоўскай тэрмінаграфіі. Аўтар сістэмна супастаўляе беларускія і літоўскія тэрміналагічныя слоўнікі 1900 – 2005 гг. па пяці крытэрыях (колькасным, храналагічным, уласна лінгвістычным, тыпалагічным, рэестравым аб’ёме) і робіць падмацаваную канкрэтнымі фактамі выснову, што “перавага беларускай тэрмінаграфіі па крытэрыі рэестравага аб’ёму апублікаваных спецыяльных слоўнікаў незаўважная на фоне відавочных пераваг літоўскай тэрмінаграфіі па чатырох іншых крытэрыях параўнання... Іншымі словамі... літоўская тэрмінаграфія развіваецца больш дынамічна і прадуктыўна, чым беларуская” [*Щербин, 2008*, с. 53].

Прынцыпы ўкладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы ўпершыню былі сфармуляваны яшчэ ў 1929 г. О.В.Воўкам-Левановічам, які апісаў працэс адбору матэрыялу для выдання, метады і этапы яго апрацоўкі, тэхнічны бок працы [*Воўк-Левановіч*]. З улікам дасягненняў сучаснай лінгвістыкі да вырашэння многіх пытанняў, пастаўленых у 1920-я гг., звярнулася Н.В.Паляшчук, якая ахарактарызавала працэс укладання “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы” (1982 – 2010), апісала прынцыпы адбору крыніц матэрыялу і асаблівасці тэхнічнай працы над выданнем [*Паляшчук, 2010*].

Праект слоўніка беларускіх прыназоўнікаў і іх аналагаў прапанаваны М.І.Канюшкевіч, якая абгрунтавала важнасць стварэння такой працы, апісала шляхі і метады фарміравання і папаўнення спісу адзінак, вызначыла асаблівасці мікраструктуры выдання [*Канюшкевіч*].

На неабходнасць стварэння дыферэнцыяльнага “Слоўніка эмфатычных адзінак беларускай мовы”, які павінен адлюстраваць патэнцыяльныя структурныя сувязі дыялектызмаў у сістэме літаратурнай мовы, звярнуў увагу А.І.Шаблоўскі [*Шаблоўскі, 2000*].

Актыўна распрацоўваюцца праекты анамастычных слоўнікаў. У розны час навукоўцамі была апісана методыка ўкладання слоўнікаў онімаў розных тыпаў. Мэты, задачы і структура слоўніка

катайконімаў прадстаўлены ў працы У.А.Гарпініча [*Гарпініч*]. Пытанням укладання мікратапанімічнага слоўніка аднаго раёна, прынцыпам канструявання яго мікраструктуры прысвяціла артыкул В.М.Емельяновіч [*Емельяновіч*]. Важнасць стварэння слоўнікаў-тапаніміконаў канкрэтных гістарычных перыядаў і асобных тэрыторый абгрунтаваў І.Л.Капылоў: аўтар вызначыў мэты такіх выданняў і апісаў прынцыпы ўкладання слоўніка старажытнай тапаніміі, крыніцы матэрыялу, яго мікраструктуру [*Капылоў, 2002*]. Праблеме падрыхтоўкі айканімічных слоўнікаў, распрацоўцы іх макра- і мікраструктуры прысвечаны артыкул Н.А.Багамольнікавай і А.А.Станкевіч [*Станкевіч*].

Разам з тым у нацыянальнай металексікаграфіі пакуль не сфарміраваўся адзіны падыход да каталагізацыі тапанімічнага матэрыялу. Абсалютная большасць аўтараў пры ўкладанні слоўнікаў распрацоўваюць свае лексікаграфічныя стандарты, што вядзе да разнабою ў апісанні суадносных моўных адзінак розных рэгіёнаў краіны.

### 1.4 Вывучэнне структурна-зместавых асаблівасцей слоўнікаў

Агульнае металексікаграфічнае вучэнне пра інфармацыйную напаўняльнасць корпуса слоўніка складаецца з двух узаемазвязаных кірункаў, прысвечаных: а) даследаванню найбольш агульных асаблівасцей мікраструктуры слоўнікавых выданняў і б) вывучэнню прыватных праблем фарміравання рэестра слоўнікаў пэўных тыпаў.

У другой палове XX ст. распрацоўкай праблем канструявання структуры даведачных выданняў займаліся Ф.П.Філін [*Филин*], Э.Агрыкола [*Агрикола*], А.Бальвег-Шрам [*Бальвег-Шрамм*], Ю.Д.Апрэсян [*Апресян, 1988*], Л.Л.Іомдзін [*Иомдин*] і інш.

Праблема аптымізацыі інфарматыўнай насычанасці слоўнікавага артыкула сёння з'яўляецца адной з важных і актуальных задач беларускай тэарэтычнай лексікаграфіі і лексікалогіі [*Лукашанец*, с. 18]. Так, У.І.Марцінеўскі акрэсліў кола пытанняў, што ўзнікаюць пры распрацоўцы лексікаграфічнага тлумачэння мнагазначнага слова ў трохмоўным перакладным слоўніку [*Мартиневский*], Л.Б.Рубцова

даследавала праблему распрацоўкі іерархіі значэнняў мнагазначнага слова ў тлумачальным слоўніку [*Рубцова, 1968*], А.М.Бардовіч прапанаваў аптымальныя спосабы падачы ў марфемных слоўніках амонімаў з розным марфалагічным падзелам, спосабы адлюстравання гістарычных змен у слове [*Бардовіч*] і інш.

Асаблівасці лексікаграфічных дэфініцый і спосабы іх фарміравання апісвалі В.А.Булай [*Булай*] і У.С.Істомін [*Истомин*]. Пытанні граматычнай характарыстыкі ў тлумачальных слоўніках, спосабы разгортвання граматычнай інфармацыі ў розных лексікаграфічных выданнях разглядала Л.Б.Рубцова [*Рубцова, 1965*].

Акрамя таго, вывучаліся шматлікія прыватныя праблемы рэестра слоўнікаў: спосабы прэзентацыі і тлумачэння ў слоўніках архаізмаў і гістарызмаў [*Макарэвіч, 2004*; *Макарэвіч, 2006*; *Норман*], фіксацыі фразеалагізмаў у дыялектных [*Даніловіч*] і тлумачальных [*Бурлыка*; *Маршэўская*; *Якшук*] слоўніках, асаблівасці перакладу ў "Беларуска-рускім слоўніку" (1962) [*Янкоўскі, 1980*] і "Руска-беларускім слоўніку" (1982) [*Берднік*]. Даследаваны з'явы аманіміі, мнагазначнасці і варыянтнасці [*Кавалёва*; *Хлусевіч*] моўных адзінак у сучасных слоўніках розных тыпаў, а таксама ў старажытнай лексікаграфіі [*Ціванова*], вызначаны прынцыпы лексікаграфавання антонімаў [*Емельянова*].

### 1.5 Лексікаграфічная крытыка

Характэрнай рысай сучаснага мовазнаўства з'яўляецца не толькі так званае "гарызантальнае асэнсаванне", г. зн. выяўленне тыповых тэндэнцый у развіцці моўнай сістэмы і планаванні агульналінгвістычнай перспектывы, але і інтэнсіўнае развіццё ўнутрыгаліновай, "вертыкальнай" рэфлексіі, сутнасць якой заключаецца ў тым, што ў межах канкрэтных навуковых кірункаў адбываецца сістэматызацыя і карэкцыя структур і метадаў навуковага пазнання.

Адной з формаў такой рэфлексіі з'яўляецца лексікаграфічная крытыка, у межах якой развіваюцца два ўзаемазвязаныя напрамкі: а) вывучэнне асаблівасцей канкрэтных слоўнікаў і б) даследаванне

формаў і спосабаў лексікаграфічнай інтэрпрэтацыі моўнага матэрыялу.

Першы кірунак рэалізуецца ў выглядзе монарэцэнзій, калі аб’ектам навуковага аналізу з’яўляецца адно асобнае выданне (часам – з выкарыстаннем нязначнага па аб’ёме фонавага супастаўляльнага матэрыялу), другі – у форме полірэцэнзій, калі лексікаграфічныя выданні разглядаюцца ў іх параўнанні. Даследаванні, выкананныя ў межах другога кірунку, мы кваліфікуем як самастойныя навуковыя працы аналітычнага характару і ў дадзеным параграфе не аналізуем. Лічым, лічым, што ўнутрыгаліновая рэфлексія ў сферы лексікаграфіі дае каштоўную інфармацыю не толькі для гісторыі лінгвістыкі, але і дапамагае асэнсаваць розныя формы лексікаграфічнай інтэрпрэтацыі моўнага матэрыялу ў іх часавым зрэзе.

**1.5.1** Першымі спробамі крытычнага агляду лексікаграфічнага выдання XIX ст. можна лічыць рэцэнзіі Я.Ф.Карскага і Д.К.Зяленіна на працу М.М.Тупікова “Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ”, у якіх вызначаліся асаблівасці слоўніка і яго недахопы (гл. падраздзел 2.1).

Лексікаграфічная крытыка як навуковы кірунак сфарміравалася на Беларусі ў 1920-я гг. і была дэтэрмінавана не толькі неабходнасцю ацаніць адпаведнасць канкрэтных метадаў і прынцыпаў стварэння слоўнікаў тым задачам, якія стаялі перад тагачаснай лексікаграфіяй, але і патрэбай прааналізаваць з’яўленне новых выданняў.

Адной з першых вядомых нам рэцэнзій на лексікаграфічны твор стала публікацыя М.Я.Байкова, прысвечаная разгляду “Маскоўска-беларускага слоўніка” братоў Гарэцкіх. У артыкуле адзначаюцца станоўчыя бакі выдання, а таксама характарызуюцца асноўныя яго недахопы (бессістэмнае фарміраванне рэестра, памылкі ў перакладзе, адхіленні ад агульнапашыраных арфаграфічных правіл) і робіцца выснова пра неабходнасць далейшай працы па стварэнні перакладных слоўнікаў [*Байкоў, 1922*].

Шэраг крытычных публікацый у перыядычным друку 1920-х гг. прысвечаны падрабязнаму аналізу выданняў, надрукаваных у серыі “Беларуская навуковая тэрміналогія” [*Аглядальнік*; *Бялькевіч*; *Смоліч*]. Агульнай праблемай тэрміналагічных слоўнікаў 1920-х гг. прызнаецца непаслядоўнасць або поўная адсутнасць націскаў,

недакладнасць пры перакладзе спецыяльных найменняў на беларускую мову, значная колькасць неапраўданых неалагізмаў, русізмаў, паланізмаў, інтэрнацыяналізмаў [*Аглядальнік*; *Бялькевіч*; *Смоліч*].

Асобныя рэцэнзіі 1920-х гг. прысвечаны разгляду "Практычнага расійска-беларускага слоўніка" М.Я.Байкова і М.І.Гарэцкага [*Мовазнавец, 1926б*], "Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" В.Ю.Ластоўскага [*Некрашэвіч, 1924*], "Беларуска-расійскага слоўніка" М.Я.Байкова і С.М.Некрашэвіча [*Лёсік*], "Практычнага беларускага вайсковага слоўніка [*Цьвяткоў, 1927*], "Віцебскага краёвага слоўніка М.І.Касяровіча [*І.К.*], а таксама "Расійска-беларускага слоўніка" С.М.Некрашэвіча і М.Я.Байкова [*Горбах*; *З-ны, К.*; *Цьвяткоў, 1928*].

Найбольш істотнай асаблівасцю крытычных работ, апублікаваных у 1920-я гг., з'яўляецца суб'ектыўнасць інтэрпрэтацыі і асобасны падыход пры ацэньванні выдадзеных лексікаграфічных прац. Разам з тым, наяўнасць дыскусійнага кампанента ў агульным працэсе станаўлення лінгвістычнай навукі спрыяла стабілізацыі прынцыпаў і прыёмаў лексікаграфічнай дзейнасці і садзейнічала павышэнню якасці слоўнікаў.

У пасляваенны перыяд назіраецца інтэнсіфікацыя лексікаграфічнай крытыкі. Гэта звязана не толькі з павелічэннем колькасці слоўнікаў, але і з развіццём інфармацыйна-выдавецкіх тэхналогій. Па нашых падліках, за апошнія 60 гадоў у айчынных і замежных выданнях з'явілася больш за 200 артыкулаў, прысвечаных пытанням навуковай крытыкі слоўнікаў. На сучасным этапе выхад абсалютнай большасці лексікаграфічных твораў суправаджаецца анатацыйна-рэцэнзійнымі водгукамі ў перыядычным друку. Адзначым, што асобныя выступленні ў межах лексікаграфічнай крытыкі [*Садоўскі*] сталі прычынай узнікнення сапраўднай навуковай палемікі ў друку [*Баханькоў*; *Бугаёў*; *Вялюгін*; *Цыхун*] і істотна паўплывалі на далейшае развіццё ўсяго нацыянальнага мовазнаўства.

**1.5.2** Лексікаграфічная крытыка другой паловы XX ст. у кантэксце нашага даследавання з'яўляецца асабліва каштоўнай, паколькі менавіта ў гэты час з'явіліся публікацыі, прысвечаныя аналізу анамастычных слоўнікаў беларускай мовы.

Так, П.Крапівін, разглядаючы "Слоўнік асабовых уласных імён"

(1965) М.Р.Судніка, прызнаваў яго важнасць і неабходнасць для грамадскіх арганізацый, якія працуюць з уласнымі імёнамі людзей. У артыкуле ўтрымліваецца шэраг канкрэтных прапаноў па ўдасканаленні выдання. Так, рэцэнзент указвае на:

а) неабходнасць паслядоўна вытрымліваць заяўлены прынцып падачы ўзуальных і размоўных варыянтаў імён;

б) немэтазгоднасць аднясення да ліку "найбольш пашыраных сярод беларусаў" уласных імён *Герадот, Гераклій, Геральд, Герард, Дарый, Дзіяген, Квінціліян, Алімп, Аніян* і інш.;

в) выпадковасць уключэння ў рэестр апелятываў іншамоўнага паходжання, адабраных са слоўніка П.Бярынды: *вісон* 'від матэрыі'; *ігемон* 'службовая асоба'; *ірмос* 'царкоўная песня'; *ісоп* 'меданосная расліна', *мусікій* 'музыкант', *трывун* 'тысячнік', *эпяндзіт* 'фартух, ручнік', *эпітроп* 'павяліцель', *паралінамянон* 'кананічныя кнігі' і інш.;

г) перанасычанасць слоўніка старажытнаяўрэйскімі формамі, якія не ўжываліся беларусамі: *Гаранік, Гапуля, Арцыан, Марута, Іосіфата, Палюха, Ваніло*;

д) адсутнасць семантычнай інфармацыі пры іншамоўных уласных імёнах [*Крапівін, 1966*].

У анатацыйным аспекце мегаструктуру "Слоўніка асабовых уласных імён", крыніцы матэрыялу, асаблівасці пабудовы слоўнікавых артыкулаў апісаў М.Кандрацюк. Рэцэнзент указаў на дробныя недахопы выдання, але высока ацаніў агульную навуковую вартасць кнігі [*Kondratiuk*].

Лексікаграфічным даведнікам па анамастыцы, які прыцягнуў найбольшую ўвагу айчыннай навуковай крытыкі, з'яўляецца "Беларуская антрапанімія" (1966 – 1969) М.В.Бірылы. Так, у рэцэнзіі М.К.Клышкі [*Клышко*] на кнігу "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" (1966) высока ацэнена названая праца, прааналізаваны яе зместавы бок і выкарыстаныя падыходы да інтэрпрэтацыі пэўных тыпаў онімаў. Рэестр слоўніка, а таксама асаблівасці пабудовы слоўнікавага артыкула, тыпы інфармацыі, якія падаюцца да онімаў пры іх апісанні, прааналізаваў П.У.Сцяцко [*Стэцка*]. У артыкулах А.А.Крывіцкага ахарактарызавана мегаструктура першай часткі працы "Беларуская антрапанімія" і зместавыя асаблівасці яе розных раздзелаў, а таксама

рэестр другой часткі выдання, прысвечанай адапелятыўным прозвішчам [*Крывіцкі, 1970*]. Рэцэнзент адзначыў, што работа М.В.Бірылы – гэта "надзвычай каштоўны здабытак з скарбніцы як моўнай, так і духоўнай культуры нашага народу" [*Крывіцкі, 1970*, с. 234], а таксама падкрэсліў важнасць распачатай М.В.Бірылам працы па вывучэнні і ўпарадкаванні старажытных онімаў.

Кніга "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" ахарактарызавана ў публікацыі М.Карася [*Karaś*]. Аўтар указаў на навуковую вартасць выдання, прааналізаваў спосабы апісання розных тыпаў онімаў, выкарыстаныя М.В.Бірылам пры распрацоўцы слоўнікавых артыкулаў. Рэцэнзент падкрэсліў, што ў працы дастаткова дыскусійных і спрэчных пытанняў (фарміраванне анамастычных тыпаў па мадэлі *імя-патронім-прозвішча*, адсутнасць увагі да марфалагічных праблем і інш.), але прызнаў, што дадзеная кніга з'яўляецца каштоўным набыткам славянскай анамастыкі і асноўнай крыніцай для вывучэння беларускай антрапаніміі ў яе гістарычным развіцці [*Karaś*, с. 237].

Высокія навуковыя якасці гэтага выдання абгрунтоўваюцца ў артыкулах П.Крапівіна [*Крапівін, 1967*], Б.Лапава [*Лапаў*] і В.Носава [*Носов*], хаця гэтыя публікацыі маюць выразны анатацыйны характар пры адсутнасці лінгвістычнай рэфлексіі і таму не могуць адносіцца да навуковых рэцэнзій у агульнапрынятым разуменні.

Кнігу М.В.Бірылы і А.П.Ванагаса "Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы" (1968) падрабязна аналізаваў А.П.Непакупны. Аўтарам вызначаецца мегаструктура выдання і спосабы апісання анамастычнай лексікі [*Непокупний*].

Увагу спецыялістаў прыцягнуў "Краткий топонимический словарь Белоруссии" В.А.Жучкевіча (1974). У артыкуле М.Дзелянкоўскага слоўніку дадзена рэзка негатыўная ацэнка і адзначаны (праўда, не заўсёды дастаткова аргументавана) яго недахопы: аднабаковы падыход аўтара пры вызначэнні паходжання беларускіх назваў, бяздоказнасць некаторых этымалогій, ненавуковы спосаб тлумачэння найменняў і інш. [*Дзелянкоўскі*]. Альтэрнатыўныя ацэнкі слоўніка былі выказаны М.Р.Прыгодзічам і расійскім даследчыкам Л.У.Успенскім [*Успенскі*]. У прыватнасці, М.Р.Прыгодзіч высока ацаніў зварот аўтара пры этымалагічнай

характарыстыцы слоў да экскурсаў у розныя гістарычныя эпохі, падтрымаў абвяржэнне В.А.Жучкевічам шэрагу "народных этымалогій" і ў цэлым прыняў прапанаваную сістэму тлумачэння тапонімаў. Разам з тым рэцэнзент указаў на асобныя пралікі ў тлумачэнні этымалогіі некаторых назваў, што, на яго думку, не змяншае агульнай вартасці выдання [*Прыгодзіч, 1975*].

Нарматыўны "Слоўнік назваў населеных пунктаў…" Я.Н.Рапановіча на ўзроўнях макра- і мікраструктуры ахарактарызавалі М.В.Бірыла і В.П.Лемцюгова. Рэцэнзенты акрэслілі асноўныя праблемы, якія ўзнікаюць пры лексікаграфаванні айконімаў (адлюстраванне формазмянення айконімаў, утварэнне айканімічных прыметнікаў і іх упарадкаванне і інш.), а таксама прапанавалі магчымыя шляхі іх вырашэння [*Бірыла, 1987*].

У рэцэнзіі Б.А.Плотнікава на слоўнік "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць" (2003) пад рэд. В.П.Лемцюговай апісана мега-, макра- і мікраструктура выдання, падкрэслена яго навуковая вартасць [*Плотнікаў*]. Станоўча ахарактарызавана М.Р.Прыгодзічам праца В.П.Лемцюговай "Тапонімы распавядаюць" (2009) [*Прыгодзіч, 2009*].

Высокую ацэнку навуковай крытыкі атрымала кніга Г.М.Мезенка "Віцебшчына ў назвах вуліц" (2008). Рэцэнзенты апісалі выданне па зместавых якасцях і спосабе падачы матэрыялу, разгледзелі яго структурныя асаблівасці і адзначылі навуковую каштоўнасць працы [*Міхайлаў, 2008*; *Шур*].

Шэраг агульнаметадалагічных праблем лексікаграфічнага апісання онімаў узнята ў публікацыі, прысвечанай аналізу "Слоўніка беларускіх імёнаў" І.Я.Яшкіна. У прыватнасці, увага акцэнтавана на фактах неапраўданай фіксацыі ў асобных артыкулах памяншальна-ласкальных формаў імя і размоўных варыянтаў онімаў, на дубліраванні частак слоўнікавых артыкулаў у розных пазіцыях, на недакладнасці некаторых этымалагічных даведак і інш. [*Палашкевіч, 2010е*].

У рэцэнзіі М.Н.Крыўко на кнігу А.К.Усціновіч "Слоўнік асабовых уласных імён" (2011) прааналізаваны зместавыя асаблівасці выдання, апісана структура слоўнікавага артыкула, выяўлены і некаторыя недахопы: незабяспечанасць асобных слоў этымалагічнымі

даведкамі, непаўната пераліку вытворных формаў, памылкі ў граматычным афармленні онімаў і інш. [*Крыўко, 2012*].

## 1.6 Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі ў лексікаграфіі

Ва ўмовах сучаснай тэхналагізацыі лексікаграфія не можа развівацца без шырокага выкарыстання камп'ютарных тэхналогій. Важным аспектам вывучэння сёння становяцца электронныя слоўнікі, лінгвістычныя базы і банкі дадзеных, даследуемыя ў межах корпуснай лексікаграфіі. Узніклі новыя кірункі развіцця слоўнікавай дзейнасці, такія, як складанне слоўнікавых картатэк на аснове камп'ютарных баз дадзеных, электронная пабудова слоўнікавых артыкулаў і аўтаматычная апрацоўка лексічнага матэрыялу, складанне друкаваных слоўнікаў на камп'ютарнай аснове і ўласна электронных слоўнікаў.

У беларускім мовазнаўстве корпусная лексікаграфія паступова набывае ўсё большае пашырэнне і тэарэтычнае абгрунтаванне. Пытанні тэорыі корпуснай лексікаграфіі разглядаюцца ў працах Л.В.Рычковай і В.К.Шчэрбіна. Так, Л.В.Рычкова даследавала ўзаемаўплыў корпуснай лінгвістыкі і лексікаграфіі і вызначыла магчымыя перспектывы стварэння лінгвістычных баз дадзеных як выніку ўзаемадзеяння гэтых кірункаў [*Рычкова*], В.К.Шчэрбін апісаў адзін з новых напрамкаў у слоўнікавай справе Беларусі – корпусную тэрмінаграфію. Аўтар вызначыў патрабаванні да корпусаў тэкстаў і прааналізаваў слоўнікі корпуснага тыпу [*Щербин, 2002*].

Вынікам тэарэтычнага асэнсавання розных праблем корпуснай лінгвістыкі з'яўляецца стварэнне моўных корпусаў. Так, на розных стадыях распрацоўкі знаходзяцца "Корпус мовы Янкі Купалы" (ГрДУ), "Корпус беларускай мовы" (МДЛУ), аднак па некаторых прычынах доступ да іх абмежаваны [*Кощенко*, с. 202].

Увагу прыцягваюць пытанні стварэння камп'ютарнага фонду беларускай мовы як складанай інфармацыйнай сістэмы комплекснай аўтаматызацыі лінгвістычных даследаванняў і распрацовак, забяспечанай лінгвістычнай базай дадзеных і адпаведнымі праграмамі. У публікацыях вызначаюцца перспектывы фарміравання беларускага лінгвістычнага партала, апісваюцца структурныя

элементы інфармацыйнай сістэмы "Машынны фонд беларускай мовы" і інш. [*Рубашко*]. Канцэпцыя, змест і функцыянальныя магчымасці "Электроннага слоўніка беларускай мовы" (ЭлСБМ), дэманстрацыйная версія якога была распрацавана супрацоўнікамі Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі ў 2007 – 2008 гг., ахарактарызаваны ў артыкуле А.І.Шаблоўскага, дзе даследчык паспрабаваў прааналізаваць і суаднесці інфармацыйныя магчымасці ЭлСБМ і "Машыннага фонду беларускай мовы" [*Шаблоўскі, 2008*].

Калектыў беларускіх навукоўцаў распрацаваў праект комплекснага электроннага слоўніка беларускай мовы "Тэза", які павінен стаць не толькі "інфармацыйна-пошукавым рэсурсам, але і базай для далейшых лінгвістычных праектаў і даследаванняў" [*Кошчанка*, с. 42]. Тэарэтычна абгрунтаваны агульны від слоўніка і модулі, будова слоўнікавага артыкула, структура зыходнай базы дадзеных і рэляцыйная база слоўніка [*Кошчанка*; *Кощенко*].

Асобным кірункам у корпуснай лексікаграфіі ў наш час з'яўляецца стварэнне канкардансаў і тэзаўрусаў. У беларускім мовазнаўстве існуюць канкардансы мовы твораў Кузьмы Чорнага ("Канкардансы беларускіх пісьменнікаў. Канкарданс Кузьмы Чорнага") і Кандрата Крапівы ("Канкарданс Кандрата Крапівы"). Прынцыпы аўтаматызацыі лексікаграфіі, гісторыю ўзнікнення канкардансаў за мяжой і прыёмы стварэння канкарданса беларускай мовы XIX ст. апісаны Н.М.Шчаснай [*Шчасная*]. У артыкуле В.П.Лемцюговай на матэрыяле слоўніка мовы "Нашай нівы" адлюстравана методыка складання тэзаўруса адной пісьмовай крыніцы і прынцыпы фарміравання яго рэестра, адзначаны канкрэтныя праблемы стварэння тэзаўруса мовы "Нашай нівы", ахарактарызаваны рэестр названага слоўніка [*Лемцюгова, 2002*].

Беларускімі лінгвістамі распрацоўваюцца шматлікія іншыя пытанні камп'ютарнай лексікаграфіі. Апісаны шляхі выкарыстання вэб-слоўнікаў у лінгвістычных даследаваннях [*Адамовіч, 2002*; *Адамовіч, 2005*], ужыванне электронных слоўнікаў у вучэбнай камп'ютарнай лексікаграфіі, перавагі электронных даведнікаў над друкаванымі, структурныя кампаненты такіх слоўнікаў і метадычныя патрабаванні да іх як да лексікаграфічных твораў, сродкаў навучання і праграмных прадуктаў [*Щёголева*].

# РАЗДЗЕЛ II
# ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ АНАМАСТЫЧНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

Першыя спробы ўключэння анамастычнай лексікі ў рэестры лексікаграфічных выданняў адзначаюцца ў XVI – XVII стст. Так, у старабеларускіх лексіконах "**Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мов просто**" і "**Лексисъ сирѣчъ реченіа, въкратъцѣ събранны и из словенскаго ıазыка на просты рускій діалект истолкованы**" Л.Зізанія ў рэестр уключаны асобныя старажытныя антрапонімы і тапонімы, да якіх падаецца этымалагічны каментарый:

**АННА, благодатель** [*Старабеларускія лексіконы*, с. 6];
**ИЕРУСАЛИМЪ, видение мира** [*Старабеларускія лексіконы*, с. 11].

Выданне "**Леξіконъ славеноросскій. Именъ тлъкованіе**" (1653) П.Бярынды мае дадатак, дзе змешчаны некаторыя антрапонімы і тапонімы. Да антрапонімаў прыводзіцца этымалагічная характарыстыка, а да тапонімаў –інфармацыя пра геаграфічны аб'ект, названы лемай.

Зварот да ўласна анамастычных, у тым ліку гісторыка-геаграфічных праблем у Беларусі, Расіі і Украіне назіраецца толькі ў першай палове XIX ст. і звязаны з навуковай дзейнасцю А.Х.Вастокава, З.Я.Даленгі-Хадакоўскага, М.А.Максімовіча, М.І.Надзеждзіна, А.Л.Пагодзіна, М.П.Пагодзіна, а пазней Я.К.Грота, А.І.Сабалеўскага, Ю.Ю.Трусмана, І.Я.Франко і інш. [*Kondratiuk*, с. 11].

На падставе аналізу наяўных выданняў у гісторыі станаўлення і развіцця беларускай анамастычнай лексікаграфіі прапануем вылучыць некалькі асноўных перыядаў, адрозных як па працягласці і інтэнсіўнасці лексікаграфічнай дзейнасці, так і па яе выніковасці:

1) прапедэўтычны перыяд (канец XIX ст. – пач. XX ст.);

2) перыяд станаўлення (1920-я гг. – 1950-я гг.);

3) перыяд інтэнсіўнага развіцця (1960-я гг. – пачатак XXI ст.).

Крытэрыямі перыядызацыі сталі навуковы ўзровень лексікаграфічнай апрацоўкі анамастычнага матэрыялу, а таксама аб'ём і склад онімнай лексікі, апісанай у слоўніках (улічвалася, ці з'яўляецца беларускі анамастычны матэрыял асноўным у слоўніку або ўключаецца ў яго паралельна з намінацыямі іншых моў) [*Палашкевіч, 2008б*].

## 2.1 Прапедэўтычны перыяд

Прапедэўтычны перыяд развіцця беларускай анамастычнай лексікаграфіі ахоплівае час ад узнікнення першых слоўнікаў, у якіх здзейснены спробы сістэматызацыі пэўнай часткі беларускага анамастыкону, да сярэдзіны 1920-х гг., калі была пачата актыўная мэтанакіраваная праца па збіранні і апрацоўцы анамастычнай лексікі. Названы перыяд адметны тым, што беларускія онімы асобна не вывучаліся, а ўключаліся ў слоўнікі паралельна з расійскім, польскім і літоўскім тапанімічным матэрыялам або змяшчаліся ў дадатках да лексікаграфічных выданняў [*Палашкевіч, 2008б*]. З-за адсутнасці ў нацыянальнай лінгвістыцы абагульняльных гістарыяграфічных даследаванняў лічым неабходным спыніцца на аналізе такіх прац больш падрабязна.

Зараджэнне беларускай лексікаграфічнай традыцыі ў галіне анамастыкі звычайна звязваюць з выданнем у 1897 г. слоўніка "Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи" Ю.Ю.Трусмана [*Лемцюгова, 2004а*, с. 142]. Але, на наш погляд, у якасці першых спроб сістэматызаванай апрацоўкі беларускай тапанімічнай лексікі варта разглядаць наступныя працы: "Новый и полный географическій словарь Россійскаго государства...", слоўнік прафесара Варшаўскага ўніверсітэта М.П.Барсава "Географический словарь русской земли" і выданне архіварыуса Віленскага цэнтральнага архіва І.Я.Спрогіса "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія".

Адной з першых лексікаграфічных прац, дзе зафіксавана тапанімія Расійскай дзяржавы, з'яўляецца "Новый и полный

географическій словарь Россійскаго государства…” [*НПГС**[1]]. У слоўніку апісаны “географически, топографически, идеографически, физически, історически, политически, хронологически, генеалогически и геральдически, наместничества, области и уезды; города, крепости… местечки, села, погосты, ямы, и слободы; Соборы, церкви и монастыри… реки, озера и моря; острова и горы… и прочія достопамятныя места обширной Імперіи Россійской въ нынешнемъ ея состояніи” [*НПГС**]. Акрамя тапонімаў, сабраных на тэрыторыі Расійскай дзяржавы, у слоўнік увайшоў матэрыял “техъ местъ, которыя въ прежнія войны и прошедшую Турецкую; а некоторыя прежде того и отъ Персіи храбростію Россійскою или обладаемы были, или и ныне находятся еще во владеніи; также и техъ, которыя въ преславное настоящее Царствованіе съ Белоруссіею и съ Полуостровомъ Крымомъ къ Россіи присоединены…” [*НПГС**], таму названая праца ўключае значную колькасць беларускіх айконімаў, гідронімаў і інш.

У слоўніку падаюцца разнастайныя звесткі пра геаграфічныя аб’екты, названыя рэестравымі тапанімічнымі адзінкамі: дадзеныя пра лакалізацыю гэтых аб’ектаў, інфармацыя энцыклапедычнага характару пра паходжанне іх назвы і пра вядомыя гістарычныя падзеі, што адбываліся на адпаведнай тэрыторыі. Выданне вызначаецца паслядоўнай падачай матэрыялу ў слоўнікавых артыкулах і грунтоўнасцю апісання геаграфічных аб’ектаў, названых рэестравымі словамі.

Пры ўкладанні “Географического словаря русской земли” [*Барсовъ**] М.П.Барсаў ставіў перад сабою мэту стварыць гістарычна-геаграфічны слоўнік Расіі да 1350 г. [*Барсовъ**, с. VI]. Крыніцамі матэрыялу паслужылі шэраг летапісаў, а таксама гістарычныя і юрыдычныя акты, граматы і навукова-папулярныя брашуры.

Слоўнік уключае 1423 артыкулы (з іх каля 10% – апісанне беларускіх астыонімаў, камонімаў, патамонімаў). Пры кадыфікацыі онімаў аўтар змяшчаў у кожным слоўнікавым артыкуле ў

---

[1] Тут і далей знакам «*» пазначаюцца адпаведныя пазіцыі са спіса крыніц даследавання.

храналагічным парадку ўсе назвы, якія належаць да аднаго дэнатата, але зафіксаваны ў пісьмовых помніках розных гістарычных перыядаў.

Аднак храналагічныя варыянты онімаў падаюцца не заўсёды паслядоўна: некаторыя з іх М.П.Барсаў фіксуе ў асобных слоўнікавых артыкулах з адсылкай да галоўнага артыкула, дзе тапонім апісваецца, а іншыя ўключаюцца ў яго структуру. Часам варыянты аднаго і таго ж тапоніма ўкладальнік характарызуе ў розных артыкулах. Так, напрыклад, як розныя тапанімічныя адзінкі М.П.Барсаў апісвае найменні *Городець*, *Городно*, *Городенъ*, *Городна*, *Городня*, якія, відавочна, адносяцца да аднаго дэнатата, што пацвярджаецца адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам.

Адметнасцю выдання з'яўляецца тое, што пры падачы адміністрацыйных звестак пра аб'екты, названыя рэестравым словам, аўтар змяшчаў інфармацыю пра лакалізацыю абазначаных геаграфічных аб'ектаў у розныя часы (такія звесткі ён называе "казанья на соотвѣтствующія мѣстности теперешней Россіи" [*Барсовъ**, с. VII]), што дазволіла ў многіх выпадках выправіць памылкі летапісаў, дзе недакладна вызначалася прыналежнасць гарадоў да пэўнай тэрыторыі, а многія беларускія астыонімы фіксаваліся ў летапісных зводах літоўскіх і кіеўскіх гарадоў.

Нягледзячы на некаторыя лексікаграфічныя і факталагічныя недахопы, "Географический словарь русской земли" М.П.Барсава з'яўляецца адной з самых грунтоўных прац, у якой была навукова апісана значная частка беларускай онімнай лексікі, зафіксаванай ў старажытных дакументах.

Важным выданнем для беларускай анамастычнай лексікаграфіі з'яўляецца "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія" І.Я.Спрогіса, складзены на аснове матэрыялаў 40 актавых кніг Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губерній [*Спрогисъ**]. Большасць кадыфікаваных І.Я.Спрогісам тапонімаў – літоўскія назвы, што ўваходзілі ў склад 48 воласцяў Ковенскай губерні. У слоўніку змешчана і значная колькасць беларускіх тапонімаў: "Кроме географическихъ названій, составляющихъ, въ строгомъ смыслѣ, принадлежность Жомойцкой земли, въ Словарь мой вошло много другихъ названій, лежащихъ за ея чертою, но не выходящихъ за предѣлы литовскаго поселенія вообще, какъ-то въ

повѣтахъ Браславскомъ, Виленскомъ, Ошмянскомъ, Ковенскомъ и др...” [*Спрогисъ**, с. VI].

Слоўнікавы корпус выдання ўключае 9742 артыкулы, з якіх асобныя прысвечаны апісанню беларускіх тапонімаў. Акрамя таго, у слоўніку ёсць “Прибавленіе” пад назваю “Географическія названія, не имѣющія отношенія къ раіону Литовскаго поселенія”, дзе змешчана 237 тапонімаў, што ўжываліся па-за межамі Літвы, але, на думку аўтара, “при извѣстныхъ обстоятельствахъ могутъ оказать вообще пользу людямъ науки” [*Спрогисъ**, с. XVI]. Для беларускіх даследчыкаў “Прибавленіе” асабліва важнае, паколькі большасць зведзеных у ім назваў – менавіта беларускія тапонімы. Нявысветленымі застаюцца толькі прычыны, па якіх аўтар змясціў у слоўнікавым корпусе частку беларускіх тапонімаў, хаця сам папярэдне дэклараваў, што ў адборы тапонімаў кіраваўся найперш тэрытарыяльнымі прыметамі.

Пры апісанні рэалій, названых рэестравым словам, І.Я.Спрогіс падае звесткі пра былыя назвы геаграфічных аб’ектаў і адміністрацыйна-геаграфічную інфармацыю – “где лежитъ (въ какой волости, округѣ, поветѣ, воеводствѣ и пр.)” [*Спрогисъ**, с. XII], з якімі найбольш вядомымі для дадзенай мясцовасці геаграфічнымі аб’ектамі мяжуе.

Як ужо адзначалася, “Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія” І.Я.Спрогіса стаў не толькі важным навуковым фактам літоўскай лексікаграфіі, але і сур’ёзнай крыніцай беларускай лексікі, на аснове якой пазней Ю.Ю.Трусман стварыў першы ўласна беларускі тапанімічны слоўнік “Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи” [*Трусманъ**]. У прадмове да выдання аўтар адзначаў: “Мѣстныя названія въ Литвѣ заимствованы мною исключительно изъ труда Спрогиса...” [*Трусманъ**, с. 1].

У слоўнік Ю.Ю.Трусмана ўключаны найменні населеных пунктаў Віцебскай губерні, сабраныя з “писцовых книг” XVI ст., тагачасных спісаў населеных месцаў і картаў. Слоўнік змяшчае выключна астыонімы, камонімы, лімнонімы і патамонімы. Назвы больш дробных геаграфічных аб’ектаў у ім не зафіксаваны: “За неімѣніем источниковъ, названія большинства ненаселенныхъ пунктовъ (которыя впрочемъ нерѣдко тожественны съ названіями

населенныхъ мѣст), каковы: сѣножати, грунты, нивы, поля, земли, пустоши и тому подобныя урочища, отсутствують въ немъ" [*Трусманъ**, с. 1].

Лексічны корпус выдання ўключае больш за 6500 слоўнікавых артыкулаў, у якіх Ю.Ю.Трусман паспрабаваў правесці этымалагічны аналіз "нярускіх" онімаў, зафіксаваных на тэрыторыі Віцебскай губерніі. Аўтар падае пералік моў, з якіх, на яго думку, мог быць запазычаны тапонім, адпаведныя назвы ў мяркуемых мовах-донарах і іх пераклады. Пры падборы адпаведніка з іншай мовы аўтар арыентаваўся выключна на фармальнае падабенства слоў. Часта ў слоўнікавых артыкулах Ю.Ю.Трусман фіксаваў не толькі падобныя па гучанні словы, але і іншамоўныя адпаведнікі. У выніку многія беларускія тапонімы ў слоўніку маюць памылковую этымалогію, што прызнае і сам аўтар працы: "Главный недостатокъ предлежащего труда – двойственность толкованій многихъ названій – обусловливается отчасти неизвѣстностью ихъ первичной формы, отчасти ихъ звуковымъ сходствомъ съ различными по происхожденію словами" [*Трусманъ**, с. 1]: *Васили (Василево, Васильки)* ад *літ. wašylas – лосось* [*Трусманъ**, с. 43], *Хорошково* ад *эст. karask – лепешка*... [*Трусманъ**, с. 300].

Істотным лексікаграфічным недахопам выдання, на наш погляд, з'яўляецца і тое, што ў паасобных слоўнікавых артыкулах Ю.Ю.Трусман замест падачы ўласна этымалагічнай інфармацыі робіць адсылку да яшчэ адной сваёй працы ("Чудско-Литовскіе элементы въ Новгородскихъ пятинахъ. Ч. I."), што значна ўскладняе карыстанне слоўнікам [*Палашкевіч, 2010в*].

У галіне антрапанімікі канца XIX – першай паловы 20-х гадоў XX ст. не створана адметных лексікаграфічных прац, але беларускі антрапонімны матэрыял нярэдка ўключаецца ў рэестры асобных слоўнікаў ("Славянский именослов или собрание славянских личных имен в алфавитном порядке" М.Марошкіна, "Kniaziowie litewsko-ruscy", "Przydomki polskie, litewskie i rusinskie" А.Стэкерта, "Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ" М.М.Тупікова), або змяшчаецца ў спецыяльных інкарпараваных дадатках ("Практычны расійска-беларускі слоўнік" М.Байкова і М.Гарэцкага, "Падручны

расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік” В.Ластоўскага, “Дзелавод” С.Серады).

“Славянскій именословъ или собраніе славянскихъ личныхъ именъ въ алфавитномъ порядкѣ”, складзены святаром М.Марошкіным [*Морошкинъ**], з’яўляецца адзінай працай у лексікаграфіі XIX ст., у якой аўтар паспрабаваў зафіксаваць усе славянскія асабовыя імёны. У прадмове да выдання ён робіць агляд тагачаснай навуковай літаратуры, прысвечанай антрапонімам, і справядліва зазначае, што “главный недостатокъ… замѣчаемый въ этихъ изслѣдованіях, есть тотъ, что въ нихъ теряется и выходитъ изъ вниманія главная и истинная точка зрѣнія на имена, а именно, какъ на богатый и существенный матеріалъ языка; во всѣхъ почти этихъ изслѣдованіяхъ главным образомъ обращено вниманіе на то, какъ давались имена у Славянъ… а отсюда произошло то, что мы стали разсуждать и строить теоріи о именахъ не имѣя сборника именъ, употреблявшихся у нашихъ предковъ…” [*Морошкинъ**, с. 21].

У сваёй працы М.Марошкін не толькі фіксуе славянскія асабовыя імёны, але і праводзіць іх элементарны аналіз на ўзроўні словаўтварэння (першы раздзел кнігі), вызначае найбольш прадуктыўныя суфіксы пры дэрывацыі простых онімаў і асновы – пры ўтварэнні састаўных. У выданне ўключаны раздзел, прысвечаны семантычнаму аналізу асабовых імён (“Понятія, выражаемыя личными Славянскими именами”), у якім паказаны “значеніе корней господствующихъ личныхъ именъ у Славянъ” [*Морошкинъ**, с. 23]. У гэтым раздзеле М.Марошкін у алфавітным парадку змяшчае апелятывы, якія паслужылі асновай для ўтварэння асабовых славянскіх імён.

У трэцім раздзеле выдання (“О вліяніи Христіанства и международныхъ отношеній на строй личныхъ Славянскихъ именъ”) змяшчаецца непасрэдна слоўнік славянскіх асабовых імён.

Арганізацыя слоўнікавых артыкулаў у кнізе М.Марошкіна разнародная, што, відаць, абумоўлена адсутнасцю звестак пра пэўныя онімы. У большасці выпадкаў аўтар падае онім і крыніцу матэрыялу, дзе была зафіксавана названая адзінка. У некаторых слоўнікавых артыкулах імя, прыведзенае ў якасці лемы, аўтар самастойна

рэканструіруе з дэрыватаў – патранімічных прозвішчаў і імён па бацьку. У такім выпадку фіксуецца і сам дэрыват.

Формы аднаго і таго ж імя (звычайна гутарковыя і памяншальна-ласкальныя найменні) змяшчаюцца М.Марошкіным у асобных слоўнікавых артыкулах. Калі рэестравым словам з’яўляецца пэўная форма імя, а не афіцыйны варыянт, то, акрамя яго, у слоўнікавым артыкуле прыводзіцца інфармацыя, ад якога оніма ўтворана названае найменне. Спарадычна да неафіцыйных формаў імя, вынесеных у рэестр, аўтар падае вядомыя яму іншыя размоўныя формы афіцыйнага імя, а часам і вытворныя ад яго прыналежныя прыметнікі.

У некаторых слоўнікавых артыкулах М.Марошкін фіксуе не толькі онім, але змяшчае і пэўныя звесткі пра яго носьбіта (найчасцей, калі імя належала вядомаму дзеячу).

Такім чынам, “Славянскі іменаслоў…” М.Марошкіна, нягледзячы на неаднастайнасць афармлення слоўнікавых артыкулаў, з’яўляецца адной з найбольш грунтоўных і ўнікальных прац па антрапаніміцы, у якой сабраны славянскія асабовыя імёны і праведзены іх словаўтваральны і семантычны аналіз [*Палашкевіч, 2010а*].

Выданне “Kniaziowie litewsko-ruscy” ўяўляе сабою слоўнік хутчэй энцыклапедычнага характару, чым лінгвістычнага [*KLR**]. Яно змяшчае вялікую колькасць беларускіх антрапонімаў, адшуканых у старажытных граматах і пісцовых кнігах, да якіх падаюцца звесткі пра іх паходжанне, а таксама пра носьбітаў гэтых найменняў. Праца складаецца з дзвюх частак. У першай антрапонімы размежаваны на асобныя групы ў залежнасці ад паходжання князёў, якім яны належалі:

а) князі літоўскага паходжання: нашчадкі ўдзельных князёў Літоўскіх, пануючыя да XIII ст., і нашчадкі Гедыміна;

б) князі расійскага паходжання (т. зв. Рурыкавічы): нашчадкі князёў полацка-віцебскіх, чарнігаўскіх, смаленскіх, пінска-тураўскіх;

в) князі-“перасяленцы”: выхадцы з Масквы і выхадцы з татараў і чэркізаў;

г) найменні, што належалі князям, паходжанне якіх не высветлена.

У другой часцы імёны падзелены на групы “Kniaziowie Tatarscy” і “Pseudo-kniaziowie”. Для беларускага мовазнаўства асаблівую

цікавасць уяўляюць раздзелы “Нашчадкі князёў полацка-віцебскіх”, “Нашчадкі князёў смаленскіх” і “Нашчадкі князёў пінска-тураўскіх”.

Матэрыял у слоўніку размеркаваны наступным чынам. Асноўны спіс уласных імён пачынальнікаў княжацкіх родаў падаецца ў алфавітным парадку, а артыкулы, прысвечаныя іх нашчадкам, – пасля інфармацыі пра гэтых князёў: *Bujnicki* (*Tołoczko*, *Tołoczkowicz*), *Drucki* (*Baba*, *Babicz*…). Слоўнікавыя артыкулы ў выданні ўключаюць онім, часам – указанне на яго разнавіднасць (“прыдомак” (патрымонім), прозвішча) і этымалагічную інфармацыю пра найменне, а таксама гістарычныя звесткі пра асобу, якой належала імя, вынесенае ў рэестр слоўніка. Таму, на нашу думку, названае выданне аднолькава карыснае як для філолагаў, так і для гісторыкаў.

Слоўнік “Przydomki polskie, litewskie i rusinskie” А.Стэкерта [Stekert*] уключае онімную лексіку з шэрагу дзяржаўных дакументаў, хронік, кодэксаў і інш. У ім шырока выкарыстоўваецца беларускі матэрыял з выданняў і рукапісаў: “Herbarz szlachty litewskiej” В.Каяловіча, “Prawa polskie i litewskie” Т.Чацкага, “Kronika polska i litewska” М.Стрыйкоўскага і інш.

У адрозненне ад выдання “Kniaziowie litewsko-ruscy”, слоўнік А.Стэкерта мае філалагічную скіраванасць. Аўтар апісвае анамастычныя адзінкі, а не асоб, якім належалі онімы: пазначае іх разнавіднасць, час, у які онімы выкарыстоўваліся, крыніцы, дзе былі зафіксаваны. Да экстралінгвістычнай інфармацыі адносяцца толькі звесткі пра прыналежнасць наймення да пэўнага герба.

Слоўнік “Przydomki polskie, litewskie i rusinskie” вызначаецца паслядоўнасцю падачы матэрыялу ў мікраструктуры і сістэмным падыходам да апрацоўкі онімнай лексікі.

Праца М.М.Тупікова [*Туниковъ**] “Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ” з’яўляецца арыгінальным і значным выданнем у галіне антрапанімікі. Яна ўключае тры часткі: імёны мужчынскія, імёны жаночыя і прозвішчы.

Як адзначае ў прадмове да працы А.І.Сабалеўскі, кожны антрапонім аўтар разглядаў не з лінгвістычнага боку, а з гістарычнага, таму да найменняў ён падаваў інфармацыю пра іх носьбітаў: сацыяльны статус уладальніка імя / прозвішча, месца яго пражывання і інш.

Праца выйшла з друку ўжо пасля смерці аўтара і атрымала станоўчыя рэцэнзіі Я.Ф.Карскага і Д.К.Зяленіна. Адным з асноўных недахопаў выдання Я.Ф.Карскі вызначыў непаўнату слоўніка. На яго думку, аўтар дарэмна не фіксаваў у слоўніку моўныя рэалізацыі кожнага імя (варыянты), а таксама хрысціянскія імёны. Калі з першай заўвагай можна пагадзіцца, то другая выклікае пэўныя сумненні, паколькі М.М.Тупікоў імкнуўся стварыць якраз нехрысціянскі іменаслоў. Таму хібай слоўніка можна лічыць толькі тое, што некаторыя хрысціянскія імёны ўсё ж уключаны ў выданне. Слушнай заўвагай рэцэнзента з'яўляецца тое, што М.М.Тупікоў не да ўсіх запазычаных імён падаў адпаведныя паметы. Але, як адзначыў Я.Ф.Карскі, "отмѣченные недостатки легко устранить…в теперешнемъ своемъ видѣ онъ [слоўнік] даетъ … древне-русскія личныя собственныя имена, собранныя очень старательно; отмѣченные источники исчерпаны полностью; взяты подходящіе матеріалы…" [*Карский, 1900*].

Тым не менш, адзначаныя рэцэнзентамі хібы выдання не змяншаюць яго навуковай вартасці. Слоўнік М.М.Тупікова перавыдадзены ў 2005 г. і нават у наш час лічыцца самай фундаментальнай навуковай працай, прысвечанай рускаму нехрысціянскаму іменніку.

Асобную анамастычную частку змяшчае "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" В.Ластоўскага [*Ластоўскі**]. Яна складаецца з трох раздзелаў: "Крыўскі (беларускі) іменнік", "Назовы птахаў" і "Іменнік расьцін".

У "Крыўскі іменнік" В.Ластоўскі ўключыў беларускія мужчынскія і жаночыя асабовыя імёны, да якіх падаюцца размоўныя варыянты. Выданне вызначаецца нестандартным размяшчэннем онімаў у слоўнікавым артыкуле. Сутнасць аўтарскай канцэпцыі заключаецца ў тым, што, паводле В.Ластоўскага, пэўныя формы імён пры называнні чалавека выкарыстоўваліся ў залежнасці ад яго ўзросту. Таму спачатку ў слоўнікавых артыкулах падаюцца формы ўласнага імя, якімі называлі дзяцей, пасля – формы імя для падлеткаў, моладзі, замужніх / жанатых людзей і людзей сталага ўзросту.

Два дадаткі ("Слоўнічак уласных іменьняў", а таксама "Слоўнічак уласных геаграфічных найменьняў") мае "Практычны

расійска-беларускі слоўнік” М.Байкова і М.Гарэцкага [*ПРБС**]. Антрапанімічная частка ўключае жаночыя і мужчынскія імёны, тапанімічная – назвы гарадоў і рэк незалежна ад месца іх знаходжання. Пры перакладзе онімаў на беларускую мову аўтарамі часта выкарыстоўваюцца размоўна-бытавыя формы імён.

Праца С.Серады “Дзелавод” [*Серада**] складаецца з шэрагу раздзелаў, сярод якіх “Уласныя іменьні”, а таксама “Сьпіс гарадоў, мястэчак і раённых пунктаў БССР”. Антрапанімічная частка “Дзелавода” змяшчае пераклады імён з рускай мовы на беларускую. У тапанімічнай частцы “Дзелавода” ў выглядзе спісу пададзены назвы беларускіх гарадоў, мястэчак і раённых пунктаў. Усяго ў “Сьпісе гарадоў, мястэчак і раённых пунктаў БССР” аўтар зафіксаваў 174 уласныя назвы.

Акрамя арыгінальных лінгвістычных і энцыклапедычных слоўнікаў да першага перыяду развіцця беларускай анамастычнай лексікаграфіі мэтазгодна аднесці шматлікія спісы статыстычных камісій пачатку XX ст.: “Виленская губерния” І.І.Гашкевіча (1905), “Список населенных мест Витебской губернии” (2-е дапр. выд. – 1906), “Список населенных мест Минской губернии” У.С.Ярмаловіча (1909), “Список населенных мест Могилёвской губернии” (1910), “Список населенных мест БССР б. Минской губернии” (1924), “Список населенных мест Гомельского округа”, (1927) і інш., а таксама адрасна-даведачныя кнігі: “Весь Гомель: Календарь и адресно-справочная книга на 1908 г.” (1907), “Весь Минск, или Спутник по г. Минску” (1911), “Весь Могилев на Днепре: адрес-календарь” (1912), “Весь Бобруйск: адресно-справочная книга на 1913 – 1914 год” (1913), “Спіс сельсаветаў БССР” (1930) і інш. Пералічаныя працы не ў поўнай меры адпавядаюць агульнапрынятым прынцыпам укладання лексікаграфічных выданняў, але фармальна да іх набліжаюцца, паколькі змяшчаюць вялікую колькасць беларускіх тапонімаў, размешчаных у алфавітным парадку. Пры апісанні тапонімаў указваецца тып паселішча, тэрытарыяльная прыналежнасць дэтэрмінатыва, назвы бліжэйшага пункта гандлю, колькасныя дадзеныя адносна полавай прыналежнасці насельніцтва, якое пражывае на дадзенай тэрыторыі і інш.

У адрасна-даведачных кнігах прыведзены назвы ўсіх населеных пунктаў вобласці ў алфавітным парадку, імёны, імёны па бацьку і прозвішчы жыхароў з пазначэннем адрасу пражывання і інш.

Такім чынам, прапедэўтычны перыяд развіцця анамастычнай лексікаграфіі характарызуецца з'яўленнем выданняў па тапаніміцы, большасць з якіх вызначалася асістэмнасцю і суб'ектыўным падыходам аўтараў як да стварэння рэестра слоўнікаў, так і да апісання онімнай лексікі. Антрапанімічныя слоўнікі гэтага часу ў асноўным мелі энцыклапедычную, а не лінгвістычную скіраванасць. Тым не менш, важна адзначыць той факт, што ў гэтых працах была сабрана і ўпершыню ўведзена ў навуковы ўжытак значная колькасць беларускіх тапонімаў і антрапонімаў, якія да таго часу не былі апрацаваны і сістэматызаваны.

### 2.2 Перыяд станаўлення

Сярэдзіна 1920-х гг. характарызуецца актывізацыяй увагі беларускага грамадства да праблем нацыянальнай культуры і дынамічным разгортваннем беларусізацыі. Як вядома, праграма беларусізацыі ўключала "арганізацыю навучальных устаноў на роднай мове, развіццё нацыянальнай літаратуры, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчую працу па ўсебаковым вывучэнні Беларусі і інш." [*Сямешка*, с. 17]. Адной з найбольш актуальных задач, якія паўсталі перад айчынным моваянаўствам у гэты перыяд, стала стварэнне нарматыўнага тлумачальнага слоўніка жывой беларускай мовы. Відавочна, што ўкладанню такога сур'ёзнага агульнанацыянальнага выдання павінна было папярэднічаць збіранне рэгіянальнага лексічнага матэрыялу, якое даручалася акруговым краязнаўчым таварыствам. Фактычна была наладжана і паспяхова дзейнічала сістэма рэгіянальных карэспандэнтаў Інбелкульта.

Адным з такіх мясцовых карэспандэнтаў з'яўляўся старшыня Касцюковіцкага раённага краязнаўчага таварыства Т.С.Мікалаеў. У асабістым архіве вядомага беларускага лексікографа І.К.Бялькевіча захавалася частка рукапісу, дасланага яму Т.С.Мікалаевым 28 снежня

1926 г. (зараз знаходзіцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі).

Рукапіс складаецца з дзвюх частак: “Аб’яснявальнай запіскі да народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар’ялу, сабранага па Касьцюковіцкаму раёну Калінінскае акругі Т.С.Мікалаевым”, у якой аўтар характарызуе найбольш тыповыя асаблівасці маўлення жыхароў Касцюковіцкага раёна і вызначае мэты складання слоўніка, і “Слоўнічка ўласных іменняў, якія ўжываюцца ў Касцюковіцкім раёне Калінінскае акругі” [*Мікалаеў**]. Названая праца, хаця і з’яўляецца, па сутнасці, толькі лексікаграфічным праектам ці нават яго складовым кампанентам, уяўляе сабой цікавы лінгвістычны вопыт і дэманструе плённасць аматарскіх даследаванняў у галіне беларусістыкі сярэдзіны 1920-х гг. [*Палашкевіч, 2011б*].

Антрапанімічная частка “Слоўнічка ўласных іменняў…” складаецца з двух раздзелаў, у якіх асобна зафіксавана 101 мужчынскае і 43 жаночыя асабовыя імёны, да якіх падаюцца адпаведнікі з рускай мовы.

У беларускай частцы слоўніка прыводзяцца дыялектныя формы антрапонімаў, характэрныя для даследаванай мясцовасці, а ў рускамоўнай частцы – адпаведныя ім афіцыйныя формы імён. Размяшчэнне онімаў у адпаведнасці з алфавітам прынята толькі ў перакладной частцы слоўніка.

Пры перадачы онімаў сродкамі рускай мовы ў слоўніку часам заўважаюцца асобныя недахопы. З аднаго боку, гэта непаслядоўнасць лексікаграфічнай падачы антрапанімічнага матэрыялу. Так, у слоўнікавых артыкулах *Луке́рья – Лукерья* [*Мікалаеў**, л. 6], *Усьціньня – Устинья* [*Мікалаеў**, л. 6] і інш. аўтар фіксуе лексічныя адзінкі з фіналямі ***-ья***, а ў артыкулах *Ната́лья– Наталия* [*Мікалаеў**, л. 3], *Хо́ўра – Февронія* [*Мікалаеў**, л. 6] і інш. – з фіналямі ***-ия***. Сустракаюцца памылкі пры суаднясенні беларускіх і рускіх імён. Так, напрыклад, у слоўнікавым артыкуле *Лукаш (Лукьян) – Лука* [*Мікалаеў**, л. 4] няправільнай падаецца перадача беларускага імя *Лукьян* па-руску найменнем *Лука*. У “Словаре русских личных имен” Н.А.Пятроўскага [*Петровский*, с. 144] антрапонімы *Лука* і *Лукьян* прыведзены ў асобных слоўнікавых артыкулах, што, на наш погляд,

сведчыць пра адсутнасць варыянтных адносін паміж названымі онімамі.

Рукапісны “Слоўнічак уласных іменняў, якія ўжываюцца ў Касцюковіцкім раёне Калінінскае акругі” Т.С.Мікалаева, з’яўляецца адзінай вядомай нам працай, створанай у перыяд станаўлення беларускай лексікаграфіі [*Палашкевіч, 2011б*].

Анамастычны дадатак (“Слоўнічак уласных іменьняў”) утрымлівае “Віцебскі краёвы слоўнік” М.І.Каспяровіча [*Каспяровіч**]. У ім зафіксавана 289 анамастычных адзінак, сярод якіх асабовыя мужчынскія і жаночыя імёны і нешматлікія тапонімы. У рэестры аўтар змяшчае беларускія найменні (у тым ліку онімы ў памяншальна-ласкальнай форме і бытавыя варыянты імя), а да іх падае афіцыйныя адпаведнікі з рускай мовы. Акрамя таго, М.І.Каспяровіч дае тлумачэнні да шырокаўжывальных у асяроддзі беларусаў андронімаў (найменняў жонкі паводле мужа). Істотным метадалагічным недахопам працы з’яўляецца фіксацыя ў асобных слоўнікавых артыкулах бытавых варыянтаў аднаго і таго ж імя.

У другой палове 1920-х у сувязі з палітыкай беларусізацыі шырока разгортваецца праца па мэтанакіраваным збіранні геаграфічных назваў Беларусі. У часопісе “Наш край” друкуецца шэраг артыкулаў, у якіх змешчаны метадычныя ўказанні па апрацоўцы онімнай лексікі, а таксама першыя спробы яе апісання [*Немцаў*; *Тараноўскі* і інш.].

У 1928 г. друкуюцца “Праграмы, анкеты і інструкцыі. Як сабраць і ўкласці слоўнік мовы свайго раёну” М.І.Каспяровіча [*Касьпяровіч*]. Аўтар паслядоўна апісвае методыку працы, што павінна праводзіцца падчас падрыхтоўкі і выдання тапанімічнага слоўніка раёна. Ён вылучае 35 тэматычных груп слоў, якія неабходна зафіксаваць у слоўніку: назвы формаў зямной паверхні, лясоў, рэк, вёсак, хутароў, гарадоў, жывёл, раслін і інш.

Важным крокам у агульным працэсе станаўлення тэорыі і метадалогіі беларускай тапанімічнай лексікаграфіі стала выданне А.Я.Крукоўскім “Інструкцыі да зьбіраньня матар’ялаў для Географічнага слоўніка Мазыршчыны”. Аўтар абгрунтоўвае важнасць стварэння такога выдання і распрацоўвае прынцыпы яго ўкладання. У рэестр слоўніка планавалася ўключыць назвы ўсіх паселішчаў з

абазначэннем іх тэрытарыяльна-адміністрацыйнай прыналежнасці. Акрамя таго, у слоўнікавы артыкул павінна была ўвайсці інфармацыя пра адлегласці ад паселішчаў да адміністрацыйных, гаспадарчых, транспартных цэнтраў, колькасць двароў і жыхароў, назвы ўсіх урочышчаў з тлумачэннем іх паходжання і абазначэннем месцазнаходжання, апісанні аб'ектаў у кожным з урочышчаў: "узгоркаў, нізінак, рэк, рэчак, канаў, вазёр, сажалак, балот, тарфавішчаў, карысных выкапняў, лясных масываў, дач, ахоўнікаў, пушч, лясьніцтваў, фабрык, гут, майстэрняў, помнікаў культуры і старасьветчыны" [*Крукоўскі*, с. 1 – 2]. Праект не быў рэалізаваны.

У 1931 г. у часопісе "Родная мова" друкуецца артыкул Б.Скарыніча "Нашто й як зьбіраці географічныя й асабовыя назовы беларускія?", які ўяўляе сабой папярэдні варыянт праграмы, што пасля пэўнай дапрацоўскі была апублікавана асобным выданнем [*Скарыніч, 1931а*; *Скарыніч, 1931б*]. У названай працы Б.Скарыніч абгрунтоўвае неабходнасць збірання онімнага матэрыялу, падае спіс аб'ектаў, назвы якіх павінны занатоўвацца, вызначае крытэрыі іх кадыфікацыі. Выхад з друку інструкцый і праграм па збіранні і апрацоўцы онімнага матэрыялу істотна актывізаваў і сістэматызаваў працу па стварэнні беларускіх тапанімічных слоўнікаў.

У перыяд станаўлення беларускай лексікаграфіі ў галіне тапанімікі ўкладзены толькі адзін слоўнік – "Краткий справочник рек и водоемов БССР" А.І.Цюльпанава, І.А.Барысава, В.І.Благуціна [*КСРВ**]. Названае выданне з'яўляецца энцыклапедычным і змяшчае алфавітныя спісы беларускіх патамонімаў (першая частка выдання) і лімнонімаў (другая частка), кароткую гістарычную характарыстыку водных аб'ектаў Беларускай ССР, а таксама звесткі аб іх гаспадарчым выкарыстанні.

Беларускі онімны матэрыял актыўна ўключаецца ў розныя слоўнікі, даведнікі, спісы, якія публікуюцца за межамі БССР. Так у 1922 г. выходзіць з друку "Список губерний и уездов РСФСР, СССР и УССР" [*Список губерний и уездов*], у якім у раздзеле "Уезды ССРБ" прыведзены тапонімы 6 уездаў Беларусі: Бабруйскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Мінскага, Мазырскага і Слуцкага. У раздзеле "Губернии и уезды РСФСР" змяшчаецца частка беларускіх тапонімаў Віцебскай і

Гомельскай абласцей, якія ў той час з'яўляліся тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі адзінкамі Расійскай Федэрацыі.

У 1930-я гг. друкуюцца польскія лексікаграфічныя выданні, у якіх таксама фіксуюцца беларускія тапонімы. Энцыклапедычны даведнік "Nowogrodek i okolice" [*Zmigrodski*] Ё.Змігродскага складаецца з дзвюх частак: у першай пададзена гістарычная і этнаграфічная інфармацыя, у другой – 56 беларускіх тапонімаў. У выданні "Przyczynki do dziejów powiatu brzesko-litewskiego i ziem nim objętych" [*Zdasńki*] К.Зданьскага змешчаны ў алфавітнай паслядоўнасці польскія і беларускія тапонімы, а таксама зафіксаваны прозвішчы ўладальнікаў маёнткаў.

Праца М.Федароўскага "Lud białoruski na Rusi Litewskiej" уключае главу "Przezwiska, przydomki, imiona, mianushki" [*Federowski**], у якой пададзены асобна розныя тэматычныя групы антрапонімаў: а) "Przezwiska ludzi" (каля 700 прозвішчаў і назваў людзей паводле мясцовасці); б) "Imiona najpospolitsze" (звыш 70 мужчынскіх і жаночых асабовых імён і дэмінутыўных формаў); в) "Nazwiska rodowe chłopskie" (каля 450 прозвішчаў беларускіх сялянскіх родаў); г) "Przezwiska zwierząt, rzeczy i djabła" (мянушкі хатніх жывёл, найменні д'ябла, а таксама некаторыя назвы рэчаў, якія не зусім абгрунтавана адносяцца да сферы анамастыкі). Крыніцамі матэрыялу паслужылі працы І.І.Насовіча, А.Ф.Рыпінскага, Я.П.Тышкевіча, П.М.Шпілеўскага і інш. Многія антрапонімы забяспечаны матывацыйнай (экстралінгвістычнай) інфармацыяй. Кожны раздзел слоўніка вызначаецца адметнай мікраструктурай, што можна расцэньваць як значны крок у развіцці тагачаснай лексікаграфіі. Некаторая непаслядоўнасць у канструяванні слоўнікавых артыкулаў абумоўлена спецыфічнымі асаблівасцямі класаў зафіксаваных онімных адзінак і, на наш погляд, не павінна кваліфікавацца як недахоп метадалагічнага апарату выдання [*Палашкевіч, 2009б*].

Такім чынам, названы перыяд развіцця беларускай лексікаграфіі характарызуецца паслядоўнай распрацоўкай прынцыпаў сістэматызаванага прадстаўлення анамастычнай лексікі і вырашэннем асобных пытанняў тэорыі лексікаграфіі.

## 2.3 Перыяд інтэнсіўнага развіцця

Асноўныя дасягненні ў развіцці анамастычнай лексікаграфіі другой паловы XX – пачатку XXI стст. звязаны з дзейнасцю беларускай анамастычнай школы, заснаванай у пачатку 1960-х гг. М.В.Бірылам. На думку В.П.Лемцюговай, "у гэты перыяд анамастыка ўзнімаецца на прынцыпова новы навуковы ўзровень свайго развіцця" [*Лемцюгова, 2004а*, с. 108]. Збіраецца фундаментальная картатэка розных класаў онімаў, на аснове якой у канцы 1960-х – 1970-я гады выдаецца шэраг анамастычных слоўнікаў.

**2.3.1** Першай спробай стварэння тапанімічнага слоўніка ў гэты перыяд прынята лічыць працу З.В.Рубцовай, у якой даследчыца на аснове анкетавання сельскіх саветаў і школ склала даволі значны па аб'ёме спіс беларускіх айконімаў з улікам іх мясцовага вымаўлення, што пазней быў укладзены як "Словарь топонимов Белоруссии". У прадмове да нарматыўнага даведніка "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь" В.П.Лемцюгова адзначае, што "гэта была спроба вярнуць назвам беларускіх паселішчаў іх сапраўдныя нацыянальныя формы і пакласці іх у аснову перадачы на рускую мову" [*ННП-03**, с. 5]. Але слоўнік па розных прычынах так і не быў апублікаваны.

У 1965 г. выходзіць з друку першы нарматыўны даведнік па ўжыванні і выкарыстанні асабовых імён "Слоўнік асабовых уласных імён" М.Р.Судніка [*Суднік**]. У працы прыведзены асноўныя мужчынскія і жаночыя імёны, а таксама некаторыя ўстарэлыя і новыя рэдкаўжывальныя антрапонімы з рускімі эквівалентамі (беларуска-руская і руска-беларуская часткі). Да шэрагу імён падаюцца іх бытавыя і вытворныя формы, якія выкарыстоўваюцца ў маўленчай практыцы.

Асновай для ўкладання слоўніка паслужылі шырокаўжывальныя беларускія ўласныя імёны. Пры збіранні бытавых формаў імён аўтар звярнуўся да многіх пісьмовых крыніц, сярод якіх лексікаграфічныя працы С.Мядзведскага, І.І.Насовіча, М.І.Каспяровіча, А.В.Ярушэвіча, перыядычныя выданні. Для раздзела ўстарэлых імён выкарыстаны іменныя рэестры царкоўных месяцасловаў і спісы ўласных імён з

дадаткаў да актавых кніг. Слоўнік змяшчае 2500 антрапонімаў, 1600 з якіх шырокаўжывальныя адзінкі, 900 – устарэлыя і рэдкаўжывальныя.

Пры перавыданні "Слоўніка асабовых уласных імён" М.Р.Судніка (2005) раздзел "Устарэлыя і новыя рэдкаўжывальныя імёны" быў дапоўнены імёнамі па бацьку, паколькі з часу першай публікацыі слоўніка некаторыя імёны сталі актыўна выкарыстоўвацца. Акрамя таго, у выданні змешчаны дадатак, дзе падаюцца асноўныя звесткі аб скланенні і ўжыванні беларускіх антрапонімаў.

Высокім навуковым узроўнем і якасцю апрацоўкі онімнай лексікі вызначаюцца працы М.В.Бірылы "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" [Бірыла-66*], "Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы" [*ЛЭБА**] (у суаўтарстве з А.П.Ваганасам), "Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі" [*Бірыла-69**] і "Беларуская антрапанімія: структура ўласных мужчынскіх імён" [*Бірыла-82**].

У слоўніку "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" аўтар на аснове вялікага фактычнага матэрыялу прасачыў гісторыю традыцыйна-царкоўных імён на беларускай глебе ў перыяд XV – XVIII стст., разгледзеў вытворныя ад іх сучасныя беларускія прозвішчы. Акрамя таго, у працы адлюстраваны лексічны склад "імён-мянушак" і прааналізаваны разгорнутыя шматслоўныя антрапанімічныя найменні.

У якасці асноўнага матэрыялу М.В.Бірыла выкарыстаў тэксты пісьмовых помнікаў XV – XVIII стст. і сучасныя беларускія прозвішчы, сабраныя ў розных раёнах Беларусі на працягу 1949 – 1962 гг.

Праца "Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы" прысвечана вывучэнню ў беларускім анамастыконе найменняў, якія былі запазычаны з літоўскай мовы. У ёй М.В.Бірыла і А.П.Ваганас разглядаюць ўсе дэрывацыйныя мадэлі, паводле якіх утвораны даследуемыя анамастычныя адзінкі. Да кожнага са словаўтваральных фармантаў для ілюстрацыі прыкладзены мінімслоўнік.

У кнізе "Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі" М.В.Бірыла сістэматызуе этымалогію прозвішчаўтваральных асноў і структуру сучасных беларускіх

прозвішчаў, якія ўзніклі на базе апелятыўнай лексікі і на аснове ўласных імён цюркскага і літоўскага паходжання. Беларускія мянушкі сабраны аўтарам з помнікаў пісьменнасці XV – XVIII стст., а рускія і ўкраінскія найменні ўзяты з працы М.М.Тупікова "Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ". Шэраг усходнеславянскіх прозвішчаў падаецца па працы М.Бенсана "Dictionary of Russian Personal Names" (1964). Выданне ўключае 1040 слоўнікавых артыкулаў.

У працы "Беларуская антрапанімія: структура ўласных мужчынскіх імён" дэталёва апісана словаўтваральная структура поўных афіцыйных і бытавых, а таксама эмацыянальна-ацэначных формаў мужчынскіх хрысціянскіх імён XVI – XVIII стст., сучасных найменняў, імён, рэканструяваных па сучасных беларускіх прозвішчах.

Акрамя таго, у 1960-я гг. некаторыя навукоўцы друкавалі падборкі онімаў у нелексікаграфічных выданнях. Так, слоўнік "Уласныя імёны, іх варыянты і некаторыя формы ад імён", у якім апісаны традыцыйныя мужчынскія і жаночыя імёны, да якіх падаюцца бытавыя варыянты онімаў, Ф.М.Янкоўскі змясціў у "Матэрыялах да слоўніка народна-дыялектнай мовы" [*Янкоўскі, 1960*]. У кнізе "З жыцця роднага слова" П.У.Сцяцко апублікаваны інкарпараваны слоўнік "Уласныя асабовыя імёны, іх варыянты і ўжаванне ў народнай мове" [*Сцяцко*].

Пачатак 1970-х гг. адметны плённай навуковай дзейнасцю ў галіне анамастыкі В.А.Жучкевіча. У 1974 г. надрукаваны яго "Краткий топонимический словарь Белоруссии" [*Жучкевич**], у якім пададзены беларускія астыонімы, камонімы, патамонімы і лімнонімы і прапанавана іх этымалагічная характарыстыка. Важнай асаблівасцю гэтай працы з'яўляецца тое, што ў этымалагічных даведках аўтар пазбягае элементарызацыі і спрашчэння, характэрных для некаторых ранейшых (напр.: [*Трусманъ**]) і наступных выданняў, і выкарыстоўвае сучасныя метады апрацоўкі тапанімічнай лексікі. Крыніцамі матэрыялу да слоўніка паслужылі шматлікія гістарычныя дакументы, летапісы, архіўныя матэрыялы геаграфічнай карты, афіцыйныя дадзеныя картатэкі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, літаратурныя тэксты, звесткі, атрыманыя са службовай перапіскі,

даведнікі, спісы населеных пунктаў і матэрыял, сабраны самім аўтарам.

У гэты ж час выходзіць з друку грунтоўная праца "Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы" пад рэд. М.В.Бірылы і Ю.Ф.Мацкевіч [*МБ**]. Выданне вызначаецца выключным багаццем фактычнага матэрыялу і разнастайнасцю выкарыстаных крыніц. Праца ўключае лексічныя адзінкі, назапашаныя на працягу 1948 – 1972 гг. Гэта мікратапонімы, выяўленыя падчас збірання матэрыялаў для складання "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы", "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа", "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак", а таксама ўласны матэрыял многіх навукоўцаў. Усяго ў слоўніку зафіксавана больш за 9 000 беларускіх мікратапонімаў з розных рэгіёнаў Беларусі, да іх падаюцца тлумачэнні і адміністрацыйна-геаграфічныя звесткі пра рэаліі, якія яны абазначаюць.

Арыгінальным даведнікам па гісторыі і антрапаніміі ўсходнеславянскіх народаў з'яўляецца "Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии" С.Б.Весялоўскага, які быў выдадзены ў 1974 г. [*Веселовский**]. У працу ўвайшло каля 7500 імён, прозвішчаў і мянушак, выбраных аўтарам у асноўным з дакументальных крыніц XVII – XVIII стст. У рэцэнзіі на слоўнік В.М.Бачкоў адзначае некаторыя яго недахопы, што сустракаюцца ў многіх сучасных даследчыкаў старажытнай антрапаніміі [*Бочков*]. Так, аўтар часта без належных падстаў адносіць мянушкі сялян да разраду прозвішчаў, а, як вядома, трансфармацыя мянушак у прозвішчы адбывалася ўжо пасля рэформы 1861 г. Акрамя таго, В.М.Бачкоў падкрэслівае, што ў "Анамастыкон" была ўключана толькі нязначная доля антрапонімаў, зафіксаваных у "лістах пакаленных роспісаў старажытных родаў", а самі прынцыпы адбору онімаў засталіся неакрэсленымі. Такія праблемы выкліканы, на думку рэцензента, тым, што пры складанні даведніка С.Б.Весялоўскі проста не змог ахапіць велізарны шэраг разнародных крыніц (напр., "Агляд *Грамат Калегіі эканоміі*" і шырока вядомая духоўная грамата І.Ю.Патрыкеева, у якіх зафіксавана вялікая колькасць прозвішчаў). Дасканала апрацаваўшы сінодыкі, гісторык рэдка звяртаўся да помнікаў дыпламатычных зносін і летапісаў [*Бочков*]. Аўтар рэцэнзіі адзначае і некаторыя гістарычныя і

генеалагічныя памылкі “Анамастыкона”. Нягледзячы на названыя недахопы, слоўнік С.Б.Весялоўскага ўнікальны: у ім змешчаны важны фактычны матэрыял, цікавы як для гісторыкаў і даследчыкаў у галіне генеалогіі, так і для ўсходнеславянскіх філолагаў і анамастаў.

Па структурна-зместавых характарыстыках да “Анамастыкона” С.Б.Весялоўскага набліжаецца слоўнік У.П.Неразнака “Названия древнерусских городов” [*Нерознак**], крыніцамі матэрыялу для якога сталі “Поўны збор рускіх летапісаў” (друкуецца з 1830 г.), “Аповесць мінулых гадоў” і некаторыя іншыя выданні. Назвы гарадоў у кнізе ілюструюцца тэкстамі летапісаў, указваецца час першай пісьмовай фіксацыі найменняў у дакументах, тлумачыцца іх паходжанне.

Праца А.К.Усціновіч “Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны” [*Усціновіч-75**] прысвечана даследаванню старажытнай антрапанімічнай лексікі пагранічных зон Беларусі. Крыніцай для вывучэння сістэмы іменавання людзей на заходнебеларускіх землях (XVI – XVIII стст.) стаў 931 дакумент: акты гродзенскага і брэсцкага земскіх судоў, матэрыялы падкаморскіх і павятовых судоў, дакументы Брэсцкай і Кобрынскай эканоміі – пераважна ўся дзелавая пісьменнасць Гродзеншчыны і Брэстчыны гэтага перыяду, сістэматызаваная і выдадзеная Віленскай археаграфічнай камісіяй. Выкарыстаны матэрыял з т. зв. інвентароў маёнткаў XVI ст. Слоніма, Ліды, Драгічына, Брэста і Гродна. У слоўніку змяшчаюцца антрапонімы з іх моўнымі рэалізацыямі, вызначаецца частотнасць ужывання кожнага наймення і іх этымалогія.

У 1977 г. пачалося выданне шасцітомнай айканімічнай працы Я.Н.Рапановіча. У слоўніку пададзены назвы ўсіх паселішчаў (гарадоў, мястэчак, вёсак, хутароў і інш.), якія былі зафіксаваны на акрэсленай тэрыторыі, назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх саветаў, калгасаў і саўгасаў. Акрамя таго, у працу ўключаны найменні населеных пунктаў, што былі знішчаны ў час Вялікай айчыннай вайны, а таксама геаграфічных аб’ектаў, далучаных да іншых тэрытарыяльных адзінак, у выніку чаго яны перасталі існаваць як самастойныя. Па сваёй структуры і інфармацыйнай насычанасці праца Я.Н.Рапановіча сумяшчае задачы арфаграфічнага і тлумачальнага слоўнікаў. Аўтар, “эканомна выкарыстаўшы плошчу, … насыціў кожны артыкул звесткамі, што адпавядаюць характару і прызначэнню

слоўніка, які будзе садзейнічаць усталяванню нарматыўнасці ва ўжыванні як саміх назваў, так і ўтвораных ад іх прыметнікаў” [*Жилко*, с. 114]. Аналагічна пабудаваны і іншыя тамы серыі слоўнікаў Я.Н.Рапановіча па Брэсцкай (1980), Мінскай (1981), Гродзенскай (1982), Магілёўскай (1983) і Гомельскай (1986) абласцях.

Для ўкладання слоўнікаў Я.Н.Рапановіч выкарыстаў матэрыял, сабраны ім у 1947 – 1981 гг. з пісьмовых крыніц (карт, даведнікаў, зборнікаў законаў, спісаў), перапіскі з мясцовымі карэспандэнтамі і запісаў на месцы ад карэнных жыхароў населеных пунктаў. Адметнасць працы Я.Н.Рапановіча ў тым, што яна з’яўляецца першым выданнем, у якім паслядоўна і поўна каталагізуюцца беларускія айконімы.

Усяго (з улікам фанетычных і лексічных варыянтаў) у “Слоўнік…” уключаны 24934 онімы, што з’яўляюцца найменнямі 32068 населеных пунктаў: па Віцебскай вобласці – 6928 айконімаў, па Брэсцкай – 2342, па Мінскай – 4971, па Гродзенскай − 4427, Магілёўскай – 3381, Гомельскай – 2885. Публікацыя серыі слоўнікаў Я.Н.Рапановіча стала значнай падзеяй у гісторыі беларускай анамастычнай лексікаграфіі XX ст.

У гэты перыяд у межах бібліятэкі часопіса “Беларусь” выходзяць з друку кнігі “Рэкі, азёры і вадасховішчы Беларусі” пад рэд. А.Р.Булаўкі [*РАВБ**] і “Гарады і гарадскія пасёлкі Беларусі” пад рэд. Л.К.Калошына [*ГГПБ**].

Першае з названых выданняў уключае 760 артыкулаў, прысвечаных асобным водным аб’ектам Беларусі. У ім падаюцца звесткі пра даўжыню рэк і памеры азёр, іх глыбіню, геаграфію працякання рэк, час стварэння (для штучных вадаёмаў), указваюцца знешнія характарыстыкі беларускіх водных аб’ектаў. Другая праца – “Гарады і гарадскія пасёлкі Беларусі” – змяшчае назвы 212 беларускіх гарадоў, пасёлкаў, курортаў і г. д. Па сваёй будове і прызначэнні названыя выданні з’яўляюцца энцыклапедычнымі даведнікамі, у аснову якіх пакладзены матэрыялы, падрыхтаваныя для энцыклапедыі “Беларуская ССР”.

У канцы 1970-х гг. па ініцыятыве акадэміка М.В.Бірылы заснавана тэматычнае выданне “Беларуская анамастыка”. Апублікаваны 4 выпускі зборніка (1977, 1981, 1985, 1992), у якіх

змешчаны не толькі розныя тэарэтычныя напрацоўкі ў галіне беларускай анамастыкі, але і асобныя падборкі онімаў – М.В.Бірылы, А.І.Грынавецкене, З.М.Заікі, М.Кандрацюка, П.А.Міхайлава, Г.М.Прышчэпчык, А.К.Усціновіч і інш.

З 1983 г. у рэспубліканскім штогодніку “Беларуская мова” рэгулярна друкуюцца матэрыялы для слоўніка катайконімаў і слоўніка гідронімаў Гомельшчыны, “Слоўніка назваў жыхароў Гомельшчыны” і іншыя анамастычныя працы і тэарэтычныя распрацоўкі [*Матэрыялы да слоўніка гідронімаў, 1987*; *Матэрыялы да слоўніка гідронімаў, 1988*; *Матэрыялы да слоўніка гідронімаў, 1989*; *Матэрыялы да слоўніка гідронімаў, 1990*].

У часопісе “Байрам. Татары на зямлі Беларусі” (№ 1 – 4, 1998) змешчаны беларуска-рускі слоўнік татарскіх імён, у якім прыведзены іх беларускія і рускія адпаведнікі. Да мужчынскіх найменняў дадаткова падаюцца імёны па бацьку.

У гэты ж час тапанімічны матэрыял пачынае актыўна ўключацца ў асобныя дыялектныя слоўнікі. Так, у 1987 г. выходзіць з друку пяты, заключны, том “Тураўскага слоўніка” пад рэд. А.А.Крывіцкага [*ТС**], у якім змешчаны 2095 мікратапонімаў, а таксама катайконімы з тэрыторыі Жыткавіцкага і Столінскага раёнаў. Пазней гэтая ініцыятыва была падтрымана А.П.Цыхуном у кнізе “Скарбы народнай мовы” [*Цыхун**], дзе ў асобным раздзеле “Анамастыка” падаецца спіс тапонімаў і мікратапонімаў Гродзенскага раёна, а таксама гідронімаў басейна ракі Свіслач (974 слоўнікавыя артыкулы).

Першай і адзінай лексікаграфічнай працай, дзе адлюстраваны псеўданімы і крыптанімы беларускіх пісьменнікаў XVI – XX стст., з’яўляецца “Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў” Я.Саламевіча [*Саламевіч**]. Да кожнага наймення аўтар падае звесткі пра пісьменніка, які карыстаўся онімам, вынесеным у рэестр. Для ўкладання слоўніка распісана звыш 100 крыніц: беларускамоўная перыёдыка, польска- і рускамоўныя працы, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі, публікацыі па гісторыі, культуры і літаратуры Беларусі. У слоўніку, акрамя кніжных выданняў, падаюцца спасылкі на газеты і часопісы, зборнікі і календары, рукапісныя падпольныя і партызанскія выданні. Дадаткі да слоўніка пазней друкаваліся ў

часопісе “Роднае слова” (2006 – 2007 гг.) [*Саламевіч, 2006*; *Саламевіч, 2007*].

У 1990-я гг. праца па збіранні і публікацыі онімнай лексікі значна актывізуецца. Прынящце Закона “Аб мовах у Беларускай ССР” (1990), паводле якога беларуская мова атрымала статус дзяржаўнай, станоўча паўплывала і на адносіны да нацыяльнай тапаніміі і антрапаніміі. Так, у верасні 1991 г. пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі была створана Рэспубліканская тапанімічная камісія, якая занялася распрацоўкай канцэпцыі, “скіраванай на аднаўленне гістарычных назваў, уніфікацыю і стандартызацыю напісання беларускіх геаграфічных назваў, на вяртанне ім сапраўднага нацыянальнага аблічча” [*Лемцюгова, 2004а*, с. 113].

Спробай абагульнення анамастычнага матэрыялу, сабранага на працягу 1989 – 1992 гг. на тэрыторыі Гомельшчыны, з’яўляецца праца А.Ф.Рогалева “Географические названия Гомельщины”. Яна складаецца з дзвюх кніг: “Красная книга” топонимов Гомеля и окрестностей” [*Рогалев-91**] і “Историко-топонимический словарь Ветковского района Гомельской области” [Рогалев-*92**].

Першая кніга, па словах аўтара, – гэта “спроба адбору…найбольш важных у культурна-гістарычных адносінах назваў, якія існуюць цяпер і існавалі раней” [*Рогалев-91**, с. 5]. Пры падрыхтоўцы выдання А.Ф.Рогалеў выкарыстаў матэрыялы ўласнай картатэкі, разнастайныя геаграфічна-статыстычныя, гістарычныя і тапанімічныя крыніцы. У працы раскрываецца паходжанне 320 тапанімічных найменняў, а таксама змешчаны кароткія звесткі адносна населеных пунктаў і геаграфічных аб’ектаў, якія яны называюць.

У 2003 г. А.Ф.Рогалеў перавыдаў першую частку сваёй працы ў дапоўненым выглядзе пад загалоўкам “Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей” [*Рогалев-03**]. У гэтым выданні апісана каля 700 тапонімаў, сярод якіх найменні ўсіх гістарычных частак Гомеля і населеных пунктаў Гомельскага раёна.

У працы “Географические названия Гомельщины” (“Историко-топонимический словарь Ветковского района Гомельской области”) пралексікаграфаваны назвы тых населеных пунктаў Веткаўскага раёна, якія найбольш пацярпелі ад Чарнобыльскай АЭС і якім

пагражае знікненне, а таксама рэканструявана этналінгвістычная "карта" Веткаўскага Пасожжа. Гэтае выданне ў перапрацаваным і дапоўненым выглядзе было апублікавана ў 2004 г. пад назвай "Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области" [*Рогалев-04**].

Першай лексікаграфічнай працай, прысвечанай онімнай лексіцы ў мове твораў пэўнага аўтара, стаў "Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа" [*АСТК**]. Укладальнікі паставілі перад сабой мэту – вычарпальна поўна кадыфікаваць усе ўласныя імёны, выкарыстаныя ў творах Якуба Коласа, і энцыклапедычна апісаць іх з улікам адпаведных кантэкстаў [*АСТК**, с. 4]. Слоўнік створаны на аснове дванаццацітомнага збору твораў пісьменніка і ўключае ўсе класы онімаў, якія ўжыты ў тэкстах аўтара: антрапонімы і тапонімы, назвы кніг, твораў, газет, арганізацый. У слоўніку зафіксаваны таксама анамастычныя найменні з чатырнаццацітомнага збору твораў, якія не ўвайшлі ў пазнейшае перавыданне. Усяго ў слоўніку каля 6000 артыкулаў, у якіх онімы сістэматызуюцца не з пункту гледжання іх этымалогіі, а з улікам функцыянальна-стылёвай нагрузкі ў мастацкіх творах.

Звыш 5000 гідронімаў зафіксавана ў энцыклапедычным выданні "Блакітная кніга Беларусі" [*БКБ**], дзе апісаны беларускія водныя аб'екты, даўжыня якіх большая за 5 км. Укладальнікі шырока выкарысталі архіўныя матэрыялы БелЭн і тапаграфічныя карты. У многіх артыкулах прадстаўлены ілюстрацыйны матэрыял (фотаздымкі, карты-схемы водных аб'ектаў). На пачатку XXI ст. апублікаваны шэраг аналагічных выданняў, дзе апісаны паасобныя віды водных аб'ектаў Беларусі: "Озера Беларуси" [*ОБ**], "Водохранилища Беларуси" [*ВБ**] і "Блакітны скарб Беларусі: рэкі, азёры, вадасховішчы, турысцкі патэнцыял водных аб'ектаў" [*БСБ**].

У 1994 г. надрукаваны трэці том "Слоўніка мовы Скарыны" – "Анамастыка і тапаніміка" У.В.Анічэнкі [*Анічэнка**]. У працы фіксуецца тапанімічны і антрапанімічны матэрыял, этнонімы і ад'ектонімы, устаноўлена частата іх ужывання ў творах Ф.Скарыны. Акрамя лінгвістычных звестак, да онімаў падаецца і гістарычны матэрыял – інфармацыя пра вядомых людзей, якім належала тое ці іншае імя.

Слоўнік “Аршанская шляхта” З.Дзядзенкі [*Дзядзенка**] змяшчае звесткі пра даўнія беларускія шляхецкія роды, а таксама пра землеўладальнікаў Аршанскага павета XIX ст.. Паколькі т. зв. “шляхетная годнасць” традыцыйна перадавалася па мужчынскай лініі, то ў працы зафіксаваны толькі найменні мужчын – прадстаўнікоў шляхецкіх родаў. Адзначана варыянтнасць прозвішчаў, падаецца інфармацыя пра людзей, імёны якіх вынесены ў рэестр, пра род і герб, да якога належала названая асоба, месцазнаходжанне родавага маёнтка і інш. Звесткі аб прадстаўніках шляхты Аршаншчыны ўзяты З.Дзядзенкам з гербоўнікаў Расійскай імперыі, гісторыка-юрыдычных актаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў і інш.

Апісанню онімаў у мове асобнага аўтара прысвечана праца Ю.А.Гурскай “Словарь имен собственных в поэзии М.Богдановича” [*Гурская**]. У слоўніку прадстаўлены ўсе асабовыя імёны, якія сустракаюцца ў паэзіі М.Багдановіча па наступных тэматычных групах: апорныя імёны асоб, што характарызуюць ідэастыль паэта, апорныя імёны-сімвалы, біблейскія імёны, імёны-персаналіі, імёны герояў, антрапонімы, тапонімы, мікратапонімы, гідронімы, неасабовыя ўласныя назвы. У названым выданні тлумачыцца паходжанне 200 асабовых імён, падаюцца гістарычныя звесткі адносна геаграфічных аб’ектаў, назвы якіх ужыты ў паэзіі М.Багдановіча, указваецца, дзе ў творах адзначаны той ці іншы онім.

Праца А.Чыжа “Беларускі іменьнік” змяшчае 347 мужчынскіх і 189 жаночых формаў уласных імён, большасць з якіх у наш час знікла з актыўнага ўжытку і захавалася толькі ў складзе іншых онімаў (назвах паселішчаў, водных аб’ектаў) [*Чыж**]. Аўтар зрабіў спробу рэканструяваць некаторыя страчаныя формы ўласных імён, а да пэўных афіцыйных варыянтаў прапанаваў формы, на яго думку, больш характэрныя для беларусаў. У слоўніку прыводзяцца этымалагічныя звесткі пра некаторыя онімы, а таксама расказваецца пра вядомых гістарычных асоб Беларусі. Крыніцамі матэрыялу паслужылі сучасныя беларускія анамастычныя працы і “Полное собрание русских летописей” (том 35).

Тапанімічны матэрыял па Капыльскім раёне, адабраны са спісаў населеных пунктаў, гістарычных дакументаў, летапісаў, архіўных матэрыялаў, геаграфічных картаў і інш., змешчаны ў слоўніку

Ф.К.Абрамчыка “І гэта ўсё мой край” [*Абрамчык**]. У выданні зафіксавана 213 камонімаў, да якіх падаецца этымалагічная характарыстыка, звесткі пра геаграфічныя аб’екты, названыя рэестравымі словамі.

У 2000 г. надрукаваны “Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны” В.І.Рагаўцова і С.Я.Кечык [*АСМ**], у якім пададзены анамастычны матэрыял з розных раёнаў Магілёўскай вобласці, сабраны на працягу 1980 – 2000 гг. Першая частка выдання змяшчае мікратапонімы (больш за 4000), другая – неафіцыйныя назвы людзей, т. зв. імёны-мянушкі (каля 2000). Слоўнік значна дапаўняе ранейшыя публікацыі па мікратапаніміі Магілёўшчыны І.М.Гайдукевіча, Ф.Д.Клімчука, В.П.Лемцюговай, Г.Ф.Юрчанкі, І.Я.Яшкіна і інш. Да мікратапонімаў і імён-мянушак аўтары падаюць матывацыйную інфармацыю.

Укладзены У.А.Сарокам “Слоўнік асабовых уласных імён” [*Сарока**] уключае пашыраныя ў Беларусі праваслаўныя і каталіцкія імёны грэчаскага, лацінскага, старажытнаяўрэйскага, агульнаславянскага, старажытнарускага, германскага і скандынаўскага паходжання. У выданні зафіксаваны рэдкія імёны індывідуальнага ўтварэння, якія ўзніклі ў савецкую эпоху (тыпу *Трактарына*, *Рэвалюцыя*, *Барзамір* і інш.), значная колькасць імён беларускіх яўрэяў і татараў, якія з даўніх часоў жывуць на тэрыторыі Беларусі. Слоўнік складаецца з беларуска-рускай і руска-беларускай частак і змяшчае больш за 2780 імён і іх бытавых варыянтаў. Асноўнымі крыніцамі матэрыялу паслужылі працы М.В.Бірылы, А.К.Усціновіч, М.Р.Судніка, С.М.Грабчыкава і іншых.

У “Слоўніку тапонімаў і адтапанімных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак” З.М.Заікі [*Заіка**] сістэматызаваны і апісаны катайконімы і ад’ектонімы некаторых заходнепалескіх гаворак. Выданне ўключае 704 слоўнікавыя артыкулы, у якіх да камонімаў прыведзены розныя варыянты катайконімаў: назвы жыхароў мужчынскага полу, жаночага, іх агульныя найменні (у тым ліку і прыназоўнікавыя канструкцыі тыпу *з Абрамава*, *з Застаўя* і інш.).

З перакладной і даведачнай частак складаецца двумоўны “Слоўнік-даведнік асабовых імён” А.А.Станкевіч, Н.І.Фраловай [*СДАІ**]. У перакладной частцы падаюцца руска-беларускі і беларуска-рускі спісы нарматыўных форм жаночых і мужчынскіх імён

(у асобных раздзелах). Пералік мужчынскіх імён суправаджаецца ўказаннем формы імя па бацьку. У даведачнай частцы выдання змяшчаюцца звесткі пра асаблівасці скланення і ўтварэння некаторых асабовых імён, імён па бацьку і прозвішчаў, разглядаецца іх паходжанне, указваюцца звесткі з царкоўнага календара пра імёны ў святцах.

Слоўнік "Беларускія імёны", укладзены С.Барысам [*Барыс-01**], сістэматызуе, па словах аўтара, найбольш ужывальныя беларускія формы імён, распаўсюджаныя ў хрысціянскім свеце. На наш погляд, асабовыя імёны, тыпу *Свідрыгайла*, *Сахон*, *Савасцей*, *Цыпрыян*, *Рысь* і большасць іншых, змешчаных у слоўніку, не выкарыстоўваюцца ў Беларусі. Істотным метадалагічным недахопам выдання з'яўляецца і тое, што бытавыя формы аднаго антрапоніма падаюцца аўтарам у розных слоўнікавых артыкулах.

Пазней С.Барыс перапрацаваў, значна пашырыў і перавыдаў сваю працу пад назвай "Як у нас клічуць?: беларускія імёны" [*Барыс-10**]. Названы слоўнік складаецца з дзвюх частак: "Беларускія імёны" і "Асабовыя імёны". Першая ўключае пералік беларускіх антрапонімаў без дадатковых тлумачэнняў. У другой частцы зафіксаваны найменні, да якіх падаюцца этымалагічныя звесткі, вытворныя найменні (размоўныя формы онімаў і імёны па бацьку), дні імянін згодна з праваслаўным і каталіцкім календарамі.

У шосты том "Слоўніка мовы Янкі Купалы" ўваходзіць "Анамастыка" [*СМК**], дзе змешчаны ўсе віды онімаў, што сустракаюцца ў творах Янкі Купалы (антрапонімы, гідронімы, тапонімы, уласныя неасабовыя назвы і інш.). У выданні адзначана прадуктыўнасць онімаў у творах, вызначаны іх семантычны аб'ём, падаюцца ілюстрацыі ўжывання лексем і раскрыты іх функцыі ў мове Янкі Купалы. Пры апісанні імён рэальных асоб аўтары змясцілі гістарычныя звесткі пра гэтых людзей. У слоўнікавых артыкулах, дзе загаловачным словам з'яўляецца найменне нерэальнай асобы, падаецца характарыстыка героя твора.

У слоўніку "Айканімія Гомельшчыны" Н.А.Багамольнікавай і А.А.Станкевіч прадстаўлены назвы ўсіх населеных пунктаў, ад'ектонімы і катайконімы Гомельскай вобласці [*АГ**]. Пры падборы онімнага матэрыялу аўтарамі слоўніка ўлічаны такія

экстралінгвістычныя фактары, як змяненні ў онімным пласце лексікі з-за наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Асноўнае адрозненне падрыхтаванага слоўніка ад выдадзенага ў 1986 г. Я.Н.Рапановічам "Слоўніка назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці" ў тым, што аўтарамі дыферэнцаваны сучасныя і архаічныя тапонімы, уведзена значная колькасць новых намінацый, якія ўзніклі на працягу апошняга дзесяцігоддзя, адзначаны назвы выселеных вёсак, зроблена спроба комплекснай падачы тапанімічнай лексікі [*Станкевіч*, с. 218]. Крыніцай фактычнага матэрыялу паслужылі дадзеныя паказальніка адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Гомельскай вобласці, спісы выбарчых акруг, матэрыялы серыі кніг "Памяць" і інш.

Структурным падабенствам да "Айканіміі Гомельшчыны" характарызуецца праца У.М.Генкіна "Слоўнік адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны" [*Генкін**]. У выданні зафіксаваны айконімы, ад'ектонімы і катайконімы, якія ўжываюцца ў вусным маўленні на даследаванай тэрыторыі, а таксама замацаваліся ў публіцыстыцы і справаводстве; размежаваны стылістычныя варыянты онімаў, вызначана іх нарматыўнае напісанне.

У даведніку "Имя внутригородского объекта в истории: об урбанонимах Беларуси XIV – начала XX в." Г.М.Мезенка [*Мезенко**] абагульнены назвы ўнутрыгарадскіх аб'ектаў (гадонімаў, харонімаў, агаронімаў, эклезіонімаў і айкадамонімаў), якія існавалі на Беларусі з XIV ст., а таксама даследавана іх этымалогія. Кніга з'яўляецца першай спробай уніфікацыі ўрбанонімаў у нацыянальнай лексікаграфіі. Крыніцамі матэрыялу для выдання паслужылі матэрыялы Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў, Нацыянальнага гістарычнага архіва РБ, актавыя матэрыялы, картаграфічныя дадзеныя і інш.

Са з'яўленнем працы "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць" [*ННП-03**] пачынаецца публікацыя серыі слоўнікаў пад рэд. В.П.Лемцюговай, якія, на думку аўтараў, павінны будуць змяніць аналагічныя па змесце працы Я.Н.Рапановіча. Даведнік з'яўляецца нарматыўным, у ім кадыфікуюцца нацыянальныя формы беларускіх тапанімічных назваў, выпраўлены памылкі і скажэнні, што былі адзначаны ў ранейшых выданнях. Захавана пераемнасць агульных прынцыпаў унармавання беларускай айканіміі, рэалізаваных у выданні Я.Н.Рапановіча, аднак кніга "цалкам можа

разглядацца як даведнік новага пакалення” [*Лемцюгова, 2004а*, с. 16]. У слоўніку сабраны ўсе наяўныя па стане на 2003 г. назвы населеных пунктаў Мінскай вобласці, а таксама прыводзяцца спісы назваў, якія зараз па розных прычынах не ўжываюцца ў мове. Наступныя выданні па Гродзенскай [*ННП-04**], Гомельскай [*ННП-06**], Магілёўскай [*ННП-07**], Віцебскай [*ННП-09**] і Брэсцкай [*ННП-10**] абласцях укладзены ў адпаведнасці з тымі ж падыходамі, што і даведнік па Мінскай вобласці.

У 2004 г. надрукаваны “Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны” С.В.Клімуць, В.І.Рагаўцова, С.У.Шакуры, А.М.Шубадзёравай [*СММ**]. У выданні апісаны каля 6000 мікратапонімаў, сабраных на працягу 1980 – 1990 гг. у розных раёнах Магілёўскай вобласці. Да некаторых найменняў падаюцца матывацыйныя звесткі.

Значная колькасць тапонімаў і мікратапонімаў Магілёўшчыны змешчана ў тапанімічным раздзеле выдання І.М.Шарухі “Геаграфічна-статыстычны слоўнік: Клімавіцкі раён” [*ГСС**]. У кнізе даецца апісанне раёна Магілёўскай вобласці, прыводзяцца апісанні 1580 геаграфічных аб’ектаў раёна. Большую частку рэестра слоўніка складаюць мікратапонімы.

У гэтым жа годзе пачалося выданне энцыклапедыі “Гарады і вёскі Беларусі” [*ГВБ**]. На сёння з друку выйшлі 8 тамоў энцыклапедыі, у якіх на падставе новых архіўных і бібліяграфічных крыніц адлюстроўваецца гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага з раёнаў, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць.

У кнізе “Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці” З.У.Шведавай змешчаны “Слоўнік адтапонімных дэрыватаў”, што ўяўляе сабой поўны рэестр ад’ектонімаў і катайконімаў, якія падаюцца да назваў населеных пунктаў, рэк, азёр і інш. і былі выяўлены ўкладальнікам у “Актах, издаваемых Виленскою археографическою комиссией” [*Шведава**]. Праца змяшчае 710 слоўнікавых артыкулаў і з’яўляецца першай спробай лексікаграфічнай апрацоўкі адтапонімных дэрыватаў, зафіксаваных у старабеларускіх пісьмовых помніках.

Супрацоўнікамі навукова-даследчай лабараторыі “Вывучэнне народнай мовы Гродзеншчыны” быў падрыхтаваны “Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны” [*АСГ**]. Першая частка праекта (“Мікратапонімы”) змяшчае каля 10500 мікратапонімаў, сабраных выкладчыкамі і студэнтамі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Названы слоўнік дапаўняе папярэднія публікацыі па мікратапаніміцы Гродзенскай вобласці Г.У.Арашонкавай, А.І.Грынавецкене, Ю.Ф.Мацкевіч, Т.Ф.Сцяшковіч, А.К.Усціновіч, А.П.Цыхуна і інш. Плануецца выданне другой часткі названай працы (“Антрапанімія”), што будзе змяшчаць прозвішчы насельнікаў Гродзеншчыны − у тым ліку і тыя, якія часткова ўжо былі апублікаваны ў “Слоўніку рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны” пад рэд. М.А.Даніловіча і П.У.Сцяцко.

Лінгвістычныя, гісторыка-краязнаўчыя, прыродна-геаграфічныя звесткі аб мікратапаніміі Мазыршчыны змяшчае дадатак да манаграфічнага даследавання Г.А.Івановай “Микротопонимия Мозырского Полесья” [*Иванова**]. Выданне ўключае 4405 мікратапонімаў, сабраных па спецыяльна распрацаванай праграме ў 132 населеных пунктах Гомельскай вобласці, а таксама найменні, што пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС выйшлі з ужытку ў сувязі са знікненнем геаграфічных аб’ектаў, якія яны называлі. Да мікратапонімаў пададзена разнастайная інфармацыя, шырока прадстаўлены аўтарскія каментарыі. Выданне адлюстроўвае сінанімію і аманімію мясцовых геаграфічных тэрмінаў, народныя метафары.

У 2008 г. апублікаваны дзве часткі працы Г.М.Мезенка, прысвечанай сістэматызацыі беларускіх урбанонімаў, – “Віцебшчына ў назвах вуліц” [*Мезенка**]. Названы слоўнік – першы поўны звод назваў унутрыгарадскіх аб’ектаў Віцебшчыны, ён уключае ўрбанонімы практычна ўсіх гарадоў, абласнога і раённага падпарадкавання, гарадскіх пасёлкаў і большасці вёсак, у якіх ёсць назвы лінейных і тэрытарыяльных аб’ектаў. Да кожнага раёна прыводзяцца звесткі пра яго гісторыка-культурную спадчыну: вядомых асоб, якія нарадзіліся або некаторы час пражывалі ў названым раёне, знойдзеныя тут помнікі беларускага пісьменства і інш. Выданне складаецца з трох раздзелаў: зводу ўнутрыгарадскіх і ўнутрысельскіх назваў, этымалагічнага даведніка і скразнога рэгістра

ўрбанонімаў і віконімаў. Праца ўключае асобную рубрыку "Урбаніміконы папярэдніх сінхронных зрэзаў", дзе змешчаны ўнутрыгарадскія найменні Віцебшчыны мінулых часоў, т. зв. "страчаныя назвы", указваюцца факты перайменавання [*Палашкевіч, 2009а*].

Каля 3000 навукова-папулярных нарысаў пра паходжанне беларускіх айконімаў, гідронімаў, мікратапонімаў, антрапонімаў змяшчае выданне В.П.Лемцюговай "Тапонімы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды" [*Лемцюгова**]. У працы ў лексікаграфічнай форме выяўляецца сэнс матывавальных асноў тапонімаў на стадыі іх станаўлення, паказана сувязь нацыянальнага тапаніміконa з гістарычным мінулым Беларусі. Слоўнік пабудаваны на базе шэрагу лінгвістычных, геаграфічных, гістарычных, энцыклапедычных і інш. крыніц (звыш 70 адзінак), асноўнымі з якіх сталі даведнікі "Назвы населеных пунктаў" пад рэдакцыяй В.П.Лемцюговай, "Слоўнік назваў населеных пунктаў" Я.Н.Рапановіча, т. зв. "спісы населеных мест" пачатку XX ст. па розных губернях.

У 2008 г. у "Запісах БІНІМ" быў апублікаваны "Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў" А.Гардзіенкі, Н.Гардзіенкі, Л.Юрэвіча [*СПК**], які значна дапаўняе новымі імёнамі першы варыянт слоўніка, змешчаны ў газеце "Беларус" (№ 408, 2003). Даведнік пабудаваны па тых жа прынцыпах, што і "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.)" Я.Саламевіча. У працы прыведзены псеўданімы і крыптанімы і раскрыты імёны асоб, якім яны належалі.

Кніга А.Ф.Рогалева "Историческая антропонимия Гомеля и окрестностей" [*Рогалев-09**] складаецца з двух раздзелаў, дзе зафіксавана антрапанімічная лексіка Гомельшчыны XVII – XVIII стст. Першы –"Этимологический словарь фамильных прозваний крестьян-дворовладельцев Гомеля XVII века" – змяшчае прозвішчы, што былі зафіксаваны ў "Инвентаре староства Гомельского…" 1681 г., надрукаванага А.М.Макушнікавым у кнізе "Гомель с древних времен до конца XVIII века". Да рэестравых слоў пададзены этымалагічныя каментарыі аўтара. У другім раздзеле ("Этимологический словарь фамилий жителей Гомеля и окрестных

населенных пунктов XVIII века”) зафіксаваны прозвішчы, узятыя з гісторыка-дакументальнай хронікі “Памяць”. Аўтар вызначае паходжанне і склад онімаў (запазычаныя найменні, патранімічныя і інш.) і семантыку матывавальнай асновы.

Паходжанне і значэнне ўласных імён беларусаў (праваслаўных і католікаў) апісваецца ў “Слоўніку беларускіх імён” І.Я.Яшкіна [*Яшкін**]. Да гэтага інтэрпрэтацыяй беларускіх уласных імён з улікам канфесійнай прыналежнасці іх носьбітаў займаліся толькі М.В.Бірыла і А.К.Усціновіч [*Бірыла-66, Усціновіч-75**]. У выданні І.Я.Яшкіна пяць частак (“Імёны, іх паходжанні і значэнні ў беларускіх праваслаўных”, “Імёны, іх паходжанні і значэнні ў беларускіх католікаў”, “Імёны па бацьку ў праваслаўных”, “Імёны па маці ў праваслаўных”, “Імёны па бацьку ў беларускіх католікаў”), у якіх аўтар апісвае розныя тыпы антрапонімаў, указвае паходжанне і значэнне ўласных імён праваслаўных і католікаў. Крыніцамі матэрыялу паслужылі старажытныя лексікаграфічныя помнікі і сучасныя анамастычныя слоўнікі. Выданне І.Я.Яшкіна ўключае значную колькасць арыгінальнага антрапанімічнага матэрыялу, а таксама шмат інфармацыі нелінгвістычнага характару [*Палашкевіч, 2010е*].

Найважнейшай задачай “Слоўніка асабовых уласных імён” А.К.Усціновіч [*Усціновіч-11**] з’яўляецца поўнае адлюстраванне мужчынскіх і жаночых імён, якія засведчаны ў Беларусі. Аўтар фіксуе афіцыйныя формы асабовых імён, імёны па бацьку, вытворныя формы онімаў і пашыраныя на тэрыторыі Беларусі адыменныя прозвішчы, а таксама агульнамоўныя формы найменняў у сучасных еўрапейскіх мовах, дні імянін на падставе традыцыйных календароў, звесткі пра паходжанне імён і іх першапачатковыя значэнні.

У названы перыяд лексікаграфічная праца ў галіне беларускай тапанімікі разгортваецца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Так, на кафедры рускай мовы Запарожскага дзяржаўнага ўніверсітэта складзены і выдадзены арыгінальны слоўнік У.А.Гарпініча “Оттопонимические производные в белорусском языке”, у якім зафіксавана 7100 камонімаў з усіх абласцей Беларусі [*Горпинич**]. Да кожнага наймення прыведзены ад’ектонімы і катайконімы, дыферэнцыраваны асноўная форма і варыянтныя найменні. Тапонімы, ад якіх назвы жыхароў не ўтвараюцца або ўтвараюцца катайконімы-

прыметнікі, у выданне не ўключаны [*Гарпініч**, с. 16]. Праца У.А.Гарпініча ў многім садзейнічала ўнармаванню словаўтварэння і выкарыстання ад’ектонімаў, катайконімаў, а таксама актывізавала цікавасць лексікографаў да вытворнай адтапанімічнай лексікі.

Даследаваннем анамастыкі паўночна-ўсходняй Польшчы займаецца М.Кандрацюк, які ў манаграфіі “Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны”, апісаў 1700 айконімаў Беласточчыны у семантычным, марфалагічным і этымалагічным аспектах. У кнізе “Балтыйскія элементы ў тапаніміі і мікратапаніміі Беластоцкага рэгіёна” польскі навуковец апісаў больш за 23000 сучасных геаграфічных назваў, а таксама тапонімы, зафіксаваныя ў гістарычных крыніцах.

**2.3.2** У другой палове XX – пачатку XXI ст. у беларускай лексікаграфіі назіраецца тэндэнцыя да ўключэння тапанімічных і антрапанімічных дадаткаў у неанамастычныя слоўнікі.

Да такіх пашыраных даведнікаў адносяцца: а) *перакладныя слоўнікі*: “Словарь белорусско-русский, русско-белорусский” і “Беларуска-рускі слоўнік” С.М.Грабчыкава, “Русско-белорусский словарь” З.І.Бадзевіч, Г.І.Басавай, В.М.Ляшук, “Польска-беларускі слоўнік” Я.В.Волкавай і В.Л.Авілавай і інш., у якіх фіксуецца пераклад антрапонімаў на адпаведныя мовы, а да мужчынскіх імён часам указаны імёны па бацьку; б) *арталагічныя слоўнікі*: “Арфаграфічны слоўнік” М.П.Лобана і М.Р.Судніка [*Лобан**], “Арфаграфічны слоўнік” Н.С.Лявер [*Лявер**], “Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы” Б.А.Плотнікава і В.П.Трайкоўскай [*СЦБМ**], “Слоўнік сучаснай беларускай мовы” У.М.Завальнюка, М.Р.Прыгодзіча, В.К.Раманцэвіч [*ССБМ**], “Вялікі слоўнік беларускай мовы” Ф.А.Піскунова [*Піскуноў**] і інш.; в) *дыялектныя слоўнікі*: “Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны” А.І.Багдзевіча, І.І.Бубновіч, С.А.Богуша [*СРЛГ**]; г) *устарэлай лексікі*: “Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў” С.М.Струкавай [*Струкава**] і інш.

Акрамя пералічаных лексікаграфічных выданняў, анамастычныя слоўнікі і анамастыконы многімі аўтарамі інкарпараваліся ў выглядзе дадаткаў у кандыдацкія дысертацыйныя даследаванні.

Анамастычны дадатак (“Слоўнік анамастычных назваў”) мае дысертацыйнае даследаванне А.С.Дзядовай [*Дзядова*]. Інкарпараваныя слоўнікі і спісы беларускіх антрапонімаў утрымліваюць дысертацыйныя работы Т.М.Шчур [*Щур*], К.А.Барысевіч (“Перадача беларускіх антрапонімаў сродкамі англійскага і нацыянальнага варыянтаў лацінскага алфавіта (на прыкладзе прозвішчаў, матываваных лексемай *каваль*)”, “Перадача англійскіх прозвішчаў па-беларуску”) [*Барысевіч*], А.І.Галаўні (“Список имен собственных (фамилии и имена), совпадающих с именами нарицательными”) [*Головня*] і інш.

Слоўнікі тапонімаў падаюцца ў работах А.А.Валасенка (“Вытворча-прамысловыя тапонімы Беларусі (якія былі перайменаваны ў савецкі час ці зніклі)”) [*Валасенка*], І.Л.Капылова (“Слоўнік-тапанімікон старабеларускіх помнікаў дзелавой пісьменнасці 15 – 18 ст.”) [143], Н.Р.Смаль (“Алфавітны слоўнік гідронімаў”, “Алфавітны слоўнік айконімаў”) [*Смаль*], Н.А.Багамольнікавай (“Слоўнік гідронімаў басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны” [*Багамольнікава, 1997*] і “Спіс найбольш прадуктыўных назваў гідронімаў басейна ракі Прыпяць”), С.А.Янушкевіча (“Слоўнік назваў населеных пунктаў”) [*Янушкевіч*], А.І.Копача (“Гелонимы Беларуси”, “Гелонимы США”) [*Копач*]. Слоўнікі адтапонімных дэрыватаў уваходзяць у работы У.М.Генкіна (“Словарь оттопонимных дериватов Витебщины”) [*Генкин, 1999*] і З.У.Шведавай (“Слоўнік адтапонімных дэрыватаў”) [*Шведава*] і інш.

Алфавітна ўпарадкаваныя спісы тапонімаў утрымліваюць разнастайныя “Пералікі”, напрыклад: “Перечень сельских населенных пунктов, расположенных на территории Витебской области по состоянию на 1 апреля 1996 г.” (1996), “Перечень сельских населенных пунктов, расположенных на територии Витебской области” (2001) і інш., дзе падаецца інфармацыя пра напісанне назваў населеных пунктаў, а таксама звесткі экстралінгвістычнага характару (колькасць насельніцтва, дадзеныя пра адміністрацыйныя пераўтварэнні і пад.).

# РАЗДЗЕЛ III
# СТРУКТУРНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ АНАМАСТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАЎ

У сувязі з пастаянным развіццём метатэорыі лексікаграфіі і павелічэннем колькасці адпаведных выданняў актыўна ўдасканальваюцца прынцыпы ўкладання тапанімічных і антрапанімічных слоўнікаў, а таксама спосабы фіксацыі і інтэрпрэтацыі онімаў. Вынікам названых працэсаў з’яўляецца пашырэнне тыпалагічнай разнастайнасці анамастычных выданняў і ўзнікненне істотных адрозненняў паміж слоўнікамі на ўзроўнях іх мега-, макра- і мікраструктуры.

## 3.1 Мега- і макраструктура анамастычных слоўнікаў

**3.1.1** ***Мегаструктура***, або рамачная структура слоўніка, – узаемаразмяшчэнне асобных частак лексікаграфічнага выдання [*Берков*, с. 15].

У беларускай анамастыцы адрозніваюць два тыпы слоўнікаў: выданні, якія змяшчаюць онімны матэрыял непасрэдна ў слоўнікавым корпусе [*АСТК**, *Бірыла-66**, *БРС**, *МБ**, *Мезенко**, *Рапановіч**, *СДАІ**, *СМК**, *Stekert** і інш.], і тыя, што ўключаюць яго ў якасці дадатка [*ГСС**, *Лобан**, *Серада**, *СЛФ**, *ТС**, *Цыхун**, *Шур-98** і інш.].

Па словах В.У.Буторавай, тыповай можна лічыць мегаструктуру слоўніка, якая ўключае ўводную частку (папярэдні тэкст), асноўную частку, або *корпус*, г.зн. упарадкаваныя слоўнікавыя артыкулы, якія ўяўляюць сабой сукупнасць адзінак апісання з адпаведнымі стандартызаванымі характарыстыкамі, і дадаткі (заключны тэкст) [*Буторова*].

У *папярэдні тэкст* анамастычных слоўнікаў традыцыйна ўваходзіць аўтарская прадмова [*Абрамчык**, *ГВБ**, *Жучкевич**, *Лемцюгова**, *Саламевіч**, *СДАІ**, *Чыж** і інш.], спарадычна – прадмова рэдактара [*Веселовский**, *ННП**, *КСРВ**, *Суднік**, *Тупиковъ**

і інш.]. У аўтарскую прадмову звычайна ўключаюцца правілы карыстання слоўнікам і апісанне мікраструктуры выдання. Часам у папярэдні тэкст тапанімічных слоўнікаў уводзіцца кароткі нарыс абследаванай тэрыторыі [*Иванова**, *ННП**], а ў выданні энцыклапедычнага тыпу – агульная характарыстыка апісаных аб'ектаў [*БСБ**, *ВБ**, *ГГПБ**, *РАВБ** і інш.]. Акрамя таго, уводная частка як правіла ўключае пералік прынятых скарачэнняў (сістэму памет) [*АСГ**, *Генкін**, *Трусманъ**, *Усціновіч-11**, *KLR** і інш.], а ў асобных выпадках – спісы вузкаспецыяльных тэрмінаў, што выкарыстоўваюцца ў слоўніку [*Лемцюгова**, *Мезенко**]. Разам з тым, у шэрагу лексікаграфічных выданняў папярэдні тэкст адсутнічае [*Горпинич**, *СМК**, *СММ**].

*Слоўнікавы корпус* беларускіх лексікаграфічных выданняў па анамастыцы можа складацца з адной ці некалькіх частак. Дзве часткі ўключаюць перакладныя слоўнікі [*Сарока**, *СДАІ**, *Суднік**]. Нярэдка ўкладальнікі змяшчаюць у корпусе асобнымі раздзеламі розныя тыпы онімаў. Так, корпус "Анамастычнага слоўніка Магілёўшчыны" В.І.Рагаўцова і С.Я.Кечык фарміруецца двума асобнымі раздзеламі, у якіх апісваюцца мікратапонімы і мянушкі. У антрапанімічных слоўніках асобна падаюцца мужчынскія і жаночыя асабовыя імёны, прозвішчы [*Барыс-10**, *СДАІ**, *Чыж** і інш.]. Як адзначалася (гл. раздзел II), 4 том працы М.Федароўскага "Lud białoruski na Rusi Litewskiej" складаецца з чатырох глаў, кожная з якіх прысвечана апісанню пэўнай групы онімаў ("Przezwiska, przydomki, imiona, "mianushki", "Imiona najpospolitsze", "Nazwiska rodowe chłopskie", "Przezwiska zwierząt, rzeczy i djabła") [*Federowski**]. У працы І.Я.Яшкіна "Слоўнік беларускіх імёнаў" у асобных раздзелах падаюцца імёны праваслаўных і католікаў, імёны па бацьку ў праваслаўных, імёны па бацьку ў католікаў, імёны па маці ў праваслаўных [*Яшкін-09**]. Чатырнаццаць раздзелаў мае "Словарь имен собственных в поэзии М.Богдановича" Ю.А.Гурскай: "Опорные (ключевые) имена собственные, характеризующие идиостиль М.Богдановича", "Топонимы, характеризующие идиостиль М.Богдановича", "Имена-персоналии в поэзии М.Богдановича", "Мифонимы" [*Гурская**] і інш.

*Заключны тэкст* тапанімічнага слоўніка, як правіла, складаецца з паказальніка назваў [*Жучкевич**, *Иванова**, *КСРВ**, *Нерознак**, *ННП**, *Рапановіч** і інш.], спіса выкарыстаных крыніц [*Барыс-10**, *Лемцюгова**, *Рогалев-03**, *Рогалев-04** і інш.] ці рэкамендуемай літаратуры па тэме даследавання [*Сарока**, *Суднік**, *Усціновіч-11**]. Часам у дадатак аўтары змяшчаюць іншыя структурныя кампаненты: заключнае слова [*Бірыла-66**, *Мезенко**], карты абследаванай мясцовасці [*Иванова**, *Спрогисъ**] ці пашырэння онімаў [*Жучкевич**], адваротны слоўнік тапонімаў [*МБ**], некаторыя правілы скланення онімаў [*СДАІ**] і інш. У антрапанімічных слоўніках заключныя аўтарскія часткі, як і паказальнікі назваў, звычайна не падаюцца.

Спецыфічнай мегаструктурай вызначаюцца працы М.В.Бірылы [*Бірыла-66**, *Бірыла-69**, *ЛЭБА**] і А.К.Усціновіч [*Усціновіч-75**]; тут падборкі антрапонімаў уключаюцца ў манаграфічны тэкст у якасці пашыраных ілюстрацый.

**3.1.2** ***Макраструктурай*** слоўніка з'яўляецца парадак размяшчэння лем у лексікаграфічным выданні. Існуюць два тыпы арганізацыі макраструктуры: алфавітны і алфавітна-тэматычны (алфавітна-гнездавы). Пры *алфавітным* тыпе макраструктуры лемы ў слоўніку знаходзяцца строга ў алфавітным парадку. Адхіленні ад такога спосабу падачы значна ўскладняюць працу карыстальніка выданнем. Пры *алфавітна-тэматычнай* макраструктуры рэестравыя словы групуюцца па семантычных асаблівасцях.

У анамастычнай лексікаграфіі прыняты ў асноўным алфавітны парадак размяшчэння лем у рэестры. Пашыранасць такога тыпу макраструктуры абумоўлена лексічна-семантычнымі ўласцівасцямі саміх тапонімаў і антрапонімаў.

Нестандартнай макраструктурай вызначаюцца некаторыя лексікаграфічныя выданні XIX ст., у якіх онімы групаваліся часам на аснове фанетычнага падабенства [*Спрогисъ**, *Тупиковъ**].

Арыгінальнай з'яўляецца макраструктура "Краткого топонимического словаря Белоруссии" В.А.Жучкевіча, дзе лемы аб'ядноўваюцца паводле агульнасці паходжання:

**ПЕ́ЛИЩЕ** (Пе́лішча) – с. Каменецкого р-на… **Пеляка́** (Пеляка́) – с. Поставского р-на; **Пе́лики** (Пе́лікі) – с. Шарковщинского

р-на; **Пелеса́** (Пялеса́) – с. Вороновского р-на. В основе названий – балтийский термин со смысловым значением “болото, торфянник” [*Жучкевич**, с. 284];

**КУ́ДИН** (Ку́дзін) – с. Белыничского р-на; **Ку́дины** (Ку́дзіны) – с. Городокского р-на; **Ку́диновичи** (Ку́дзінавічы, вар. Кудзіно́вічы) – с. Копыльского р-на. Названия, производные от фамилий Кудин, Кудинович той же основы, что и в названии Кудейши [*Жучкевич**, с. 187].

Нетыповая таксама макраструктура працы М.В.Бірылы “Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі”. У слоўнікавым артыкуле рэестравым словам з’яўляецца словаўтваральная аснова (апелятыў), а да яе падаюцца онімы-дэрываты:

АБЛАМ ‘футра, шкурка з ворсам’ (Нас.). – Абла́м, Абла́маў, Абла́менка, Абламе́йка СРП. Абла́мов [*Бірыла-69**, с. 15];

ПРУД рэг. ‘вадзяны млын’ (Нас.), рус. ‘запруда, плаціна’, ‘штучнае возера’, ‘вадзяны млын’ (Даль), укр. ‘хуткая плынь, быстрыня’ (Грынч.). – *Прудаў*. СРП *Прудков*, *Прудовский*, *Пруденский* [*Бірыла-69**, с. 333].

Такім чынам, мегаструктура беларускіх лексікаграфічных выданняў па анамастыцы адпавядае традыцыйнай мегаструктуры ўсходнеславянскіх слоўнікаў і звычайна складаецца з папярэдняга тэксту, корпуса і заключнага тэксту.

Для макраструктуры сучасных анамастычных слоўнікаў характэрны ў асноўным алфавітны прынцып укладання. Алфавітна-тэматычны тып макраструктуры выкарыстоўваўся пераважна ў лексікаграфічных выданнях прапедэўтычнага перыяду.”

### 3.2 Мікраструктура анамастычных слоўнікаў

Пад ***мікраструктурай*** разумеюць будову і інвентар звестак, якія выкарыстоўваюцца ў пэўных слоўнікавых артыкулах, а таксама структуру слоўнікавага артыкула ўвогуле [*Берков*, с. 16].

Слоўнікавы артыкул з'яўляецца асноўнай кампазіцыйнай адзінкай любога лексікаграфічнага выдання і звычайна характарызуецца шэрагам універсальных рыс. Пытанням пабудовы слоўнікавых артыкулаў лінгвісты традыцыйна надаюць асаблівую ўвагу. Як адзначае А.Бальвег-Шрам, сур'ёзная навуковая праблема заключаецца ў складанні слоўнікавага артыкула такім чынам, каб адрасант / карыстальнік слоўніка мог хутка і без асаблівых цяжкасцей знайсці неабходную інфармацыю, без азнаямлення з усім артыкулам. Таму ў лексікаграфічных крыніцах аднаго і таго ж тыпу (ідэальныя ўмовы) або хаця б у межах аднаго выдання (абавязковае патрабаванне) словы-ідэнтыфікатары, логіка-сінтаксічныя асаблівасці дэфініцый, фармат граматычных памет, а таксама структура іншых інфармацыйных зон слоўнікавага артыкула, не павінны вар'іравацца [*Бальвег-Шрамм*].

Так, П.М.Дзянісаў сцвярджае, што ўніверсальны артыкул універсальнага лексікаграфічнага выдання (незалежна ад яго тыпу) павінен уключаць наступныя кампазіцыйныя элементы:

1) загаловачнае слова;

2) фармальныя характарыстыкі (граматычныя, арфаэпічныя і інш.);

3) семантыку слова;

4) ілюстрацыі з тэкстаў (пісьмовага і вуснага маўлення);

5) указанне на месца слова ў лексічнай сістэме мовы;

6) адсылкі рознага характару і прызначэння [*Денисов, 1974*; *Денисов, 1976*; *Денисов, 1993*].

Аднак, на наш погляд, пры першапачатковым фарміраванні структуры слоўнікавага артыкула ўключэнне / неўключэнне ў яго пэўных кампанентаў (зон) абумоўлена галоўным чынам менавіта спецыфікай таго моўнага матэрыялу, які вызначае тып слоўніка.

У сучаснай лексікаграфіі для выданняў большасці тыпаў у выніку разнастайных мадыфікацый экперыментальна сфарміравана і тэарэтычна абгрунтавана прыкладная структура т. зв. "ідэальнага" слоўнікавага артыкула – стандартная мадэль, якая найбольш поўна адлюстроўвае асаблівасці кадыфікаваных намінацый. Аднак, лексікаграфічная практыка паказвае, што ў залежнасці ад пастаўленай мэты кожны аўтар удакладняе, дапаўняе мікраструктуру свайго

выдання, у выніку чаго “ідэальная” мадэль папаўняецца новымі кампанентамі або, наадварот, скарачаецца.

На нашу думку, “ідэальны” слоўнікавы артыкул у лексікаграфічных анамастычных выданнях павінен уключаць шэраг абавязковых зон (кампанентаў), асноўнымі з якіх з’яўляюцца: зона намінацыі, зона варыянтаў, зона граматычных памет, зона ідэнтыфікацыі, зона экстралінгвістычнай інфармацыі. Акрамя таго, часта ў мікраструктуру анамастычных выданняў уключаюцца факультатыўныя (неабавязковыя) зоны: зона дэрыватаў і зона ілюстрацый.

### 3.2.1 Зона намінацыі. Тыпалогія лем

Апорным канструктам слоўнікавага артыкула ў лексікаграфічных крыніцах любога тыпу з’яўляецца лема (рэестравае слова, вакабула, загаловачнае слова). Лема ўваходзіць у зону намінацыі (ЗН), яна звычайна выдзяляецца графічна (напаўтлусты шрыфт, напісанне загаловачнымі літарамі, падкрэсліванне і інш.) і часта адасабляецца ад астатняй інфармацыі слоўнікавага артыкула кропкай ці працяжнікам. У леме, як правіла, пазначаецца націск [*Анічэнка**, *БРС**, *Генкін**, *Грабчиков**, *Жучкевич**, *Заіка**, *Иванова**,*Чыж** і інш.]:

МУРАВА́НКА ж., -кі, -нцы… [*Рапановіч-83**, с. 121];
РАДОГОЩА́НИН Яков… [*Бірыла-66**, с. 250].

Адметнасцю падачы лем у тапанімічных (як і ў дыялектных) слоўніках з’яўляецца ўключэнне ў рэестр або літаратурнай формы тапоніма: лес *Ласёўка* [*СММ**, с. 119], в. *Стары́ Све́ржань*[*ННП-03**, с. 465], в. *Харытонаўка* [*Абрамчык**, с. 21], або дыялектных (размоўных, фанетычных) варыянтаў: паша *Вэлі́ка Бэрэзо́вська* [*ТС**, с. 382], лес *Запрудзі́ско* [*МБ**, с. 95], поле *Конэцпо́лье* [*ТС**, с. 370] і інш.

У некаторых сучасных беларускіх лексікаграфічных выданнях па тапаніміцы [*Генкін**, *Жучкевич**, *Мезенка**, *Рапановіч** і інш.] назіраецца тэндэнцыя да ўключэння ў слоўнікавыя артыкулы

дадаткова назвы на рускай мове ў беларускамоўным слоўніку і на беларускай – у рускамоўным. Адпаведнік з іншай мовы таксама ўваходзіць у зону намінацыі. Ён звычайна падаецца пасля граматычнай інфармацыі, што змяшчаецца да лемы, або непасрэдна пасля загаловачнага слова:

КНЯ́ЖАЯ МАГІ́ЛА ж., -жай -лы, -жай -ле **Кня́жья Моги́ла** Княжамагі́льскі… [*Рапановіч-81**, с. 135];
ЛЯ́ХОВКА (**Ля́хаўка**) – с. Борисовского, Дубровенского и Любанского р-нов… [*Жучкевич**, с. 218].

У нарматыўным даведніку “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь” у ЗН, акрамя беларускага і рускага варыянтаў лемы, уваходзіць і яе транслітарацыя літарамі лацінскага алфавіту [*ННП-07**, с. 311]:

| Тып пасе-лішча | Назва на беларускай мове | Род (лік) | Парадыгма скланення | Трансліта-рацыя на лацінку | Назва на рускай мове |
|---|---|---|---|---|---|
| в. | Старасёлы | мн. | -сёл і -сёлаў, -ламі, -лах | **Starasioly** | Старосё-лы |

У анамастычных слоўніках мовы пісьменнікаў у ЗН укладальнікі часта падаюць побач розныя варыянты найменняў адной і той жа рэаліі, якія сустракаюцца паралельна ў тэкстах пісьменніка:

СМАЛЕНШЧЫНА (IX 295), СМАЛЕНСКАЯ ЗЯМЛЯ (XII 273). Тэрытарыяльна не акрэсленая частка Смаленскай вобласці... [*АСТК**, с. 516];
СОЖ (2) *м.* і СОЖА *ж.* Рака, левы прыток Дняпра… [*СМК**, с. 206].

У выданнях дадзенага тыпу такія найменні нельга класіфікаваць як варыянты онімаў.

Пры складанні рэестраў тапанімічных слоўнікаў лексікографы, як правіла, сутыкаюцца з шэрагам цяжкасцей кваліфікатыўнага і

структурнага характару. Да асноўных кваліфікатыўных праблем адносіцца ўключэнне / неўключэнне ў ЗН геаграфічных тэрмінаў-ідэнтыфікатараў (*лес*, *поле*, *рака*, *сенажаць*). Дыскусійнымі пытаннямі, звязанымі са структурнымі асаблівасцямі рэестра слоўніка, з'яўляюцца: а) праблема прэзентацыі апісальных канструкцый (*Міма дома Яна Хайноўскага вуліца*, *У імя святога Антонія манастыр*); б) паслядоўнасць размяшчэння аб'ектнай і атрыбутыўнай частак лем (вёскі *Дзедаў Курган, Камяніца Горная*); в) лемізацыя тапонімаў з нумаратыўным кампанентам (вёска *Вецярэвічы 2*, *Другія Вецярэвічы*); г) фіксацыя тапонімаў-арыенціраў (поле *За мельніцаю*, урочышча *На клінку*, сенажаць *Ля баракаў*), якія не з'яўляюцца ўзуальнымі тапонімамі, але знаходзяцца на шляху да анімізацыі, і інш.

Відавочна, што ўсе названыя праблемы ўзнікаюць у сувязі з неабходнасцю кадыфікацыі ў слоўніках тапанімічных адзінак, якія значна адрозніваюцца па сваім складзе. На наш погляд, уніфікаваць спосабы падачы тапонімаў ў лексікаграфічных выданнях можна толькі ўлічыўшы ўсе структурныя асаблівасці гэтых найменняў [*Палашкевіч, 2008в*].

У сферы кадыфікацыі тапонімаў прадстаўлены некалькі тыпаў лем, якія істотна адрозніваюцца структурнымі характарыстыкамі і асаблівасцямі іх фіксацыі.

Да **першага тыпу** адносяцца загаловачныя словы, што складаюцца з адной лексічна-граматычнай адзінкі, якая з'яўляецца атрыбутывам да геаграфічнага тэрміна-ідэнтыфікатара, – так званыя аднакампанентныя лемы. Такія лемы па сваіх генетычна-марфалагічных характарыстыках могуць суадносіцца з назоўнікамі, прыметнікамі і дзеепрыметнікамі: п. *Дубок* [*ННП-06**, с. 328], в. *Сосны* [*ННП-10**, с. 173], в. *Выдрыца* [*Піскуноў**, с. 1135]; в. *Ураджайная* [*ННП-09**, с. 221], п. *Царкоўны* [*ННП-07**, с. 261]; г.п. *Негарэлае* [*ННП-03**, с. 168], в. *Заразлае* [*ННП-03**, с. 80], в. *Пагарэлае* [*Піскуноў**, с. 1142].

Пры фіксацыі ў рэестрах аднакампанентных лем геаграфічны тэрмін-ідэнтыфікатар звычайна змяшчаецца ў зоне тлумачэння:

ЖАЎРО́НАК м. **урочышча.** Глыбочыца… [*МБ**, с. 82], дзе тапонім *Жаўронак* уваходзіць у зону намінацыі, а геаграфічны тэрмін *урочышча* – у зону тлумачэння.

Да першага тыпу мэтазгодна адносіць і лемы, якія ў тапаніміцы вызначаюцца як "складаныя па структуры найменні" (Л.М.Грыгор'ева, В.П.Лемцюгова і інш.):

1) намінацыі, што ўзніклі ў выніку зліцця часткі тапоніма, якая кваліфікуе геаграфічны аб'ект, і атрыбутыўнай часткі, што яго дыферэнцыруе: в. *Наваселле* [*ННП-06**, с. 269], в. *Ляпполле* [*Рапановіч-83**, с. 108], в. *Скарабагатаўшчына* [*Жучкевич**, с. 346], в. *Багуслаўка* [*Заіка**, с. 9];

2) тапонімы, якія з'яўляюцца штучнымі аб'яднаннямі слоў, што не звязаны паміж сабой граматычна: п. *Туры-Бор* [*Рапановіч-86**, с. 168], в. *Качай-Балота* [*Рапановіч-86**, с. 42], в. *Бор-Дубенец* [*Рапановіч-80**, с. 23], п. *Страча-Мацееўшчына* [*Рапановіч-82**, с. 231].

Такія складаныя ў структурна-граматычных адносінах словы ў працэсе лемізацыі набываюць статус простых найменняў і ўводзяцца ў лексікаграфічныя выданні як аднакампанентныя тапанімічныя адзінкі.

Пры кадыфікацыі аднаслоўных тапонімаў тыповым парушэннем лагічнай структуры рэестра з'яўляецца ўключэнне геаграфічнага тэрміна адначасова і ў зону тлумачэння, і ў ЗН. У такім выпадку ўзнікае полілексемная лема, у склад якой уваходзяць уласна тапонім і геаграфічны тэрмін. Фармальна лема пераўтвараецца ў састаўную намінацыю, хаця па сутнасці такой не з'яўляецца:

БЕ́ЛЫ **ЛЕС** *м.* **лес** бярозавы… [*МБ**, с. 27];
ГРА́БАЎСКАЕ **БАЛО́ТА** *н.* **балота**… [*МБ**, с. 63].

У межах першага тыпу вылучаецца падтып лем, у функцыі якіх выступаюць так званыя тапонімы-арыенціры – своеасаблівыя намінацыі, што складаюцца з геаграфічнага тэрміна або ўласна назвы аб'екта і прыназоўніка з прасторавым значэннем, які паказвае на лакалізацыю гэтых аб'ектаў. Такія лемы часта выкарыстоўваюцца ў лексікаграфічных выданнях па мікратапаніміцы: *За сажалкай* [*АСГ**,

с. 129], *На берагах* [*МБ**, с. 161], *За Турамі* [*МБ**, с. 98] і інш. Як адзначае В.А.Жучкевіч, тапонімы-арыенціры – гэта найменні невялікіх аб'ектаў, якія пакуль не поўнасцю аформіліся як назвы [*Жучкевич*, с. 18], пры гэтым, на думку Я.М.Адамовіча, "яшчэ не вядома, ці стануць такія прыназоўнікавыя канструкцыі сапраўднымі мікратапонімамі" [*Адамовіч*, с. 15]. Менавіта з-за неакрэсленасці і неўзуальнасці т. зв. тапонімаў-арыенціраў вынясенне названага тыпу найменняў у рэестр слоўнікаў у якасці лем, на наш погляд, з'яўляецца не зусім апраўданым.

**Другі тып** лем уключае двухкампанентныя структуры, якія складаюцца з кваліфікатара (найменне, якое кваліфікуе геаграфічны аб'ект) і дыферэнцыятара (атрыбутыва, што паясняе кваліфікатар): г. *Каменецъ Литовскій* [*Барсовъ**, с. 87], поле *Сіні камень* [*СММ**, с. 172], в. *Вялікія Арлы* [*ННП-10**, с. 266], сенажаць *Чорны лес* [*МБ**, с. 253].

У рэестры слоўнікаў такія тапонімы ўводзяцца непаслядоўна, што дае падставы гаварыць пра існаванне дзвюх мадэлей фіксацыі – **AS**: в. Вялікае Уланава [*ННП-07**, с. 336], поле *Золотая поляна* [*ТС**, с. 370] і **SA**: *Пагараны Ніжнія* [*Рапановіч-82**, с. 180], *Скробава Горнае* [*Рапановіч-80**, с. 117].

Не ўніфікаванай застаецца і лемізацыя двухкампанентных намінацый, у склад якіх уваходзіць нумаратыўны кампанент. Намі выяўлены дзве мадэлі прэзентацыі такіх тапонімаў: пры кадыфікацыі лексем нумаратыў можа падавацца ў лічбавым абазначэнні – мадэль $\mathbf{SN_{\Omega}}$: в. *Куцін III* [*Рапановіч-83**, с. 100], х. *Сябрынь II* [*Рапановіч-82**, с. 235], в. *Зарэчча 1* [*ННП-03**, с. 120] або выражацца адпаведнай лексемай (што найбольш характэрна для мікратапаніміі) – мадэль **NS**: поле *Другі шнур* [*МБ**, с. 76], балота *Трэцяе ройства* [*МБ**, с. 238].

У нарматыўным даведніку "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь" пад рэд. В.П.Лемцюговай прапанаваны арыгінальны падыход да фіксацыі двухкампанентных онімаў з нумаратыўным кампанентам. У выданні варыянты лемізацыі падаюцца як тапанімічныя алонімы [*ННП-03**, с. 94]:

| Тып паселішча | Асноўная назва | Варыянты |
|---|---|---|
| в. | Калю́га 1 | Пе́ршая Калю́га |
| в. | Калю́га 2 | Друга́я Калю́га |

Да другога тыпу састаўных лем адносяцца таксама тапонімы-арыенціры, якія складаюцца з двух кампанентаў па мадэлях **pApS** (сенажаць *От Лутоцкого до дуба* [*ТС**, с. 379]), **pAS** (лес *Пат Кудлатай соснаю* [*МБ**, с. 187], поле *Ад Гацінскага лесу* [*МБ**, с. 14], поле *За Крывую дарогу* [*МБ**, с. 91]).

**Трэці тып** уключае лемы, якія складаюцца з трох кампанентаў, звычайна кваліфікатара і двух атрыбутываў, па мадэлях **AAS**, **SAcA**: в. *Вялікі Стары Шклоў* [*Рапановіч-77**, с. 46], хмызняк *Куплішча Блізшая і Дальшая* [*МБ**, с. 132]. Параўнальна рэдка фіксуюцца лемы мадэлі **SAS**, што складаюцца з аднаго атрыбутыва і двух кваліфікатараў: п. *Зара Новай Жызні* [*Рапановіч-86**, с. 72].

У працэсе лемізацыі з прааналізаванымі найменнямі могуць фармальна супадаць і двухкампанентныя тапонімы – у тым выпадку, калі ў ЗН ўключаецца геаграфічны тэрмін: *Набережная Верхняя улица* [*Мезенко**, с. 161], *Большая полевая улица* [*Мезенко**, с. 194], *Новая Понеманская улица* [*Мезенко**, с. 168]. Аднак названыя структуры прадстаўляюць мадэлі **SA** і **AA**, а таму павінны ўключацца ў другі тып тапанімічных лем [*Палашкевіч, 2008в*].

У беларускіх лексікаграфічных выданнях па тапаніміцы найбольшае пашырэнне атрымалі лемы першага і другога тыпаў. Праўда, у асобных крыніцах (напр., у слоўніку Г.М.Мезенка “Имя внутригородского объекта в истории”) прапануецца значная колькасць намінацый, якія складаюцца з 3, 4, 5 і больш кампанентаў, – так званыя тапанімічныя апісальныя канструкцыі. Пераважна гэта эклезіонімы і айкадонімы, утвораныя па мадэлях **pSASSAS** (*Во имя Святого Николая Чудотворца соборная церковь* [*Мезенко**, с. 63]), **ASScSS** (*Святых Мучеников Бориса и Глеба монастырь* [*Мезенко**, с. 45]), **SASS** (*Сестёр Бригитского ордена монастырь* [Мезенко*, с. 48]), **pSAASSAS** (*Во имя Святого Благоверного князя Александра Невского собор* [*Мезенко**, с. 62]), **pSSASS**: *Во имя сошествия Святого Духа церковь* [*Мезенко**, с. 65] і інш.

Для *антрапанімічных* слоўнікаў характэрна ў асноўным фіксацыя лем у адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы: *Кацярына* [*Суднік**, с. 67], *Вадзім* [*Грабчиков**, с. 216], *Терентий* [*Бірыла-66**, с. 159] у супрацьвагу тапанімічным слоўнікам, дзе часам лемізуюцца дыялектныя варыянты онімаў. Выключэнне складаюць анамастычныя слоўнікі мовы пісьменнікаў, у рэестры якіх падаюцца тыя формы антрапонімаў, што зафіксаваны ў творы ці перыядычным выданні: *Ілыч* [*СМК**, с. 95], *Нечас* [*АСТК**, с. 423], *Jaśko haspadar s pad Wilni* [*Саламевіч**, с. 147].

Спецыфічнасцю лем вызначаюцца таксама "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.)" Я.Саламевіча і "Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў" А.Гардзіенкі, Н.Гардзіенка, Л.Юрэвіча, у якім ў рэестр выносіцца любая форма імя, якая з'яўляецца псеўданімам ці крыптанімам (1, 2), а таксама "Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі" М.В.Бірылы, дзе лемамі з'яўляюцца апелятывы (3):

1. **К.**= Луцэвіч Іван Д. "Nasza niwa", 1907, № 15; 1098, № 22… [*Саламевіч**, с. 147];
2. **P.S.** – Сыч, Пётра [*СПК**, с. 357];
3. **БУЗУК** кірг., узб. 'разбураны, сапсаваны', 'разбэшчаны'… [*Бірыла-69**, с. 65].

Укладальнікі антрапанімічных слоўнікаў у рэестр звычайна выносяць афіцыйную форму асабовых імён:

**АНАСТАСІЯ**, Наська, Настка, Настуся, Наста [*Ластоўскі**, с. 763];
**СТАНИСЛАВ** старажытнае славянскае імя, прынятае каталіцкай царквой… [*Усціновіч-75**, с. 70].

У некаторых лексікаграфічных выданнях у якасці лемы падаюцца бытавыя варыянты асабовых імён, прычым нярэдка адразу некалькі лексем:

БОГУТ, БОГУШ – вытворная форма ад імя Багдан… [*Чыж**, с. 17];
ЮЛЕТА, ЮЛІТА памянш. ф. і. Юлія… [*Яшкін**, с. 101].

На наш погляд, такія формы імён павінны афармляцца з дапамогай сістэмы адсылак і апісвацца ў слоўнікавым артыкуле, дзе лемай выступае афіцыйная форма імя [*Палашкевіч, 2008в*].

У апошнія гады ў антрапанімічнай лексікаграфіі, як і ў тапанімічнай, назіраецца тэндэнцыя да ўключэння ў ЗН слоўнікаў транслітарацыі рэестравых адзінак лацінскай графікай:

ЛАЎРЭ́НЦІЙ **(Laurentsi) -**я, м. Лаўрэнцьевіч, Лаўрэнцьеўна… [*Усціновіч-11**, с. 122];
ЯКУБ, **Jakub** [*Барыс-10**, с. 11].

У перакладных антрапанімічных працах у ЗН, акрамя лемы, уваходзіць адпаведнік з той мовы, на якую адбываецца пераклад:

МІХА́Л, Міха́лавіч, Міха́лаўна – **Миха́л**, Миха́лович, Миха́ловна [*Сарока**, с. 64];
Уладзісла́ў Уладзісла́вавіч, Уладзісла́ваўна – **Владисла́в**, Владисла́вович, Владисла́вовна [*СДАІ**, с. 136].

Часам адпаведнікі з іншых моў фіксуюцца і ў слоўніках, якія не з'яўляюцца перакладнымі:

ЛЮБАМІР, **Любомир** (слав.) – той, хто любіць мір… [*Барыс-10**, с. 32].

У структурным плане антрапонімныя лемы значна адрозніваюцца ад тапонімных. У антрапанімічных слоўніках загаловачнай адзінкай звычайна з'яўляецца простая (аднакампанентная) лексема, адзін з відаў уласнага наймення: асабовае імя (*Алена* [*Яшкін**, с. 10], *Кірыла* [*Усціновіч-11**, с. 114], *Лявон* [*Чыж**, с. 34], *Яніна* [*Суднік**, с. 75]), прозвішча (Butkièwicz [*Federowski**, с. 457], *Борисёнок* [*Рогалев-09**, с. 84], *Палуян* [*СМК**, с. 163]), мянушкі людзей і жывёл (*Brächùn*

[*Federowski**, с. 463], *Wisła* [*Federowski**, с. 463], *Гусак* [*Бірыла-66**, с. 209], *Дохля* [*Бірыла-66**, с. 210]) і інш. Пры лексікаграфаванні імён па бацьку ў рэстр звычайна выносіцца мужчынскае асабовае імя [*Бірыла-66**, *Грабчиков**, *Сарока**, *Суднік**, *Яшкін**]:

МАКСІ́М – Максі́мавіч, Максі́маўна [*Яшкін**, с. 125];
ЯГО́Р, Яго́равіч, Яго́раўна – Его́р, Его́рович, Его́ровна [*Сарока**, с. 101].

У якасці лемы імёны па бацьку зафіксаваны толькі ў анамастычных слоўніках мовы пісьменнікаў, дзе яны абазначаюць пэўнага персанажа твора:

РЫГОРАВІЧ гл. Шаўчэнка [*СМК**, с. 189];
СЯРГЕЕВІЧ гл. Пушкін [*СМК**, с. 215].

Антрапанімічныя адзінкі, што ўзніклі ў выніку зліцця дзвюх і болей асноў (*Багуміл* [*Яшкін**, с. 19], *Дабравольскі* [*СРЛГ**, с. 136], *Доброгост* [*Бірыла-66**, с. 210], *Святаслава* [*Усціновіч-11**, с. 182]), а таксама антрапонімы, якія складаюцца з дзвюх частак, не аб'яднаных паміж сабой граматычна (падвойныя прозвішчы: *Асіповіч-Асіпчык* [*СПК**, с. 360], *Жук-Грышкевіч* [*СПК**, с. 363], *Стома-Сініца* [*СПК**, с. 369], імёны-мянушкі людзей: *Гітлер-вампір* [*СМК**, с. 62], *Тарас-нявольнік* [*СМК**, с. 217], *Усеўлад-брат* [*СМК**, с. 228]) кваліфікуюцца намі як простыя.

Аднакампанентнымі антрапанімічнымі лемамі з'яўляюцца таксама крыптанімы тыпу: *А.К-ка*, *Д-ка*, *Петр-віч*, *W.* [*СПК**, с. 98, 161, 358, 363].

Двухкампанентнымі бываюць антрапанімічныя адзінкі, што абазначаюць мянушкі людзей і жывёл [*Бірыла-66**], імёны персанажаў твораў пэўнага аўтара [*Анічэнка**, *СМК**, *АСТК**, *Гурская**] і псеўданімы, якія складаюцца з імя і імя па бацьку ці імя і прозвішча [*Саламевіч**, *СПК**]. Структурна такія найменні ў асноўным адпавядаюць мадэлям **SS** (*Грыгор Крэшчык* [*АСТК**, с. 191], *Паляшук, Тарас* [*Саламевіч**, с. 99], *Якім Сарока* [*СМК**, с. 195]), **AS**

(*Kapuścinája halàwa* [*Federowski**, с. 442], *Долгая шия* [*Бірыла-66**, с. 210]) і **SA** (*Świnià nieskròbanaja* [*Federowski**, с. 446], *Янка Бязногі* [*АСТК**, с. 630]). Вельмі рэдка сустракаюцца канструкцыі з прыназоўнікамі, што адпавядаюць мадэлі **SpS**, напрыклад, мянушкі *Pan z Hołaszỳszak* [*Federowski**, с. 444], *Pan na Świszczypòli* [*Federowski**, с. 444], *Straszỳdło na warabji* [*Federowski**, с. 446].

Шматкампанентныя антрапонімы сустракаюцца ў слоўніках досыць рэдка, што тлумачыцца дыферэнцыяцыяй лексічнага матэрыялу па пэўных класах пры яго лексікаграфаванні. Трэба адзначыць, што М.В.Бірыла ў сваёй працы "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" (1966) асобна фіксуе шэраг старажытных шматслоўных найменняў, якія склаліся яшчэ на першых этапах фарміравання беларускай анамастыкі. Так, ён вылучае двух-, трох- і чатырохслоўныя мужчынскія найменні і двух-, трох-, чатырох-, пяці-, шасці- і сямімслоўныя найменні для жанчын, напрыклад:

ЕРМОЛИНАЯ ХОМИНИЧИНАЯ ВОЛКОВНА ПОЛАДЯ МАЦКОВНА ГОЛУТВИНА 1577 Маг., ИЮМ XXXII 207 [Бірыла-66*, с. 320];

ПЕТР СТАНИСЛАВОВИЧ ЛУЩИКОВИЧ ЕЙСИМОНТОВИЧ 1567 Гр.п. П. 698 [*Бірыла-66**, с. 306].

Такім чынам, ЗН беларускіх анамастычных слоўнікаў уключае самыя разнастайныя па структуры лексічныя адзінкі, часам – іх адпаведнікі з рускай мовы і транслітарацыю онімаў літарамі лацінскага алфавіту. Аналіз рэестраў беларускіх анамастычных слоўнікаў дазваляе зрабіць вывад, што структурная разнапланавасць тапонімаў і антрапонімаў вымагае распрацоўкі спецыяльнага падыходу да іх кадыфікацыі. Асноўнымі праблемамі, якія ўзнікаюць пры фіксацыі загаловачных слоў, з'яўляюцца ўключэнне / неўключэнне ў ЗН геаграфічных тэрмінаў-ідэнтыфікатараў, прэзентацыя апісальных канструкцый, паслядоўнасць размяшчэння аб'ектнай і атрыбутыўнай частак лем, лемізацыя тапонімаў з нумаратыўным кампанентам і тапонімаў-арыенціраў [*Палашкевіч, 2008в*].

Уніфікацыя лексікаграфічнага апісання онімаў рознай структуры – адна з найважнейшых праблем сучаснага мовазнаўства, якая патрабуе кваліфікаванага, навукова абгрунтаванага вырашэння.

### 3.2.2 Зона варыянтаў

Упершыню праблема моўнай варыянтнасці была ўзнята ў працы М.С.Трубяцкога “Асновы фаналогіі” (1939), і на сённяшні дзень яна шырока даследуецца лінгвістамі на розных узроўнях моўнай сістэмы [*Шкраба*]. Вывучэнне фаналагічнай, марфемнай, лексічна-семантычнай і граматычнай варыянтнасці абумоўлена цэлым шэрагам задач, асноўнымі з якіх з’яўляюцца: устанаўленне адзіна правільнай формы ўжывання слоў (нормы), размежаванне з’яў словаўтварэння і словазмянення, вырашэнне найбольш складаных пытанняў тэорыі і практыкі перадачы іншамоўных онімаў і інш. Адным з важных навуковых пытанняў, якое патрабуе ўсебаковага тэарэтычнага асэнсавання, выступае праблема прэзентацыі варыянтаў онімаў у сферы фіксацыі [*Палашкевіч, 2008а*]. Гэта абумоўлена актыўным развіццём сучаснай анамастычнай лексікаграфіі, і, як вынік, – неўніфікаванасцю падачы варыянтаў, што звязана не толькі з агульнай тэарэтычнай нераспрацаванасцю моўнай варыянтнасці, але і з адсутнасцю строга акрэсленага філалагічнага разумення тэрміна “варыянт” [*Шкраба*, с. 169].

У “Слоўніку рускай анамастычнай тэрміналогіі” (1978) Н.У.Падольская *варыянт імя* (варыянтную форму імя) вызначае як “відазмяненні імя ці любога элемента яго структуры (фанемы, марфемы, лексемы) у розных моўных сітуацыях” [*Подольская*, с. 41]. Такое разуменне тэрміна самае шырокае і ўключае: а) афіцыйны і бытавы варыянты імя (афіц. *Фёдар* – быт. *Федзя*, афіц. Дзмітрый – быт. *Міця* [*Подольская*, с. 41]); б) літаратурны і дыялектны варыянты (літ. *Ксенія* – дыял. *Аксіння*, літ. *Феадосія* – дыял. *Фядося* [*Подольская*, с. 41]); в) стылістычныя варыянты (*Георгій* – *Юра*, *Картуз-Бяроза* – *Бяроза* [*Подольская*, с. 41]); г) храналагічныя варыянты (*Гародня* – *Гродна*, *Менск* – *Мінск*); д) гіпакарыстычныя формы (*Віцечка*, *Ганулька*, *Сярожка*).

Акрамя таго, для абазначэння варыянтных найменняў онімаў у лінгвістыцы ўжываецца тэрмін “алонім”. Да вызначэння названага тэрміна няма адназначнага падыходу. Так, Н.У.Падольская называе *алонімамі* ўсе варыянтныя найменні любога аб’екта ці асобы [*Подольская*, с. 28], Н.А.Багамольнікава пад *алонімамі* разумее варыянтныя мадыфікацыі аднаго і таго ж оніма, яго фанетычныя, арфаграфічныя, акцэнтныя, словаўтваральныя, марфалагічныя відазмяненні, што адрозніваюцца паміж сабою асобнымі гукамі, арфаграмамі, афіксамі, сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць семантычных, стылістычных, эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў і адрозных словаспалучальных характарыстык [*Багамольнікава*, с. 9]. Відавочна, што прыведзеныя дэфініцыі супярэчаць адна другой. Разуменне паняцця “алонім” Н.А.Багамольнікавай больш вузкае і не ўключае, з аднаго боку, стылістычных варыянтаў оніма, а з другога – паралельных назваў, што адрозніваюцца каранёвай марфемай.

У сваёй працы мы прытрымліваемся поглядаў Н.У.Падольскай і дэфініцыі тэрміна “алонім” з энцыклапедыі “Украінская мова”, дзе *алонімы* вызначаюцца як варыянты ўласных назваў, фанетычныя, марфалагічныя, словаўтваральныя відазмяненні імя з захаваннем яго каранёвага адзінства, а таксама анамастычныя сінонімы і розныя назвы аднаго аб’екта, якія ўжываюцца паралельна [*Українська мова*, с. 19].

У беларускіх анамастычных слоўніках алонімы складаюць зону варыянтаў (ЗВ) і прэзентуюцца па-рознаму. Звычайна варыянтныя адзінкі падаюцца асобна адразу пасля лемы:

ЗЯЛЁНЫ БОР // **Зэле́ны** зеленаборскі… [*Заіка**, с. 36];
КАРПЕШЫ́ / **Карпеша́нская вуліца** / ж. ул. 103… [*Иванова**, с. 92].

У слоўніку І.Я.Спрогіса варыянты онімаў, якія ўжываліся паралельна, як правіла, уваходзяць у рэестр і падаюцца праз злучнік *і*:

**ВЕЛЬЯ И ВЕЛІЯ (ныне Вилія)**, река, чр. Троцкую землю, II, 221; XIV… [*Спрогисъ**, с. 42].

З такой структуры слоўнікавага артыкула вынікае, што абодва варыянты з’яўляюцца раўнапраўнымі і пры неабходнасці могуць узаемазамяняцца.

Храналагічныя варыянты тапонімаў пададзены ў некаторых лексікаграфічных выданнях ХІХ ст. непаслядоўна. Так, у ЗН магла ўключацца сучасная (на момант выдання працы) назва тэрытарыяльнага аб’екта, а варыянтнае найменне размяшчалася ў дужках адразу пасля загаловачнага слова, або ў ЗН выносіўся храналагічны варыянт, а пасля рэестравага слова ў дужках падавалася сучасная назва:

ГОМЬИ (**Гомей**, **Гомій**) … [*Барсовъ**, с. 53];
БЕРЕСТЬЕ (по употребленію въ настоящее время – **Брестъ**) … [*Спрогисъ**, с. 355].

У старажытных лексікаграфічных выданнях часта ў якасці алонімаў падаюцца фанетычна суадносныя найменні, якія належаць да розных дэнататаў, ці, наадварот, варыянтныя назвы аднаго і таго ж геаграфічнага аб’екта выносяцца ў асобныя слоўнікавыя артыкулы ў якасці самастойных тапонімаў. Напрыклад, у слоўнікавых артыкулах змешваюцца храналагічныя варыянты *Гродна* і *Гарадзец*: разам пададзены *Городня*, *Городенъ*, *Городецъ*, *Городецекъ*, *Городень* [*Барсовъ**, с. 46] і інш.

Традыцыйна найбольш пашыраным спосабам прэзентацыі храналагічных варыянтаў тапонімаў у сучасных лексікаграфічных выданнях з’яўляецца іх фіксацыя ў адным слоўнікавым артыкуле з пазначэннем года, да якога выкарыстоўвалася архаічная назва аб’екта:

ГО́РНАЯ, (Го́рная) – сс. Вилейского (до 1964 **Деряки́**) и Мозырского (до 1964 **Капли́ца**) р-нов… [*Жучкевич**, с. 79];
ПЕРШАМАЙСКАЯ ж. -кай Первома́йская Первомайский (да 1954 г. **Саба́кінцы**) в. – ц. Першамайскага с/с Шчучынскага р-на… [*Рапановіч-82**, с. 192].

У некаторых слоўніках для прэзентацыі храналагічных варыянтаў выкарыстоўваецца памета *ўстар.* (устарэлае), якая падаецца пасля архаічнага варыянта:

ПАГРАНІ́ЧНАЯ / **Го́ля – устар.** / Камянецкі р-н… [*Горпинич**, с. 10];
Я́ГАДНАЕ / **Бло́шня – устар.** / Камянецкі р-н… [*Горпинич**, с. 14].

У самастойныя артыкулы архаічныя варыянты не выносяцца. Такія назвы выконваюць у слоўніку падкрэслена інфармацыйную функцыю і не з’яўляюцца ўзаемазамяняльнымі з узуальнымі найменнямі.

Для дыялектных варыянтаў тапонімаў у лексікаграфічнай практыцы сустракаюцца асобныя спробы ўжывання паметы *мясц.* (мясцовае) у спалучэнні з паметай *афіц.* (афіцыйнае). Пад “афіцыйным” аўтары разумеюць нарматыўны, а пад “мясцовым” – дыялектны варыянт найменя:

ВЫ́ШАЛАЎ, в. у Галубіцкім с/с – м., -ва, -ве (**мясц.** Вышало́ў)
Вы́шелов
вы́шалаўскі, -кага, -кім вы́шеловский
вы́шалаўцы, -цаў, -цах, вы́шалаўскія, -кіх (**афіц.**)… [*АГ**, с. 257].

Выкарыстанне такога спосабу падачы дыялектных варыянтаў онімаў, на нашу думку, з’яўляецца больш правамерным, чым проста паслядоўнае ўключэнне ў слоўнікавы артыкул афіцыйнага і дыялектнага варыянтаў імя, якія, натуральна, не характарызуюцца канкурэнтнымі адносінамі:

АГАРОДНІКІ // **Горо́дныкі** агаро́дніцкі / горо́дніцкі, з Агаро́днікаў / городнянцы, адз. з Агаро́днікаў / городнянец, з Агаро́днікаў / городнянка (Бяр.) [*Заіка**, с. 5];
ПЯСО́ВА // **Пэ́сово** пясо́ўскі / пэ́совскі, пясо́ўцы / пэ́совцы, пясо́вец / пэ́совец, з Пэ́сова, пясо́ўка / пэ́совка, з Пэ́сова (Ст.) [*Заіка**, с. 53].

Адпаведнага меркавання адносна фіксацыі дыялектных варыянтаў онімаў прытрымліваецца і У.М.Генкін. Разглядаючы праблему вызначэння базавых варыянтаў тапонімаў, навуковец лічыць мэтазгодным алонімы, якія не з'яўляюцца нарматыўнымі, падаваць у слоўніках з паметай *мясц.* (мясцовае). У аснову размежавання варыянтаў, якія адпавядаюць або не адпавядаюць норме, даследчык прапануе пакласці галоўным чынам крытэрый тэрытарыяльнай прывязанасці – непрывязанасці да той або іншай дэрывацыйнай мадэлі [*Генкин, 2004*].

У нарматыўным даведніку пад рэд. В.П.Лемцюговай прапануецца арыгінальны спосаб прэзентацыі алонімаў – размяшчэнне іх у асобных рубрыках пад назвай "Варыянты назваў населеных пунктаў" [*ННП-07**, с. 261]:

| Тып паселішча | Асноўная назва | Варыянты |
|---|---|---|
| в. | Су́панічы | Супа́нічы, Супо́нічы |
| в. | Харо́шкі | Харашкі |

Прыведзены спосаб падачы алонімаў вызначаецца тым, што вынясенне варыянтаў у асобныя рубрыкі значна спрашчае карыстанне слоўнікам і вырашае пытанне размежавання неўзуальных і нарматыўных найменняў.

У антрапанімічных слоўніках ЗВ звычайна складаюць бытавыя формы антрапоніма, які з'яўляецца лемай. Варыянты асабовых імён у большасці выданняў падаюцца ў слоўнікавым артыкуле пасля рэестравага слова [*Бірыла-66**, *Усціновіч-75**] ці прыводзяцца ў якасці дадатковай інфармацыі да лемы [*АСТК**, *СМК**, *Чыж**]:

ПІЛІП – грэцкае Philippos 'той, хто любіць коней'… ***Пілінка, Пілінок, Пілінчык, Ліпень, Ліпась, Пілінчук, Ліпаш…*** [*Чыж**, с. 37];

ЦІТ, канан. правасл. Тит. Зарэгістравана ***Цітусь*** Бр.в. Ів. У XVI – XVIII стст. Тит (11 фіксацый) БА I 161. [*Бірыла-82**, с. 126].

Рэдка ў зону намінацыі выносіцца бытавы варыянт імя, тады зону варыянтаў складае афіцыйная форма оніма:

*Пала́га (**Палагея**) – Палагея* [*Мікалаеў**, л. 4];
*Пара́ска (**Праскоўя**) – Параскева* [*Мікалаеў**, л. 4] і інш.

Некаторыя даследчыкі пры фіксацыі бытавых формаў антрапонімаў выкарыслоўваюць памету *разм.* (размоўнае):

СТАНІСЛАЎ (***разм***. Стась, Станіш; *слав.*) – азначае ‘стань слаўным’… [*Шур-98**, с. 235].

Паралельныя назвы, што адносяцца да аднаго і таго ж дэнатата, фіксуюцца таксама ў слоўніках мовы пісьменнікаў. Звычайна гэта варыянтныя аўтарскія найменні для персанажаў твора. Яны падаюцца адразу пасля загаловачнага слова, да кожнага оніма прыводзяцца звесткі аб колькасці яго ўжыванняў у творы:

КУБЕЛІЧ (V 376), УЛЬЯНА КУБЕЛІЧ (2, V 376), УЛЬЯНА (11, V 376 – 377). У ап. “Арыніна перамога”. Прадстаўнік рабачкома… [*АСТК**, с. 319];
МАЦЕЙ (3), **Мацейка** (76) м. Персанаж п’есы “Прымакі”… [*СМК**, с. 140].

Варыянты імён па бацьку ў беларускай лексікаграфіі, як і варыянтныя пераклады некаторых беларускіх мужчынскіх і жаночых асабовых імён, звычайна падаюцца пры дапамозе злучніка “і”, што падкрэслівае раўнапраўнасць абедзвюх лексічных адзінак [*Грабчиков**, *Грабчыкаў**, *Сарока**]:

ГЕННА́ДИЙ, Гена́дьевич, Генна́дьевна – Гена́дзь, Гена́дзевіч, Гена́дзеўна ***і*** Гена́дзій, Гена́дзьевіч, Гена́дзьеўна [*Грабчиков**, с. 217];
РЫГО́Р, Рыго́равіч, Рыго́раўна ***і*** Грыго́рый, Грыго́р’евіч, Грыго́раўна – Григо́рий, Григо́рьевич, Григо́рьевна [*Сарока**, с. 76].

У слоўніку “Przydomki polskie, litewskie i rusinskie” А.Стэкерта ў ЗВ альтэрнатыўныя найменні патрымонімаў і прозвішчаў фіксуюцца пры дапамозе злучніка *ці*:

BULECKI czy **Bulicki** pk. VII s. Sasinów h. Jastrzębiec na Litwie i na Wołyniu… [*Stekert**, с. 23];
MOSALSKI czy **Moselski**, p. Raczkow, p. Miczycki… [*Stekert**, с. 81].

Універсальным спосабам арганізацыі варыянтных найменняў у макраструктуры сучасных анамастычных выданняў з’яўляецца іх размяшчэнне ў адпаведнасці з сістэмай адсылак. Найбольш пашыраны тып такога аб’яднання – выкарыстанне спасылкі *гл.* (*глядзі*) у другасным артыкуле, які адрасуе чытача да асноўнага артыкула, дзе і апісваецца онім. Пры гэтым у галоўным артыкуле звычайна падаюцца ўсе алонімы:

**НЕРАН** гл. **Нерон** [*АСТК**, с. 423],
**НЕРОН** (X 562), **Нероне** (2, X 560)… **Неран** (X 562). Нерон (37 – 68) – рымскі імператар. У пер. паэмы Т.Шаўчэнкі “Неафіты” [*АСТК**, с. 423].

У некаторых тапанімічных слоўніках часам у галоўны слоўнікавы артыкул не ўключаюцца адпаведныя варыянты:

СТАРАСОЖЫНА ж. гл. **Старасожжа** [*АСМ**, с. 82],
**СТАРАСОЖЖА** н. старое рэчышча р. Сож. Шароеўка Рэчыц. [*АСМ**, с. 82].

Пры лексікаграфічным апісанні варыянтных найменняў для захавання прынцыпу сістэмнасці абавязковам з’яўляецца фіксацыя ў асноўным артыкуле ўсіх тых алонімаў, якія выступаюць ў якасці рэестравых адзінак адсылачных артыкулаў [*Палашкевіч, 2008а*].

Крытэрыі адбору з шэрагу алонімаў пэўнага наймення для галоўнага артыкула ў тапанімічнай лексікаграфіі пакуль застаюцца

нераспрацаванымі. Для антрапанічных выданняў характэрна ўключэнне ў галоўны артыкул афіцыйнага варыянта імя. Часам сустракаюцца працы, у якіх аўтары ў якасці самастойных слоўнікавых артыкулаў неапраўдана падаюць усе варыянтныя найменні аднаго асабовага імя. Так, у слоўніку С.Барыса “Беларускія імёны” ў самастойных артыкулах без спасылак на іншыя падаюцца бытавыя і гіпакарыстычныя варыянты аднаго і таго ж імя: Іван (Ян, Янка, Янік, Янук, Янусь), Фёдар (Хведар, Хвядос, Ходар, Ходась), Юра (Юрай, Юрась, Юрка, Юрусь, Юрэй) і інш.

Нярэдка ў лексікаграфічных выданнях спосаб падачы варыянтаў з дапамогай сістэмы галоўнага і дадатковага артыкулаў рэалізуецца фрагментарна. Варыянты імя прыводзяцца адразу пасля рэестравага слова, але не выносяцца ў адсылачныя артыкулы, што значна ўскладняе вызначэнне наяўнасці / адсутнасці ў слоўніку пэўнага наймення.

КАЗЛОВА БАЛО́ТА / **Расолава балота** / *ср. бол.* 36, 118. Возле болота жил человек по фамилии Козлов, прозванный Расолом. См. также Бало́та [*Иванова**, с. 87].

Так, з-за адсутнасці асобнага артыкула з лемай *Расолава балота* немагчыма выявіць поўную сістэму намінацый для аднаго дэнатата.

Такім чынам, у анамастычнай лексікаграфіі пакуль што няма адзінага падыходу да кадыфікацыі алонімаў. У лексікаграфічных выданнях, як правіла, не вытрымліваюцца не толькі спосабы падачы алонімаў розных тыпаў, але нават фіксацыя аднатыпных варыянтаў нярэдка адбываецца непаслядоўна.

На наш погляд, перад сучаснай лінгвістычнай навукай стаіць актуальная задача ўніфікаваць спосабы прэзентацыі ўсіх тыпаў алонімаў у слоўніках. Гэта перш за ўсё датычыць храналагічных варыянтаў тапонімаў, дыялектных і бытавых формаў онімаў і найменняў, якія паралельна ўжываюцца ў маўленчай практыцы [*Палашкевіч, 2008а*].

### 3.2.3 Зона памет

У мікраструктуры анамастычных слоўнікаў досыць шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя паметы: стылістычныя, граматычныя, этымалагічныя і інш., што складаюць т. зв. зону памет (ЗП). Памета − слова, якое прыводзіцца найчасцей у скарочаным ці ўмоўным (сімвалічным) запісе і дае пэўную характарыстыку рэестравай лексічнай адзінцы [*Берков*].

Адным з найбольш пашыраных тыпаў памет у тапанімічных выданнях з'яўляюцца граматычныя паметы. Як адзначаў Ф.П.Філін, граматычныя паметы – абавязковы элемент структуры слоўнікавага артыкула, а іх пропуск можна патлумачыць толькі адсутнасцю адпаведных звестак у крыніцах, адкуль узяты слоўнікавы матэрыял, і немагчымасцю рэканструявання пэўных формаў слоў [*Филин*, с. 154]. Відаць, менавіта па гэтых прычынах граматычныя звесткі адсутнічаюць у тапанімічных слоўніках XIX ст. [*Спрогисъ**, *Трусманъ**] і "Слоўніку мовы Скарыны" У.В.Анічэнкі.

Тыповымі граматычнымі паметамі ў артыкуле тапанімічнага слоўніка з'яўляюцца: 1) абазначэнне роду оніма ў сінгулятыўнай форме і 2) абазначэнне ліку (*мн.*) для тапонімаў у форме pluralia tantum:

ДАБРЫНЕЦ **м.** Невялікі луг… [*СММ**, с. 59],
ВЫГАРЫ **мн.** Узгорак каля лесу… [*АСМ**, с. 20].

Рэдка выкарыстоўваецца памета *адз.* пры фіксацыі адтапонімных дэрыватаў:

ХЛЁБАЎКА // Хле́бовка хле́баўскі / хле́бовскі, хле́баўцы / хлебовці́, **адз.** хле́бкавец / хлебковы́ць, з Хле́баўкі / з Хле́бовкы (Мал.) [*Заіка**, с. 63].

Нягледзячы на дастаткова працяглую традыцыю лексікаграфавання беларускіх уласных імён, у лінгвістычнай навуцы пакуль не сфарміраваліся агульнапрынятыя прынцыпы вызначэння

роду шматкампанентных тапанімічных адзінак і тапонімаў-арыенціраў.

Ёсць два падыходы да вызначэння ў слоўнікавым артыкуле роду полікампанентных тапонімаў. У адных выданнях родавая прыналежнасць онімаў вызначаецца па галоўным слове ў складанай адзінцы і звычайна адпавядае роду субстантыва:

МОСКАЛЁВ ЛЕС, **м.** Смешанный лес в окрестностях дер. Селицкая [*Рогалев-04**, с. 99].

У іншых выданнях род шматслоўных тапонімаў у слоўнікавым артыкуле не вызначаецца зусім [*АСГ**, *АСМ**, *ТС**, *СММ**]:

КАЛІНІНКАВА ГАРА. Узвышанае месца з сасновым лесам… [*АСМ**, с. 40];
ДО́БРЫ ЛЕС. Сямігосцічы [*ТС**, с. 383].

Пры вызначэнні роду тапонімаў-арыенціраў у розных тапанімічных слоўніках таксама назіраецца непаслядоўнасць. Часам гэтая граматычная памета ўкладальнікамі ўвогуле ігнаруецца:

КАЛЯ ДУ́БА. Дарога (каля яе расце дуб). Дашкаўцы Маст. [*АСГ**, с. 156];
НА КРУ́ЗЕ. Поле. Вішава Слонім. [*АСГ**, с. 219].

У некаторых слоўніках род тапонімаў-арыенціраў вызначаецца па граматычных паказчыках геаграфічнага тэрміна або ўласнай назвы, што ўваходзяць у склад такой тапанімічнай адзінкі:

КАЛЯ ВАДАКА́ЧКІ ***ж.*** с. 131 Сенокос возле водокачки [*Иванова**, с. 89];
КАЛЯ ГРАДЫ́ ***ж.*** Поле. Скрошчына Стаўбц. Мін. [*МБ**, с. 108].

Спрэчным выглядае вызначэнне роду тых тапонімаў-арыенціраў, у якіх граматычнае значэнне роду ідэнтыфікатара не адпавядае

гіперанімічнаму значэнню геаграфічнага тэрміна, што ўваходзіць у склад тапанімічнай назвы, ці ліку:

ЗА ДОБРЫМ АСТРАВОМ ***м.*** поле… [*МБ**, с. 89];
КАЛЯ САВІНЫХ ХВОЯЎ ***мн.*** урочышча… [*МБ**, с. 108].

Акрамя паметы роду ў некаторых тапанімічных слоўніках падаюцца і іншыя граматычныя характарыстыкі слоў – найчасцей парадыгма скланення тапоніма (фіналі ў родным і месным склонах). Калі ў родным склоне магчыма варыянтнае выкарыстанне канчаткаў, то гэта адлюстроўваецца ў слоўнікавым артыкуле:

БЫВАЛЬКІ, **-лек *і* -лькаў** [*Піскуноў**, с. 1134];
СІДАРАВІЧЫ мн.л., **-іч/-чаў**, **-чах** Сидоровичи. Сідаравіцкі Сидоровичский в.-ц. Сідаравіцкага с/с Магілёскага р-на і к-са “Расія” [*Рапановіч-83**, с. 159].

Часам канчаткі роднага і меснага склонаў прыводзяцца да катайканімічных і ад’ектанімічных дэрыватаў:

СУХІ́ ВО́СТРАЎ, п. у Пірэвіцкім с/с – м., -хога -ва, -хім -ве Сухо́й О́стров
сухаво́страўскі, **-кага**, **-кім** сухоо́стровский
сухаво́страўцы, **-цаў**, **-цах**. сухаво́страўскія, -кіх; сухоо́стровец, -ўца, ўцу;
сухаво́страўская, **-кай** [*АГ**, с. 160].

Тапанімічныя назвы, парадыгматыка якіх характарызуецца марфаналагічнымі чаргаваннямі на канцы каранёвай марфемы, у форме меснага склону падаюцца поўнасцю:

БАРСУ́ЧЫ МОХ м., -чага -ха, -чым **Мосе**… [*Рапановіч-77**, с. 45];
КО́ЛАВА РУКА́ ж., -вай -кі, -вай **Руцэ**… [*Рапановіч-86**, с. 89].

Найбольш дасканалая, на наш погляд, сістэма граматычных памет прапанавана ў нарматыўным даведніку “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь” пад рэд. В.П.Лемцюговай. У слоўнікавым артыкуле выдання ЗП уключае ўказанні на род (лік для тапонімаў у форме pluralia tantum) і фіналь роднага, творнага і меснага склонаў [*ННП-03**, с. 120]:

| Тып паселішча | Назва на беларускай мове | **Род (лік)** | **Парадыгма скланення** | Транслітарацыя на лацінку | Назва на рускай мове |
|---|---|---|---|---|---|
| п. | Ме́жы | мн. | Меж і Ме́жаў, -жамі, -жах | Mieży | Межи |
| п. | Граза́ | ж. | -зы́, -зо́й і -зо́ю, -зе́ | Hraza | Гроза |

У слоўніку абазначаюцца варыянтныя фіналі для роднага склона і падаюцца поўныя формы тапонімаў у месным склоне, калі пры скланенні адзінкі назіраюцца змены ў каранях слоў.

У некаторых лексікаграфічных працах па тапаніміцы граматычная інфармацыя не фіксуецца з-за энцыклапедычнай скіраванасці выданняў [*БКБ**, *БСБ**, *ВБ**, *ГТПБ**, *Лемцюгова**, *РАВБ**, *Рогалев-91** і інш.]. Часам яе пропуск абумоўлены задачамі складання слоўніка (толькі кадыфікаваць тапанімічны матэрыял [*Жучкевич**, *Цыхун**]) або фіксацыяй не ўласна тапонімаў, а адтапонімных дэрыватаў [*Генкін**, *Заіка**, *Горпинич**, *Шведава**].

У *антрапанімічных слоўніках* граматычныя паметы выкарыстоўваюцца вельмі абмежавана. Гэта абумоўлена сучаснымі спосабамі арганізацыі мегаструктуры лексікаграфічных выданняў. Большасць наяўных антрапанімічных слоўнікаў кадыфікуюць асабовыя імёны. Пры іх укладанні аўтары ўключаюць названыя класы онімаў у розныя раздзелы, асобна мужчынскія і жаночыя найменні, што здымае неабходнасць указання на іх родавую прыналежнасць.

Катэгорыя роду онімаў вызначаецца ў некаторых анамастычных слоўніках мовы пісьменнікаў [*Гурская**, *СМК**], у антрапанімічных выданнях, дзе мужчынскія і жаночыя асабовыя найменні не

размяжоўваюцца [*Усціновіч-11**], а таксама пры немагчымасці дакладнага вызначэння родавай прыналежнасці імя:

МАШЭКА (26) **м.** Персанаж паэмы “Магіла льва”… [*СМК**, с. 141];
СТА́ХІЙ (Stakhi) -я, **м.** Стахіевіч, Стахіеўна. Рэдк… [*Усціновіч-11**, с. 189];
ДИОГИТРІЯ **(?)** Синод. Севаст. [*Морошкинъ**, с. 71].

Памета роду пазначаецца таксама ў перакладных лексікаграфічных працах, дзе спісы онімаў уключаюцца ў якасці дадаткаў [*Грабчиков**, *Грабчыкаў**, *Лобан**, *ПРБС**, *Сарока**].

Акрамя граматычных, у некаторых слоўніках, якія змяшчаюць антрапанімічны матэрыял [*Барыс-10**, *Сарока**, *РБС**, *Усціновіч-11**, *Шур-93**, *Шур-98**, *Яшкін**], выкарыстоўваюцца і этымалагічныя паметы, што ўказваюць на мову-крыніцу, з якой слова было запазычана:

ХАКИ́М ***тат.*** Хаки́мовна, Хаки́мович; Хакі́м – Хакі́маўна, Хакі́мавіч [*Сарока**, с. 226];
ЯГА́ЙЛА **(ст.-верх.-ням.)** ‘вялікі славай’, ‘светлы славай’… [*Яшкін**, с. 71].

У антрапанімічных слоўніках стылістычная памета *разм.* (размоўнае) выкарыстоўваецца звычайна ў дадатковых артыкулах, у якіх функцыі лемы выконвае бытавая форма асабовага імя, пры спасылцы на галоўны, дзе кадыфікуецца ўзуальная форма:

ТИМОХ, ***разг.***, *см.* Тимофей [*Сарока**, с. 218];
ЯНКА (***разм***. Ян, Ясь, Янук)… *Гл.*: Іван [*Шур*-98*, с. 235].

Часам для абазначэння бытавой формы асабовага імя аўтары выкарыстоўваюць памету *вытв.* (вытворнае), пасля якой падаюць бытавыя варыянты оніма, змешчанага ў рэестры:

ЗІНАІДА (***вытв***. Зіна) … [*Суднік**, с. 66];
ЛАРЫ́СА (***вытв.*** Ла́ра, Ло́ра)… [*Суднік**, с. 67].

Акрамя таго, у лексікаграфічнай практыцы выкарыстоўваюцца паметы, што ўказваюць на прыналежнасць найменняў да праваслаўнай або каталіцкай традыцый намінацыі [*Бірыла-66**, *Усціновіч-75**]:

ИАКОВ … Якуб ***каталіцк***… Зарэгістрыравана ў XVII ст… [*Бірыла-66**, с. 77];
ТИХОН ***правасл.***, 1 раз у форме Тихон… [*Усціновіч-75**, с. 72].

Часам пры фіксацыі ў слоўніках іншамоўных уласных імён да іх падаюцца паметы *нязм.* (нязменнае) [*Лобан**, *СЛФ**, *Усціновіч-11**]:

ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ, нязм. [*Лобан**, с. 244];
СЯДЫХ, нязм. [*СЛФ**, с. 114].

У лексікаграфічных выданнях апошніх гадоў [*Усціновіч-11**, *Яшкін**] выкарыстоўваецца значная колькасць памет, якія раней былі не характэрны для анамастычнай лексікаграфіі: *жарт.* (жартаўлівае), *памянш.* (памяншальнае), *ласк.* (ласкальнае), *перан.* (пераноснае значэнне), *рэдк.* (рэдкае) і інш.

Такім чынам, нацыянальная лінгвістыка на сучасным этапе свайго развіцця характарызуецца наяўнасцю цэлага шэрагу нявырашаных праблем адносна падачы ў слоўніках рознаструктурных тапонімаў. У той жа час у антрапанімічнай лексікаграфіі ўжо выпрацавана дастаткова стройная і навукова абгрунтаваная сістэма памет, якая дазваляе досыць поўна раскрываць шматлікія спецыфічныя асаблівасці антрапанімічнай лексікі [*Палашкевіч, 2009в*].

### 3.2.4 Зона ідэнтыфікацыі

Ідэнтыфікатар – слова (або спалучэнне слоў), што ўваходзіць у дэфініцыю лемы і вызначае яе прыналежнасць да пэўнага аб'екта ці групы аб'ектаў.

Зона ідэнтыфікацыі (ЗІд) у лексікаграфічных выданнях па анамастыцы ўваходзіць у дэфініцыю рэестравага слова і фармальна можа быць прадстаўлена або толькі ідэнтыфікатарам, або апісальнай канструкцыяй, у якую ён уключаны. У тапанімічных і антрапанімічных слоўніках ідэнтыфікатары значна адрозніваюцца з-за асаблівасцей апісваемых відаў онімаў.

У ЗІд тапанімічных слоўнікаў ідэнтыфікатарам выступае слова, што абазначае тып геаграфічнага аб'екта, назва якога падаецца ў рэестры лексікаграфічнага выдання, і з'яўляецца абавязковым канструктам слоўнікавага артыкула. Звычайна ідэнтыфікатар (*вёска*, *поле*, *урочышча*, *возера*, *дарога*) прыводзіцца адразу пасля ЗН:

БЕ́ЛЫЯ БАЛО́ТЫ – **вёска** ў Лойкаўскім с/савеце [*Цыхун**, с. 202];

ВУЗКІЯ мн. **Доўгі вузкі луг каля рэчкі**… [*АСМ**, с. 19].

У тапанімічных слоўніках можна вылучыць дзве разнавіднасці ідэнтыфікатараў: просты і састаўны.

***Просты ідэнтыфікатар*** выражаецца геаграфічным тэрмінам, які ўказвае на класіфікацыйную прыналежнасць аб'екта: возера, лес, частка вёскі, горад і інш. Ён звычайна змяшчаецца пасля граматычнай характарыстыкі тапанімічнай адзінкі і графічна адасабляецца кропкай ад іншай інфармацыі ў слоўнікавым артыкуле:

ЛІТВІ́НАВІЧЫ. мн. **вёска**. У ёй было шмат перасяленцаў з Літвы. Мірнае Шкл. [*СММ**, с. 123];

ПАЛУ́БІНШЧЫНА ж. **частка вёскі**. Гошчава Івац. Брэсц. [*МБ**, с. 182].

Калі адной тапанімічнай адзінкай названы розныя геаграфічныя аб'екты, то ЗІд у слоўнікавым артыкуле ўключае ўсе магчымыя для дадзенага тапоніма ідэнтыфікатары:

КАМЯНІ́ЦА ж. **Лес**. Чарлёна Маст., Чырвонае Сяло Зэльв.; **Урочышча** (тут раней быў пабудаваны каменны панскі дом) … **Балота**. Адэльск Гродз.; **Крушня**. Міцкавічы Гродз.; **Луг**.

Адэльск Гродз.; Хмызняк. Белякі Дзятл.; **Паша**… [*АСГ**, с. 158].

Паводле лексікаграфічнай традыцыі просты ідэнтыфікатар часта падаецца ў скарочаным выглядзе: *п.* – пасёлак, *в.* – вёска, *ур.* – урочышча, *р.* – рака (*рч.* – рэчка), *хут.* (*х.*) – хутар і інш.:

ПЯТРЫ́ мн.л. **в.** у Дакудаўскім с/с Лідскага р-на ў калгасе “Іскра” [*Рапановіч-82**, с. 202];

БЕ́ЛЫ м. **овр.** 117 Название дано по признаку белого по цвету песка, покрывшего склоны и берега оврага [*Иванова**, с. 28].

У склад ***састаўнога ідэнтыфікатара*** ўваходзяць два геаграфічныя тэрміны, што абазначаюць аб’екты, якія разам утвараюць прасторавую адзінку, названую тапонімам:

КАЛЯСНІ́ЦА ж. **поле і лес**… [*МБ**, с. 108];

КАНАЁЛЫ мн. **Лес і поле**… [*АСГ**, с. 159].

Састаўны ідэнтыфікатар сустракаецца толькі пры апісанні мікратапонімаў. Для яго не характэрна прэзентацыя ў скарочаным выглядзе. У слоўнікавым артыкуле такі ідэнтыфікатар знаходзіцца заўсёды ў постпазіцыі да рэестравай тапанімічнай адзінкі ў адрозненне ад простага ідэнтыфікатара, які можа папярэднічаць леме.

Як паказвае лексікаграфічная практыка, фармальнае супадзенне геаграфічнага тэрміна з ЗІд у слоўнікавым артыкуле – з’ява досыць рэдкая. Самым пашыраным спосабам падачы ідэнтыфікатара з’яўляецца яго ўключэнне ў апісальную канструкцыю, якая выконвае функцыі тапанімічнай дэфініцыі, але структурна не супадае з ЗІд.

У дэфініцыі, выражаныя апісальнымі канструкцыямі з геаграфічным тэрмінам у якасці апорнага слова, можа ўключацца знешняя (дадатковая) характарыстыка аб’екта, названага тапонімам:

ГАЛІСТАЯ ПЕЛЬ. **Нізкае месца ў лесе**. Падлужжа Глуск… [*АСМ**, с. 21];

ЛАХТУНО́Ў ВІР. **Нізіна, залітая вадой**… [*СММ**, с. 120].

Часам у такіх канструкцыях сумяшчаецца інфармацыя дзвюх розных зон слоўнікавага артыкула: зоны ідэнтыфікацыі і зоны экстралінгвістычнай інфармацыі.

Сумяшчэнне ў дэфініцыі рэестравага тапоніма ідэнтыфікатара і адміністрацыйна-геаграфічнай інфармацыі – з'ява досыць пашыраная ў тапанімічных выданнях. У слоўнікавых артыкулах, дзе апісваюцца камонімы, у ЗІд звычайна пазначаецца назва сельскага савета, да якога належыць вёска:

ЛАЗЫ́ – вёска **ў Скіда́льскім с/савеце** [*Цыхун**, с. 205];
ЗІ́МНІК …в. **у Маслакоўскім с/с** Горацкага р-на, у к-се "40 гадоў Кастрычніка" [*Рапановіч-83**, с. 77].

Пры характарыстыцы гідронімаў у апісальную канструкцыю ў ЗІд уключаецца назва найбольш буйнога і вядомага воднага басейна, да якога належыць аб'ект, названы рэестравым словам:

ЛАХВА, рака, правы **прыток Дняпра**… [*РАВБ**, с. 104];
ДОРОЖА́НКА, ж. Речка, **приток Ути**… [*Рогалев-03**, с. 47].

Ідэнтыфікацыя мікратапонімаў традыцыйна ажыццяўляецца праз указанне на аб'ект, побач з якім знаходзіцца прасторавае ўтварэнне, названае мікратапонімам. Звычайна фіксуецца назва канкрэтнага населенага пункта:

ЛІ́СЦВЕНІЦА ж. Гай ля **вёскі Удача**… [*СММ**, с. 123];
МАЯК, м. Гора на окраине **дер. Новосёлки**… [*Рогалев-04**, с. 97].

Часам указваецца толькі пэўны геаграфічны аб'ект, семантыка якога досыць празрыстая і можа матываваць тапанімічную назву:

АБАЛО́ННЯ н. сенажаць **каля рэчкі**… [*МБ**, с. 13].

Як ужо адзначалася, акрамя ідэнтыфікатара, у дэфініцыю рэестравай адзінкі можа ўваходзіць этымалагічная даведка пра тапонім. Такія дэфініцыі характэрны для слоўнікавых артыкулаў, у якіх пры вызначэнні аб'екта спалучаны ЗІд і зона экстралінгвістычнай інфармацыі.

КАМЧЭ́Й м. лес, **дзе жыў ляснік на мянушцы Камчэй**, які меў страшны вонкавы выгляд… [*МБ**, с. 109].

Змешванне розных кампанентаў мікраструктуры выдання прыводзіць да ўзнікнення аб'ектыўных складанасцей пры карыстанні слоўнікам. Таму, на наш погляд, даведачная інфармацыя ў слоўнікавым артыкуле павінна пэўным чынам адасабляцца – выдзяляцца графічна або змяшчацца ў асобнай зоне:

КАНАПЛЯ́ННІК м. Поле **(на ім добра раслі каноплі)**… [*АСГ**, с. 159],
ЛА́ЗАРАВІЧЫ мн. Вёска. **Яе першым жыхаром быў Лазар** [*СММ**, с. 117].

У мікраструктуру некаторых тапанімічных выданняў ЗІд увогуле не ўключаецца. Гэта абумоўлена рознымі прычынамі. Адсутнасць ідэнтыфікатара можа тлумачыцца агульнай мэтай стварэння слоўніка, напрыклад, кадыфікаваць катайконімы і ад'ектонімы. У такім выпадку ў рэестр уключаюцца толькі камонімы, што здымае неабходнасць падачы ідэнтыфікатара:

ЖУКІ́ Карэ́ліцкі р-н жуко́ўскі, жуко́ўцы [*Горпинич**, с. 38];
РУБЕ́ЛЬ // Рубе́ль рубе́льскі/ рубе́льскі, рубе́льцы / рубэ́льцы… [*Заіка**, с. 55].

Часам пропуск ЗІд абумоўліваецца агульнай канцэпцыяй пабудовы лексікаграфічнага выдання. Так, у некаторых слоўніках ідэнтыфікатар выносіцца ў мегаструктуру і вызначае цэлы шэраг аднародных аб'ектаў:

**Віры**
БУРЯ́НКА ж. Пагост.
ВАСІЛЁЎЦА мн. Альшаны.
ВІРО́К м. Мачуль. [*ТС**, с. 392].

Адной з галоўных прычын адсутнасці ЗІд ў мікраструктуры тапанімічнага слоўніка з'яўляецца складанасць размежавання названай зоны і ЗН, прычына якой – у фарміраванні тэндэнцыі развіцця тапонімаў за кошт геаграфічнага тэрміна [*Просвирнина*, с. 10]. Гэта прыводзіць да непаслядоўнасці ў афармленні геаграфічнага тэрміна ў слоўнікавым артыкуле і ўзнікнення разнастайных памылак пры пабудове мікраструктуры выдання.

Найбольш пашыраным метадалагічным недахопам у анамастычнай лексікаграфіі з'яўляецца ўключэнне геаграфічнага тэрміна ў склад тапоніма, у выніку чаго ЗІд увогуле прапускаецца:

МЕДВЕ́ЖИЙ **ЛУГ**, м. Находится в окрестностях дер. Победа… [*Рогалев-04**, с. 97];
ДО́ЛГИЙ **ЛЕСОК** м. Упоминается жителями села Бобовичи… [*Рогалев-03**, с. 46].

У прапанаваных ілюстрацыях назіраецца сэнсавае атаясамліванне ідэнтыфікатараў з кваліфікатарамі *луг* і *лес*. Такое супадзенне не з'яўляецца тыповым, калі ўлічваць, што вельмі часта геаграфічны тэрмін і кваліфікацыйны кампанент складанага тапоніма абазначаюць розныя паняцці:

МАКАРОНКОВЫЙ **ЛУГ**, м. **Урочище** в окрестностях дер. Акшинка… [*Рогалев-04**, с. 96];
ПЕТРАКО́ВА **ПОЛЕ**. **Узлесак**… [*СММ**, с. 153].

Яшчэ адной памылкай у тапанімічнай лексікаграфіі з'яўляецца дубліраванне геаграфічнага тэрміна ў ЗН і ЗІд (таўталогія):

КА́ЗІНСКАЕ **ВО́ЗЕРА. Возера**… [*СММ**, с. 88];
МІСЦЮКО́Ў **ЛУГ**. **Луг**… [*СММ**, с. 133].

Абодва названыя варыянты фіксацыі тапоніма І.С.Прасвірніна слушна кваліфікуе як "капрыз канцылярскай неахайнасці, што адзначаецца і географамі, і лінгвістамі" [*Просвирнина*]. Відавочна, што геаграфічны тэрмін павінен выключацца са складу тапанімічнай адзінкі і ўваходзіць толькі ў ЗІд:

КАНДРА́ТАВА н. **Поле** (належала Кандрату) ... [*АСГ**, с. 159];
ХВАЕ́ЎСКАЕ н. **Поле**... [*СММ**, с. 187].

Каб пазбегнуць змешвання ЗІд і ЗН, некаторыя ўкладальнікі слоўнікаў ідэнтыфікуюць рэестравыя тапонімы праз прыналежнасць іх да пэўнага класа онімаў у лінгвістычным аспекце, а не ў геаграфічным:

РУЧАЁВАЯ **ВУЛІЦА**. г. Верхнядзвінск, 2005 г. **Гадонім** ад назвы іншага аб'екта (ручай)... [*Мезенка**, с. 150];
ЯГАДНАЯ **ВУЛІЦА**. г. Віцебск, 2001 г. **Гадонім** па ўласцівасцях аб'екта... [*Мезенка**, с. 215].

Большасць антрапанімічных слоўнікаў не ўключаюць ідэнтыфікацыйныя кампаненты ў структуру слоўнікавых артыкулаў, што абумоўлена асаблівасцямі мегаструктуры лексікаграфічных выданняў (да прыведзеных антрапонімаў падаецца адзін агульны ідэнтыфікатар, тыпу *жаночыя імёны*, *мужчынскія імёны*, *мянушкі* і г. д.) [*Барыс-10**, *Мікалаеў**, *СПК**, *Усціновіч-11**, *Яшкін** і інш.].

Для тых рэдкіх антрапанімічных выданняў, у якіх слоўнікавы артыкул уключае ЗІд, характэрныя ў асноўным простыя ідэнтыфікатары, што звязана з асаблівасцямі ўласных асабовых імён (адно асабовае імя не можа называць некалькіх асоб разам).

Вызначальным для антрапанімічных ідэнтыфікатараў з'яўляецца тое, што яны могуць характарызаваць онім з розных бакоў. Так, у выданнях, дзе няма размежавання антрапанімічных адзінак на разрады, у якасці ідэнтыфікатара можа выступаць слова, што вызначае прыналежнасць наймення да канкрэтнага класа антрапонімаў:

НЕГРУСЬ (9, 87, 97, 98, 120, 154). У апов. УПГ. **Клічка** сабакі пана падлоўчага [*АСТК**, с. 422];

РАЗЫНБЛЮМ (2) **Мянушка** каня… [*СМК**, с. 183].

У большасці выпадкаў ідэнтыфікатарам да ўласнага асабовага імя (звычайна псеўданіма, крыптаніма, імя персанажа твора) з'яўляецца ўказанне на асобу, якой псеўданім (крыптанім) належыць, або на месца ў творы, дзе сустракаецца пэўнае найменне персанажа:

ЖУРБА, А. = **Івашын Іван Я.** "Іскры Ільіча" ,1939. № 1 [*Саламевіч**, с. 56];

СТАХ (2) м. **Персанаж верша "Як кароль у паход выходзіў"**… [*СМК**, с. 209].

Пры ідэнтыфікацыі наймення праз сувязь з адпаведным літаратурным творам назіраецца змешванне ЗІд і зоны экстралінгвістычнай інфармацыі.

Калі найменне ўзята без кантэксту, то ідэнтыфікатарам да яго з'яўляецца разгорнутае ўказанне на прыналежнасць лексічнай адзінкі да канкрэтнага разраду онімаў:

АДАМ … **Адно з найбольш папулярных на Беларусі імён**… [*Чыж**, с. 13];

СТАНІСЛАЎ м. **Імя ў сцэнічным жарце "Прымакі"**… [*СМК**, с. 208].

Для антрапанімічных слоўнікаў, як і для тапанімічных, характэрна ўжыванне не толькі поўных, але і скарочаных формаў ідэнтыфікатараў:

MROZEK czy Mrozik, **pk.**[2] Krzelczyckich czy Krzelezyckich… [*Stekert**, с. 81];

MROZIK, **przydomek,** patrz Mrozek [*Stekert**, с. 81].

---

[2] **pk**. – скарачэнне ад польск. *przydomek* ("прыдомак").

Такім чынам, у беларускай тапанімічнай лексікаграфіі яшчэ не выпрацаваны адзіны падыход да вызначэння сутнасці паняцця “ідэнтыфікатар” і адсутнічаюць агульнапрынятыя спосабы фіксацыі ідэнтыфікатараў у слоўнікавых артыкулах. Нявырашанымі таксама застаюцца праблемы размежавання зоны ідэнтыфікацыі з зонай намінацыі і зонай экстралінгвістычнай інфармацыі.

У антрапанімічных выданнях акрэсленыя праблемы вырашаюцца сродкамі арганізацыі мегаструктуры: онімы максімальна размяжоўваюцца па разрадах і зводзяцца ў пэўныя групы. Такі падыход да фіксацыі антрапанімічных адзінак дазваляе пазбегнуць неабходнасці ўключэння зоны ідэнтыфікацыі ў мікраструктуру слоўніка.

### 3.2.5 Зона экстралінгвістычнай інфармацыі

Наяўнасць экстралінгвістычнай інфармацыі з’яўляецца спецыфічнай асаблівасцю мікраструктуры многіх анамастычных выданняў [*Абрамчык**, *ЛЭБА**, *ГТПБ**, *РАВБ**, *Саламевіч**, *ТС** і інш.]. Пазамоўныя звесткі ў тапанімічным слоўніку – гэта звычайна этнаграфічныя, этымалагічныя і геаграфічна-адміністрацыйныя дадзеныя пра аб’ект, названы рэестравай адзінкай. У антрапанімічным слоўніку зона экстралінгвістычнай інфармацыі (ЗЭІ) фарміруецца дадзенымі этымалагічнага характару пра онім, звесткамі пра чалавека, якому належыць прыведзенае найменне, а таксама ўказаннем на крыніцу, дзе быў зафіксаваны антрапонім.

Традыцыйна лічыцца, што сумяшчэнне ў мікраструктуры слоўніка пэўнага тыпу ўласна моўнай і энцыклапедычнай інфармацыі супярэчыць дыферэнцыяцыі ўсёй слоўнікава-даведачнай літаратуры на лінгвістычную і энцыклапедычную. Аднак адметнасць шэрагу анамастычных слоўнікаў менавіта ў тым і заключаецца, што ў адным слоўнікавым артыкуле да онімнай адзінкі падаюцца не толькі граматычныя паметы і дэфініцыя, але і па магчымасці максімальна шырока прыводзяцца звесткі пра геаграфічны аб’ект ці асобу (дэтэрмінант) , названую рэестравым словам.

Этнаграфічная інфармацыя, якая ўяўляе сабою спробу раскрыць матывацыю оніма, выкарыстоўваецца ў тапанімічных слоўніках дастаткова часта. Вядома, што тапонімы ўтвараюцца пераважна ад апелятыўных асноў, таму ў лексікаграфічных выданнях даследчыкі часта спрабуюць устанавіць сувязь паміж лемай і адпаведным геаграфічным аб'ектам:

ДАВЫДОВКА, ж. Урочище (лес, луг, поле) в окрестностях посёлка Сож, на правом берегу реки Уть. Здесь, вблизи санатория "Васильевка", есть *Дерево Любви.* Воедино слились, сплелись корнями могучий дуб и смолистая сосна. Дуб будто бы обнимает красноствольное дерево своими ветвями-"руками". Местные молодожёны в день свадьбы приезжают к этому месту, строят мечты о будущей совместной жизни и любуются красотой белорусского леса [*Рогалев-03**, с. 44];

МИХА́ЙЛОВ ХУТОР, м. Хутор, существовавший до Великой Отечественной войны возле дер. Большие Немки. Как утверждают старожилы, хутор возник после гражданской войны, на хуторе жил лесник… [*Рогалев-04**, с. 98].

Такая інфармацыя звычайна занатоўваецца аўтарамі слоўнікаў ад жыхароў той мясцовасці, дзе знаходзіцца геаграфічны аб'ект, назва якога змяшчаецца ў рэестр лексікаграфічнага выдання.

У тапанімічных слоўніках XIX ст. часам рабіліся спробы этымалагічнай характарыстыкі рэестравых онімных адзінак. Так, у слоўніку Ю.Ю.Трусмана "Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи" да кожнай лемы змешчаны падобныя па гучанні словы з іншых моў, якія, на думку аўтара, маглі паслужыць асновай для ўзнікнення тапоніма:

ГИРИНО (Гирины), д. Втб. Др. Нвл. лит. girenas, girienas – лѣсной житель; girinis – лесной. Возможны и другія толкованія сообразно тому, какъ разсматривать суфф. -ино (ины) [*Трусманъ**, с. 71].

Але, як справядліва адзначае В.П.Лемцюгова, “этымалогіі аўтара ў сваёй большасці атрымаліся недасканалымі” [*Лемцюгова, 2004а*, с. 107].

У сучаснай анамастычнай лексікаграфіі таксама назіраюцца спробы этымалагічнай характарыстыкі тапонімаў [*Абрамчык**, *ЛЭБА**, *Жучкевич**, *Лемцюгова**, *Рогалев-91** і інш.]:

ПЕРКИ́ (Пяркі́) – с. Кобринского р-на… Названия патронимические от фамилий Перко, Перкович [*Жучкевич**, с. 287];

САБАЛІ́ Бр. (Бяроз.), Вц. (Чаш.), Гм. (Браг.), Мг. (Краснап.). Паселішча Краснапольскага раёна ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1526 годам. Аснову назвы складае старажытнае славянскае імя Собаль або ўтворанае ад яго прозвішча. У старабеларускіх пісьмовых помніках XVI – XVII стст. гэта імя шырока ўжывалася ў якасці другога кампанента наймення: Игнат Соболь (1588), Пилип Соболь (1577)… Гэта значыць, яно выконвала ў назваы перыяд функцыю імя-мянушкі, якое затым паслужыла асновай для прозвішча Собаль… [*Лемцюгова**, с. 332 – 333].

Выкарыстанне этымалагічных звестак онімаў характэрна і для сучасных антрапанімічных слоўнікаў [*Барыс-10**, *Усціновіч-11**, *Чыж**, *Шур-93**, *Яшкін**]. Асабліва часта такая інфармацыя пра ўласныя асабовыя найменні сустракаецца пры фіксацыі антрапанімічных адзінак іншамоўнага паходжання:

ЖАННА – **запазычанае ў савецкі час з фр. мовы ў гонар Жанны д’Арк** [*Шур*-93*, с. 236];

КАМІЛА – **лацінскае camilla, дзяўчына бездакорнага паходжаньня, з паважнай сям’і, якая слугавала ў часе складаньня ахвяры**… [*Чыж**, с. 53].

Да антрапонімаў часам, як і да тапонімаў, у асобных анамастычных слоўніках прыводзіцца інфармацыя матывавальнага характару. Звычайна спробы матывацыі онімаў назіраюцца пры апісанні імён-мянушак людзей і мянушак жывёл. Прычым, як ужо

адзначалася, пры такой падачы матэрыялу нярэдка змешваюцца зоны ідэнтыфікацыі і экстралінгвістычнай інфармацыі:

ZAWARAT. – W. Człowiek niestateczny, ciągle zmieniający swe zdanie [*Federowski**, с. 447];
КАЎБУХ. Дзядзька з вялікім жыватом. Маг. [*АСМ**, с. 123].

У антрапанімічных выданнях энцыклапедычнага тыпу ідэнтыфікацыя оніма часта адбываецца праз вызначэнне сувязі з чалавекам, якому належыць рэестравае найменне [*Морошкинъ**, *СМК**, *Тупиковъ**, *KLR**]. У такім выпадку ў ЗЭІ ўваходзяць гістарычныя звесткі пра чалавека – носьбіта імя:

РЫТЛО. Панъ Владиславъ Рытло, Витебскій мостовничій. 1670… [*Тупиковъ**, с. 178];
СКАРАПАДСКІ м. Павел Пятровіч, генерал царскай арміі, быў гетманам Украіны… [*СМК**, с. 204].

Геаграфічна-адміністрацыйная інфармацыя з’яўляецца абавязковай для любога лексікаграфічнага выдання ў галіне тапанімікі. Ступень яе прадстаўленасці ў слоўнікавым артыкуле залежыць ад асаблівасцей аўтарскай канцэпцыі выдання, а таксама спецыфікі канкрэтнага тыпу тапанімічных адзінак (лімнонімы, патамонімы, камонімы, мікратапонімы).

Найбольш поўна адміністрацыйна-геаграфічная інфармацыя фіксуецца ў тых лексікаграфічных выданнях, якія па сваім прызначэнні з’яўляюцца нарматыўнымі даведнікамі і кадыфікуюць пераважную большасць існуючых беларускіх камонімаў – у тым ліку і з пункту гледжання іх адміністрацыйнай прыналежнасці. У нацыянальнай лексікаграфіі да такіх прац адносяцца выданні “Слоўнік назваў населеных пунктаў” Я.Н.Рапановіча і “Назвы населеных пунктаў” пад рэд. В.П.Лемцюговай.

У мікраструктуры выдання Я.Н.Рапановіча падаюцца ўсе адміністрацыйна-геаграфічныя звесткі да геаграфічных аб’ектаў, названых камонімамі: раён, сельскі савет і калгас (саўгас), дзе знаходзіцца або ў склад якіх уваходзіць вёска:

МЕ́ДУХАВА н., -ва, -ве Ме́духово Ме́духаўскі Ме́духовский х у Каралінскім с/с Зельвенскага р-на, у к-се “Каралін” [*Рапановіч-82**, с. 159];

СКУРАТЫ́ мн.л., -тоў, -тах Скураты́. Скуратоўскі Скуратовский в. **у Субацкім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се “Зара”** [*Рапановіч-83**, с. 223].

У нарматыўным даведніку пад рэд. В.П.Лемцюговай падача адміністрацыйна-геаграфічных звестак спрошчана за кошт спецыфічнай макраструктуры слоўніка. Дадзеныя ў выданні прыводзяцца па асобных раёнах, а ў кожным раёне – па сельскіх саветах [ННП-06*, с. 117]:

**Гомельскі раён…**

**Аздзелінскі сельсавет…**

| Тып пасе-лішча | Назва на беларускай мове | Род (лік) | Парадыгма скланення | Транслітара-цыя на лацінку | Назва на рускай мове |
|---|---|---|---|---|---|
| п. | Бук | м. | Бука, -кам, -ку | Buk | Бук |

У адрозненне ад працы Я.Н.Рапановіча, тут адсутнічае інфармацыя аб прыналежнасці вёсак да пэўных калгасаў ці саўгасаў, што падаецца апраўданым у сувязі з пастаяннымі зменамі ў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Максімальна поўная адміністрацыйна-геаграфічная інфармацыя змяшчаецца да гадонімаў у працы Г.М.Мезенка “Віцебшчына ў назвах вуліц”:

ЛЕСУНОЎСКАЯ ВУЛІЦА. **в. Забалацце Навасёлкаўскага с/с Пастаўскага р-на**, 2007 г. Гадонім ад назвы н.п. (в. Лесуны), у кірунку якога вуліца вядзе [*Мезенка**, с. 89].

УДАРНАЯ ВУЛІЦА. г.п. Шуміліна, 2005 г. Сімвалічная назва; п. Руба Віцебскага р-на, 2005 год; в. Застарынне Астровенскага с/с Бешанковіцкага р-на, 2007 год [*Мезенка**, с. 180].

Зрэдку ў слоўніках, дзе комплексна фіксуецца беларускі тапанімічны матэрыял, адміністрацыйна-геаграфічная інфармацыя падаецца не поўнасцю. Так, у “Кароткім тапанімічным слоўніку” В.А.Жучкевіча да рэестравых адзінак пазначаюцца толькі назвы раёнаў, дзе знаходзіцца геаграфічны аб’ект, названы лемай, − указанне на вобласць, сельскі савет, калгас (саўгас) для камонімаў адсутнічае:

ОРДÁ (Ардá) – **с. Клецкого р-на**… [*Жучкевич**, с. 271];
ПÉЧИЩЕ (Пéчышча) – **сс. Воложинского, Светлогорского, Оршанского и др. р-нов**… [*Жучкевич**, с. 289].

Слоўнікі назваў населеных пунктаў канкрэтных раёнаў абавязкова змяшчаюць да кожнай лемы інфармацыю аб прыналежнасці вёскі да пэўнага сельскага савета. Гэта абумоўлена тым, што са звужэннем рэгіёна даследавання знікае неабходнасць уключэння ў слоўнікі дадатковай адміністрацыйна-геаграфічнай інфармацыі. Так, у слоўнікавы артыкул выдання па пэўным раёне не ўключаецца назва раёна абследавання:

ПАДЛÍПНІКІ – вёска ў Адэльскім с/савеце [*Цыхун**, с. 207];
ЗАМÓСЦЕ, хут. у Мікалаеўскім с/с… [*АГ**, с. 249] і г. д.

Скарочаная адміністрацыйна-геаграфічная інфармацыя да мікратапонімаў абумоўлена спецыфікай выданняў, у якіх яны фіксуюцца. Калі мікратапанімічны матэрыял сабраны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, то ў слоўнікавым артыкуле звычайна падаюцца назвы вёскі, раёна і вобласці, да якіх належыць аб’ект, названы лемай:

АБРЫ́ВЫ мн. Урочышча. **Дзягілёва** (112) **Беш. Віц.** [*МБ**, с. 13];
ПАПÁР м. урочышча. **Парэчча** (350) **Гродз., Дзялігі** (194) **Мядз. Мін., Верцялішкі** (357) **Гродз**. [*МБ**, с. 183].

У выпадку калі мікратапонімы зафіксаваны ў слоўніках па асобных абласцях, для гэтых тапанімічных адзінак у мікраструктуры

выдання ўказваецца толькі адміністрацыйны раён размяшчэння адпаведнага геаграфічнага аб’екта і назва вёскі:

КАНО́ПКІН ЛЕС. *Лес.* **Малькавічы Маст.** [*АСГ**, с. 159];
КАМКІ мн. Камяністы бераг ракі. **Эсьмоны Бял**… [*СММ**, с. 382].

Пры кадыфікацыі мікратапонімаў у слоўніку аднаго раёна, да іх падаецца толькі назва вёскі, якой належыць геаграфічны аб’ект, названы рэестравым словам:

КНЯЖА *ж.* **Старажоўцы** [*ТС**, с. 382];
ГО́РКА *ж.* **Знаменка, Пагост** [*ТС**, с. 383].

У асобных слоўніках, дзе сабраны мікратапанімічны матэрыял з аднаго пэўнага раёна, адміністрацыйна-геаграфічныя звесткі ўвогуле адсутнічаюць:

КАЛІ́НКА ж. луг 36, ур. 132. Названия обусловлены реальными признаками: на лугу и в урочище растет калина /дем. *калінка*/. То же на Мог… [*Иванова**, с. 88].

Мікраструктура гідранімічных лексікаграфічных выданняў энцыклапедычнага тыпу вызначаецца пэўнай адметнасцю: у ЗЭІ названых прац звычайна змяшчаецца разнастайная інфармацыя даведачнага характару: пра глыбіню, вытокі, час паводкі і інш.:

ІСА, возера ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобл. Пл. 0,38 км $^2$. Найбольшая глыбіня 1,3 м. Даўжыня 1,03 км. Найбольшая шырыня 0,53 км. Даўжыня берагавой лініі 3,05 км. Аб’ём вады 0,22 млн. м$^3$. Пл. вадазбору 30,5 км$^2$. У бас. ракі Чарнуя за 40 км на Пн ад г. Гарадок… [*БСБ**, с. 211];
КРЫНІЦА, вадасховішча на паўночны захад ад Мінска. Створана ў 1975 г… Плошча 1,15 км$^2$. Даўжыня 3,5 км, найбольшая шырыня 0,6 км, найбольшая глыбіня 5,9 м, сярэдняя глыбіня 2,6 м. Аб’ём 3 млн. м$^3$… [*РАВБ**, с. 102].

У антрапанімічных лексікаграфічных выданнях апошніх гадоў у ЗЭІ ўкладальнікі падаюць звесткі пра час, калі святкуюцца імяніны носьбітаў асабовага імя, зафіксаванага ў рэестры:

НО́НА (Nona) -ы, ж. і. ж. ад і. Нон. Вытворныя: Но́начка, Но́нка...**Імяніны: 14 I** [*Усцінovіч-11**, с. 154];

РЫ́МА. Римма (грэц.) – *пакінутая*. Вытв.: Рымачка, Рымка, Рымуся, Рымуля. **Імяніны: пр.2.02** [*Барыс-10**, с. 67].

Такім чынам, пры апрацоўцы онімнага матэрыялу лексікографы імкнуцца ў слоўнікавым артыкуле даць максімальна поўнае ўяўленне як пра само ўласнае найменне, так і пра рэалію, якую яно называе. Гэта хутчэй за ўсё тлумачыцца практычным прызначэннем анамастычных слоўнікаў і спецыфікай фактычнага матэрыялу ў такіх выданнях. Адміністрацыйна-геаграфічная інфармацыя ўласціва для ўсіх тапанімічных слоўнікаў, за выключэннем вузкарэгіянальных выданняў. У залежнасці ад ахопу тэрыторыі абследавання колькасць звестак такога характару можа пашырацца або звужацца. У астатнім выкарыстанне адміністрацыйна-геаграфічных дадзеных залежыць ад асаблівасцей класа тапанімічных адзінак, якія кадыфікуюцца ў слоўніках.

### 3.2.6 Зона дэрыватаў

Пад тэрмінамі “дэрыватыўнае імя” і “вытворнае імя” ў анамастыцы традыцыйна разумеюць анамастычнае найменне, якое ўтворана шляхам дэрывацыі з дапамогай розных спецыялізаваных анімічных элементаў (прэфікса, суфікса, фіналі, змены акцэнта і г. д.) [*Основная система и терминология ономастики*, с. 187; *Подольская*, с. 117]. Найбольш пашыранымі адтапонімнымі дэрыватамі з’яўляюцца ад’ектонімы (прыметнікі, утвораныя ад онімаў) і катайконімы (назвы жыхароў па месцы іх пражывання). Дэрыватыўнымі ўтварэннямі ад антрапонімаў з’яўляюцца імёны па бацьку, вытворныя ад уласных мужчынскіх імён, якія складаюць зону дэрывацыі (ЗД) у мікраструктуры выдання [*Палашкевіч, 2011а*].

Да праблемы лексікаграфічнага апісання адтапонімнай лексікі на працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў неаднаразова звярталіся шматлікія айчынныя і замежныя навукоўцы. Згодна з існуючай ва ўсходнеславянскай лексікаграфіі традыцыяй адтапонімныя дэрываты доўгі час не ўключаліся ў слоўнікі анамастычнай лексікі; не існавала і арыгінальных прац, дзе б апісваліся толькі ад᾽ектонімы і катайконімы. Заканамерным вынікам такой сітуацыі стала страта часткі названых намінацый.

На сучасным этапе развіцця беларускай лексікаграфіі ў неанамастычных слоўніках, што змяшчаюць дадаткі онімнай лексікі, спарадычна фіксуюцца адзінкавыя ад᾽ектонімы, утвораныя ад назваў населеных пунктаў, якія маюць статус абласных або раённых гарадоў, а катайконімы не падаюцца зусім:

Ваўкавыск, **ваўкавыскі** [*СЛФ**, с. 394];
Давыд-Гарадок, **давыд-гарадоцкі** [*СЦБМ**, с. 63].

Нязначная колькасць беларускіх катайконімаў была ўключана ў "Слоўнік назваў жыхароў СССР" пад рэд. А.М.Бабкіна і Я.А.Левашова. Аднак названае выданне не мела статусу нарматыўнага і з-за сваёй шырокай геаграфічнай арыентаванасці ўключала далёка не ўсе беларускія назвы жыхароў.

Інкарпараваныя слоўнікі адтапонімных дэрыватаў змешчаны ў дадатках да дысертацыйных даследаванняў Т.М.Шчур ("Назвы жыхароў Гомельшчыны") [*Щур*], З.М.Заікі ("Адтапонімныя дэрываты ў арэале заходнепалескіх гаворак") [*Заіка*], У.М.Генкіна ("Адтапонімныя дэрываты Віцебшчыны") [*Генкин, 1999*]. Як ужо адзначалася вышэй, у рэспубліканскім штогодніку "Беларуская мова" друкаваліся матэрыялы для слоўніка катайконімаў Гомельшчыны ("Слоўнік назваў жыхароў Гомельшчыны"), а ў навуковым выданні "Беларуская анамастыка" – матэрыялы да "Слоўніка назваў населеных пунктаў Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці" Г.М.Прышчэпчык (гл. раздзел II).

Адтапонімныя дэрываты, зафіксаваныя ў старабеларускіх пісьмовых помніках, даследуюцца ў працы "Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці" З.У.Шведавай. Кніга

ўключае “Слоўнік адтапонімных дэрыватаў”, у якім змешчаны 710 слоўнікавых артыкулаў, прысвечаных апісанню ад’ектонімаў.

У якасці загаловачнага слова падаюцца назвы геаграфічных аб’ектаў, ад якіх утвараюцца ад’ектонімы, а да іх – самі адтапонімныя дэрываты:

ЛУКОМЛЬ (г.) – лукомский, 1579, т. 39, с. 364 [*Шведава**, с. 55];
ПРИЛУКИ (им. Мен. в-во) – прилуцкий, 1645, т. 15, с. 33 [*Шведава**, с. 161].

На наш погляд, названая праца ўяўляе несумненную цікавасць для спецыялістаў і вартая таго, каб стаць аўтаномным лексікаграфічным выданнем.

Да самастойных лексікаграфічных прац, у якіх фіксуюцца вытворныя адтапонімныя найменні, што і складаюць ЗД, у галіне тапанімікі належаць “Оттопонимические производные в белорусском языке” У.А.Гарпініча [*Горпинич**], “Слоўнік тапонімаў і адтапонімных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак” З.М.Заікі [*Заіка**], “Айканімія Гомельшчыны” Н.А.Багамольнікавай і А.А.Станкевіч [*АГ**] і “Слоўнік адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны” У.М.Генкіна [*Генкін**].

У мікраструктуры слоўніка У.А.Гарпініча і ў большасці слоўнікавых артыкулаў выдання У.М.Генкіна ЗД уключае ад’ектонім у пачатковай форме і катайконім у форме множнага ліку, які выкарыстоўваецца для абазначэння жыхароў названай вёскі ў цэлым:

ЖУКІ́ Карэ́ліцкі р-н **жуко́ўскі**, **жуко́ўцы** [*Горпинич**, с. 38];
СТАРЫ́Я ШАРАБА́І, мн. / Ста́рые Шароба́и, мн. (Гл.) **старашараба́йскі**, шараба́йскі – *гутар.* / старошароба́йский; **шараба́йцы** (-аў) – *гутар.* [*Генкін**, с. 198].

Пры наяўнасці некалькіх ад’ектонімаў, утвораных ад аднаго тапоніма, у слоўніках фіксуюцца ўсе гэтыя прыметнікі:

СТУДЗЁНКА, ж. / Студёнка ж. (Гар.; Док.; Сен.; Чаш.)

*глыбаўка, глыбаўчанка* і *глыбаўская* ад *Глыбаўка* [*АГ**, с. 70], *хільчанка, хільчанская* і *хільчыцкая* ад *Хільчыха* [*АГ**, с. 253] і інш.

Адантрапонімныя дэрываты (імёны па бацьку) звычайна падаюцца адразу пасля мужчынскага ўласнага імя [Грабчиков*, РБС*, Сарока*, Суднік*, Усціновіч-75*, Яшкін* і інш]:

АФАНАСИЙ, **Афана́сьевич**, **Афана́сьевна** – Апанас, **Апана́савіч**, **Апана́саўна** [*Сарока**, с. 155];

НІКАДЗІМ (Nikadzim) -а, м. **Нікадзімавіч, Нікадзімаўна**. Вядома з XVII ст. як Никодим (1665)… [*Усціновіч-75**, с. 152].

У працы С.Барыса “Як у нас клічуць?: беларускія імёны” адантрапонімныя дэрываты змяшчаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула пасля адпаведных памет:

ТРЫ́ФАН. Трифон (грэц.) – той, хто жыве ў раскошы, распешчаны, пястун. Вытв.: Трышка, Трышанька, Трышачка, Фоня. Імяніны: пр.: 14.02; 2.05; 28.12. **Імя па бацьку** – Трыфанавіч, Трыфанаўна [*Барыс-10**, с. 45].

Такім чынам, у беларускай лексікаграфіі ў апошні час назіраецца тэндэнцыя да фіксацыі аданамастычных дэрыватаў ў тапанімічных і антрапанімічных слоўніках.

Крытэрыі кадыфікацыі вытворных адтапонімных найменняў пакуль дакладна не вызначаны, што абумоўлівае адрозненні ў зонах дэрыватаў у розных выданнях. Аднак, дзякуючы дзейнасці Н.А.Багамольнікавай, У.А.Гарпініча, У.М.Генкіна, З.М.Заікі, А.А.Станкевіч даследаваны і лексікаграфічна аформлены адтапонімныя дэрываты Гомельшчыны і Віцебшчыны, катайконімы і ад’ектонімы асобных заходнепалескіх гаворак і Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці, якія доўгі час не былі прадметам вывучэння беларускіх лексікографаў [*Палашкевіч, 2011а*].

### 3.2.7 Зона ілюстрацый

Зона ілюстрацый (ЗІ) у лексікаграфічных выданнях звычайна ўключае невялікія вытрымкі з тэксту, у якіх зафіксавана рэестравая адзінка. Названая зона ў асноўным не характэрна для мікраструктуры анамастычных слоўнікаў. Выключэнне складаюць працы, прысвечаныя мове твораў пэўнага аўтара, і анамастычныя слоўнікі, у якіх кадыфікуецца матэрыял са старажытных помнікаў пісьменства.

У анамастычных слоўніках мовы пісьменнікаў [*Анічэнка*, *АСТК*, *Гурская*, *СМК*] у ЗІ ўключаюцца радкі з тэксту, у якіх ужываецца онім, вынесены ў рэестр:

БЕЛАРУСЬ (3) – [1] В дорев. время – западная часть Российской Империи. Упом. в цикле “Старая Беларусь”, куда вошли стихотворения, написанные под непосредственным впечатлением от посещения Беларуси летом 1911. [2] Упом. в стих. “Пагоня”. ***“Мо яны [ваякі], Беларусь, паняслісся / За тваімі дзяцьмі наўздагон, / Што забылі цябе, адракліся, / Прадалі і аддалі ў палон?”****…* [*Гурская**, с. 21];

ОНАНЪ адзін з сыноў Іуды. ***Сынове Иудови Геръ, и Онанъ, Селлаи, и Фаресъ, И Зара*** (Б, 174) [*Анічэнка**, с. 181];

ПЯТРУСЬ (XII 25) Старэйшы брат бацькі К… ***Старшы брат бацькі, дзядзька Пятрусь, служыў у маскалях, дзе быў вайсковым пісарам, быў чалавек начытаны і кнігу любіў шчыра*** [*АСТК**, с. 475].

У зоне ілюстрацый анамастычных слоўнікаў прапедэўтычнага перыяду, створаных на матэрыяле старажытных пісьмовых помнікаў [*Барсовъ**, *Спрогисъ**], падаюцца адпаведныя цытаты з дакладным указаннем крыніцы інфармацыі. Калі рэестравае найменне сустракаецца ў некалькіх пісьмовых крыніцах, то кантэксты з кожнага помніка прыводзяцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Асобныя прыклады падбіраюцца і да ўсіх храналагічных варыянтаў канкрэтнага тапоніма:

ПИНГИ, им., “***дорога идетъ зъ Пинкгевъ до Вашылянъ***”, XXXVII, 149 [*Спрогисъ**, с. 232];

ПИНЕГЪ (Пинескъ) гор. Въ Волынской обл. 1097. Псл. I. 110. V. 150. – 1132. *И даша братоничю своему Изяславу Мьстиславичу Туровъ, Дрогевъ,* ***Пинескъ*** *къ Менску*. Псл. IX. 157. – 1150. *Тое же осени да Гюргій Андреевич, сынови своему, Туровъ,* ***Пинегъ*** *и Пересопницю…* [*Барсовъ**, с. 162].

Аўтары некаторых сучасных слоўнікаў, матэрыялам для якіх паслужылі старажытныя дакументы, спарадычна ўключаюць у мікраструктуру выдання зону ілюстрацый у выглядзе цытат з пісьмовых помнікаў. Звычайна гэта робіцца з мэтай вызначэння пэўнай анамастычнай адзінкі праз кантэкст:

ДОБЫШ ***добышу Салышову сыну, который по сотнях бубнит и в браме в вечор и рано*** 1685 Маг., ИЮМ III 86 [*Бірыла-66**, с. 210];

Лука, урочище. ***Поотвезли есмо до двора княжого на Луку*** – н.п. Вильна, 1509 г. (РИБ, т. 20, с. 78). Ныне предместье Вильнюса Лукишки [*Мезенко**, с. 144].

Такім чынам, ЗІ не з’яўляецца абавязковым кампанентам мікраструктуры анамастычных слоўнікаў. Толькі 9% апрацаваных анамастычных выданняў уключаюць у слоўнікавыя артыкулы ілюстрацыі, што абумоўлена спецыфікай літаратурных крыніц, адкуль узяты фактычны матэрыял.

НОВЫЙ и ПОЛНЫЙ
ГЕОГРАФИЧЕСКІЙ
# СЛОВАРЬ
*РОССІЙСКАГО ГОСУДАРСТВА,*

или

## ЛЕКСИКОНЪ,

ОПИСУЮЩІЙ АЗВУЧНЫМЪ ПОРЯДКОМЪ
ГЕОГРАФИЧЕСКИ, ТОПОГРАФИЧЕСКИ, ИДРОГРАФИЧЕСКИ, ФИЗИЧЕСКИ, ІСТОРИЧЕСКИ, ПОЛИТИЧЕСКИ, ХРОНОЛОГИЧЕСКИ, ГЕНЕАЛОГИЧЕСКИ и ГЕРАЛДИЧЕСКИ,

Намѣстничества, Области и уѣзды; города, крѣпости, редуты, форпосты, остроги, ясашныя зимовья, станицы, мѣстечки, села, погосты, ямы, и слободы; Соборы, церкви и монастыри; рудные и другіе заводы и фабрики; рѣки, озера и моря; острова и горы; прежнія и новыя иностранныя поселенія; обитателей какъ природныхъ Россійскихъ, такъ и другихъ народовъ, и прочія достопамятныя мѣста

ОБШИРНОЙ
ІМПЕРІИ РОССІЙСКОЙ
ВЪ НЫНѢШНЕМЪ ЕЯ СОСТОЯНІИ, ВЪ ЦАРСТВОВАНІЕ
**ІМПЕРАТРИЦЫ ЕКАТЕРИНЫ ВЕЛИКІЯ**
НОВОУСТРОЕННОМЪ,

*Съ объясненіемъ и тѣхъ мѣстъ, которыя въ прежнія войны и прошедшую Турецкую; а нѣкоторыя прежде того и отъ Персіи храбростію Россійскою или обладаемы были, или и нынѣ находятся еще во владѣніи; также и тѣхъ, которыя въ преславное настоящее Царствованіе съ Бѣлоруссіею и съ Полуостровомъ Крымомъ къ Россіи присоединены; изъ достопамятныхъ и достовѣрныхъ древнихъ и новыхъ источниковъ*

СОБРАННЫЙ.

---

**Часть I. А-Ж.**

---

*МОСКВА,*
Въ Университетской Типографіи, у Н. Новикова,
1788.

*Тытульная старонка выдання "Новый и полный географическій словарь Россійскаго государства..." (1788).*

**Кротъ.** Кротъ Головачевичъ, Мозырскій крестьянинъ. 1552. Арх. VII, 1, 630. Кротъ (Krath) Старый, мѣщанинъ Хмельницкій. зап. 1565. Арх. VII, 2, 137. Васко Кротъ, крестьянинъ. зап. 1577. Арх. VI, 1, 103. Кротъ, крестьянинъ. зап. 1662. Арх. VI, 1, 30 (пр.).

**Кроха.** Парѳеній Кроха, священникъ въ Дорогобужскомъ уѣздѣ. 1603. А. К. II, 278. Оска Кроха, служивый человѣкъ, въ Сибири. 1646. Доп. III, 54. Ярмошъ Крошка, крестьянинъ Овруцкій. 1683. Арх. VI, 1, 153 (пр.).

**Крошенинникъ.** Ѳедка Крошенинникъ, Волоцкій посадскій. 1649. Ю. З. А. III, 72 (доп.).

**Крошунъ.** Воитехъ Крошунъ, бояринъ Жмудскій. 1554. Арх. Сб. VIII, 31.

**Круглой.** «Того же лѣта (1347), убіенъ бысть отъ Олгирда Круглецъ, нареченный во святомъ крещеніи Еустаѳѣй». Лѣтоп. VII, 214. Антонъ Кругликъ, Литовскій крестьянинъ. 1649. Ю. З. А. III, 92 (доп.). Панъ Романъ Кругликъ, Кричевскій шляхтичъ. 1654. Ю. З. А. XIV, 400. Анисимко Круглой, монастырскій крестьянинъ Надѣинскаго усолья. 1682. Ак. Ист. V, 143.

**Круглышъ.** Молашко Круглышъ, крестьянинъ Еглинскаго пог. 1495. Писц. I, 884.

**Круговой.** Степка Круговой. казакъ. сѣв.-вост. 1618. А. Э. III, 137.

**Кругъ.** Кругъ, холопъ въ Рождественскомъ пог. 1539. Писц. IV, 282.

**Крукъ.** Петро Крукъ, крестьянинъ. юг.-зап. 1684. Арх. III, 2, 77. Андрей Крукъ (Kruk), мѣщанинъ Каменецкій. зап. 1700. Арх. VII, 1, 567. Срв. *Крюкъ*.

**Крупа.** Михаилъ Крупа, Новгородецъ. 1398. 1 Новг. лѣтоп. 387. Игнатъ Крупа, Ивангородскій торговый человѣкъ. 1498. Писц. IV, 230. Томасъ Крупка, офицеръ. зап. 1567. Арх. Сб. IV, 222. Григорій Крупа. Пинскій мѣщанинъ. 1596. Арх. III. 1. 133. Крупка, крестьянинъ. зап. 1679. Арх. VI, 1, 125 (пр.).

**Крупча.** Васко Крупъча, крестьянинъ. зап. 1650. Арх. VI, 1, 561.

**Крутко.** Андрей Крутко. Винницкій мѣщанинъ. 1552. Арх. VII, 1. 607. Тимошъ Крутко. мѣщанинъ. юг.-зап. 1683. Арх. III, 2, 28.

**Кручина.** Кручинка Губинъ. въ Бѣлозерскомъ уѣздѣ, писалъ поручную запись. 1613. Ак. Юр. 307. Кручинка Леонтьевъ, крестьянинъ въ Обонѣжской пятинѣ. 1621. Ак. Ист. Кручина Дементьевъ сынъ Сужанинъ. крестьянинъ. 1626. Ак. Юр. 205. Кручинка Родіоновъ, служилый человѣкъ. въ Сибири. 1616. Доп. III. 60. Кручинка Васильевъ. Чугуевскій стрѣлецъ. 1648. Ю. З. А. III. 108. Кручина Лазаревъ сынъ

***Фрагмент са "Словаря древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ" М.М.Тупікова (1903).***

**ГЕОГРАФИЧЕСКІЙ СЛОВАРЬ**

**древней**

**ЖОМОЙТСКОЙ ЗЕМЛИ**

**XVI столѣтія,**

составленный

по 40 актовымъ книгамъ

**Россіенскаго Земскаго Суда**

Архиваріусомъ Виленскаго Центральнаго Архива

древнихъ актовыхъ книгъ—губерній Виленской, Ковенской, Гродненской и Минской

Иваномъ Яковлевичемъ

**Спрогисомъ.**

При субсидіи отъ Виленскаго Учебнаго Округа.

ВИЛЬНА.

Типографія **И. Я. Яловцера**, Трокская ул., д. Подгородникова, № 396—9.

1888.

***Тытульная старонка выдання "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія" І.Я.Спрогіса (1888).***

**Вячь,** Vec 1167, 278—280, I t. Mor.
**Вязга,** Суковъ 1544, Новг. 2-я Лѣт.
**Вязмославъ,** Жувичичь Vasmoslav Zuvičic 1852 Ar. кн. II, Popis.
**Вянтеръ, Вятеръ,** Wintiero z Kadova 1404, 329, II t. Arch. Český.
**Вентославъ,** Ventoslav Cod. Pol. Maj 93, стр.
**Вятеславъ и Вентеславъ,** Wentezlaus 1328, 284 VI t. Mor.
**Вятко,** (*) Соф. 1-я 858; **Вятко** 912, Лавр. Лѣт.; **Вяткинъ Истома** Акт. Юрид. 1587. Кар. I, 19.
**Вятолавъ,** 1351 г. Акад. Изв. т. X, 306 стр.
**Вяхна,** Vechna (жен.) въ Časopisi.
**Вяцеславъ,** 1229, Новг. 1 Лѣт. (Сравн. Вѣчеславъ).
**Вячедрагъ,** Vekiedrago 1190, Serb. Lesekörn. 32; **Векидрагъ** Vekiedrag и Bekic 1190 и 1390, 60, Serb. Lesekörn. 32.
**Вячекъ,** Vacek 1444, 226, I t. Mor.; **Вячекъ** Čas., Vjacek nob. Reg. Boh. 1144, 109; Wacek 1105, 353, III, Палац.; **Вячекъ** Wacek 1454, 201, II t. Arch. Český.
**Вячело,** Vetzello, Vezcelo, Vesto 1160, 135, 1165, 138, Reg. Boh. et Mor.
**Вячемила,** (ж.) по Časop. Сравн. Вѣчемила.
**Вячемилъ,** Viecemille 1278, 209, IV t. Mor.; Čas. Reg. Boh. 1125—1140, 90, 1211, 243; Vecomilus vide Vasemil 1167, 139.
**Вяченъ,** Vezen 1218, 103—109, II t. Mor.; Vecon 1226, 174, II t. Mor.; **Вяченъ** Vacon Reg. Boh. 1174, 151; Vacon 1174, 288, I t. Mor.; **Вячена** (муж.) Reg. Boh. 1088, 78, Wacena 1109, 371.
**Вяченѣга,** Vekenega женщ. 1066 г. (auf dem Grabstein fon Jahr III in Sadera) ad Zarodi Lande nitens multa jacet hic Vekenega Sepulta; Vekenego въ Латинскихъ дипломахъ Хорвато-Далматскихъ князей 1052, кн. Церковн. *вѧщеньѩ* Sorb. Lesekörn 32.
**Вячеславъ,** 1174, 288, I t. Mor.; **Вячеславъ** Vjaceslav 1052, 47, 1234, 388; Vacezlaus, Vazlaus, Vatzlaus, Venceslaus dux Mor. 1160, 134, 1172, 149, dux Boh. 1183, 170, rex Boh. 1216, 266, 1278, 275, nob. 1222, 328, 1234, 392, 1240, 471, Vaceslav 926—203, III, Палац.; Vancezlaus 1131, 204, I t. Mor.; **Вячеславъ** Waclawowi 1483, 97, Arch. Český за 1846 г.; **Вячеславъ** 1037, Гус. Лѣт.; **Вячеславъ** 1037—1127 Лавр. Лѣт.; **Вячьславъ** Ип. Лѣт. 11 стр.; **Вячьславъ** 1128 Ип. Лѣт.; **Вячеславъ Прокшиницъ внукъ Малышевъ** 1212, Новг. 1 Лѣт.; **Вячеславъ Климятинъ** 1215, Новг. 1 Лѣт.; Vaceslav, Vencezlaus 1052—47, Reg. Boh. et Mor.; Vaceclas nob. Mor. 1127, 620, Reg. Boh. et Mor.; Vacezlaus, Vaslaus, Vacezlau dux Mor. 1160, 134, 1172, 149, 1174, 151, 152, 1192, 186, 1197, 196, 1215, 261. Reg. Boh. et Mor.; Vaceslav dux Boh. 1183, 170, Reg. Boh. et Mor.; Wienczyslaw кн. Острожскій Kalendar на 1829 г.; Vizcelaus dux Ruianorum Cod. Lub. 1263, 289; Vislaus, Visslaus Rug. 1229, XX.
**Вячерадъ,** Čas. Wacerad 9 вѣк. 179, II, Палац.
**Вячета,** (м.) Reg. Boh. 1088, 79, Vaceta 1088, 182, I t. Mor.
**Вячехна,** (ж.) въ Časopisi.
**Вячило,** Eng. II ч. 885, 274; Vezcelo 1160, test. Urkund Meissner und. Oberlasitzer.
**Вячка,** Vecka (ж.) Čas.
**Вячко,** Соф. 1-я 1169; **Вячко** Wacko 1421, 228, III t. Arch. Český; **Вячко** 1225, Новг. 1 Лѣт., 1127, Кар. II, пр. 257, 418, пр. 205.
**Вячлавенъ,** Waczlawen 1310, 210, Dobneri.
**Вячь,** Свиневъ, продолж. Росс. Вивл. ч. II, стр. 418.
**Вящемиръ,** Reg. Boh. 1181, 166; Vachemir et Vechomir Церк. Слав. *Вѧщемиръ* 1072, Serb. Lesokörn.

---

***Фрагмент выдання "Славянский именословъ или собраніе славянскихъ личныхъ именъ въ алфавитномъ порядкѣ" М.Марошкіна (1867).***

| | | |
|---|---|---|
| 116 | Прося | Евфросиния |
| 117 | Кацця (Кацярына) | Екатерина |
| 118 | Алёна | Елена |
| 119 | Лісавета | Елизавета |
| 120 | Зіна | Зинаида |
| 121 | Арына | Ирина |
| 122 | Вульяна | Иулиания |
| 123 | Аксіньня | Ксения |
| 124 | Лукер'я | Лукерья |
| 125 | Люба | Любовь |
| 126 | Мар'я | Мария |
| 127 | ~~Марфа~~ Мархва | Марфа |
| 128 | Мятруна | Матрона |
| 129 | Меланька | Мелания |
| 130 | Натальля | Наталия |
| 131 | Вольга | Ольга |
| 132 | Палагея (Палажка) | Пелагея |
| 133 | Салоха | Соломония |
| 134 | Сафея | София |
| 135 | Парасёнка (Праскоўя) | Параскева |
| 136 | Стафаніда | Стефанида |
| 137 | Тацяна | Татиана |
| 138 | Усьцінья | Устиния |
| 139 | Хоўра | Феврония |
| 140 | Текля | Фекла |
| 141 | Хадора | Феодора |
| 142 | Хадоска | Феодосия |
| 143 | Хрысьціна | Христина |
| 144 | Лёкса | Александра |

Сабраў студэнт Касцюковіцкага раён. Краязнаўчага т-ва Т. Мікалаеў

***Фрагмент рукапіснага "Слоўнічка ўласных іменьняў, якія ўжываюцца ў Касцюковіцкім раёне Калінінскае акругі" Т.С.Мікалаева (1926)***

# РАЗДЗЕЛ IV
# ТЫПАЛОГІЯ БЕЛАРУСКІХ АНАМАСТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАЎ

Распрацоўка тыпалогіі анамастычных слоўнікаў абумоўлена практычнай неабходнасцю сістэматызацыі існуючых лексікаграфічных выданняў у галіне анамастыкі. Як справядліва сцвярджаюць У.А.Козыраў і В.Д.Чарняк, “праблема тыпалогіі слоўнікаў з’яўляецца адной з найважнейшых у тэорыі лексікаграфіі, паколькі дазваляе не толькі асэнсаваць ужо здзейсненае, але прагназаваць складанне новых тыпаў слоўнікаў, вызначаць характар лексікаграфічных праектаў, стымуляваць намаганні лексікографаў у розных кірунках” [*Козырев, 2000*, с. 30].

Пад тыпалогіяй мы разумеем вынік марфалагічнай сістэматызацыі існуючых слоўнікавых выданняў, г. зн. падзел сукупнасці аўтаномных лексікаграфічных аб’ектаў на групы з дапамогай стандартызаваных мадэлей. Пры распрацоўцы тыпалогіі беларускіх анамастычных слоўнікаў намі ўлічваліся толькі канцэптуальна самастойныя лексікаграфічныя выданні і не разглядаліся слоўнікі, якія змяшчаюць анамастычны матэрыял факультатыўна – у выглядзе розных дадаткаў (напр., розныя арфаграфічныя, дыялектныя і інш. неспецыялізаваныя слоўнікі: *ГСС**, *ПБС**, *Грабчиков**, *Лобан**, *Лявер**, *Серада**, *СРЛГ**, *СЦБМ** і інш.).

Беларускія анамастычныя слоўнікі з’яўляюцца настолькі разнароднымі па сваіх характарыстыках, што стварэнне агульнай бездакорнай і несупярэчлівай класіфікацыі на падставе толькі аднаго метадалагічнага крытэрыю падаецца пакуль што невырашальнай навуковай задачай. Таму мяркуем, што вызначальнымі паказчыкамі пры тыпалагізацыі анамастычных слоўнікаў могуць выступаць аб’ект лексікаграфічнага апісання і асаблівасці структуры выданняў [*Палашкевіч, 2009г*].

## 4.1 Тыпы слоўнікаў у залежнасці ад аб’екта лексікаграфічнага апісання

Паводле *аб’екта лексікаграфічнага апісання* беларускія анамастычныя слоўнікі размяжоўваюцца ў адпаведнасці з відам онімаў, якія ў ім адлюстроўваюцца (гл. схему 1). У некаторых лексікаграфічных працах спалучаюцца самыя розныя анамастычныя адзінкі, што абумоўлена спецыфікай выданняў (напр., слоўнікі мовы пісьменнікаў [*Анічэнка**, *АСТК**, *СМК**], у якіх апісваецца і антрапанімія, і тапанімія твораў аўтара, а таксама “Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны” В.І.Рагаўцова і С.Я.Кечык, дзе зафіксаваны мікратапонімы і імёны-мянушкі людзей). Такія лексікаграфічныя працы належаць да *агульных анамастычных слоўнікаў.* Аднак антрапонімы і тапонімы пераважна кадыфікуюцца паасобку, у *прыватных анамастычных выданнях.* Адпаведнае размежаванне існуе ў дачыненні да тапанімічных і антрапанімічных слоўнікаў. Так, напрыклад, у антрапаніміцы паводле аб’екта лексікаграфічнага апісання асобна вылучаюцца слоўнікі антрапонімаў агульныя і прыватныя. Агульныя ўключаюць адначасова некалькі відаў антрапонімаў: асабовыя імёны, прозвішчы, мянушкі [*Бірыла-66**, *Веселовский**, *Тупиковъ**, *Усціновіч-75**, *Яшкін**, *Federowski**], прыватныя – адзін пэўны від. Прыватныя слоўнікі антрапонімаў падзяляюцца на: а) слоўнікі ўласных асабовых імён [*Барыс-01**, *Барыс-10**, *Морошкинъ**, *Сарока**, *СДАІ**, *Суднік**, *Усціновіч-11**, *Чыж**]; б) слоўнікі прозвішчаў [*Бірыла-69**, *Рогалев-09**, *KLR**]; в) слоўнікі псеўданімаў (у тым ліку – крыптанімаў) [*Саламевіч**]; г) слоўнікі патрымонімаў [*Stekert**].

У агульныя тапанімічныя слоўнікі [*АГ**, *АСМ**, *Барсовъ**, *Жучкевич**, *НПГС**, *Рогалев-03**, *Рогалев-04**, *СММ**[3], *Спрогисъ**, *Трусманъ** і інш.] уключаюцца адначасова розныя віды тапанімічных адзінак (айконімы, гідронімы, аграонімы і інш.), у прыватныя – адзін пэўны від тапонімаў. Сярод прыватных тапанімічных слоўнікаў

[3] “Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны” ўяўляе сабой агульны тапанімічны слоўнік, паколькі змяшчае, акрамя мікратапонімаў, і іншыя тапанімічныя адзінкі: гелонімы, патамонімы, камонімы і г. д.

вылучаюцца: а) слоўнікі гідронімаў [*БСБ**, *ВБ**, *КСРВ**, *ОБ**, *РАВБ**], у якіх фіксуюцца найменні водных аб'ектаў Беларусі; б) слоўнікі ўрбанонімаў [*Мезенка**, *Мезенко**], дзе прыводзіцца характарыстыка назваў асобных гарадскіх і вясковых аб'ектаў: назвы вуліц, плошчаў, завулкаў і інш.; в) слоўнікі айконімаў [*Абрамчык**, *ГВБ**, *ГГПБ**, *Лемцюгова**, *ННП**, *Рапановіч**], у якія ўваходзяць астыонімы і камонімы; г) слоўнікі адтапонімных дэрыватаў [*Заіка**, *Генкін**, *Горпинич**], у якіх фіксуюцца катайконімы і ад'ектонімы; д) слоўнікі мікратапонімаў [*АСГ**, *Иванова**, *МБ**], дзе кадыфікуюцца назвы дробных геаграфічных аб'ектаў: сенажацей, палёў, лясоў і інш.

Прапанаваны падыход сведчыць пра фарміраванне ў сучаснай тэарэтычнай лексікаграфіі тэндэнцыі да максімальнага размежавання розных відаў онімаў пры іх кадыфікацыі, што непазбежна вядзе да далейшай дэталізацыі тыпалогіі беларускіх анамастычных слоўнікаў [*Палашкевіч, 2009г*].

## 4.2 Тыпы слоўнікаў у залежнасці ад асаблівасцей іх структуры

Такі крытэрый, як *асаблівасці структуры* выдання ў анамастычных слоўніках, закранае ўзроўні макра- і мікраструктуры (гл. схему 2). Зыходзячы з асаблівасцей *макраструктуры*, вылучаюцца слоўнікі, у якіх онімы падаюцца ў алфавітным парадку [*АГ**, *АСТК**, *КСРВ**, *Рапановіч**, *СММ** і інш.] і алфавітна-гнездавым [*Жучкевич**]. Як ужо адзначалася (гл. пункт 3.1), для лексікаграфічных прац па анамастыцы ў асноўным характэрна выкарыстанне менавіта алфавітнага тыпу макраструктуры, што абумоўлена асаблівасцямі онімнай лексікі.

Паводле сваёй мікраструктуры прыватныя анамастычныя слоўнікі значна адрозніваюцца. У залежнасці ад канкрэтнай мэты стварэння лексікаграфічнага выдання ў слоўнікавы артыкул могуць уключацца або не ўключацца зоны, пералічаныя ў раздзеле III ("Структурныя асаблівасці беларускіх анамастычных слоўнікаў").

**Схема 1 – Анамастычныя слоўнікі паводле аб’екта лексікаграфічнага апісання**



Паводле наяўнасці / адсутнасці пэўных зон у мікраструктуры анамастычных выданняў вылучаецца 16 асноўных мадэлей слоўнікавых артыкулаў:

1) **ЗН** [*Барыс-01*]*: СЯРЖУК, SIARŽUK [*Барыс-01**, с. 10].

Слоўнікавыя артыкулы, якія ўключаюць толькі зону намінацыі, выкарыстоўваюцца звычайна ў зводах антрапонімаў пад агульнай назвай, якая з'яўляецца ідэнтыфікатарам для ўсіх лем. Такім ідэнтыфікатарам можа служыць і сама назва слоўніка.

2) **ЗН|ЗЭІ** [*Абрамчык**, *ВБ**]: КРИВИЧИ-1 Водохранилище Кривичи-1 построено в 1986 г. по проекту Полесьегипроводхоза. Расположено в 2 км от д. Почапово Пинского района. Водохранилище наливное, сезонного регулирования, наполняется за счет стока с зимнего и летнего польдеров… [*ВО**, с. 56]; ЛЫСАЯ ГАРА – Капыльскі сельсавет. Назва азначае: лыскі, пустыя ўчасткі зямлі на месцы зведзенага лесу [*Абрамчык**, с. 14].

Такая мадэль слоўнікавага артыкула ўключае рэестравае слова і інфармацыю адносна паходжання наймення ці адміністрацыйна-геаграфічныя дадзеныя пра аб'екты, названыя онімам.

3) **ЗН|ЗІд|ЗЭІ** [*ГВБ**, *ГГПБ**, *РАВБ**, *Саламевіч**]: ЛАСІЦА, рака, правы прыток Галбеіцы /басейн Дзісны/. Даўжыня 30 км, плошча вадазбору 160 км$^2$. Цячэ ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобл. праз азёры Крывое і Ласіца [*РАВБ**, с. 104]; ПАЛЫНОК, МІХАСЬ = Рудкоўскі Міхась М. "Вожык", 1974, № 24. *Кр.*: інф. М.М.Пянкрата [*Саламевіч**, с. 99].

Названая мадэль слоўнікавага артыкула выкарыстоўваецца звычайна ў выданнях энцыклапедычнай скіраванасці. Зона экстралінгвістычнай інфармацыі ў такіх слоўніках уключае інфармацыю даведачнага характару пра аб'ект, найменне якога змешчана ў рэестр.

4) **ЗН|ЗВ|ЗЭІ** [*ЛЭБА**]: НЯРГУЛІШКІ, Ніргулішкі Міёр. Віц. в. [*ЛЭБА**, с. 27].

Паказаная мадэль мікраструктуры фактычна супадае з мадэллю **ЗН|ЗЭІ** і адрозніваецца толькі наяўнасцю ў слоўнікавым артыкуле варыянтных найменняў геаграфічнага аб'екта. У зоне экстралінгвістычнай інфармацыі прыводзіцца адміністрацыйна-геаграфічная характарыстыка паселішча, назва якога ўваходзіць у рэестр слоўніка.

5) **ЗН|ЗІд|ЗП** [ННП*]:

| Тып паселішча | Асноўная назва | Род (лік) | Парадыг-ма скланення | Трансліта-рацыя на лацінку | Назва на рускай мове |
|---|---|---|---|---|---|
| в. | Міжлессе | н. | -сся, -ссем, - ссі | Mižliessie | Мижлесье |

[*ННП-10**, с. 98].

Слоўнікавыя артыкулы такога тыпу выкарыстоўваюцца ў перакладных лексікаграфічных выданнях, а таксама ў слоўніках, прызначаных для кадыфікацыі тапанімічнага матэрыялу. Адсутнасць зоны экстралінгвістычнай інфармацыі абумоўлена спосабам арганізацыі мегаструктуры выдання, пры якім інфармацыя падаецца па асобных раёнах і сельсаветах.

6) **ЗН|ЗД|ЗЭІ** [*Горпинич**]: ЗАМО́СЦЕ Маладзечанскі р-н, замосцеўскі, замашчане [*Горпинич**, с. 59].

Адсутнасць ідэнтыфікатара ў дадзенай мадэлі слоўнікавага артыкула тлумачыцца агульнай мэтай стварэння слоўніка – кадыфікаваць катайконімы, а не ўзуальныя айконімы. У рэестр уключаны толькі камонімы, што здымае неабходнасць уключэння ідэнтыфікатара.

7) **ЗН|ЗВ|ЗД** [СДАІ*]: Мяфо́дзій, Мяфо́дзьевіч, Мяфо́дзьеўна – Мефо́дий, Мефо́дьевич, Мефо́дьевна [*СДАІ**, с. 122].

Паказаная мадэль слоўнікавага артыкула выкарыстоўваецца ў перакладных антрапанімічных выданнях, дзе акрамя ўласных мужчынскіх імён фіксуюцца таксама вытворныя ад іх імёны па бацьку.

8) **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД** [*Сарока**, *Суднік**]: АЗРЫЭ́ЛЬ, Азрыэ́левіч, Азрыэ́леўна – Азрие́ль, Азрие́левич, Азрие́левна і Азриэ́ль, Азриэ́левич, Азриэ́левна (яўр.) [*Сарока**, с. 15]; ЦІМАФЕ́Й (разм. Цімахве́й, Цімо́х) Цімафе́евіч, Цімафе́еўна – Тимофе́й [*Суднік**, с. 58].

Названая мадэль слоўнікавага артыкула адрозніваецца ад папярэдняй толькі наяўнасцю зоны памет.

9) **ЗН|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*АСГ**, *МБ**]: КАМЯНІ́ЦЫ мн. Паша. Бабічы Шчуч.; Частка поля. Чапаеўка. Шчуч. [*АСГ**, с. 159]; ХВАЙНЯ́ ж. балота, парослае хвайняком (інфарм.). Чудзін Ганц. Брэсц. [*МБ**, с. 244].

Такая структура слоўнікавага артыкула ўласцівая для выданняў, дзе зафіксаваны мікратапонімы, якія характарызуюцца адсутнасцю варыянтных найменняў. У зоне экстралінгвістычнай інфармацыі падаюцца звесткі пра лакалізацыю аб’екта, названага онімам, і спарадычна – звесткі матывацыйнага характару.

10) **ЗН|ЗІд|ЗВ|ЗЭІ** [*Барыс-10**, *БКБ**, *БСБ**, *Лемцюгова**, *Мезенка**, *Нерознак**, *РАВБ**, *Stekert**, *Чыж**]: КАЛДЫЧЭЎСКАЕ ВОЗЕРА, Калдычэва, возера ў Баранавіцкім р-не Брэсцкай вобл… У бас. р. Шчара (выцякае з возера), за 14 км. На Пн ад г. Баранавічы, каля в. Калдычэва, сярод балота… [*БСБ**, с. 215]; ЮЗЭ́ФА, Юга́ся Юзефа – жаночае імя ад мужчынскага імені Юзаф (Юзік). Вытв.: Юзя, Юзюня, Юзечка, Югася, Югаська, Зюта.

Імяніны: кат. 4, 15.02; 19.03; 1.05 [*Барыс-10**, с. 72]; ЯЎНУТ – балцкае jaun “малады”. – сын вялікага князя Гэдыміна, брат Альгерда, XIV ст. Явік, Явук, Явусь, Явень, Яваш… [*Чыж**, с. 47].

Слоўнікавыя артыкулы, пабудаваныя паводле названай мадэлі, характэрныя як для тапанімічных, так і для антрапанімічных слоўнікаў. У зону экстралінгвістычнай інфармацыі тапанімічных выданняў пры такой мікраструктуры ўваходзяць этымалагічныя, а таксама геаграфічна-адміністрацыйныя звесткі, у антрапанімічных выданнях – інфармацыя пра онім ці яго ўладальніка.

11) **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД|ЗЭІ** [*Бірыла-69**, *Бірыла-82**]: САЛОМА, памянш. Саломка. – *Саламёвіч; Саломка.* Бел. у XVI ст. *Солома* (БА, І, 259). СРП *Соломин, Соломкин*… [*Бірыла-69**, с. 363].

Задачай выданняў з прыведзенай мікраструктурай звычайна з’яўляецца фіксацыя максімальнай колькасці анамастычных адзінак, вытворных ад пэўнага оніма. У зону экстралінгвістычнай інфармацыі ўваходзяць звесткі пра пісьмовыя крыніцы, дзе зафіксаваны адпаведныя варыянтныя найменні.

12) **ЗН|ЗВ|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*Иванова**]: Ю́РЫЦКОЕ /Ю́РЫШЧА/ ср. Лес 107. По сведениям старожилов, лес назван по имени ЮРА /Юрий/, убитого в этом лесу [*Иванова**, с. 210].

Мікраструктура, якая адпавядае паказанай мадэлі, характэрная для выданняў мовазнаўчай (а не энцыклапедычнай) скіраванасці. Зону экстралінгвістычнай інфармацыі складаюць звесткі, што могуць матываваць рэестравую тапанімічную адзінку.

13) **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗІ|ЗЭІ** [*Морошкинъ**]: ЛИЛЬЯНА, (м.) (ж.) Срб. Рјечи., Лиляна Бух. Митр. Лиляна мущ., Лиляновикъ Срб. Сп. 1470, 170, Лильяна, Лилана Срб. п. 709. 523. т. 1 [*Морошкинъ**, с. 111].

Слоўнікавыя артыкулы такой мадэлі выкарыстоўваюцца ў працах, дзе падаюцца звесткі пра онімы, адабраныя са старажытных пісьмовых крыніц, указваецца выданне, у якім была зафіксавана анамастычная адзінка, а таксама прыводзяцца ілюстрацыі з тэкстаў.

14) **ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗІ|ЗЭІ** [*KLR**, *Мезенко**]: BABA, BABICZ przydomek. Kniaż Iwan Semenowicz Drucki, żyjący w pierwszej połowie XV-go wieku, nosił przydomek ‘Baba’, wskutek czego potomkowie jego, pisali się ‘Babiczami’. Od niego pochodzą rody Babiczewych, Druckich-Sokolińskich… [*KLR**, с. 1]; ЛЮТЕРАНСКИЙ ПЕРЕУЛОК. Лютеранскій переулок – н.п. Могилев, 1917 г. (САМТС). Годоним от названия объекта, размещенного в переулке. В 1925 г. именуется Кооперативным переулком (ВсяБел), с. 120) [*Мезенко**, с. 146].

Паказаная мадэль слоўнікавага артыкула таксама выкарыстоўваецца ў выданнях, укладзеных на матэрыяле старажытных помнікаў пісьменства. У антрапанімічных слоўніках у зону экстралінгвістычнай інфармацыі ўключаны звесткі пра асоб, якім належала адпаведнае найменне, у тапанімічных – указанне на крыніцу матэрыялу.

15) **ЗН|ЗВ|ЗП|ЗД|ЗЭІ** [*Генкін**, *Заіка**, *Усціновіч-11**]: ЛУ́ТЧЫНА, н. / Лу́тчино, ср. (Леп.) лу́тчынскі / лу́тчинский; лу́тчынцы (-аў), лутча́не (-ча́н) – *гутар.* / лу́тчинцы (-ев) [*Генкін**, с. 128]; Фаці́н (Fatsin) -а, м. Фацінавіч, Фацінаўна. Рэдк. Вядома з XVI ст. як Хотим (1579), Хотен (1540), Хотіан (1516), Ханец (1540). Вытворныя: Фа́цік, Фаці́нчык. Утвораны прозвішчы ад гэтага імя: Фацінюк, Фаці́наў, Фаці́нскі. Балг. Фатин, руск. Фати́н, укр. Фоти́н [*Усціновіч-11**, с. 202].

Такая мікраструктура характэрная пераважна для слоўнікаў адтапонімных дэрыватаў. Асаблівасць мадэлі слоўнікавага артыкула

заключаецца ў пашырэнні зоны варыянтаў. Варыянтнае найменне падаецца не толькі да загаловачнага слова, але і да ўсіх вытворных онімаў.

16) **ЗН|ЗВ|ЗД|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*Рапановіч**]: РЫЖКО́Ў м., -ова, -ове Рыжков. Ры́жкаўскі Рыжковский в. у Эсьмонскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя С.М.Кірава [*Рапановіч-83**, с. 153].

Менавіта гэтая мадэль мікраструктуры ўключае ўсе вылучаныя намі зоны т. зв. "ідэальнага" слоўнікавага артыкула для тапанімічнага выдання і найбольш поўна адлюстроўвае вызначальныя асаблівасці тапанімічнай лексікі: змяшчае варыянтныя найменні онімаў (што папярэджвае страту анамастычных адзінак), вытворныя ад іх адзінкі – назвы жыхароў і ад'ектонімы (кадыфікацыя якіх з'яўляецца вельмі важнай у сувязі з неўніфікаванасцю гэтых груп найменняў), неабходныя граматычныя паметы, а таксама звесткі пра рэаліі, названыя рэестравым словам – адміністрацыйна-геаграфічную інфармацыю пра паселішчы.

Зыходзячы са спецыфікі *мікраструктуры*, вылучаюцца тры тыпы анамастычных слоўнікаў: а) выданні стандартнай мікраструктуры; б) выданні звужанай мікраструктуры; в) выданні пашыранай мікраструктуры.

*Стандартная мікраструктура* лексікаграфічных прац адпавядае мадэлі **ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗЭІ** [*Барыс-10**, *БКБ**, *БСБ**, *Лемцюгова**, *Мезенка**, *Нерознак**, *РАВБ**, *Stekert**, *Чыж**]. Зоны намінацыі, варыянтаў, ідэнтыфікацыі і экстралінгвістычнай інфармацыі – гэта зоны, неабходныя для выканання слоўнікам у поўным аб'ёме інфармацыйна-кадыфікацыйнай функцыі, таму яны з'яўляюцца тыповымі для мікраструктуры анамастычнага выдання. Іншыя зоны (зона памет, зона дэрыватаў, зона ілюстрацый) выступаюць як факультатыўныя.

Выданні *звужанай мікраструктуры* характарызуюцца адсутнасцю адной або некалькіх абавязковых зон. Пры гэтым у структуру слоўнікавага артыкула могуць уключацца факультатыўныя зоны. Да выданняў са звужанай мікраструктурай належаць слоўнікі,

мікраструктура якіх адпавядае наступным мадэлям: **ЗН** [*Барыс-01**], **ЗН|ЗЭІ** [*Абрамчык*, *ВБ**], **ЗН|ЗІд|ЗЭІ** [*ГГПБ**, *РАВБ**, *Саламевіч**], **ЗН|ЗВ|ЗЭІ** [*ЛЭБА**], **ЗН|ЗІд|ЗП** [*ННП**], **ЗН|ЗД|ЗЭІ** [*Горпинич**], **ЗН|ЗВ|ЗД** [*СДАГ**], **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД** [*Сарока**, *Суднік**], **ЗН|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*АСГ**, *МБ**], **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД|ЗЭІ** [*Бірыла-69**, *Бірыла-82**], **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗІ|ЗЭІ** [*Морошкинъ**], **ЗН|ЗВ|ЗП|ЗД|ЗЭІ** [*Генкін**, *Заіка**, *Усціновіч-11**]. Відавочна, такі тып мікраструктуры характэрны для большасці анамастычных выданняў.

Выданні, слоўнікавыя артыкулы якіх уключаюць, акрамя ўсіх стандартных зон, адну або некалькі факультатыўных, адносяцца да слоўнікаў *пашыранай мікраструктуры*. Да такіх лексікаграфічных прац належаць слоўнікі, мікраструктура якіх адпавядае мадэлям: **ЗН|ЗВ|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*Иванова**], **ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗІ|ЗЭІ** [*Мезенко**, *KLR**], **ЗН|ЗВ|ЗД|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** [*Рапановіч**]. Пашыраная мікраструктура слоўніка найбольш поўна адлюстроўвае ўсе характэрныя асаблівасці анамастычных адзінак, а таксама ўключае інфармацыю пра названыя імі рэаліі.

**Схема 2 – Анамастычныя слоўнікі паводле асаблівасцей структуры**



# ГЛАВА V
# ПЕРСПЕКТЫВЫ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ АНАМАСТЫЧНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

З часу ўзнікнення традыцыі мэтанакіраванага лексікаграфавання анамастычнага матэрыялу на Беларусі ў другой палове ХХ ст. была даследавана і кадыфікавана ў слоўніках вялікая частка беларускага анамастыкону. Пра паслядоўнае развіццё беларускай анамастычнай лексікаграфіі сведчыць усё большая дэталізацыя аб'ектаў лексікаграфічнага даследавання:

а) адбываецца пераход ад слоўнікаў агульнага тыпу, дзе паралельна апісваліся розныя разрады онімаў, да вузкаспецыялізаваных выданняў, у якіх фіксуецца толькі пэўны від анамастычных адзінак;

б) у асобных працах праводзіцца кадыфікацыя вытворных ад онімаў адзінак – ад'ектонімаў і катайконімаў;

в) сістэматызуецца анамастычная лексіка ў тэкстах канкрэтных пісьменнікаў і інш.

Заканамерным вынікам названых працэсаў з'яўляецца неаднолькавы ўзровень тэарэтычнай даследаванасці і лексікаграфічнай прадстаўленасці розных тыпаў беларускіх онімаў. Так, можна гаварыць пра поўную і дасканалую каталагізацыю айконімаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі, у той час, як, напрыклад, заонімы засталіся практычна па-за ўвагай лексікографаў. Вывучана і зведзена ў слоўнікі анамастычная лексіка мовы твораў асобных аўтараў: Ф.Скарыны [*Анічэнка**], Янкі Купалы [*СМК**], Якуба Коласа [*АСТК**] і М.Багдановіча [*Гурская**].

У нязначнай ступені ўпарадкавана старажытная тапанімія. Так, на сёння створаны толькі тры беларускія слоўнікі, у якіх апісваецца старажытная тапанімічная лексіка, – праца Г.М.Мезенка "Имя внутригородского объекта в истории: об урбанонимах Беларуси XIV – начала XX в." [*Мезенко**], дзе раскрываецца этымалогія старажытных урбанонімаў, і дадатак "Слоўнік адтапонімных дэрыватаў" да кнігі "Адтапанімічнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці" З.У.Шведавай [*Шведава**]. У рукапісе

застаецца арыгінальны слоўнік І.Л.Капылова “Тапанімія дзелавых помнікаў X – XIII стст.” [*Капылоў, 2001*].

Каб вызначыць агульную ступень лексікаграфічнай аформленасці беларускага анамастыкону, разгледзім асобна ўсе тыпы онімных адзінак (гл. схему 3) адносна іх прадстаўленасці ў беларускіх слоўніках. Натуральна, што найбольшую цікавасць пры такім аналізе ўяўляюць уласна анамастычныя слоўнікі ў супрацьвагу лексікаграфічным выданням, дзе тапанімічныя і антрапанімічныя дадаткі змяшчаюцца, напрыклад, з мэтай усталявання адзінства арфаграфічнага афармлення онімаў.

Апазіцыя “рэалонім – міфонім” рэалізавана ў анамастычнай лексікаграфіі непрапарцыянальна. У беларускай навуцы пакуль не створаны самастойныя слоўнікі міфонімаў, дзе б назвы міфалагічных істот разглядаліся з лінгвістычнага боку. Нязначная колькасць міфонімаў зафіксавана ў працах М.Федароўскага [*Federowski**] і Ю.А.Гурскай [*Гурская**]. Апублікаваны некалькі энцыклапедычных выданняў па беларускай міфалогіі (“Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік”, “Беларускі фальклор: энцыклапедыя”, дапаможнік “Беларуская міфалогія” У.А.Васілевіча), у якіх мовазнаўчы аспект адлюстраваны толькі фрагментарна.

Рэалонімы прадстаўлены ў беларускай анамастычнай лексікаграфіі ў большай ступені.

Так, з усіх тыпаў геонімаў (імён любых прыродна-фізічных аб’ектаў на Зямлі) у анамастычных слоўніках адлюстраваны толькі тапонімы і біёнімы. Яшчэ не створаны выданні, дзе б асобна фіксаваліся хранонімы (уласныя назвы прамежкаў часу), ідэонімы (уласныя назвы з’яў духоўнай культуры), эргонімы (назвы дзелавых аб’яднанняў людзей: саюзаў, арганізацый, устаноў, карпарацый і інш.), хрэматонімы (уласныя назвы прадметаў матэрыяльнай культуры). У сувязі з адсутнасцю традыцыі даваць уласныя назвы стыхійным бедствам (ураганам, цыклонам, тайфунам) і агульнай нехарактэрнасцю названых з’яў для тэрыторыі Беларусі, анемонімы ў беларускай лінгвістыцы таксама лексікаграфічна не апісаны.

## Схема 3 – Сістэма анамастычных адзінак



## 5.1 Лексікаграфічная прэзентацыя тапанімічнага фонду беларускай мовы

Для вызначэння ступені прадстаўленасці розных тыпаў тапонімаў у беларускіх лексікаграфічных выданнях лічым мэтазгодным разглядаць кожны з іх паасобку ў праекцыі на тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел Беларусі (гл. Дадатак).

Як ужо адзначалася, у найбольшай ступені ў сучасным моваі знаўстве лексікаграфічна апрацаваны беларускія айконімы. Такія выданні, як “Слоўнік назваў населеных пунктаў” [*Рапановіч**] Я.Н.Рапановіча і “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь” [*ННП**] пад рэд. В.П.Лемцюговай у дастаткова поўным аб’ёме адлюстроўваюць беларускі айканімікон. У названых выданнях прадстаўлены найменні гарадоў, гарадскіх пасёлкаў і вёсак усіх абласцей Беларусі. Асобна беларускія астыонімы і бургонімы змешчаны ў кнігах “Гарады і гарадскія пасёлкі Беларусі” [*ГГПБ**] і “Гарады і вёскі Беларусі” [*ГВБ**].

Назвы ўсіх населеных пунктаў Гомельскай вобласці адлюстраваны ў слоўніках Н.А.Багамольнікавай і А.А.Станкевіч “Айканімія Гомельшчыны” [*АГ**] і “Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей” А.Ф.Рогалева [*Рогалев-03**]. Акрамя таго, айконімы Веткаўскага раёна апісаны ў асобнай працы аўтара – “Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области” [*Рогалев-04**].

Літоўскія па паходжанні айконімы пагранічных раёнаў Гродзенскай і Віцебскай абласцей даследаваны М.В.Бірылам і А.П.Ваганасам у кнізе “Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы” [*ЛЭБА**]. Камонімы Віцебскай вобласці адлюстраваны ў “Слоўніку адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны” У.М.Генкіна [*Генкін**] побач з найменнямі вёсак, ад якіх яны ўтвораны. Камонімы Гродзенскага раёна змешчаны ў дадатку “Назвы населеных пунктаў Гродзенскага раёна” да працы А.П.Цыхуна “Скарбы народнай мовы” [*Цыхун**].

Айконімы Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці у выданнях Я.Н.Рапановіча [*Рапановіч**] і В.А.Жучкевіча [*Жучкевич**] апісаны ў складзе іншых раёнаў у сувязі з тым, што на момант стварэння гэтых

слоўнікаў тэрыторыя Дрыбіншчыны ўваходзіла ў склад іншых раёнаў. У якасці асобнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі Дрыбінскі раён быў адноўлены ў 1989 г., і таму айконімы Дрыбіншчыны знайшлі адлюстраванне ў нарматыўным даведніку пад рэд. В.П.Лемцюговай "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь" [*ННП**].

Беларуская тапаніміка дастаткова поўна прадстаўлена ў многіх выданнях серыі "Памяць" (найперш гэта айканімія з гістарычнымі звесткамі пра населеныя пункты Рэспублікі Беларусь).

Як ужо адзначалася ў раздзеле 2.1, беларускія айконімы ўключаны ў шматлікія рускія, польскія і літоўскія слоўнікі XIX ст.: "Географический словарь русской земли" М.П.Барсава [*Барсовъ**], "Новый и полный географическій словарь Россійскаго государства..." [*НПГС**], "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія" І.Я.Спрогіса [Спрогисъ*] і інш., а таксама ў сучасныя слоўнікі, дзе апісаны старажытны анамастычны матэрыял, – "Названия древнерусских городов" У.П.Неразнака [*Нерознак**]. У названых выданнях прадстаўлены, у асноўным, найменні найбольш буйных гарадоў і мястэчак Беларусі.

У нацыянальнай анамастычнай лексікаграфіі адсутнічаюць слоўнікі, у якіх увесь беларускі айканімікон быў бы поўна і паслядоўна даследаваны ў этымалагічным аспекце. Некаторыя звесткі пра паходжанне онімаў змяшчае "Краткий топонимический словарь Белоруссии" В.А.Жучкевіча [*Жучкевич**]. Аднак у гэтым выданні адлюстраваны не ўсе айконімы Беларусі, а толькі назвы буйных населеных пунктаў. Этымалогія асобных найбольш вядомых беларускіх айконімаў падаецца ў кнізе "Тапонімы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды" В.П.Лемцюговай [*Лемцюгова**]. Звесткі пра паходжанне айконімаў Капыльскага раёна прыведзены ў працы Ф.К.Абрамчыка "І гэта ўсё мой край" [*Абрамчык**].

Тапанімічныя дадаткі, у якіх назвы беларускіх геаграфічных аб'ектаў перакладаюцца з беларускай мовы на рускую і наадварот, маюць "Дзелавод" С.Серады [*Серада**], "Практычны расійска-беларускі слоўнік" М.Байкова, М.Гарэцкага [*ПРБС**] і цэлы шэраг сучасных перакладных руска-беларускіх, беларуска-рускіх і арфаграфічных слоўнікаў. Пераклад адзінкавых тапонімаў

змяшчае дадатак да “Віцебскага краёвага слоўніка” М.І.Касяровіча [*Касяровіч**].

Такія тыпы тапонімаў, як аронімы (уласныя назвы элементаў рэльефу зямной паверхні), дрымонімы (найменні лясоў, бароў і іх частак), драмонімы (назвы шляхоў зносін: наземнага, воднага, паветранага) і аграонімы (найменні зямельных надзелаў, палёў, сенажацей і інш.) традыцыйна адносяцца да мікратапонімаў і фіксуюцца разам у мікратапанімічных слоўніках. Харонімы (уласныя назвы абласцей, раёнаў) звычайна з’яўляюцца кампанентамі макраструктуры лексікаграфічных выданняў.

У айчыннай лексікаграфіі першай самастойнай працай, прысвечанай апісанню найменняў дробных геаграфічных аб’ектаў, з’яўляецца “Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы” пад рэд. М.В.Бірылы і Ю.Ф.Мацкевіч [*МБ**], дзе найбольш поўна прадстаўлены мікратапонімы Брэсцкай і асобных раёнаў Мінскай і Гродзенскай абласцей.

Натуральна, што са звужэннем тэрыторыі даследавання і з наступнай дэталізацыяй лексікаграфічнай працы ўзрастае і колькасць онімаў, якія фіксуюцца на вывучаемай тэрыторыі. Так, у працах А.Ф.Рогалева “Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области” [*Рогалев-04**] і “Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей” [*Рогалев-03**] акрамя аграонімаў, дрымонімаў, драмонімаў, адлюстраваны і найменні больш дробных геаграфічных аб’ектаў, напрыклад, некаторыя эклезіонімы, назвы мастоў і інш.: *Белый дом* [*Рогалев-04**, с. 22], *Зайцева мельница* [*Рогалев-04**, с. 60], *Варшавский мост* [*Рогалев-04**, с. 31], *Грапов сад* [*Рогалев-03**]. Мікратапонімы 132 населеных пунктаў Гомельскай вобласці ўключае выданне Г.А.Івановай “Микротопонимия Мозырского Полесья” [*Иванова**]. Найменні дробных геаграфічных аб’ектаў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Столінскага раёна Брэсцкай вобласці змешчаны ў дадатку да “Тураўскага слоўніка” пад рэд. А.А.Крывіцкага [*ТС**].

Мікратапанімікон Гродзенскай вобласці прадстаўлены ў “Анамастычным слоўніку Гродзеншчыны” [*АСГ**], а таксама ў дадатку да кнігі “Скарбы народнай мовы” А.П.Цыхуна [*Цыхун**].

Мікратапанімія Магілёўшчыны асобна адлюстравана ў двух лексікаграфічных выданнях – у “Слоўніку мікратапонімаў Магілёўшчыны” [*СММ**] і першай частцы “Анамастычнага слоўніка Магілёўшчыны” В.І.Рагаўцова і С.Я.Кечык [*АСМ**]. Мікратапонімы Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці змешчаны ў адным з раздзелаў кнігі “Геаграфічна-статыстычны слоўнік: Клімавіцкі раён” пад рэд. І.М.Шарухі [*ГСС**].

Назвы ўнутрыгарадскіх (урбанонімы) і ўнутрысельскіх (віконімы) аб’ектаў населеных пунктаў Віцебскай вобласці адлюстраваны ў выданні Г.М.Мезенка “Віцебшчына ў назвах вуліц” [*Мезенка**]. Некаторыя віконімы і ўрбанонімы Гомельскай вобласці ўключаны ў працы А.Ф.Рогалева [*Рогалев-03**; *Рогалев-04**].

Уласныя гідранімічныя назвы Беларусі шырока прадстаўлены ў энцыклапедычных выданнях апошніх гадоў. Так, патамонімы зафіксаваны ў экцыклапедыях “Блакітная кніга Беларусі” [*БКБ**], “Блакітны скарб Беларусі…” [*БСБ**], “Рэкі, азёры і вадасховішчы Беларусі” [*РАВБ**]. Назвы рэк, даўжыня якіх меншая за 5 км, у “Блакітную кнігу Беларусі” не ўключаны. Частка патамонімаў змешчана ў працах “Краткий топонимический словарь Белоруссии” В.А.Жучкевіча [*Жучкевич**] і “Краткий справочник рек и водоёмов БССР” А.І.Цюльпанава, І.А.Барысава, В.І.Благуціна [*КСРВ**]. Гідронімы ракі Свіслач апісаны ў дадатку да працы “Скарбы народнай мовы” А.П.Цыхуна [*Цыхун**].

Беларускія лімнонімы ўключаны ў названыя экцыклапедыі гідронімаў [*БКБ**, *БСБ**, *КСРВ**, *РАВБ**], у выданне “Озера Беларуси” [*ОБ**], а таксама часткова ў “Краткий топонимический словарь Белоруссии” В.А.Жучкевіча [*Жучкевич**].

Назвы найбольш буйных беларускіх рэк і азёр зафіксаваны ў слоўніках XIX ст.: “Новый и полный географическій словарь Россійскаго государства...” [*НПГС**], “Географический словарь русской земли” Н.П.Барсова [*Барсовъ**], “Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія” І.Я.Спрогіса [*Спрогисъ**]. Патамонімы і лімнонімы Гомельскай вобласці апісаны ў слоўніку “Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей” А.Ф.Рогалева [*Рогалев-03**].

Найменні вадасховішчаў Беларусі змяшчаюць энцыклапедыі “Блакітная кніга Беларусі” [*БКБ**], “Блакітны скарб Беларусі…” [*БСБ**], і “Рэкі, азёры, вадасховішчы Беларусі” [*РАВБ**]. Асобна апісанню цыстэронімаў прысвечана энцыклапедыя “Водохранилища Беларуси” [*ВБ**]. Назвы водных каналаў зафіксаваны толькі ў энцыклапедыі “Блакітная кніга Беларусі” [*БКБ**].

Амаль не прадстаўлены ў лексікаграфічнай форме назвы беларускіх балот. Гелонімы фіксуюцца толькі ў выданнях “Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области” А.Ф.Рогалева – па Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці [*Рогалев-04**], “Микротопонимия Мозырского Полесья” Г.А.Івановай [*Иванова**] – па асобных раёнах Брэсцкай вобласці, часткова – у слоўніку “Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы” пад рэд. М.В.Бірылы і Ю.Ф.Мацкевіч [МБ*] і невялікіх падборках онімаў, змешчаных у зборніку “Беларуская анамастыка” [*Міхайлаў, 1985*; *Міхайлаў, 1992а* і інш.].

Дадаткі “Гелонімы Беларусі” і “Гелонімы ЗША” да дысертацыйнага даследавання А.І.Копача “Номинация водных объектов в белорусском и английском языках: ономасиологический аспект (на материале гелонимов Беларуси и США)” застаюцца ў рукапісах і пакуль не аформлены асобнымі лексікаграфічнымі выданнямі.

У апошнія дзесяцігоддзі беларускія лексікографы пачалі надаваць значную ўвагу аданамастычным утварэнням – ад’ектонімам і катайконімам. Доўгі час адзіным выданнем, дзе былі зафіксаваны аданамастычныя прыметнікі, заставаўся “Слоўнік назваў населеных пунктаў…” Я.Н.Рапановіча [*Рапановіч**]. Часткова названыя беларускія анамастычныя адзінкі былі ўключаны ў слоўнік У.А.Гарпініча “Оттопонимические производные в белорусском языке” [*Горпинич**]. На сёння ад’ектонімы і катайконімы Гомельскай вобласці прадстаўлены асобна ў слоўніку “Айканімія Гомельшчыны” Н.А.Багамольнікавай і А.А.Станкевіч [*АГ**]. Назвы жыхароў 12 раёнаў Брэсцкай вобласці змешчаны ў “Слоўніку тапонімаў і адтапонімных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак” З.М.Заікі [*Заіка**]. Катайконімы і ад’ектонімы Віцебскай вобласці адлюстраваны ў “Слоўніку адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны” У.М.Генкіна

[*Генкін**]. Назвы жыхароў Жыткавіцкага і Столінскага раёнаў змешчаны ў дадатку да "Тураўскага слоўніка" [*ТС**].

Старажытныя ад'ектонімы, выяўленыя ў "Актах, издаваемых Виленскою археографическою комиссиею", зафіксаваны ў "Слоўніку адтапонімных дэрыватаў", змешчаным у працы "Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці" З.У.Шведавай [*Шведава**].

## 5.2 Лексікаграфічная прэзентацыя антрапанімічнага фонду беларускай мовы

З трох разнавіднасцей біёнімаў у беларускай анамастычнай лексікаграфіі дастаткова поўна прадстаўлены толькі антрапонімы. Фітонімы і заонімы зафіксаваны ў энцыклапедычных выданнях, дзе апісваюцца не моўныя адзінкі, а рэаліі, якія яны абазначаюць. З лінгвістычнага боку фітонімы і заонімы спрабаваў апісаць В.Ю.Ластоўскі, які змясціў у сваім "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" спецыфічныя дадаткі "Крыўскі (беларускі) іменнік", "Назовы птахаў" і "Іменнік расьцін" [*Ластоўскі**]. Невялікую колькасць мянушак жывёл ўключае 4 том слоўніка М.Федароўскага "Lud białoruski na Rusi Litewskiej" [*Federowski**].

На сёння дзень поўна апісана беларуская антрапанімічная лексіка. Існуюць працы, прысвечаныя як старажытнай антрапаніміцы, так і сучаснай. Праведзены навуковыя даследаванні, у якіх адлюстравана змяненне розных класаў онімаў на працягу некалькіх стагоддзяў. Беларускі антрапанімікон разглядаўся ў этымалагічным і словаўтваральным аспектах. Усе тыпы антрапонімаў, акрамя імён-мянушак, прадстаўлены ў асобных вузкаспецыялізаваных выданнях.

Асабовыя імёны характарызуюцца найбольшай ступенню лексікаграфічнай апрацаванасці. Ужо з XVII ст. яны паступова ўключаліся ў рэестры слоўнікаў ("**Лексикон славеноросский альбо имен толкование**" П.Бярынды, "**Лексисъ с толкованіем словенскіхъ мовъ просто**", "**Лексисъ**..." Л.Зізанія) − спачатку разам з агульнай лексікай, а пасля і аўтаномна.

У XIX – пач. XX стст. цікавасць да асабовых імён значна ўзрасла. Яны фіксаваліся ўжо не толькі ў слоўніках энцыклапедычнага характару [*KLR**; *Тупиковъ**], але і ў лінгвістычных выданнях [*Морошкинъ**], дзе праведзены семантычны і словаўтваральны аналіз онімаў.

У першай палове XX ст., калі пачалася актыўная праца па складанні дыялектных і тэрміналагічных слоўнікаў, а таксама зводнага слоўніка беларускай мовы, узнікла патрэба ў перакладных руска-беларускіх выданнях. Як ужо адзначалася, у некаторыя неанамастычныя слоўнікі ўключаліся антрапанімічныя дадаткі, дзе беларускія асабовыя імёны перакладаліся на рускую мову і наадварот [*Каспяровіч**; *Мікалаеў**; *ПРБС**; *Серада**]. Такія антрапанімічныя дадаткі сталі правобразам самастойных перакладных беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў, якія ўзніклі ў другой палове XX ст. [*Сарока**; *Суднік**], дзе суадносяцца антрапанімічныя назвы ў беларускай і рускай мовах, і перакладных выданняў XXI ст. [*СДАІ**].

Мужчынскія і жаночыя асабовыя імёны з вытворнымі ад іх формамі зафіксаваны ў раздзеле "Imiona najpospolitsze" чацвёртага тома працы "Lud białoruski na Rusi Litewskiej" М.Федароўскага [*Federowski**] і дадатку да "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" В.Ластоўскага [*Ластоўскі**].

Асаблівасці развіцця асабовых імён на працягу XV – XVIII стст. адлюстраваны ў працах М.В.Бірылы "Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы" [*Бірыла-66**] і слоўніку "Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны" А.К.Усціновіч [*Усціновіч-75**]. У названых выданнях адзначаны моўныя рэалізацыі імён, зафіксаваныя ў старажытных дакументах. Даўнія беларускія асабовыя імёны ўваходзяць у рэестр слоўніка С.Б.Весялоўскага "Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии" [*Веселовский**].

Этымалагічныя звесткі да асабовых імён падаюцца ў шэрагу сучасных беларускіх антрапанімічных слоўнікаў [*Барыс-10**; *Чыж**]. Звесткі пра паходжанне асабовых імён змешчаны ў слоўніках А.К.Усціновіч [*Усціновіч-11**] і І.Я.Яшкіна [*Яшкін**].

Антрапанімічныя дадаткі найбольш пашыраных на Беларусі асабовых імён спарадычна ўключаюць працы "З гісторыі ўласных

імён” і “Беларускія ўласныя імёны: беларуская антрапаніміка і тапаніміка” В.В.Шура [*Шур-93**; *Шур-98**].

Імёны па бацьку традыцыйна фіксуюцца побач з асабовымі мужчынскімі імёнамі як у перакладных анамастычных слоўніках [*Сарока**, *Суднік**], так і ў неперакладных [*Барыс**, *Бірыла-66**, *Усціновіч-11**, *Яшкін**].

Імёны па маці як асобны тып антрапанімічных адзінак вылучаюцца толькі ў працы І.Я.Яшкіна “Слоўнік беларускіх імён” [*Яшкін**].

Прозвішчы ў беларускіх антрапанімічных слоўніках фіксуюцца ў якасці самастойнага разраду антрапонімаў, а таксама побач з іншымі антрапонімамі, ад якіх яны ўтварыліся.

У гістарычным аспекце прозвішчы разглядаюцца ў выданнях “Kniaziowie litewsko-ruscy” [*KLR**], “Аршанская шляхта” З.Дзядзенкі [*Дзядзенка**], “Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии” С.Б.Весялоўскага [*Веселовский**] і “Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ” М.М.Тупікова [*Тупиковъ**]. У названых працах акцэнт робіцца не на саміх моўных адзінках, а на інфармацыі пра асоб, якім яны належалі.

З лінгвістычнага боку прозвішчы даследаваны ў работах М.В.Бірылы “Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы” [*Бірыла-66**] і “Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі” [*Бірыла-69**]. У апошнім выданні аналізуюцца антрапанімічныя адзінкі ў дачыненні да апелятыўнай лексікі, якая стала асновай для іх ўзнікнення.

У слоўніку А.Ф.Рогалева “Историческая антропонимия Гомеля и окрестностей” [*Рогалев-09**] прыведзены этымалагічныя звесткі адносна прозвішчаў, якія выкарыстоўваліся на даследаванай тэрыторыі ў XVII – XVIII стст.

У якасці дадатковага матэрыялу (як вытворныя адзінкі) беларускія прозвішчы змяшчаюцца ў “Слоўніку асабовых уласных імён” А.К.Усціновіч [*Усціновіч-11**].

Да нашага часу не існуе самастойных слоўнікаў, дзе былі б асобна зафіксаваны беларускія імёны-мянушкі. Аднак гэты клас антрапонімаў шырока прадстаўлены ў беларускай анамастычнай

лексікаграфіі. Матывацыйную характарыстыку імён-мянушак уключае чацвёрты том выдання М.Федароўскага “Lud białoruski na Rusi Litewskiej” [*Federowski**], а таксама працы М.В.Бірылы [*Бірыла-66**], В.І.Рагаўцова і С.Я.Кечык [*АСМ**].

Імёны-мянушкі, зафіксаваныя ў старажытных дакументах XVII – XVIII стст., апісаны ў слоўніку С.Б.Весялоўскага “Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии” [*Веселовский**].

Псеўданімы беларускіх пісьменнікаў XVI – XX стст. уключае “Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.)” Я.Саламевіча [*Саламевіч**]. Акрамя таго, названы тып антрапонімаў апісваўся толькі ў “Слоўніку псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў” А.Гардзіенкі, Н.Гардзіенка, Л.Юрэвіча [*СПК**].

Патрымонімы як асобны клас антрапонімаў фіксуюцца ў выданні А.Стэкерта “Przydomki połskie, litewskie i rusinskie” [*Stekert**].

Адзіным выданнем, у якім змешчаны найменні людзей, якія пражываюць на пэўнай тэрыторыі (этнонімы), з’яўляецца раздзел “Przezwiska plemienne i od miejsca zamieszkania” у працы “Lud białoruski na Rusi Litewskiej” [*Federowski**].

## 5.3 Праект электроннага зводнага слоўніка беларускай гідранімічнай лексікі

### 5.3.1 Актуальнасць слоўніка

У лінгвістычнай навуцы пад тэрмінам *гідронім* разумеюць лексічныя адзінкі, якія абазначаюць найменні водных аб’ектаў (рэк, азёр, каналаў, балот і інш.). Паколькі такія назвы могуць захоўвацца без істотных змен на працягу стагоддзяў і тысячагоддзяў, гідронімы маюць высокую лінгва-гістарычную каштоўнасць. Іх вывучэнне дазваляе прасачыць этнічныя і міграцыйныя працэсы на прылеглай тэрыторыі, шляхі і кірункі міграцыі насельніцтва, выявіць асаблівасці кантактаў і сістэмных сувязей паміж рознымі этнасамі на моўным узроўні. Адрозніваюць *пелагонімы* (назвы мораў),

*лімнонімы* (назвы азёр, запруд), *патамонімы* (назвы рэк), *гелонімы* (назвы балот і балоцістых мясцовасцей) і інш.

У апошнія дзесяцігодзі выйшла з друку некалькі энцыклапедычных даведнікаў, у якіх змяшчаецца разнастайная інфармацыю пра прыродныя і штучныя водныя аб'екты Беларусі. Так, у "Блакітнай кнізе Беларусі" (1994) да рэестравага слова падаюцца наступныя звесткі пра водны аб'ект: від аб'екта (рака, возера, канал і інш.), месца яго знаходжання, даўжыня і тэрыторыя працякання (для ракі). Да найбольш буйных аб'ектаў падаюцца звесткі пра плошчу вадазбору, сярэднегадавы расход вады ў вусці, сярэдні нахіл воднай паверхні. Для азёр – найбольшая глыбіня, даўжыня берагавой лініі, аб'ём вады і плошча вадазбору. Спарадычна падаюцца апісанні знешняга выгляду водных аб'ектаў і ілюстрацыі-фотаздымкі. Адпаведная інфармацыя змешчана ў энцыклапедыях "Блакітны скарб Беларусі…" (2007) і "Рэкі, азёры і вадасховішчы Беларусі" (1979). Энцыклапедыі "Водохранилища Беларуси" (2005) і "Озера Беларуси" (2004) фіксуюць больш вузканакіраваныя звесткі: інфармацыю пра дамбы, ваданасосныя станцыі, асаблівасці гаспадарчага выкарыстання апісаных аб'ектаў. Відавочна, што ў названых выданнях змешчана выключна экстралінгвістычная інфармацыя. Адзінай спробай стварэння спецыялізаванай працы, у якой бы характарызаваліся не толькі самі водныя аб'екты, але і моўныя адзінкі, якімі яны названы, з'яўляецца "Алфавітны слоўнік гідронімаў [Пабужжа]", які змяшчаецца ў дадатку да кандыдацкай дысертацыі Н.А.Смаль і ўключае 608 гідронімаў басейна Заходняга Буга. Тыповы слоўнікавы артыкул складаецца з зоны намінацыі, зоны граматычнай інфармацыі, зоны ідэнтыфікацыі і зоны экстралінгвістычнай інфармацыі [*Смаль*].

Такім чынам, на сучасным этапе развіцця нацыянальнай лінгвістыкі ўкладанне поўнага слоўніка гідронімаў беларускай мовы – гэта навукова і сацыяльна важная задача: стварэнне такой працы, несумненна, паспрыяе далейшаму сістэмнаму апісанню онімнай лексікі і можа паслужыць узорам для кадыфікацыі іншых разрадаў онімаў.

### 5.3.2 Форма слоўніка

Перспектывы лексікаграфіі ў значнай ступені вызначаюцца актыўным развіццём інфармацыйных тэхналогій. У сучаснай лінгвістыцы выпрацавалася не толькі традыцыя пераводу папяровых лексікаграфічных работ у электронны фармат, але і сфарміравалася тэндэнцыя да стварэння ўласна слоўнікаў, тэзаўрусаў і канкардансаў з электронным інтэрфейсам. Відавочна, што такія праграмныя прадукты маюць значныя перавагі над друкаванымі лексікаграфічнымі выданнямі (спрошчаны пошук моўнай адзінкі; даступнасць для карыстальніка – пры інсталяванні або капіраванні на камп'ютар; большыя інфарматыўныя магчымасці (сукупнасць самых розных параметраў апісання слова); выкарыстанне сістэмы гіперспасылак і інш.).

Такім чынам, найбольш аптымальнай формай прэзентацыі нацыянальнага гідранімічнага матэрыялу на сучасным этапе развіцця навукі з'яўляецца электронны слоўнік беларускай гідранімічнай лексікі, які пры неабходнасці можа быць трансфармаваны ў традыцыйны (друкаваны) лексікаграфічны даведнік.

### 5.3.3 Канцэпцыя і крыніцы слоўніка

Слоўнік будзе з'яўляцца першай у беларускай лексікаграфіі спробай сінтэзаванага прадстаўлення і лінгвістычнай апрацоўкі назапашанага гідранімічнага матэрыялу. Ён павінен складаецца з 4 раздзелаў ("Рэкі Беларусі", "Азёры Беларусі", "Вадасховішчы і каналы Беларусі", "Балоты Беларусі") і ўтрымліваць паказальнікі, што адпавядаюць названым раздзелам.

У рэестр слоўніка павінны ўвайсці ўсе беларускія гідронімы, зафіксаваныя ў сучасных энцыклапедычных і лінгвістычных даведніках, дзе апісваюцца водныя аб'екты Рэспублікі Беларусь. Крыніцамі Слоўніка паслужылі:

*а) галіновыя энцыклапедыі і даведнікі (па водных аб'ектах Беларусі):*

1) Блакітная кніга Беларусі: энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 1994. – 415 с.;

2) Блакітны скарб Беларусі: рэкі, азёры, вадасховішчы, турысцкі патэнцыял водных аб’ектаў. – Мінск: БелЭн, 2007. – 480 с.;

3) Калинин, М.Ю. Водохранилища Беларуси: справочник / М.Ю.Калинин, В.Н.Счисленок, П.П.Рутковский [и др.] – Минск: Полиграфкомбинат им. Якуба Коласа, 2005. – 182 с.;

4) Тюльпанов, А.И. Краткий справочник рек и водоёмов БССР / А.И.Тюльпанов, И.А.Борисов, В.И.Благутин; под ред. А.И.Тюльпанова.
– Минск: Госиздат. БССР, 1948. – 626 с.;

5) Власов, Б.П. Озера Беларуси: справочник / Б.П.Власов, О.Ф.Янушко, Г.С.Гигевич [и др.]. – Минск: БГУ, 2004. – 284 с.;

6) Рэкі, азёры і вадасховішчы Беларусі / І.Я.Афнагель [і інш.]; адк. рэд.: В.П.Варанцова, А.А.Шаўрова. – Мінск: Гал. рэд. БелСЭ, 1979. – 213 с.;

*б) універсальныя энцыклапедычныя выданні:*

7) Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск: БелЭн, 1996 – 2004.

*в) тапанімічныя слоўнікі:*

8) Жучкевич, В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В.А.Жучкевич. – Минск: БГУ, 1974. – 447 с.

9) Рогалев, А.Ф. Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2003. – 167 с.

10) Рогалев, А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2004. – 193 с.

11) Смаль, Н.А. Алфавітны слоўнік гідронімаў [Пабужжа]” / Н.А.Смаль // Смаль, Н.А. Гідранімія і айканімія Пабужжа. Праблема ўзаемадзеяння: дыс… канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.А.Смаль. – Мінск, 1996. – 46 с.

### 5.3.4 Структура слоўнікавага артыкула

Мікраструктура Слоўніка ўключае шэраг элементаў. Ключавым канструктам слоўнікавага артыкула з'яўляецца лема. Да яе падаюцца найменні на беларускай і рускай мовах з пазначэннем акцэнта. Да абодвух варыянтаў оніма прыводзяцца граматычныя паметы: канчатак Р.с. і М.с. адзіночнага ліку і род назоўніка (*м.*, *ж.*, *н.*). Калі пры словазмяненні ў М.с. адбываецца чаргаванне зычных ці выпадзенне галосных, то паказваецца не канчатак, а фіналь слова, якая ўключае зычную літару, што ўзнікла пры чаргаванні ці новае спалучэнне зычных.

У састаўных найменнях, якія складаюцца з некалькіх слоў, паслядоўна падаюцца фіналі кожнай лексічнай адзінкі (гл. ілюстрацыю 1)

**Ілюстрацыя 1**




У найменнях, што ўжываюцца ў форме pluraia tantum, род не пазначаецца. Такія гідронімы маюць адпаведную памету *мн*.

Пасля граматычных памет у слоўнікавым артыкуле змяшчаецца ідэнтыфікатар. Пры фіксацыі лемы і ідэнтыфікатара родавае найменне не ўключаецца ў загаловачны комплекс, а выносіцца ў асобную зону слоўнікавага артыкула (гл. ілюстрацыю 2).

**Ілюстрацыя 2**




Пры такім падыходзе пазбягаецца дубліраванне родавага наймення ў розных зонах інфармацыі (у зоне намінацыі і зоне ідэнтыфікацыі) слоўнікавага артыкула.

Калі водны аб'ект мае варыянтныя найменні, то яны ўключаюцца ў слоўнікавы артыкул у дужках адразу пасля лемы (гл. ілюстрацыю 3).

**Ілюстрацыя 3**




Усе варыянтныя найменні ўключаюцца ў асобныя слоўнікавыя артыкулы з адсылкай да галоўнага, у якім прыводзіцца характарыстыка наймення. Граматычныя паметы да варыянтных найменняў фіксуюцца ў адсылачным слоўнікавым артыкуле (гл. ілюстрацыю 4).

**Ілюстрацыя 4**




У зону экстралінгвістычнай інфармацыі ўводзяцца звесткі пра месцазнаходжанне воднага аб'екта, а таксама ўказанне на крыніцы матэрыялу, дзе зафіксаваны онім (гл. ілюстрацыю 5).

**Ілюстрацыя 5**




Такім чынам, мікраструктура Слоўніка ўключае зону намінацыі, зону граматычных памет, зону варыянтаў, зону ідэнтыфікацыі, зону экстралінгвістычнай інфармацыі (звесткі пра месцазнаходжанне

воднага аб'екта, скарочаныя назвы пісьмовых крыніц фіксацыі онімаў).

### 5.3.5 Асаблівасці выкарыстання электроннага рэсурса

Электронны "Слоўнік гідронімаў беларускай мовы" складаецца на мове DSL (Dictionary Specification Language) у выглядзе тэкставага файла, захаванага ў кадзіроўцы Unicode са змяненнем пашырэння файла на dsl.

DSL – мова, распрацаваная для разметкі слоўнікавых артыкулаў у адпаведнасці з тэхналогіяй паказу слоўнікаў, прынятай у ABBYY Lingvo. Асноўнае прызначэнне мовы DSL – апісанне формы адлюстравання слоўнікавага артыкула. Прыкладны змест выходнага файла і адпаведнай яму карткі наступны. Выходны файл выглядае наступным чынам:

**Асінаўка**

[i][lang id=24] бел [/lang][/i][lang id=21]. Асі́наўка[/lang]

[m1][lang id=21] -і, -цы; [/lang][i][c][p][com][lang id=21] ж. [/lang][/com][/p][/c][/i][/m]

[i][lang id=24] рус [/lang][/i]. Оси[lang id=21]новка[/lang]

[m1][lang id=21] -и, -е; [/lang][i][c][p][com][lang id=21] ж. [/lang][/com][/p][/c][/i][/m]

[m1][trn][lang id=21] Возера ў басейне ракі Мёрыца. Знаходзіцца ў Міёрскім р-не Віцебскай вобл. [/lang][/trn][/m]

[trn][lang id=21] Крыніцы інфармацыі: [/lang][/trn][i][lang id=21] "Блакітная кніга Беларусі", "Блакітны скарб Беларусі", [/lang][/i][lang id=21] [/lang][i][lang id=21] "Природа Беларуси". [/lang][/i]

На ілюстрацыі 6 паказаны выгляд адпаведнай слоўнікавай карткі.

Ілюстрацыя 6




Для работы з электронным слоўнікам неабходна інсталяваць праграму GoldenDict, пасля чаго захаваць папку “Слоўнік гідронімаў беларускай мовы” на адзін з жорсткіх дыскаў камп’ютара. Пры запуску праграмы GoldenDict з’явіцца акно (гл. ілюстрацыю 7).

Ілюстрацыя 7



Для пачатку працы са Слоўнікам, неабходна запусціць яго ў праграме GoldenDict. Для гэтага можна націснуць F3, або правесці адпаведную аперацыю: Edit → Dictionaries (Праўка → Слоўнікі) (гл. ілюстрацыю 8).

**Ілюстрацыя 8**




Далей выбіраецца "Add…" (дадаць) і ўказваецца папка "Слоўнік гідронімаў беларускай мовы", якая была захавана на камп'ютары (гл. ілюстрацыю 9).

**Ілюстрацыя 9**



Для таго, каб пачаць працу непасрэдна з рэестравымі адзінкамі Слоўніка, неабходна ў радку пошуку увесці некалькі першых літар патрэбнага гідроніма і выбраць тую назву, якая цікавіць (гл. ілюстрацыю 10).

**Ілюстрацыя 10**




Пасля таго, як неабходная гідранімічная адзінка з'явіцца ў акне пад радком пошуку, яе трэба выдзеліць левай клавішай графічнага маніпулятара (гл. ілюстрацыю 11).

**Ілюстрацыя 11**



Пры працы з адсылачнымі слоўнікавымі артыкуламі дастаткова націснуць на загаловачнае слова (найменне блакітнага колеру), да якога ідзе адсылка, і праграма прадэманструе неабходны артыкул.

Калі рэестравая гідранімічная адзінка складаецца з двух слоў, то яе можна знайсці з дапамогай пошукавіка ў шэрагу лем на кожную з дзвюх літар, з якіх пачынаюцца словы ў вакабуле. Напрыклад, гідронім *Белае Сурміно* можна знайсці з дапамогай аўтапошука, націснуўшы як літару “б”, так і на літару “с”.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Вывучэнне асаблівасцей фарміравання, сучаснага стану і вектараў магчымага развіцця беларускай анамастычнай лексікаграфіі дае падставы зрабіць наступныя вывады.

1. Для далейшага гарманічнага развіцця беларускай лінгвістыкі неабходна тэарэтычна асэнсаваць і практычна распрацаваць многія аспекты нацыянальнай лексікаграфіі. Да найважнейшых з іх адносяцца: даследаванне працэсу станаўлення прыватных лексікаграфічных кірункаў (напр., дыялектнай, перакладной, фразеалагічнай, тэрміналагічнай лексікаграфіі); апісанне структурна-зместавых асаблівасцей найбольш аўтарытэтных слоўнікаў; сістэматызацыя і тэарэтычнае абагульненне біябібліяграфічных звестак пра вядучых беларускіх лексікографаў і інш. Грунтоўнага вывучэння патрабуюць працэсы, якія адбываюцца ў беларускай лексікаграфіі на сучасным этапе яе развіцця (павелічэнне колькасці слоўнікаў, пашырэнне тыпалагічнай разнастайнасці выданняў, ускладненне формаў апісання моўных адзінак). Важным застаецца падрабязнае даследаванне вартасцей і недахопаў алфавітнай і алфавітна-тэматычнай макраструктуры розных лінгвістычных слоўнікаў, пытанняў стандартызацыі фармальнага прадстаўлення і зместавай напоўненасці мікраструктуры слоўнікаў розных тыпаў (фарміраванне рэестра, падача варыянтаў, дэфініраванне і маркіраванне лем, спосабы прэзентацыі экстралінгвістычнай інфармацыі) і інш.

2. Беларуская анамастычная лексікаграфія прайшла ў сваім развіцці некалькі этапаў, якія адрозніваюцца прынцыпамі апрацоўкі і сістэматызацыі онімнай лексікі.

*Прапедэўтычны перыяд* ахоплівае час ад узнікнення першых

лексікаграфічных работ, у якіх здзейснена спроба сістэматызацыі пэўнай часткі беларускіх онімаў (канец XIX ст.), да сярэдзіны 1920-х гг., калі была разгорнута актыўная мэтанакіраваная праца па збіранні і апрацоўцы анамастычнай лексікі. Беларускія онімы асобна не каталагізаваліся, а ўключаліся ў слоўнікі паралельна з расійскім, польскім і літоўскім тапанімічным матэрыялам (“Географический словарь русской земли” М.П.Барсава, “Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія” І.Я.Спрогіса, “Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи” Ю.Ю.Трусмана і інш.), або змяшчаліся ў дадатках да іншых выданняў (“Практычны расійска-беларускі слоўнік” М.Байкова і М.Гарэцкага, “Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік” В.Ластоўскага, “Дзелавод” С.Серады).

*Перыяд станаўлення* (другая палова 1920-х гг. – 1950-я гг.) характарызуецца распрацоўкай метадалагічнай базы для стварэння слоўнікаў і вырашэннем асобных пытанняў тэорыі лексікаграфіі. У гэты час арганізуецца мэтанакіраванае збіранне геаграфічных назваў Беларусі, у часопісах “Наш край” і “Родная мова” друкуецца шэраг артыкулаў, у якіх змешчаны адпаведныя метадычныя ўказанні па збіранні і першаснай апрацоўцы онімнай лексікі. Разам з тым, у акрэслены перыяд на тэрыторыі Беларусі не было апублікавана ніводнага лексікаграфічнага выдання, якое б фіксавала онімную лексіку на нацыянальнай мове. У якасці дадатку беларускі антрапанімічны матэрыял уключаны ў “Віцебскі краёвы слоўнік” М.І.Каспяровіча, а таксама ў даведнікі, падрыхтаваныя па-за межамі Беларусі: “Nowogrodek i okolice” Ё.Змігродскага, “Przyczynki do dziejów powiatu brzesko-litewskiego i ziem nim objętych” К.Зданьскага, “Lud białoruski na Rusi Litewskiej” М.Федароўскага.

Асноўныя дасягненні *перыяду інтэнсіўнага развіцця* (1960-я гг. – пачатак XXI ст.) звязаны з дзейнасцю прадстаўнікоў лінгвістычнай школы акадэміка М.В.Бірылы. У другой палове XX ст. анамастыка пераходзіць на прынцыпова новы навуковы ўзровень: выдаецца шэраг слоўнікаў, пашыраецца іх тыпалагічная разнастайнасць, удасканальваюцца прынцыпы ўкладання. Найбольш аўтарытэтнымі лексікаграфічнымі выданнямі гэтага часу з’яўляюцца: “Слоўнік назваў населеных пунктаў…” Я.Н.Рапановіча і “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь” пад рэд.

В.П.Лемцюговай, а таксама капітальнае даследаванне “Беларуская антрапанімія…” М.В.Бірылы. Важную ролю ў станаўленні тэорыі і практыкі лексікаграфічнай апрацоўкі онімаў адыгралі “Краткий топонимический словарь Белоруссии” В.А.Жучкевіча, “Слоўнік асабовых уласных імён” М.Р.Судніка, выданні Г.М.Мезенка, А.К.Усціновіч, а таксама разнастайныя энцыклапедычныя выданні.

3. Мегаструктура беларускіх анамастычных слоўнікаў адпавядае традыцыйнай форме пабудовы лексікаграфічных выданняў і звычайна ўключае папярэдні тэкст, корпус і заключны тэкст. Для макраструктуры сучасных слоўнікаў характэрны ў асноўным алфавітны прынцып укладання. Выключэнне складае “Краткий топонимический словарь Белоруссии” В.А.Жучкевіча, дзе выкарыстаны алфавітна-гнездавы прынцып кампаноўкі матэрыялу.

Значныя адрозненні назіраюцца ў мікраструктуры анамастычных слоўнікаў. Так званы “ідэальны” слоўнікавы артыкул у лексікаграфічных выданнях па анамастыцы, на наш погляд, павінен уключаць шэраг абавязковых зон (зону намінацыі, зону варыянтаў, зону граматычных памет, зону ідэнтыфікацыі, зону экстралінгвістычнай інфармацыі) і можа змяшчаць факультатыўныя зоны (зону дэрыватаў і зону ілюстрацый).

Зону намінацыі (ЗН) фарміруе лема. Вылучаюцца тры тыпы лем. Аднакампанентныя лемы – загаловачныя словы, якія з’яўляюцца атрыбутывам да геаграфічнага тэрміна-ідэнтыфікатара ці антрапоніма-ідэнтыфікатара (х. *Зосіна*, вул. *Старасельская*, прозв. *Вярыга-Дарэўскі*), тапонімы-арыенціры (поле *На гала*, х. *За Рэчкай*). Двухкампанентныя тапанімічныя лемы складаюцца з кваліфікатара – наймення, якое кваліфікуе геаграфічны аб’ект, і дыферэнцыятара – слова-атрыбутыва, што паясняе кваліфікатар (в. *Малая кракотка*, поле *За Крывую дарогу*), антрапанімічныя з’яўляюцца спалучэннем двух відаў адпаведных онімаў (імя *Якім Сарока*). Трохкампанентныя лемы – утварэнні з кваліфікатара і двух атрыбутываў (вул. *60 гадоў БССР*, в. *Дольны Каменны Лог,* імя *Іван Дамінікавіч Луцэвіч*). У ЗН можа ўключацца адпаведнік рэестравага слова з іншай мовы ці яго транслітарацыя сродкамі лацінскага алфавіту. Дыскусійным пытаннем з’яўляецца праблема ўключэння / неўключэння ў ЗН геаграфічных тэрмінаў-ідэнтыфікатараў (*Нагорная вуліца* ці вул.

*Нагорная*), прэзентацыя апісальных канструкцый (*Святых Мучеников Бориса и Глеба монастырь*), паслядоўнасць размяшчэння аб'ектнай і атрыбутыўнай частак лем (х. *Сябрынь II*, лес *Другая леснічоўка*), фіксацыя тапонімаў-арыенціраў (поле *Ад Гацінскага лесу*, поле *За млынам*) і інш. Антрапонімы лемізуюцца больш паслядоўна.

Зону варыянтаў (ЗВ) складаюць паліморфныя рэалізацыі лемы. Гэта суадносныя афіцыйныя і бытавыя варыянты імён (*Марыя – Маша*), літаратурныя і дыялектныя формы (*Ксенія – Аксіння*), а таксама стылістычныя (*Давыд-Гарадок – Гарадок*) і храналагічныя варыянты (*Гародня – Гродна*).

Зону памет (ЗП) утвараюць стылістычныя, граматычныя, этымалагічныя паметы да лемы і яе варыянтаў. Тыповыя граматычныя паметы ў мікраструктуры тапанімічнага слоўніка – род оніма ў сінгулятыўнай форме і форма ліку для тапонімаў pluralia tantum. Пры апісанні тапонімаў нявырашанай праблемай застаецца вызначэнне роду шматкампанентных тапанімічных адзінак і тапонімаў-арыенціраў (урочышча *Каля савіных хвояў*, поле *Ля Чашына Першага*). У антрапанімічных слоўніках граматычныя паметы выкарыстоўваюцца абмежавана, што абумоўлена сучаснымі спосабамі арганізацыі мегаструктуры такіх лексікаграфічных выданняў. Найбольш выкарыстальнымі з'яўляюцца паметы *разм.* (размоўнае) і *быт.* (бытавое), якія паказваюць на сферу ўжывання оніма.

Зона ідэнтыфікацыі (ЗІд) у анамастычных слоўніках уваходзіць у дэфініцыю рэестравага слова і фармальна можа быць прадстаўлена або толькі ідэнтыфікатарам, або апісальнай канструкцыяй, у якую ён уключаны. Просты ідэнтыфікатар выражаецца геаграфічным тэрмінам, які паказвае на класіфікацыйную прыналежнасць аб'екта (*вёска, поле, рака*), састаўны – уключае два геаграфічныя тэрміны, што абазначаюць аб'екты, якія разам утвараюць названую тапонімам прасторавую адзінку (*лес і поле*). Пашыранай метадалагічнай памылкай з'яўляецца ўключэнне ідэнтыфікатара ў склад рэестравай адзінкі, у выніку чаго адбываецца дубліраванне геаграфічнага тэрміна ў ЗН і ЗІд або інтэграцыя названых зон. У антрапанімічных

слоўніках гэтая праблема вырашаецца сродкамі арганізацыі мегаструктуры.

У тапанімічных слоўніках ў зону экстралінгвістычнай інфармацыі (ЗЭІ) уваходзяць этнаграфічныя, этымалагічныя і геаграфічна-адміністрацыйныя дадзеныя пра аб'ект апісання: у антрапанімічных – этымалагічная інфармацыя пра онім, звесткі пра чалавека, якому належыць найменне, пра час, калі святкуюцца імяніны носьбітаў імён, а таксама ўказанне на крыніцу, у якой быў зафіксаваны антрапонім.

Найбольш пашыранымі адтапонімнымі дэрыватамі з'яўляюцца ад'ектонімы (*смалявіцкі, уздзенскі*) і катайконімы (*войкаўцы, рымашоўка, рымашовец*). Дэрыватыўныя ўтварэнні ад антрапонімаў – імёны па бацьку, вытворныя ад уласных мужчынскіх імён. Названыя адзінкі складаюць зону дэрывацыі (ЗД) у мікраструктуры лексікаграфічнага выдання. Адсутнасць крытэрыяў кадыфікацыі вытворных адтапонімных найменняў абумоўлівае адрозненні ЗД у розных слоўніках.

Зона ілюстрацый (ЗІ) звычайна ўключае вытрымкі з тэксту, у якіх зафіксавана рэестравая адзінка, і не з'яўляецца абавязковым кампанентам мікраструктуры анамастычных слоўнікаў.

4. Названыя асаблівасці анамастычных выданняў вызначаюць іх тыпалагічную разнастайнасць.

Паводле *аб'екта лексікаграфічнага апісання* беларускія анамастычныя слоўнікі размяжоўваюцца ў адпаведнасці з відам онімаў, якія апісваюцца ў выданні, на агульныя і прыватныя. Адпаведная градацыя існуе ў дачыненні да тапанімічных і антрапанімічных слоўнікаў. Агульныя слоўнікі антрапонімаў і тапонімаў уключаюць адначасова некалькі відаў анамастычных найменняў, прыватныя – адзін пэўны від. Прыватныя антрапанімічныя выданні падзяляюцца на слоўнікі ўласных асабовых імён, слоўнікі прозвішчаў, слоўнікі псеўданімаў, слоўнікі патрымонімаў. Сярод прыватных тапанімічных выданняў вылучаюцца слоўнікі гідронімаў, урбанонімаў, айконімаў, адтапонімных дэрыватаў і мікратапонімаў.

Паводле *макраструктуры* адрозніваюць слоўнікі, у якіх онімы падаюцца ў алфавітным і алфавітна-гнездавым парадку.

Зыходзячы са спецыфікі *мікраструктуры*, вылучаюцца анамастычныя слоўнікі стандартнай мікраструктуры, слоўнікавы артыкул якіх адпавядае мадэлі ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗЭІ, выданні звужанай мікраструктуры (мадэлі ЗН; ЗН|ЗЭІ; ЗН|ЗІд|ЗЭІ; ЗН|ЗВ|ЗЭІ; ЗН|ЗІд|ЗП; ЗН|ЗД|ЗЭІ; ЗН|ЗВ|ЗД; ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД; ЗН|ЗП|ЗІд|ЗЭІ; ЗН|ЗП|ЗВ|ЗД|ЗЭІ; ЗН|ЗП|ЗВ|ЗІ|ЗЭІ; ЗН|ЗВ|ЗП|ЗД|ЗЭІ) і слоўнікі з пашыранай мікраструктурай (мадэлі ЗН|ЗВ|ЗП|ЗІд|ЗЭІ; ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗІ|ЗЭІ і ЗН|ЗВ|ЗД|ЗП|ЗІд|ЗЭІ).

5. З часу ўзнікнення традыцыі мэтанакіраванага лексікаграфавання анамастычнага матэрыялу на Беларусі ў другой палове ХХ ст. была даследавана і кадыфікавана дастаткова вялікая частка беларускага анамастыкону. Тым не менш, адзначаецца неаднолькавы ўзровень тэарэтычнай даследаванасці і лексікаграфічнай прадстаўленасці розных тыпаў беларускіх онімаў.

Найбольшай ступенню лексікаграфічнай распрацаванасці вызначаюцца айконімы, зафіксаваныя ў буйных нацыянальных слоўнікавых праектах “Слоўнік назваў населеных пунктаў…” Я.Н.Рапановіча і “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь”. Створаны даведнікі, у якіх асобна сістэматызаваны назвы населеных пунктаў Гомельскай вобласці, камонімы Віцебшчыны і Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці. У айчыннай анамастычнай лексікаграфіі адсутнічаюць слоўнікі, у якіх увесь беларускі айканімікон быў бы поўна і паслядоўна апісаны ў этымалагічным плане.

Мікратапанімія Беларусі зафіксавана як у агульнарэспубліканскіх праектах, так і ў абласных. Асобна ў некаторых слоўніках прадстаўлены мікратапонімы Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцей. Дастаткова поўна кадыфікаваны ўрбанонімы і віконімы Віцебскай вобласці. Уласныя гідранімічныя назвы Беларусі шырока прадстаўлены ў энцыклапедычных выданнях і ў нязначнай ступені – ў лінгвістычных. Назвы найбольш буйных беларускіх рэк і азёр зафіксаваны ў слоўніках ХІХ ст. Пры гэтым у лексікаграфічнай форме амаль не апісаны назвы беларускіх балот. У апошнія дзесяцігоддзі значная ўвага надаецца аданамастычным утварэнням – ад’ектонімам і катайконімам. Кадыфікаваны аданамастычныя

прыметнікі па ўсіх абласцях Беларусі. Асобна зафіксаваны ад'ектонімы і катайконімы Гомельскай і Віцебскай абласцей, дванаццаці раёнаў Брэстчыны і катайконімы Жыткавіцкага і Столінскага раёнаў. Кадыфікаваны таксама беларускія ад'ектонімы, выяўленыя ў старажытных дакументах.

Поўна сабрана і ахарактарызавана беларуская антрапанімічная лексіка. Выдадзены працы, прысвечаныя сістэматызацыі як старажытнай беларускай антрапанімікі, так і сучаснай. Усе тыпы антрапонімаў, акрамя імён-мянушак, прадстаўлены ў асобных вузкаспецыялізаваных выданнях. У шэрагу сучасных беларускіх антрапанімічных слоўнікаў падаюцца этымалагічныя звесткі пра асабовыя імёны. Імёны па бацьку традыцыйна фіксуюцца побач з асабовымі мужчынскімі імёнамі ў перакладных і неперакладных анамастычных слоўніках. Імёны па маці як асобны тып антрапанімічных адзінак вылучаюцца толькі ў адзінкавых працах. Прозвішчы фіксуюцца ў слоўніках у якасці самастойнага разраду антрапонімаў, а таксама побач з іншымі антрапонімамі, ад якіх яны ўтварыліся. Названая група онімаў апісвалася ў гістарычным і лінгвістычным аспектах. На жаль, да нашага часу не створана самастойных слоўнікаў, дзе былі б асобна зафіксаваны беларускія імёны-мянушкі, хаця ў некаторых выданнях змешчана іх матывацыйная характарыстыка і апісаны імёны-мянушкі, што ўжываюцца ў старажытных пісьмовых помніках.

У апошнія гады назіраецца выразная дыспрапорцыя паміж актывізацыяй энцыклапедычнага апісання водных аб'ектаў Беларусі і адсутнасцю мовазнаўчай сістэматызацыі адпаведных анамастычных адзінак. Большасць існуючых прац, дзе каталагізаваны водныя аб'екты, змяшчаюць выключна экстралінгвістычную інфармацыю (від аб'екта, названага рэестравым словам, месца яго знаходжання, даўжыня) і інш. Укладанне лінгвістычнага слоўніка беларускіх гідронімаў з'яўляецца адной з важных задач беларускай анамастычнай лексікаграфіі. У сувязі з актыўным развіццём інфармацыйных тэхналогій найбольш аптымальнай формай прадстаўлення інфармацыі пра гідронімы падаецца электронная. Электронны "Слоўнік гідронімаў беларускай мовы" павінен змяшчаць усе гідранімічныя адзінкі беларускай мовы,

зафіксаваныя ў сучасных энцыклапедычных і лінгвістычных даведніках. Яго мікраструктура фарміруецца сукупнасцю шэрагу інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны граматычных памет, зоны варыянтаў, зоны ідэнтыфікацыі, зоны экстралінгвістычнай інфармацыі (звесткі пра месцазнаходжанне воднага аб'екта, скарочаныя назвы пісьмовых крыніц фіксацыі онімаў).

# КРЫНІЦЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

## *Асноўныя крыніцы даследавання*

***Абрамчык**** – І гэта ўсё мой край / склад. Ф.К.Абрамчык. – Капыль: Рэд.-палігр. прадпрыемства “Слава працы”, 1999. – 23 с.

***АГ**** – Багамольнікава, Н.А. Айканімія Гомельшчыны / Н.А.Багамольнікава, А.А.Станкевіч; пад. рэд. В.П.Лемцюговай. – Гомель: ГДУ, 2003. – 392 с.

***Анічэнка**** – Слоўнік мовы Скарыны / склад. У.В.Анічэнка. – Мінск: Вышэйшая школа. − Т. 3: Анамастыка і тапаніміка, 1994. – 248 с.

***АСГ ***** – Ламака, В.М. Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: у 2 ч. / В.М.Ламака [і інш.]; пад. рэд. П.У.Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. – Ч. 1: Мікратапонімы. – 347 с.

***АСМ**** – Рагаўцоў, В.І. Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны / В.І.Рагаўцоў, С.Я.Кечык. – Магілёў: МДУ, 2000. – 168 с.

***АСТК**** − Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа / склад. Г.У.Арашонкава [і інш.]; пад. рэд. М.В.Бірылы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 638 с.

***Барсовъ**** – Барсовъ, Н.П. Географический словарь русской земли / Н.П.Барсовъ. – Вильна: Типографія А.Сыркина, 1865. – 220 с.

***Барыс-01**** – Барыс, С. Беларускія імёны: дапам. для маладых бацькоў / уклад. С.Барыс. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 16 с.

***Барыс-10**** – Барыс, С.В. Як у нас клічуць?: беларускія імёны / С.Барыс. – Мінск: Медысонт, 2010. – 124 с.

***Бірыла-66**** – Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В.Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 327 с.

***Бірыла-69**** − Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М.В.Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 508 с.

***Бірыла-82**** – Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: структура ўласных мужчынскіх імён / М.В.Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 320 с.

***БКБ**** – Блакітная кніга Беларусі: энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 1994. – 415 с.

***БСБ**** – Блакітны скарб Беларусі: рэкі, азёры, вадасховішчы, турысцкі патэнцыял водных аб’ектаў. – Мінск: БелЭн, 2007. – 480 с.

***ВБ**** – Калинин, М.Ю. Водохранилища Беларуси: справочник / М.Ю.Калинин, В.Н.Счисленок, П.П.Рутковский [и др.] – Минск: Полиграфкомбинат им. Якуба Коласа, 2005. – 182 с.

***Веселовский**** – Веселовский, С.Б. Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б.Веселовский. – М.: Наука, 1974. – 382 с.

***ГВБ**** – Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 2004 – 2010. – Т. 1 – 8.

***ГГПБ*** – Гарады і гарадскія пасёлкі Беларусі / пад. рэд. Л.К.Калошынай. – Мінск: БелСЭ, 1981. – 258 с.

***Генкін**** – Генкін, У.М. Слоўнік адтапанімных дэрыватаў Віцебшчыны / У.М.Генкін. – Віцебск: ВДУ, 2005. – 235 с.

***Горпинич**** – Горпинич, В.А. Оттопонимические производные в белорусском языке / В.А.Горпинич. – Запорожье: ЗГПИ, 1978. – 73 с.

***Гурская**** – Гурская, Ю.А. Словарь имен собственных в поэзии Максима Богдановича / Ю.А.Гурская. – Минск: БГПУ, 1997. – 64 с.

***Дзядзенка**** – Дзядзенка, З. Аршанская шляхта / З.Дзядзенка. – Мінск, 1996. – 64 с.

***Жучкевич**** – Жучкевич, В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В.А.Жучкевич. – Минск: БГУ, 1974. – 447 с.

***Заіка**** – Заіка, З.М. Слоўнік тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак / З.М.Заіка. – Брэст: БрДУ, 2001. – 68 с.

***Иванова**** – Иванова, А.А. Микротопонимия Мозырского Полесья / А.А.Иванова. – 2-е изд. – Мозырь: МГПУ, 2007. – 219 с.

***КСРВ**** – Тюльпанов, А.И. Краткий справочник рек и водоёмов БССР / А.И.Тюльпанов, И.А.Борисов, В.И.Благутин; под ред. А.И.Тюльпанова. – Минск: Госиздат. БССР, 1948. – 626 с.

***Ластоўскі**** − Ластоўскі, В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі)

слоўнік / В.Ластоўскі. – Коўна: Друкарня А.Бака, 1924. – 832 с.
***Лемцюгова**** – Лемцюгова, В.П. Тапонімы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды / В.П.Лемцюгова. – Мінск: Литература и Искусство, 2008. – 416 с.
***ЛЭБА**** – Бірыла, М.В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы / М.В.Бірыла, А.П.Ваганас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 100 с.
***МБ**** – Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы / пад рэд. М.В.Бірылы, Ю.Ф.Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с.
***Мезенка**** – Мезенка, Г.М. Віцебшчына ў назвах вуліц: манаграфія: у 2 ч. / Г.М.Мезенка. – Віцебск: ВДУ, 2008. – Ч. 2. – 254 с.
***Мезенко**** – Мезенко, А.М. Имя внутригородского объекта в истории: об урбанонимах Беларуси XIV – начала XX в. / А.М.Мезенко. – Минск: Вышэйшая школа, 2003. – 301 с.
***Мікалаеў**** – Мікалаеў, Т.С. Слоўнічак уласных іменьняў, якія ўжываюцца ў Касцюковіцкім раёне Калінінскае акругі / Т.С.Мікалаеў // Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 38. – Воп. 1. – Адз. зах. 41.
***Морошкинъ**** – Морошкинъ, М. Славянский именословъ или собраніе славянскихъ личныхъ именъ въ алфавитномъ порядкѣ / М.Морошкинъ. – Санктпетербургъ: Въ Типографіи Втораго Отдѣленія Собственной Е. II В. Канцеляріи, 1867. – 213 с.
***Нерознак**** – Нерознак, В.П. Названия древнерусских городов / В.П.Нерознак. – М.: Наука, 1983. – 206 с.
***ННП-03**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць: нармат. даведнік / І.А.Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.
***ННП-04**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць: нармат. даведнік / І.А.Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2004. – 471 с.
***ННП-06**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомельская вобласць: нармат. даведнік / Н.А.Багамольнікава [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2006. – 382 с.

***ННП-07**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магілёўская вобласць: нармат. даведнік / І.А.Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2007. – 407 с.

***ННП-09**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Віцебская вобласць: нармат. даведнік / У.М.Генкін [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2009. – 669 с.

***ННП-10**** – Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Брэсцкая вобласць: нармат. даведнік / І.А.Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2010. – 319 с.

***НПГС**** – Новый и полный географическій словарь Россійскаго государства... – М.: Университетская типографія Н.Новикова, 1788. Ч. 1: А – Ж. – 292 с.

***ОБ**** – Власов, Б.П. Озера Беларуси: справочник / Б.П.Власов, О.Ф.Янушко, Г.С.Гигевич [и др.]. – Минск: БГУ, 2004. – 284 с.

***РАВБ**** – Рэкі, азёры і вадасховішчы Беларусі / І.Я.Афнагель [і інш.]; адк. рэд.: В.П.Варанцова, А.А.Шаўрова. – Мінск: Гал. рэд. БелСЭ, 1979. – 213 с.

***Рапановіч-77**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад. рэд. П.П.Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 504 с.

***Рапановіч-80**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад рэд. П.П.Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 176 с.

***Рапановіч-81**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад рэд. П.П.Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 360 с.

***Рапановіч-82**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад рэд. П.П.Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. − 319 с.

***Рапановіч-83**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад рэд. П.П.Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. − 240 с.

***Рапановіч-86**** – Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў нассленых пунктаў Гомельскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; пад рэд. П.П.Шубы. − Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – 240 с.

***Рогалев-91**** – Рогалев, А.Ф. Географические названия Гомельщины / А.Ф.Рогалев. – Гомель: ГГУ, 1991. – Ч. 1: “Красная книга” топонимов Гомеля и окрестностей. – 85 с.
***Рогалев-92**** – Рогалев, А.Ф. Географические названия Гомельщины: в 2 ч. / А.Ф.Рогалев. – Гомель: ГГУ, 1992. – Ч. 2: Историко-топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. – 100 с.
***Рогалев-03**** – Рогалев, А.Ф. Родные названия: топонимический словарь Гомеля и окрестностей / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2003. – 167 с.
***Рогалев-04**** – Рогалев, А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2004. – 193 с.
***Рогалев-09**** – Рогалев, А.Ф. Историческая антропонимия Гомеля и окрестностей / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2009. – 152 с.
***Саламевіч**** − Саламевіч, Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.) / Я.Саламевіч. – Мінск: Маст. літ., 1983. – 207 с.
***Сарока**** – Слоўнік асабовых уласных імён: бел.-рус. і рус.-бел. / уклад. У.А.Сарока; навук. рэд. М.Н.Крыўко. – Мінск: Тэсей, 2000. – 280 с.
***СДАІ**** – Станкевіч, А.А. Слоўнік-даведнік асабовых імён / А.А.Станкевіч, Н.І.Фралова. – Гомель: ГДУ, 2001. – 236 с.
***СМК**** – Слоўнік мовы Янкі Купалы: у 8 т. / склад.: У.А.Бобрык [і інш.]; рэдкал. В.А.Ляшчынская (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларуская навука, 2003. − Т. 6: Анамастыка. – 262 с.
***СММ**** – Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны / склад.: С.В.Клімуць [і інш.]. – Магілёў: МДУ, 2004. – 208 с.
***СПК**** **–** Гардзіенка, А. Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў / А.Гардзіенка, Н.Гардзіенка, Л.Юрэвіч // Запісы БІНІМ. – № 31. – 2008. – С. 356 – 373.
***Спрогисъ**** – Спрогисъ, І.Я. Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія / І.Я.Спрогисъ. – Вильна: типографія И.Я.Яловцера, 1888. – 364 с.

***Суднік**** − Слоўнік асабовых уласных імён / уклад. М.Р.Суднік; навук. рэд. А.А.Лукашанец. – 2-е выд., выпр. і дапрац. – Мінск: Беларуская навука, 2005. – 176 с.

***Трусманъ**** – Трусманъ, Ю.Ю. Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи / Ю.Ю.Трусманъ. – Ревель: Типографія Г.Матизена, 1897. – 331 с.

***Тупиковъ**** – Тупиковъ, Н.М. Словарь древне-русскихъ личныхъ собственныхъ именъ / Н.М.Тупиковъ. – С.-Пб.: Типографія М.Н.Скороходова, 1903. – 1032 с.

***ТС**** – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / пад. рэд. А.А.Крывіцкага. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 − 1987. − Т. 5. – 423 с.

***Усціновіч-75**** – Усціновіч, А.К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XVI – XVIII стст.) / А.К.Усціновіч; пад. рэд. М.В.Бірылы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 175 с.

***Усціновіч-11**** – Усціновіч, А.К. Слоўнік асабовых уласных імён / А.К.Усціновіч; навук. рэд. А.А.Лукашанец. – Мінск: ЛіМ, 2011. – 240 с.

***Цыхун**** – Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы / А.П.Цыхун. – Гродна: ГрДУ, 1993. – 243 с.

***Чыж**** – Чыж, А. Беларускі іменьнік / А.Чыж. – Гомель: Collegium sarmaticum, 1998. – 58 с.

***Шведава**** – Шведава, З.У. Аданамастычнае словаўтварэнне ў старабеларускай пісьменнасці / З.У.Шведава. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2004. – 173 с.

***Шур-93**** – Шур, В.В. З гісторыі ўласных імён / В.В.Шур. – Мінск: Вышэйшая школа, 1993. – 156 с.

***Шур-98**** – Шур, В. Беларускія ўласныя імёны: беларуская антрапаніміка і тапаніміка / В.Шур. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1998. – 239 с.

***Яшкін-09**** – Яшкін, І.Я. Слоўнік беларускіх імёнаў / І.Я.Яшкін. – Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2009. – 136 с.

***Federowski**** – Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Materjały do etnografji słowiańskiej zgromadzone w letah 1877 – 1905. – Warszawa: Towarystwo naukowe warszawskie, 1935. – Tom IV. – 490 b.

***KLR**** – Kniaziowie litewsko-ruscy. – Warszawa: Druk. J.Filipowicza, 1895. – 698 s.

***Stekert**** – Przydomki połskie, litewskie i rusinskie / zebrał A.Stekert. – Krakow, 1897. – 144 b.

## *Дадатковыя крыніцы даследавання*

***ГСС**** – Геаграфічна-статыстычны слоўнік: Клімавіцкі раён / пад аг. рэд. І.М.Шарухі. – Магілёў: Магіл. абл. друкарня імя С.Собаля, 2004. – 96 с.

***Грабчыкаў**** – Грабчыкаў, С.М. Беларуска-рускі слоўнік / С.М.Грабчыкаў. – Мінск: Кніжны дом, 2004. – 352 с.

***Грабчиков**** – Грабчиков, С.М. Словарь белорусско-русский, русско-белорусский / С.М.Грабчиков. – Минск: Парадокс, 2005. – 223 с.

***Каспяровіч**** – Касьпяровіч, М.І. Віцебскі краёвы слоўнік / М.І.Каспяровіч; пад. рэд. М.Я.Байкова і Б.І.Эпімаха-Шыпілы. – Віцебск: Заря Запада, 1927. – 371 с.

***Лобан**** – Лобан, М.П. Арфаграфічны слоўнік. – 6-е выд., дап. і ўклад. / М.П.Лобан, М.Р.Суднік. – Мінск: Народная асвета, 1990. – 256 с.

***Лявер**** – Арфаграфічны слоўнік / скл. Н.С.Лявер. – Мінск: Конкурс, 2005. – 365 с.

***ПБС**** – Волкава, Я.В. Польска-беларускі слоўнік / Я.В.Волкава, В.Л.Авілава; пад рэд. Г.А.Цыхуна. – Мінск: БелЭн, 2004. – 880 с.

***Піскуноў**** – Піскуноў, Ф.А. Вялікі слоўнік беларускай мовы / Ф.А.Піскуноў. – Мінск: Тэхналогія. – 2012. – XVI + 1208 с.

***ПРБС**** – Байкоў, М. Практычны расійска-беларускі слоўнік / М.Байкоў, М.Гарэцкі. – 2-е выд., выпр. і дап. – Менск: ДВБ, 1924. – 188 с.

***Серада**** – Серада, С. Дзелавод / С.Серада; пад. рэд. М.Красінскага. – Менск: ДВБ, 1926. – 135 с.

***СЛФ**** – Слоўнік лексічных формаў (сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны) / уклад. У.Я.Хвалей, У.В.Шарпіла. – Мінск: Парадокс, 2004. – 416 с.

***СРЛГ**** – Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / А.І.Багдзевіч, І.І.Бубновіч, С.А.Богуш [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 151 с.

***ССБМ**** – Слоўнік сучаснай беларускай мовы / У.М.Завальнюк, М.Р.Прыгодзіч, В.К.Раманцэвіч; пад агул. рэд. М.Р.Прыгодзіча, У.М.Завальнюка. − Мінск: Народная асвета, 2009. − 400 с.

***Струкава**** – Струкава, С.М. Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў (па творах беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі) / С.М.Струкава. − Мінск: Беларуская навука, 2007. − 655 с.

***СЦБМ**** – Плотнікаў, Б.А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б.А.Плотнікаў, В.П.Трайкоўская. – Мінск: Кніжны Дом, 2004. – 544 с.

# ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА

***Абабурка, 1973*** – Абабурка, М.В. Аб падрыхтоўцы абласнога слоўніка Магілёўшчыны / М.В.Абабурка // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору: тэзісы дакладаў рэсп. навук. канф. (Гомель, 25 – 26 май 1973 г.) / Гомельскі дзярж. ун-т; рэдкал.: У.В.Анічэнка, М.М.Грынчык (адк. рэд.), Д.А.Лявончанка. – Гомель, 1973. – С. 3 – 5.

***Абабурка, 1988а*** – Абабурка, М.В. Равеснік Рэспублікі: да 70-годдзя з дня нараджэння беларускага мовазнаўца Ф.М.Янкоўскага / М.В.Абабурка // Сцяг Радзімы. – 1988. – 20 верасня.

***Абабурка, 1988б*** – Абабурка, М. Шматгранны талент: пра мовазнаўцу Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага / М.Абабурка // Магілёўская праўда. – 1988. – 27 верасня.

***Аглядальнік*** – Аглядальнік. Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрміналёгію / Аглядальнік // Полымя. – 1923. – № 7 – 8. – С. 80 – 85. – Рэц. на кн.: БНТ. – Вып. 2. – Менск: Інбелкульт, 1923. – 74 с.

***Агрикола*** – Агрикола, Э. Микро-, медио- и макроструктура как содержательная основа словаря / Э.Агрикола // Вопросы языкознания. – 1984. – № 2. – С. 72 – 82.

***Адамовіч*** – Адамовіч, Я.М. Мікратапанімічныя назвы / Я.М.Адамовіч; пад рэд. Ф.М.Янкоўскага. – Мінск: Вышэйшая школа, 1971. – 112 с.

***Адамович, 2002*** – Адамович, С.В. Использование web-словарей в лингвистических исследованиях (на примере семантической категории аппроксимации) / С.В.Адамович // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium: сб. науч. трудов по лексикографии / отв. ред. В.В.Дубичинский [и др.]. – Гродно: ГрГУ, 2002. – С. 166 – 168.

***Адамович, 2005*** – Адамович, С.В. Использование электронных лексикографических рессурсов немецкого языка в лингвистических исследованиях и лингводидактике / С.В.Адамович // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium:

сб. науч. трудов по лексикографии / отв. ред. Л.В.Рычкова [и др.]. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 213 – 218.

***Аксамітаў*** – Аксамітаў, А.С. Мікалай Васільевіч Бірыла (да 50-годдзя з дня нараджэння). – Весці АН БССР. – Сер. грамад. навук. – 1973. – № 6. – С. 128 – 129.

***Анісім, 2000*** – Анісім, А. Ганне Міхайлаўне Прышчэпчык – 75! / А.Анісім // Беларуская лінгвістыка. – 2000. – Вып. 49. – С. 89.

***Анісім, 2005*** – Анісім, А. Чалавек, адданы навуцы: слова пра Валянціну Лемцюгову / А.Анісім, І.Капылоў // Роднае слова. – 2005. – № 12. – С. 26 – 27.

***Анісім, 2009*** – Анісім, А.М. Мікалай Нілавіч Крыўко (да 60-годдзя з дня нараджэння) / А.М.Анісім, Т.М.Маракуліна // Беларуская лінгвістыка. – 2009. – Вып. 63. – С. 126 – 127.

***Анісім, 2010*** – Анісім, А.М. Ганна Міхайлаўна Прышчэпчык (да 85-годдзя з дня нараджэння) / А.М.Анісім // Беларуская лінгвістыка. – 2010. – Вып. 64. – С. 157 – 158.

***Анічэнка, 1960*** – Анічэнка, У. І.Ф.Капіеўскі / У.Анічэнка // Беларусь. – 1960. – № 11. – С. 31.

***Анічэнка, 1971*** – Анічэнка, У.В. Прынцыпы складання слоўнікаў мовы пісьменнікаў / У.В.Анічэнка // Беларуская мова і літаратура ў ВНУ: тэз. навук. рэсп. нав.-метад. канф. / БРДІ. – Брэст, 1971. – С. 182 – 186.

***Апресян, 1988*** – Апресян, Ю.Д. Морфологическая информация для толкового словаря / Ю.Д.Апресян // Словарные категории. – М.: Наука, 1988. – С. 31 – 59.

***Апресян, 1990*** – Апресян, Ю.Д. Формальная модель языка и представление лексикографических знаний / Ю.Д.Апресян // Вопросы языкознания. – 1990. − № 6. – 122 – 139.

***Арашонкава*** – Арашонкава, Г.У. Акадэмік Мікалай Васільевіч Бірыла / Г.У.Арашонкава, В.П.Лемцюгова // Беларуская лінгвістыка. – 1983. – Вып. 24. – С. 76 – 77.

***Астраўцоў*** – Астраўцоў, С. Слоўнік Вацлава Ластоўскага / С.Астраўцоў // Гродненская правда. – 1991. – 13 ноября.

***Багамольнікава, 1997*** – Багамольнікава, Н.А. Гідранімія басейна ракі Прыпяць у межах Гомельшчыны: дыс… канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.А.Багамольнікава. – Гомель, 1997. – 150 л.

***Багамольнікава, 2005*** – Багамольнікава, Н.А. З’ява варыянтнасці ў тапаніміі Гомельшчыны / Н.А.Багамольнікава // Известия Гомельского гос. ун-та им. Ф.Скорины. – 2005. – № 1 (28). – С. 8 – 16.

***Байкоў, 1922*** – Байкоў, М. [Рэцэнзія] / М.Байкоў // Весьнік Народнага Комісарыяту С.Р.Р.Б. – 1922. – Вып. 7 – 8. – С. 22 – 24. – Рэц. на кн.: Гарэцкі, М. Маскоўска-беларускі слоўнік / М.Гарэцкі, Г.Гарэцкі. – 2-е выд., з папраўкамі і вялікімі дадаткамі. – Вільня: Wyd-wo U.Znamierouskaha, 1921. – 144 с.

***Байкоў, 1926а*** – Байкоў, М. Ад Камісіі для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы / М.Байкоў // Наш край. – 1926. – № 10 – 11. – С. 61– 62.

***Байкоў, 1926б*** – Байкоў, М. Сучасны стан і перспектывы слоўнікавай працы на месцах БССР. – Асвета, 1926. – № 2. – С. 121 – 126.

***Байкоў, 1927а*** – Байкоў, М. Аб збіранні народнага слоўнікавага матэрыялу ў беларускай мове ў 1927 г. (Інструкцыя) / М.Байкоў // Наш край. – 1927. – № 3. – С. 55 – 57.

***Байкоў, 1927б*** – Байкоў, М. Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікавага матэр’ялу на мясцох за 1926 год / М.Байкоў // Наш край. – 1927. − № 1 (16). – С. 37 – 39.

***Байкоў, 1928*** – Байкоў, М. Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады / М.Байкоў // Наш край. – 1928. − № 12 (39). – С. 47 – 56.

***Бальвег-Шрамм*** – Бальвег-Шрамм, А. Словарь глагольных валентностей на семантической основе / А.Бальвег-Шрамм, Г.Шумахер // Новое в зарубежной лингвистике. – Вып. XIV: Проблемы и методы лексикографии. – М.: Прогресс, 1983. – С. 201 – 226.

***Бараўкова*** – Бараўкова, Л.Ф. Гідронімы Пабужжа / Л.Ф.Бараўкова, Н.Я.Кулага // Беларуская анамастыка: зб. арт. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – С. 98 – 103.

***Бардовіч*** – Бардовіч, А.М. Слова і яго характарыстыка ў памарфемным слоўніку беларускай мовы / А.М.Бардовіч // Філалогія: матэр. навук. канф. – Мінск: Мін-ва вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, 1972. – С. 8 – 9.

***Барысевіч*** – Барысевіч, К.А. Прозвішчы ў беларускай і англійскай мовах: структура, дэрывацыя, семантыка ўтваральных асноў: дыс… канд. філал. навук: 10.02.20 / К.А.Барысевіч. – Гродна, 2010. – 138 л.

***Басава*** – Басава, Г.І. Аб прынцыпах укладання слоўніка аўтарскіх неалагізмаў / Г.І.Басава, М.Р.Прыгодзіч // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. рэсп. навук.-практ. канф. – Мінск: Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа, 1991. – С. 20 – 23.

***Баханькоў*** – Баханькоў, А.Я. Ці глыбока думаў рэцэнзент? / А.Я.Баханькоў, Г.Ф.Вештарт, А.М.Прышчэпчык // Полымя. – 1987. – № 12. – С. 192 – 204.

***Беларуская мова*** – Беларуская мова: энцыклапедыя / рэдкал. Б.І.Сачанка [і інш.]; пад рэд. А.Я.Міхневіча. – Мінск: БелЭн, 1994. – 655 с.

***Белорусская ономастика*** – Белорусская ономастика. Топонимия: учебное пособие / А.М.Мезенко [и др]; под общ. ред. А.М.Мезенко. – Минск: Элайда, 2012. – 259 с.

***Берднік*** – Берднік, С.К. Аб перакладзе асобных фразеалагізмаў у “Руска-беларускім слоўніку” (1982) / С.К.Берднік // Беларуская лінгвістыка. – 1986. – Вып. 30. – С. 57 – 58.

***Берков*** – Берков, В.П. Двуязычная лексикография / В.П.Берков. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Астрель: АСТ: Транзиткнига, 2004. – 236 с.

***Бирилло*** – Бирилло, Э.К. Ойконимия Гомельской области: автореф. дис… канд. филол. наук: 10.02.01 / Э.К.Бирилло; Ин-т языкознания им. Якуба Коласа АН БССР. – Минск, 1974. – 24 с.

***Бірыла, 1958*** – Бірыла, М.В. Да пытання аб тыпе і прынцыпах укладання беларускіх абласных слоўнікаў / М.В.Бірыла // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. – Вып. V. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1958. – С. 116 – 144.

***Бірыла, 1973*** – Бірыла, М.В. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах (адантрапанімічныя айконімы) / М.В.Бірыла, В.П.Лемцюгова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1973. – 63 с.

***Бірыла, 1976*** – Бірыла, М.В. Шматгранасць таленту (да 80-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы) / М.В.Бірыла, П.П.Шуба // Беларуская лінгвістыка. – 1976. – Вып. 9. – С. 3 – 8.

***Бірыла, 1987*** – Бірыла, М. Для практыкі, навукі і гісторыі / М.Бірыла, В.Лемцюгова // Полымя. – 1987. − № 4. – С. 214 – 216.

***Бобунова*** – Бобунова, М.А. Русская лексикография XXI века / М.А.Бобунова. – М.: Флинта: Наука, 2009. – 200 с.

***Борисевич*** – Борисевич, О.А. Экклезионимия Беларуси: структурный, номинативный, лингвогеографический аспекты: дис… канд. филол. наук: 10.02.02 / О.А.Борисевич; БГУ. – Минск, 2012. – 151 л.

***Бочков*** – Бочков, В.Н. [Рецензия] / В.Н.Бочков // Вопросы истории. – 1975. – № 10. – С. 158 – 161. – Рец. на кн.: Веселовский, С.Б. Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б.Веселовский. – М.: Наука, 1974. – 382 с.

***Бубновіч*** – Бубновіч, І. Знакаміты даследчык і педагог: да юбілею Паўла Сцяцко / І.Бубновіч // Роднае слова. – 2010. – № 2. – С. 34 – 35.

***Бугаёў*** – Бугаёў, Д. Ці трэба адмаўляць відавочнае? (водгук на арт. П.Садоўскага “Час одуму: да выхаду пяцітомнага “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” ў часоп. “Полымя”, № 5 за 1986 г.) / Д.Бугаёў // Полымя. – 1987. – № 12. – С. 206 – 209.

***Булай*** – Булай, О.О. Лексикографическая деффиниция и способы её построения как отражение принципа системы в лексике / О.О.Булай // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium: сб. науч. трудов по лексикографии / отв. ред. В.В.Дубичинский [и др.]. – Гродно: ГрГУ, 2002. – С. 4 – 8.

***Булахов*** – Булахов, М.Г. Восточнославянские языковеды: биобиблиографический словарь: в 3 т. / М.Г.Булахов. – Минск: БГУ, 1976 – 1978.

***Булыка*** – Булыка, А.М. Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі (Да 50-годдзя з дня нараджэння) / А.М.Булыка // Беларуская лінгвістыка. – 1974. – Вып. 6. – С. 76 – 77.

***Бурлыка*** – Бурлыка, С.І. Тлумачэнне прыметнікавых фразеалагізмаў у слоўніках / С.І.Бурлыка // Сучасныя праблемы беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 19 – 20 лістапада 2005 г.) / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі; нав. рэд. А.А.Лукашанец. – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 61 – 66.

***Буторова*** – Буторова, В.У. Больше вопросов, чем ответов: некоторые проблемы классификации словарей в теоретической лексикографии / В.У.Буторова // Лексикография / под. ред. А.С.Герда. – СПб.: СПбГУ, 2002. – С. 55 – 66.

***Бялькевіч*** – Бялькевіч, Я. [Рэцэнзія] / Я.Бялькевіч // Узвышша. – 1928. – № 2 (8). – С. 205 – 208. – Рэц. на кн.: Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. 15: Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрмінолёгіі (проект) / Аддз. мовы і літ. – Менск: ІБК, 1927. – 78 с.

***Важнік*** – Важнік, С.А. Сінтаксічныя слоўнікі славянскіх моў: тыпалогія / С.А.Важнік // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium: сб. науч. трудов по лексикографии / отв. ред. Л.В.Рычкова [и др.]. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 111 – 117.

***Валасенка*** – Валасенка, А.А. Вытворча-прамысловыя тапанімічныя назвы Беларусі: дыс… канд. філал. навук: 10.02.01 / А.А.Валасенка. – Мінск, 2003. – 121 л.

***Вештарт*** – Вештарт, Г.Ф. Міхаіл Раманавіч Суднік (да 75-годдзя з дня нараджэння) / Г.Ф.Вештарт // Беларуская лінгвістыка. – 1985. – Вып. 28. – С. 71 – 73.

***Виноградов*** – Виноградов, В.В. Избранные труды. Лексикология и лексикография / В.В.Виноградов. – М.: Наука, 1977. – 312 с.

***Воўк-Левановіч*** – Воўк-Левановіч, О.В. Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы / О.В.Воўк-Левановіч // Зап. аддз. гум. навук. Працы класа філалогіі. – Мінск: Інстытут беларускай культуры, 1929. – Т. II, кн. 9. – С. 1 – 19.

***Вялюгін*** – Вялюгін, А. Не рабіце патаемны ліхтар (водгук на арт. П.Садоўскага “Час одуму: да выхаду пяцітомнага “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” ў часоп. “Полымя”,

№ 5 за 1986 г.) / А.Вялюгін // Полымя. – 1987. – № 12. – С. 209 – 211.

***Вяржбоўскі*** – Вяржбоўскі, А. Пошукі трэба працягваць / А.Вяржбоўскі. – ЛіМ. – 1961. – 18 жніўня.

***Вярэніч*** – Вярэніч, В.Л. Генадзь Апанасавіч Цыхун (да 50-годдзя з дня нараджэння) / В.Л.Вярэніч // Беларуская лінгвістыка. – 1986. – Вып. 30. – С. 76 – 77.

***Гак*** – Гак, В.Г. О типологии словарей / В.Г.Гак // Современное состояние и тенденции развития отечественной лексикографии (актуальные проблемы подготовки и издания словарей). – М.: МГУ, 1988. – С. 21 – 25.

***Галас*** – Галас, Б.К. Да пытання аб лексікаграфічнай спадчыне Ф.С.Шымкевіча / Б.К.Галас // Беларуская лінгвістыка. – 1985. – Вып. 28. – С. 40 – 44.

***Гапоненка*** – Гапоненка, І.А. Запазычанні ў беларускай мове ХІХ стагоддзя (на матэрыяле “Слоўніка беларускай мовы” І.Насовіча, 1870) // Сучасныя праблемы беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 19 – 20 лістапада 2005 г.) / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі; нав. рэд. А.А.Лукашанец. – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 79 – 85.

***Гарпініч*** – Гарпініч, У.А. Мэты, задачы і структура слоўніка назваў жыхароў Беларускай ССР / У.А.Гарпініч // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору: тэз. дакладаў рэсп. навук. канф. (Гомель, 25 – 26 мая 1973 г.) / Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф.Скарыны; рэдкал.: У.В.Анічэнка, М.М.Грынчык (адк. рэд.), Д.А.Лявончанка. – Гомель, 1973. – С. 15 – 18.

***Гаўрош*** – Гаўрош, Н. Чарадзей роднага слова: да 90-годдзя з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага / Н.Гаўрош, Н.Нямковіч // Роднае слова. – 2008. – № 9. – С. 45 – 46.

***Генкин, 1999*** – Генкин, В.М. Оттопонимные дериваты Витебщины: дис… канд. филол. наук: 10.02.01; 10.02.02 / В.М.Генкин. – Витебск, 1999. – 317 л.

***Генкин, 2004*** – Генкин, В.М. Топонимическая вариативность и её отражение в словарях // Актуальные вопросы славянской

